

ФАКЕЛ
ВЯСНЯНКА
КУПАЛІНКА
МЯДОВЫЯ РОСЫ
ТРАГЛАДЗІТЫ

ВЫДАВЕЦТВА «МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА» МІНСК 1973



# ФАКЕЛ

*Рэпартаж*
*з месца падзей*



Дзея адбываецца ў дваццатых гадах у былой вёсцы Ліхінічы на Магілёўшчыне. У памяць аб актыўных барацьбітах за Савецкую ўладу Вавіле Іванавічу Ракушаве і яго сынах Фёдару і Рыгору Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР Указам ад 6 лістапада 1967 года перайменаваў вёску ў Ракушава.

**Дзейныя асобы:**

Федзя Ракушаў — сакратар Саюза моладзі, рэдактар рукапіснай газеты «Факел», селькор шэрага газет.

Рыгор — яго брат, камсамолец, навучэнец прафтэхвучылішча.

Міша — брат, камсамолец, рабфакавец.

Таня — сястрычка піянерскага ўзросту.

Вавіла Іванавіч — іхні бацька.

Хадора Якаўлеўна — маці.

Ціма Ермалаеў — сябар Федзі, камсамолец, гарманіст, вясковы паэт, член рэдкалегіі «Факела», селькор № 1 Аршанскай акруговай газеты.

Калістрат — сябар Федзі, былы чырвонагвардзеец, член рэдкалегіі «Факела», а затым селькор шэрага газет.

Марфа — удава.

Зося — сяброўка Мішы з рабфака.

Люба, Воля — дзяўчаты-камсамолкі.

Ціт, Сіла, Васіль — браты Галыгі.

Хомка Камлёў—дэзерцір, самагоншчык, хаўруснік Галыг.

Вандроўны фатограф.

Хлопцы, дзяўчаты.

Ва ўступе:

Тэлеграфістка.

Рэдактар «Звязды».

Карэспандэнт «Праўды».

## Уступ

Тэлеграф выстуквае трагічнае паведамленне.

Тэлеграфістка *(чытае стужку і хуценька круціць ручку тэлефоннага апарата)*. Рэдактара «Звязды». Алё! Таварыш рэдактар! Тэрміновая тэлеграма ад вашага карэспандэнта з Оршы. *(Чытае са стужкі.)* «Забойства селькора. У вёсцы Ліхінічы Круглянскага раёна Аршанскай акругі забіты селькор Ракушаў, які ў сваіх карэспандэнцыях выкрываў кулакоў і бандытаў. Забіты таксама бацька і брат Ракушава і паранена маці. М. Лінскі» Зараз адправім вам...

* * *

Рэдактар *(ля тэлефона)*. Тэлеграфуйце ў адказ: рэдакцыя «Звязды» даручае вам, таварыш Лінскі, тэрмінова, з дапамогай пракуратуры і карбюро высветліць падрабязнасці забойства, прычыны. Выязджайце неадкладна ў вёску і паведамляйце з месца падзей. *(Кладзе трубку на апарат.)* Ракушаў, Ракушаў... Яшчэ ж нядаўна... *(Бярэ падшыўку «Звязды», гартае.)* А, вось! «...У Ліхініцкім сельсавеце за апошнія тры месяцы не склікалі ні аднаго сходу. Камітэт узаемадапамогі таксама спіць. Грамадзянам не даведзены адзіны сельскагаспадарчы падатак. У абкладных лістах ёсць несправядлівасці па ўліку аб'ектаў абкладання, утоены землі і жывёла. Барацьбы з самагоншчынай і хуліганствам выканком не вядзе, і нават самі прадстаўнікі

Савета былі заўважаны ў гэтых злоўжываннях. На працягу года зроблена сем падпалаў і два забойствы, а злачынцы не знойдзены, і для выяўлення сельсавет мер не прымае. Наогул, сельсавет дрэнна працуе, імкнецца быць добрым толькі хуліганам і заможным сялянам». *(Падыходзіць да тэлефона, нервова круціць ручку, бярэ трубку.)* Карэспандэнта «Праўды»...

* * *

Карэспандэнт «Праўды» *(ля тэлефона)*. Москва! «Правда»! Вас приветствует корреспондент из Минска. Запишите, пожалуйста, срочное. Да, весьма! Зверское убийство селькора и его семьи. Записали? Сегодня ночью получена телеграмма из Орши, что в деревне Лихиничи Круглянского района убит селькор Ракушев, который в своих корреспонденциях разоблачал кулаков и бандитов. Убиты также отец и брат селькора и ранена его мать. Для выяснения подробностей этого кошмарного преступления ваш корреспондент сегодня дважды вел переговоры по телефону с Оршанским окружкомом, который в свою очередь запросил Круглянский райком... По сведениям Оршанского окружкома, убийство совершено из мести селькору и носит исключительно политический характер... На место преступления выехали следственные власти, представитель ЦКК Белоруссии и представитель редакции «Звязда».

**У хаце Ракушавых**

Федзя *(за сталом пры газнічцы абняў Таню, вучыць трымаць аловак)*. Та-ак, Танюша, та-ак... Цяпер давай пісаць... Тысяча дзевяцьсот дваццаць трэці год. Ленін. Масква.

Таня. Федзя, вазьмі і мяне ў Маскву. І я хачу Леніна ўбачыць.

**Ф е д з я.** Ленін хворы. Цяжка хворы. Нельга яго непакоіць.

**Т а н я.** Гэта ад куль усё баліць? Ух, бандыты. І ў нас ноччу страляюць. Хаты паляць. Страшна.

**Ф е д з я.** Не бойся, Таня. Мы абяззбро́ім іх. Вырвем заразу. Пішы.

**Т а н я.** Я буду пісаць: Ленін.

**Ф е д з я.** Пішы, пішы. *(Тым часам адыходзіць і чытае сабе апублікаваны ў газеце верш Янкі Купалы «Арлянятам».)*

Гэй, узвейце сваім крыллем,
Арляняты, буйна, бурна,
На мінулых дзён магіле,
Над санлівасцю хаўтурнай!..

У маланках перуновых,
З гулкім гоманам грымотаў
Для вякоў дыктуйце новых
Нечувалыя ясноты.

**Т а н я.** А як выздаравее Ленін — возьмеш у Маскву?

**Ф е д з я.** Тады вазьму. Толькі пішы старанна. *(Зірнуў на Таніна пісьмо.)* Такое слова трэба пісаць прыгожа... Давядзецца пачакаць настаўніка.

**Т а н я.** А ты Леніну скажы, каб хутчэй прыслаў.

**Ф е д з я.** Скажу, Танюша. А зараз ідзі спаць.

**Т а н я.** А ты?

**Ф е д з я.** Мне ў чытальню трэба.

**Т а н я.** І я пайду.

**Ф е д з я.** Падрасцеш — тады і ў чытальню, і ў Маскву.

**Т а н я.** А як хутчэй расці?

**Ф е д з я.** Як? Выпроствайся на пасцелі. Як мага даўжэй.

**Т а н я.** І ты так рос?

**Ф е д з я.** І я.

Т а н я. Вялікі вырас! Вышэй за тату. А дрэвы ж не ляжаць і растуць. І кветкі...

Ф е д з я. То расліны, а мы — людзі. Разумець трэба. Расці, Танюша.

Т а н я. Добра. *(Падыходзіць да сцяны і алоўкам адзначае свой рост.)*

Ф е д з я. Што там робіш?

Т а н я. Метку стаўлю: наколькі падрасту за ноч. *(Знікае.)*

Ф е д з я *(усміхаецца сабе і задумваецца)*. Патрэбен настаўнік. *(Схіляецца, піша.)* У вёсцы Ліхінічы ёсць добры будынак школы, адрамантаваны летась за сто пудоў жыта. Цяпер ён пустуе. *(Сам сабе.)* Вечарам то не пустуе — гудзе, як вулей. *(Піша далей.)* А настаўніка няма.

Падышла м а ц і, прысела да стала, апусціла на калені натруджаныя рукі.

Ф е д з я. Стамілася, мама?

М а ц і. Але. А табе і ўтомы няма. Вядома, малады. Пра што ж ты, сынок, пішаш? Пра непарадкі ўсё? Пра кулакоў, бандытаў?

Ф е д з я. Пра жыццё. Зараз вось пра школу.

М а ц і. Дарэмна ўсё, сынок. Адным не перасіліць.

Ф е д з я. Мы не адны — у нас цяпер ячэйка. З Чырвонай Арміі вяртаюцца — нам падмога.

М а ц і. Хто ведае, каму падмога. Галыгі пояць, ігрышча ладзяць. І вяселлі... А ты, сынок, калі будзеш жаніцца?

Ф е д з я. Рана яшчэ, мама.

М а ц і. Не дужа рана — дванцаць гадкоў ужо. І мне падмога трэба. Васьмёра вас...

Ф е д з я. З Мішам.

М а ц і. Прыедзе і Міша. Як і Грыша.

Ф е д з я. Вось іх і ажэнім.

М а ц і. Немаведама дзе яны будуць жыць. Ты ж да зямлі прырос, на цябе надзея... А можа б, Любу ўзяў? Харошая дзяўчына. Працавітая. І любіць цябе.

Ф е д з я. Адкуль ты ведаеш?

М а ц і. Ці ж я не бачу? Ірдзее, як сустрэнецца. Вітаецца не як усе.

Ф е д з я. Да Любы заляцаецца Калістрат.

М а ц і. Ну во! Толькі ж з арміі... Пабяруць усіх харошых дзевак. *(Заўважыла, што Федзя збіраецца ісці.)* Куды ж ты? Паспаў бы. Ранічкаю зноў на поле.

Ф е д з я. Дзяўчат прасплю. Дапраўды, пабяруць усіх...

М а ц і. Знаю тваіх дзевак — газеты, кнігі.

Ф е д з я. Праўда, мама. Пайду ў чытальню.

М а ц і. Ды дужа не пазніся. А з дзеўкамі трэба смялей.

Ф е д з я. Як з кулацкім элементам?

М а ц і. На кулакоў у цябе смеласці хапае. *(Як выйшаў Федзя.)* А так надта сарамлівы. Дзеўкі з такіх пасміхаюцца... І радасна мне за цябе, Федзя, і нешта боязна. *(Тушыць газнічку.)*

Уваходзіць В а в і л а.

В а в і л а. Не спіш?

М а ц і. Які там сон, як вас няма.

В а в і л а. А хлопцы дзе?

М а ц і. Пайшлі за бацькам — у гурткі, чытальню. Што чуваць на вёсцы?

В а в і л а *(запальвае газнічку)*. Мала ўцешнага. П'юць, хуліганяць.

М а ц і *(ставіць на стол кубак з квасам, хлеб)*. Ці дазналіся ж, хто Марфе выбіў вокны?

В а в і л а. Не.

М а ц і. Бедная ўдава. Не начуе дома. Кажуць, прагаварылася, хто гоніць самагонку, таму і пабілі.

Вавіла моўчкі есць хлеб з квасам.

І нам тое ж будзе. А то і горш, як пачняце перамер. Можа, пачакалі б? Можа, дэкрэт будзе які — тады. А то ўсё раней пары. У пятым годзе князкі луг дзяліў, у семнаццатым — зямлю яшчэ да дэкрэту.

Уваходзяць Ц і т, С і л а і Х о м к а.

Ц і т. Добры вечар вам у хату.

Х о м к а. Хлеб-соль.

В а в і л а. З дабром — заходзьце.

Ц і т. З дабром. А як жа? *(Садзіцца да стала.)* Дапраўды, адзін хлеб з соллю.

С і л а. І квасам.

В а в і л а. Падай, Хадора, і ім. Такіх шаноўных гасцей у нас яшчэ не было.

Х о м к а. Вы — святыя, мы гэта знalі. І тое-сёе з сабою прыхапілі. Падайце, Якаўлеўна, кубкі. *(Дастае з кішэні пляшку.)* Давай, Ціт, сала.

Ціт вымае сала і нож.

Ц і т. А мы думалі: чаго вам нестае? Цяпер бачым: скароміны.

С і л а. Мяса. Можа, і зямлі?

В а в і л а. Зямлю дзяржава дасць.

С і л а. Дасць!.. На кожнага па тры аршыны...

В а в і л а. А вы — болей?

Ц і т. Болей.

В а в і л а. За якую плату?

Ц і т. Жывіце з намі ў міры, згодзе, ладзе — і ўся плата.

Х о м к а. Во за гэта і вып'ем.

В а в і л а *(бярэ кубак)*. Міравую, значыць?

Хомка хоча наліць. Вавіла адстаўляе кубак.

Ц і т. Грэбуеш?.. Парцiец...

М а ц і. Мы не ваявалі з вамі.

Х о м к а. Сын ваюе, Федзька!

М а ц і. З ім і дамаўляйцеся.

С і л а *(бярэ за лаўкаю сякеру)*. А мы з вамі хочам.

М а ц і. Крыві вы нашай хочаце.

В а в і л а. Сіла, пакладзі на месца.

М а ц і. Па слёзы нашыя прыйшлі, па кроў нашую.

*(З плачам.)* Як жандары, кайзераўцы, жаўнеры. Дзеткі!.. *(Бяжыць да дзяцей.)*

Ц і т. Не ўзнімайце ляманту. Мы па-харошаму. *(Сілу.)* Пакладзі.

С і л а. Вострая. *(Кладзе сякеру за лаўку.)*

В а в і л а. Без загадак: што вам трэба?

Ц і т. Фёдар дамагаецца перавыбараў Савета.

Х о м к а. Чысткі самагоншчыкаў.

С і л а. Даносіць на дэзерціраў.

Ц і т. А ты хочаш перамеру. Чаго ж не браў тады, у семнаццатым, як дзяліў? Цяпер шкадуеш?

В а в і л а. Нічога для людзей я не шкадую. І не шкадаваў ніколі.

Ц і т. Дык маўчы.

С і л а. Іначай кепска будзе. З усіх бакоў.

В а в і л а. Чаму з усіх?

Ц і т. Думаеш, круглянскаму начальству даспадобы ваша пісаніна. Дапішацеся — сашлюць у Нарым, на тваё катаржнае месца.

Х о м к а. І рэвалюцыя не ўратуе.

Ц і т. Рэвалюцый больш не будзе. Улада цвёрдая!

С і л а. І мы ёю давольны.

В а в і л а. Рэвалюцыя прадаўжаецца. І я рады, што прадаўжаюць яе мае сыны.

Сіла намацвае за лаўкаю сякеру. Уваходзяць М і ш а і З о с я.

М а ц і. Міша! Сынок!..

Д з і ц я ч ы я г а л а с ы. Міша прыехаў, Міша!

М і ш а. Матуля! *(Абдымае яе, цалуе.)* А гэта таварышка з нашага рабфака.

З о с я *(вітаецца з маці)*. Зося.

М і ш а. Здарова, баця. *(Ступае да яго і трапляе ў дужыя мужчынскія абдымкі.)*

Сіла кладзе сякеру за лаўку. Хомка хавае сваю пляшку. Ціт прыбірае сала.

З о с я *(маці)*. Мы перашкодзілі бяседзе?

Маці. Ды не — якраз у час.
Зося. А чаго капітулююць?
Ціт. Часова адступаем.

Выходзіць з Хомкам і Сілам.

## Пакой сяброў газет

За сцэнай пад гармонік спеў:

Зараз новыя часы —
Цэркаў мы забылі,
Камсамольцы на сяле
Школу-клуб адкрылі.

Уваходзяць Калістрат у чырвонаармейскай форме, Рыгор Ракушаў у фуражцы прафтэхвучылішча і Ціма Ермалаеў з гармонікам.

Ціма. Федзі яшчэ няма. Нешта стаў пазніцца.
Калістрат. Мову эсперанта вывучае.
Рыгор. І нямецкую. Кнігі ўжо мае.
Ціма. Ну, і як?
Рыгор. Хто яго ведае — гіргоча нешта. І ў сне гаворыць на іншых мовах.
Ціма. Можа, трызніць?
Калістрат. Федзя — самавук сур'ёзны і настойлівы.

Уваходзяць Люба і Воля.

Люба. Добры вечар.
Калістрат. Добры, дзяўчаткі. Смялей, смялей.
Воля. Газеты сёння ёсць?
Калістрат. Няма, Воля. Будзем выпускаць сваю. Можа, напісала што?
Воля. Ды не — я так... З Любай заадно. Яна — сюды, а я — на рэпетыцыю.
Калістрат. А вы, рабяты?
Рыгор. У мяне карыкатура. У «Факел» ці ў «Ліхтар». *(Разгортвае аркуш паперы.)*

Ц і м а. Бровар! А ля яго хто такі цыглаты?

Р ы г о р. Хомка — дэзерцір і самагоншчык. Ціма, напішы калючку.

Ц і м а. Я пра анёла напісаў.

В о л я. Пачытай.

Ц і м а. Чытальнік я нікудышны. Як і паэт. Хай Люба перапіша, потым пачытаеце. У яе прыгожы почырк.

Л ю б а. Які там почырк!

Ц і м а. Не будзь такою сціплай —у цябе ўсё прыгожае. Калі сапраўдным стану я паэтам, прысвячу табе найлепшы верш.

К а л і с т р а т. Прызнанне ў каханні?

Ц і м а. Такіх кахаць не грэх.

В о л я. Кахайце — не кахайце,
Зараз новыя права:
Выбіраю, памятайце,
Жаніхоў сабе сама.

*(Да хлопцаў.)* Пайшлі.

Л ю б а. І я з вамі.

К а л і с т р а т. Ты ж член рэдкалегіі.

Л ю б а. А Ціма?

К а л і с т р а т. Ціму граць трэба — якая без гармоні рэпетыцыя.

Ц і м а, В о л я і Р ы г о р выходзяць са спевам:

Свеціць месяц над сялом,
Свеціць месяц ясна.
Нам усім у нашым клубе
Весела і шчасна.

К а л і с т р а т. Што яшчэ там напісаў камсамольскі наш паэт?

Л ю б а *(чытае)*.

Словы боскія ў Сяргея,
Набажэнства чад слея —

Ўсё атрута, ўсё дурман,
Несвядомасці падман.
Вы не слухайце Сяргея
І не нюхайце елею:
Няма раю на тым свеце —
На зямлі мы зробім рай.

Калістрат. А някепска, праўда? З газеты заспяваюць.

Уваходзіць Федзя.

Федзя. Запазніўся крыху.

Калістрат. Вучыў мову эсперанта?

Люба. І нямецкую?

Федзя. Сястрычку вучыў пісаць. Ды, мабыць, благі з мяне настаўнік. Давялося пісаць у «Саху і Молат», каб хутчэй настаўніка прыслалі.

Люба. Напішы, каб прыслалі маладога.

Калістрат. Халастога. У нас тут прыгожыя дзяўчаты. А як настаўніцу прышлюць?

Люба. У нас тут кавалеры не благія — з Чырвонай Арміі!

Калістрат *(Федзю)*. Калі твой допіс надрукуюць і прышлюць настаўніка...

Люба. Вядома, надрукуюць.

Федзя. Што тады?

Калістрат. Ніхто не пашкадуе на газеты.

Федзя. Настане час — кожная сям'я будзе мець газету. І часопіс! А пакуль будзем выпісваць у складчыну і рабіць сваю. Што для «Факела» падрыхтавалі?

Люба. Ціма верш прынёс. *(Аддае паперку.)*

Федзя *(чытае)*.

Няма раю на тым свеце —
На зямлі мы зробім рай.

Закончыў здарова! Змясціць можна. *(Разглядвае карыкатуру.)*

Калістрат. Хомка Камлёў ля бровара. Злыгаўся з Галыгамі.

Федзя. Шкада, не паказаў мне дома. Перамалявалі б.

Калістрат. Тут падправім.

Федзя. А вы што напісалі?

Калістрат. Як і дамаўляліся, я — пра выбары.

Федзя *(чытае)*. «Камсамольцаў — у Савет і камітэт узаемадапамогі». А калі карацей? «Камсамольцаў — у Савет і камітэт!»

Калістрат. Можна.

Федзя. І Люба напісала?

Люба. Не ўсё ж быць перапісчыцай.

Федзя *(чытае)*. «Дапаможам удовам чырвонаармейцаў». А салдаткам з той вайны? Хто ім дапаможа? Той жа Марфе? А можа, проста: дапаможам удовам! Усе — на нядзельнік! Загаловак каб не болей двух-трох слоў, заметка — пяць-шэсць радкоў. Гэта ж не друкаваная газета, а «Факел»! *(Дастае з шафы шпалеры, ручкі, фарбы.)*

Калістрат. А ў цябе што? *(Чытае.)* «Патрэбны перавыбары Савета». Так, патрэбны! Вельмі патрэбны. Гэта — для флага газеты.

Федзя. Для флага напісаў Купала «Арлянятам»:

Вам на памяць Серп і Молат
Даравала доля,
Каб з вас кожны быў, як волат,
Не гнуў плеч ніколі.
Каб здабытую свабоду
Знталі, шанавалі,
І у цяжкую прыгоду
Ўсталі грознай хваляй.

Люба. Вось гэта верш!

Калістрат. Абавязкова змясціць.

Сціхлі. Пішуць, малююць.
За сцяной на рэпетыцыі спяваюць пад гармонік:

2 Зак. 1299

Пракацілася па небе
Ясненькая зорачка.
— Бог зусім нам не патрэбен,—
Кажа камсамолачка.

Па планеце пройдзем бурай,
Марксаў помнячы завет,—
Свет стары мы ўшчэнт разбурым
І збудуем новы свет.

Калістрат. А можа, і гэтую прыпеўку ў «Факел»?

Федзя. Не падабаецца мне разбурэнне і знішчэнне. Маркс такога запавету не даваў.

Калістрат. А «Інтэрнацыянал»?

Стары парадак мы зруйнуем
Магутным выбухам сваім
І свет на новы лад збудуем,
Хто быў нічым — той будзе ўсім.

Федзя. То ж «стары парадак», а не наогул. Маркс пісаў аб захаванні ўсяго багацця дасягнутага развіцця, усіх матэрыяльных і духоўных каштоўнасцей, здабыткаў.

Уваходзяць Зося і Міша з пакункамі кніг.

Люба. Зірніце, хто прыйшоў!

Калістрат. Навуковец!

Федзя. Міша!

Міша. Прывет, сябры газет!

Калістрат. З прыездам!

Міша. Дзякую. Лепшая вясковая моладзь — у радах камсамола! Нават дзяўчаты становяцца пад сцяг РКСМ!

Федзя. Пакуль мала.

Міша. Таварыш Зося з імі папрацуе. Будзьце знаёмы.

Зося. Зося.

Міша. З нашага рабфака.

Зося вітаецца са старэйшым з усіх — Калістратам.

Калістрат. Запасны баец Чырвонай Арміі.

Міша. Былы чырвонагвардзеец Круглянскага атрада, адзін з арганізатараў Чырвонай гвардыі ў Эстоніі, партызанскага атрада ў Польшчы.

Федзя. А цяпер наш дакладчык, агітатар, член калегіі «Факела».

Зося. О-о!..

Калістрат *(знаёміць Зосю з Федзем)*. А гэта наш рэдактар, карэспандэнт «Беднoты», «Сахі і Молата», «Новай вёскі» і гэтак далей.

Міша *(Зосі)*. Мой брат Фёдар.

Зося *(падае руку)*. Граза контры? А з выгляду... не сказала б.

Калістрат. А гэта Люба — лепшая дзяўчына нашай вёскі.

Зося. Што першай стала пад сцяг РКСМ? Віншую ад імя рабфака. У вас тут цэлая акадэмія! На класах таблічкі: лікбез, гурткі самадзейнасці, бязбожнікаў, цвярозасці. Штаб па барацьбе з хуліганствам, крадзяжом і бандытызмам. Пакой сяброў газет! Гаманліва, весела!..

Федзя. Смяецеся, таварыш Зося.

Зося. Зусім не. У нас няма такога і на рабфаку.

Калістрат. За гэта і пасылаюць Федзю ў Маскву, на выстаўку.

Міша. Зноў едзеш у Маскву?

Зося. Рэдакцыя магілёўскай газеты «Саха і Молат» пасылае.

Міша. Віншую, брат! Вельмі рады.

Калістрат *(Зосі)*. У дзевятнаццатым прывёз з Масквы штэмпель і пячатку Саюза сялянскай моладзі.

Міша *(Федзю)*. Цяпер дай справаздачу. Скажы, што верна курс трымаеце і сцяг РКСМ!

Калістрат. А вы нас чым парадуеце?

Міша аддае пакункі.

Федзя. Лепшага дарунку і не трэба. *(Распакоўвае.)*

2*

Ленін! Ціміразеў! Блок! «И вечный бой!.. Покой нам только снится...» Ды вы знаеце, што прывезлі!..

Калістрат. Спеўнік. «Как родная меня мать провожала...» *(Да Любы, якая прытуліла кніжку да грудзей.)* А ў цябе што? Ясенін? Цімкаў бог! «Не жалею, не зову, не плачу. Все пройдет, как с белых яблонь дым...»

Федзя. Дзе гэтулькі нарабавалі?

Зося. Сабралі на рабфаку. Крыху прыкупілі.

Калістрат. А якая ваша тут праграма?

Міша. Дапамагчы ячэйцы. Наладзім некалькі спектакляў, камсамольскіх вечарынак. Выступім з лекцыяй, дакладам.

Зося. У вас і ў суседніх вёсках.

Федзя. Гэта мы і самі робім. Калістрат рабіў даклад: «Як чырвоная мятла Антанту мяла». І пра сусветную рэвалюцыю!

Люба. А Федзя — аб значэнні рабоча-сялянскага друку і яго ролі ў будаўніцтве новай вёскі.

Зося. А што б вы хацелі? «Чарадзейны ліхтар» ёсць у вас?

Люба. Ёсць — Федзя прывёз з Магілёва.

Зося. А фізкультура?

Люба. Што?

Міша. Турнік, бруссе і ўсё такое?..

Калістрат. Як жа я забыў! У нашай часці ўсё гэта было.

Федзя. За ідэю фізкультуры дзякуй.

Міша. Ну вось. Наладзім гульні — збяруцца з усёй вёскі!

Калістрат. І з хутароў прыйдуць.

Люба. А плаціць не трэба, як за спектаклі?

Зося. Якая плата!

Калістрат. Зрабіць усё можна самім.

Міша. Што вы тут малюеце?

Люба. Сваю газету «Факел»!

Зося. Які гарыць, палае, свеціць? Пра яго і ў ЦК

камсамола была гаворка. Усім далі заданне выпусціць па вашаму ўзору.

Ф е д з я. Вы былі ў ЦК?

М і ш а. Сёння. Упаўнаважылі дапамагчы ячэйкам.

З о с я *(чытае Федзіну заметку)*. «Сакратар Савета Васіль Галыга бярэ парасят, яйкі, воўну, затойвае зямлю кулакоў, братоў і старшыні. Далоў кулацкае засілле! За класава вытрыманы бальшавіцкі Савет!..» У вас такі сакратар?

К а л і с т р а т. На вялікі жаль.

М і ш а *(да Зосі)*. Той, што з Мінска з намі ехаў. *(Усім.)* Круціўся там ля педрабфака. Паступаць збіраецца.

Л ю б а. Хоча стаць настаўнікам?

Ф е д з я. Не выйдзе!

М і ш а. А можа, брат, выйсці. Тры гады запар выбіралі сакратаром Савета. Выходзіла ж!

Ф е д з я. Цяпер не выберуць.

К а л і с т р а т. Таму і вуды зматвае.

Уваходзіць В а с і л ь Г а л ы г а.

Л ю б а. Лёгкі на ўспамін. *(Хавае допісы.)*

В а с і л ь *(з пыхлівай паставай)*. Як жывяце, падпольшчыкі?

Л ю б а. Якія падпольшчыкі?

В а с і л ь. Што пішуць у хованкі.

К а л і с т р а т. Ніякіх хованак. Пішам атэстацыю на педрабфак.

В а с і л ь. Сабе? *(Паблажліва ляпае па плячы.)* Ухваляю.

Ф е д з я. Пішам табе.

М і ш а. У яго ёсць. Лепшай і не трэба. Камсамолец! Высокаідэйны і тэхнічны працаўнік. Актыўны культурнік. Паказваў характарыстыку.

Л ю б а. Актыўны?

Ф е д з я. Актыўны памагаты кулакоў і дэзерціраў.

В а с і л ь. Ну-ну! *(З пагардай.)* Пісака.
М і ш а. Не нукай — не запрог.
Ф е д з я. Хто даў такую атэстацыю?
В а с і л ь. Валвыканком. І Магілёў!
Ф е д з я. Без ячэйкі камсамола?
В а с і л ь. І ячэйка дасць. Збярыце сход, спытайце: хто супраць? Ленін заклікаў вучыцца. Вучыцца і вучыцца. На з'ездзе камсамола. Цяпер дарога ў навуку адкрыта ўсім!
Ф е д з я. Апрача контры. Ёй мы не даверым вучыць дзяцей. Пашлем свой «Факел» — хай ведаюць, каго прымаюць.
В а с і л ь. Усё адно прымуць. Нават ва універсітэт! А цябе за шальмаванне кіруючых работнікаў пасадзяць.
З о с я *(да Калістрата)*. Рана скончылі вы грамадзянскую вайну.

**Ля школы**

На сцяне газета-плакат. На вялікіх аркушах паперы Ленін з факелам, верш «Арлянятам», заметкі-лозунгі: «Патрэбны перавыбары», «Камсамольцаў — у Савет і камітэт», «Дапаможам удовам! Усе — на нядзельнік!». Ніжэй карыкатура.
Да сцяны падыходзіць Х о м к а, азіраецца і спыняецца ля газеты.

Х о м к а. Размалявалі!.. Ну, чакайце ж, мы размалюем вашы скуры! Фёдару болей за ўсіх. *(Наважваецца сарваць карыкатуру, яшчэ раз азіраецца.)*

З'яўляецца стары вандроўны ф а т о г р а ф. Х о м к а адыходзіць. Фатограф ставіць штатыў, з плеч знімае торбу, вымае з яе скрынку-апарат, прыладжвае да штатыва, цэліцца на газету. Высакавата. Караскаецца па сцяне да газеты.

Р ы г о р *(за сцэнай)*. Эй, што там робіш?
В о л я. Не чуе — ён глуханямы.
Р ы г о р. А можа, контрык. *(Падыходзіць з Воляй да фатографа.)* Эй! Не чапай.

Фатограф паказвае, што хоча здымаць на фоне газеты.

Воля. Хоча, каб і «Факел» на здымках быў...

Рыгор. Тады паможам. *(Дапамагае прымацаваць газету ніжэй Волі.)* Будзе наш першы здымак.

Воля. Спачатку трэба Федзю, Мішу...

Рыгор. А мы без чаргі. Вось скончу прафтэхвучылішча, асталюю майстэрню. Не кузню, а майстэрню!

Фатограф ставіць іх поплеч.

Воля. Не-не, пачакаем.

Рыгор. Скажы, што не хочаш, не любіш...

Воля *(з ласкавым дакорам)*. Ну што ты, Грыша?.. Мы потым, як збяруцца. Я ля цябе стану.

Рыгор. Чэснае камсамольскае?

Воля. Чэснае.

Рыгор. Тады пайду па хлопцаў. *(Адыходзіць з Воляй.)*

Фатограф са шкадаваннем ківае галавой. Падыходзяць Сіла і Васіль.

Васіль. Во дзе ён! *(Фатографу.)* Чаму не ў панскім садзе, як раней?

Сіла *(жэстамі дапытваецца)*. Чаму не там?

Фатограф паказвае на газету «Факел».

Васіль. Вунь яно што! Удзельнікаў нядзельніка будзе здымаць!

Сіла наважваецца сарваць газету.

Васіль. Чакай. Сфатаграфуемся!.. Здзяры толькі пра перавыбары.

Сіла зрывае заметку «Патрэбны перавыбары». Фатограф адбірае яе і прымацоўвае на тое ж самае месца.

Васіль *(да Сілы)*. Ідуць. Павядзем у свой садок. *(Фатографу.)* Хадзем!

Той адмаўляецца. З'яўляюцца Зося, Люба, дзяўчаты.

Зося. Куды цягнеш яго? Мы раней дамовіліся. Спачатку камсамольцаў будзе здымаць.

Сіла. А ён што? Не камсамолец?

Зося. Ён не памагаў салдаткам.

Васіль. Выбач, таварыш Зося. Мы потым... *(Сілу, ціха.)* Ідзі збірай нашых. А я — у сельсавет, прыхаплю шпалеры — свае лозунгі напішам. *(Выходзіць з Сілам.)*

Люба *(Зосі)*. А вас пабойваецца. Нам бы не зважыў.

Зося. І вам зважыў бы, каб не саступалі. Быў у нас такі задавака. Абражаў і зняважаў дзяўчат. Дык правучылі.

Люба. Як? *(У бок фатографа.)* Ён не чуе.

Зося. Спаймалі вечарам...

Дзяўчаты акружылі Зосю.

Люба. Так. І што?

Зося. Сцягнулі штаны і крапівой, крапівой...

Люба. І болей не чапаў?

Зося. Збег!

З'яўляюцца Калістрат, Федзя, Міша, Рыгор, Ціма і яшчэ хлопцы.

Калістрат. Хто збег?

Люба. Васіль.

Калістрат. Ад вас?

Люба. А што ж вы думалі?

Фатограф расстаўляе моладзь для здымкі.

Зося. Сюды, дзяўчаты. Федзя, і ты з намі.

Ціма. Ён жа не дзяўчына.

Зося. Ён працаваў болей за ўсіх. Вельмі шчыраваў.

Федзя. Шчыравалі ўсе.

Міша. Шкада, кінематографа няма.

Калістрат. Чаго захацеў! Фатографа і таго днём з агнём не знойдзеш. Скажыце дзякуй гэтаму старому.

Рыгор. Ах, не завітаў раней! Павёз бы Федзя фотаздымкі ў Маскву. Хай пабачылі б нашу ячэйку.

Ц і м а *(Федзю)*. А можа, пачакаеш, пакуль карткі зробіць?

Ф е д з я. Сёння трэба выпраўляцца.

Фатограф супакойвае моладзь.

Р ы г о р. Чакайце, Воля вунь!..

Л ю б а. А прыбралася, як пад вянец!

В о л я *(прыбегшы)*. Дзе тут прыляпіцца?

Ц і м а. Такую прыгажуню ў самы цэнтр!

З о с я. Хадзі, Воля, сюды.

В о л я *(становіцца ля Рыгора)*. Я з краечку, ля іх.

Ц і м а. Дзяўчаты, усміхніцеся!

З о с я. Не слухайце, дзяўчаты. Хто заўжды смяшлівы, той, кажуць, пуставаты.

Ф е д з я. Неразумныя не толькі тыя, што заўжды смяюцца. Бываюць і надзьмутыя.

Ц і м а. Усміхайцеся лагодна, міла.

Р ы г о р. На ўсе зубы. Ды не плюскайце вачыма.

Фатограф супакойвае, здымае.

Ф е д з я. Дзякуй, дзед. Вось табе задатак.

Фатограф хоча болей.

К а л і с т р а т. Потым, як карткі прынясеш. Кожнаму па адной. Зразумеў?

В о л я. Тады і спектакль здымем!

Л ю б а. І фізкультуру.

М о л а д з ь разыходзіцца. З'яўляецца В а с і л ь са скруткам шпалеры.

В а с і л ь. Цяпер хадзем да нас. Хадзем, хадзем.

Фатограф не спяшаецца.

Давай памагу паднесці. *(Бярэ касеты.)* Цікава. Паглядзім. *(Адкрывае касету. Стары кідаецца да яго.)* Ой, я ж не ведаў! Я заплачу. *(Фатограф замахваецца на Васіля.)* Ну-ну. Ты ведаеш, з кім маеш справу? Я — сакратар Савета. Улада!

Ф а т о г р а ф. Дурань нябіты, вось хто ты!

В а с і л ь. Загаварыў, нэпман.

Ф а т о г р а ф. Разумееш, што можа быць за гэта?

В а с і л ь. Нічога. Я не ведаў.

Ф а т о г р а ф. Працаваў бы з імі і зняўся разам. Была б пашана. А так...

В а с і л ь. Пастой, пастой. Ты хто такі, каб вучыць мяне?

Ф а т о г р а ф. Чалавек, які зычыць табе дабра. Прывет ад...*(Шэпт.)* Ёсць магчымасць уладкавацца.

В а с і л ь. Мне? Камсамольцу?

Ф а т о г р а ф. Справаводам.

В а с і л ь. Гэта я магу! Дык што стаім? Хадзем да нас. Ды я за гэткую навіну!..

Ф а т о г р а ф. Хадзем. Здыму на ўспамін. Як станеш начальнікам у Круглым — паможаш адкрыць фотамайстэрню.

Ф а т о г р а ф і В а с і л ь адыходзяць спрачаючыся. Ідуць М а р ф а і Ф е д з я.

М а р ф а *(совае Федзю пакунак).* Вазьмі, Федзечка, вазьмі.

Ф е д з я. Што вы, цётка Марфа?

М а р ф а. Спатрэбіцца ў дарозе.

Ф е д з я. У нас сваё ёсць.

М а р ф а. Што там у вас ёсць? Гэткая сям'я! Трох вепрукоў на год не хопіць. А мне адной ці многа трэба? Вазьмі, не грэбуй.

Ф е д з я. Дзякуй, цётка. Не за плату мы рабілі.

М а р ф а. Знаю, Федзечка, знаю — не за плату. Дай божа здароўя. Яшчэ схаджу ў царкву і памалюся за бязбожнікаў.

Ф е д з я. Гэтага рабіць не варта.

М а р ф а. А гэта ўжо мой клопат. Вазьмі.

Ф е д з я. Ратуй, Калістрат, а то спакусіць хабарам.

Падыходзіць К а л і с т р а т.

М а р ф а. Які там хабар? Бог з табою, Федзечка. *(Калістрату.)* Гасцінец во на дарогу.

Ф е д з я. За тое, што дапамаглі.

М а р ф а. За тое, што харошыя вы хлопцы.

К а л і с т р а т. У газету лепей напішы пра дапамогу.

М а р ф а. Каб жа я ўмела! Не тое што ў газету, самому б Леніну напісала. Пра вас і пра Галыг. Хай бы спытаў у круглянскага начальства, за што Галыгам такія прывілегіі? Напішаце, дзеткі, га?

Ф е д з я. Добра, цётка Марфа, мы напішам. А сала здай у складчыну на кнігі і газеты.

М а р ф а. То і чытаць жа я не ўмею.

К а л і с т р а т. Навучым у лікбезе. Ахопім і цябе.

М а р ф а. У лікбез дык у лікбез! А можа, узяў бы, га?

Ф е д з я *(з дакорам)*. Цётка Марфа, здаецца ж, мы дамовіліся!

М а р ф а. Дамовіліся. Што ж... Хай цябе беражэ бог... *(Адыходзіць.)*

Ф е д з я. Можа б напісаў у «Беднату»? Ці ў «Новую вёску»?

К а л і с т р а т. Не выходзіць у мяне.

Ф е д з я. У дакладах жа выходзіць?

К а л і с т р а т. А як стану пісаць — не ладзіцца.

Ф е д з я. Вядома, пакуль напішаш пра сусветную рэвалюцыю, задачы...

К а л і с т р а т. Як жа без гэтага?

Ф е д з я. Як Ціма Ермалаеў — коратка і ясна. Пачаў з «Факела», а стаў селькорам нумар адзін Аршанскай акруговай газеты. І ў «Крестьянской газете» друкуюць, у «Беларускай вёсцы».

К а л і с т р а т. Мне падабаецца, як пішаш ты.

Ф е д з я. Добра. У далейшым будзем пісаць разам.

К а л і с т р а т. Дзякуй. А зараз хачу параіцца з табой наконт аднае справы.

З'яўляецца В о л я.

В о л я. Калегія дзеліцца на групоўкі?

К а л і с т р а т. Ніякага падзелу. Проста перад дарогай пра тое-сёе.

В о л я. Па сакрэту? Мне таксама трэба па сакрэту.

К а л і с т р а т. З Федзем?

В о л я. З табою. Можна?

К а л і с т р а т. Потым...

В о л я. Не, зараз трэба. Спытаць нешта хачу. *(Адыходзячы.)* Вось ты гаварыў у дакладзе пра сусветную рэвалюцыю. А ці хутка яна будзе?..

Ф е д з я *(здзіўлена глядзіць услед, паварочваецца і заўважае Любу)*. Люба? Ты... таксама запытаць хацела? Пра сусветную рэвалюцыю? Ці пра зоркі? Спазнілася — Воля апярэдзіла.

Л ю б а. Дзівак ты, Федзя. Яна знарок, каб нам з табой пабыць перад расстаннем.

Ф е д з я. Сказаць што мне хацела? Прывезці што з Масквы?

Л ю б а. Нічога, Федзя, мне не трэба. Наважыўся Калістрат да мяне ў сваты. Што маўчыш? Можа, пачакаць, пакуль вернешся з Масквы? А то нядобра неяк. Сябры ўсё ж, камсамольцы. Калегія.

Ф е д з я. Калі ён хоча без мяне...

Л ю б а. Мала што хоча.

Ф е д з я. А ты? Як ты?..

Л ю б а. Як скажаш.

Чуецца гармонік і прыпеўка:

Ой, іграй, гармонік, звонка
Пад мой радасны настрой.
Я на выстаўку паеду
І пабачуся з Масквой.

З'яўляюцца Ц і м а з гармонікам, М і ш а, Р ы г о р.

З о с я. Прыйшлі праводзіць на цягнік.

Ф е д з я. Ці варта?

Ц і м а. Як не варта? Гэта ж не абы-куды — у самую сталіцу?

З о с я. Ды яшчэ на выстаўку! Грай, Ціма, марш!

Ціма зайграў. Усе адыходзяць. З'яўляецца М а р ф а. Хоча дагнаць Федзю і спыняецца.

М а р ф а. Шчаслíва, Федзечка.

**Ля той жа школы**

Няма ўжо на сцяне газеты «Факел». З другой газетай, друкаванай, ідуць В а с і л ь, С і л а і Х о м к а.

Х о м к а. Дык што, што ён піша?

В а с і л ь *(чытае).* «Ліхініцкі сельсавет фактычна ператвораи у орган кулацкай агентуры. У абкладных лістах несправядлівасці. За хабар утоена зямля, жывёла кулакоў і іх хаўруснікаў».

С і л а. Цябе гэта ўжо не тычыць.

В а с і л ь. Тычыць! Слухайце далей. «Барацьбы з самагоншчыкамі і хуліганамі выканком Савета не вядзе...»

Х о м к а. Падлюга! Самагонкі яму шкада!

В а с і л ь. «...І нават самі прадстаўнікі Савета былі заўважаны ў гэтых злоўжываннях. Сакратар Васіль Галыга...»

С і л а. Ты ж не сакратар ужо — райкомаўскі работнік!

Х о м к а. Сапраўды. Адпішы, што ўсё гэта — брахня.

В а с і л ь. Праверыць могуць. Ён упамінае тут вяселле.

Х о м к а. Якое вяселле? Пакажы. *(Чытае па складах.)* «Сакратар Васіль Галыга на вяселлі так налізаўся, што ўпаў у гразь, пабіў сабе твар і выкідваў розныя хуліганскія каленцы...» Ну і падлюга!

В а с і л ь *(заклапочана).* Як паглядзяць цяпер на мяне ў райкоме?

Х о м к а. Пад самы корань рэжа, сволач. Пад самы корань!

Сіла. Разанём і мы! Годзе!..

Хомка. Прыпільнаваць трэба на дарозе, як з Масквы будзе вяртацца.

Васіль. Позна! Прыехаў вунь.

Сіла. Пойдзем да Ціта, што-небудзь прыдумаем.

Адыходзяць.

Голас Федзі. Папрацавалі вы на славу. Амаль такія ж спортпляцоўкі бачыў на фабрыках, заводах.

Голас Калістрата. Усё, як было ў нашай часці.

Голас Цімы. Раскажы пра фабрыкі, заводы, пра Маскву.

З'яўляецца Федзя ў акружэнні Калістрата, Мішы, Зосі, Волі, Рыгора, Цімы.

Федзя. Уся Масква ў чырвані сцягоў. Адкрыццё выстаўкі вылілася ў свята. Усюды сустракалі вельмі цёпла, дружалюбна. Увесь час клапаціліся аб нас, як аб родных. Увогуле адносіны паміж рабочымі і сялянамі былі ў поўным сэнсе брацкімі.

Зося. Значыць, мацнее змычка рабочых і сялян?

Федзя *(спыняецца)*. Але, мацнее. Рабочыя зацікаўлены ва ўздыме сельскай гаспадаркі. Гэта адчувалася ўсюды, дзе былі: на фабрыках, заводах, мітынгах, канцэртах...

Воля. І канцэрты вам паказвалі?

Федзя. Паказвалі ўсё, гасцінна адчынялі дзверы і сэрцы.

Калістрат. А выстаўка?

Федзя. Яна зачаравала. Такая дзівосная панарама, што і немагчыма перадаць.

Міша. А Леніна бачылі?

Федзя. Хворы Ленін, у Горках, пад Масквой. У Ленінскім кутку на выстаўцы былі. Во дзе павучыцца! Там яго кнігі. І плуг...

Рыгор. Плуг?

Ф е д з я. Адмысловы. Ручкі — са ствалоў вінтовак. Разак — з мяча. Адвал і лемех — з кулямётнага шчытка. І лозунг: «Перакуём зброю на плугі!» Аб гэтым вельмі хораша гаварыў таварыш Луначарскі.

З о с я. Бачыў Луначарскага?

Ф е д з я. Гаварыў з ім. Абяцаў прыслаць настаўніка. Па яго парадзе перапісаў праграмы для гуртка, атрымаў рэкамендацыі па павышэнню культуры земляробства. Вось падбяром участкі!..

Ц і м а *(трывожна)*. Нешта гарыць.

В о л я. Пажар! Оёй!..

К а л і с т р а т. Хата ваша!

М і ш а. Сволачы!..

Усе бягуць на пажар. Яго водбліскі відаць на сцяне школы. Крадучыся ад людскога вока, прабіраюцца С і л а і Х о м к а. Ґатыкаюцца на Ц і т а.

С і л а. Ціт? А дзе Васіль?

Ц і т. Тута.

Падыходзіць В а с і л ь.

Х о м к а *(задаволены)*. Як факел?

В а с і л ь. Што трэба!

Ц і т. Не сунімуцца — па свячы запалім. Кожнаму.

С і л а. Усяму Ракушаву кораню.

Х о м к а. І Ермалаеву.

В а с і л ь. А цяпер — тушыць!

Х о м к а. Тушыць?

В а с і л ь. Менш падазрэнняў.

Ц і т. Верна! Сам прадстаўнік райкома будзе на пажары.

В а с і л ь. Хутчэй!

## На пажарышчы

На вугле зруба, на сёмым вянцы флаг з жалобнымі стужкамі. Ля зруба Ф е д з я чытае б а ц ь к у, Р ы г о р у, К а л і с т р а т у і Ц і м у з часопіса «Полымя» паэму «Ленін».

— Ці ж можа Ленін памерці?
Не веру,
Не веру я ў гэта...
А партрэт, які быў
задумленны.
Як раней ён —
і вока жмурыць...
Ніякай няма перамены
У вялікай магутнай натуры.
Ленін...
Ленін...
Ленін...
Галосяць заводы і фабрыкі...
І вёска...
Блакітная вёска...
Таксама ў жалобных фарбах...
Ліе за слёзкаю слёзку...
Поле, лясы і курганы
Глядзяць сіратліва...

Падыходзяць Ц і т і С і л а.

Ц і т. Дзень добры.

К а л і с т р а т. Які табе добры?

Ц і т. А што?

С і л а. Бачыш: жалоба.

Ц і т. І часопіс пра яе? Хто там піша?

Ц і м а. Міхась Чарот.

Ц і т. Той самы Чорт, што пісаў пра босых на вогнішчы? Чыталі.

С і л а. І бачылі.

Ц і т. Што ж вы, босыя, марудна так будуеце?

В а в і л а. Прыйшлі на падмогу?

Ц і т. А што? Каб пазвалі — даўно б ахарошылі хату.

Ц і м а. Зноў спалілі?

С і л а. Ну-ну!

Ц і т. Ты бачыў?

Ц і м а. Не бачыў, ды вашых рук тут справа.

С і л а. Глядзі сваю, каб не спалала.

В а в і л а. Зноў пагражаеце?

Ф е д з я. Падпалам нас не запалохаць — Леніна святло ярчэй за ўсе пажары.

Ц і т. Мы зноў к вам з мірам. Цяпер час такі, што варта прымірыцца. Гора павінна з'яднаць усіх: босых і абутых, левых і правых. Як у сям'і, дзе памірае бацька.

Ф е д з я. Не будзе такога ядпання.

В а в і л а. Ніколі не будзе!

Ц і т. А Марксаў лозунг: «Пралетарыі ўсіх краін...» Мы ж таксама з пралетарыятаў.

В а в і л а. Пралетарыямі вы не былі.

К а л і с т р а т. Кулакі!

С і л а. Гаспадары.

Ц і т. І вы. У Вавілы шасціполка. Плуг «Сухоні» атрымаў як лепшы гаспадар, ты — насенне сырадэлы.

Ф е д з я. То ж прэміі за культурнае вядзенне гаспадаркі. На малых участках!

Ц і т. А дай вам болей — ого! — былых паноў пераплюнеце.

К а л і с т р а т. І возьмем. І пераплюнем. У арцелі.

С і л а. Разгоняць, як пад Оршаю Вавілаву камуну.

В а в і л а. Цяпер не разгоняць — не грамадзянская вайна.

Ц і т. Цяпер зусім не будзе ніякіх камун, арцеляў — Леніна няма.

В а в і л а. Ёсць яго партыя!

Ц і т. Што ж, пабачым.

С і л а. А пакуль, парційцы, сядзіце ціха.

Адыходзяць.

Ф е д з я. Самая што ні ёсць контра.

К а л і с т р а т. Да-а... Без Леніна цяжэй будзе.

В а в і л а. Чытай, Федзя.

Ф е д з я *(чытае)*.

Камяніцы горада
І драўляныя хаты,
Што аб Леніне пялі горда,
Адчуваюць вялікую страту...
Боль адчуваюць
    Усе, як адзін,
Хто жыў яго думкамі.
Адвітанне аддаём і мы...
Роўна на пяць хвілін
    Жыццё замірае...
    У магілу
Кладуць неўміручага Леніна.
    Сіла пабядзіла сілу...
Гудкамі адходную граюць
    таму,
Хто прынёс вызваленне...
Над магілай жалобны плакат.
    Чытае пралетарыят:
«Выпаўнім заветы Леніна!»

## У новай хаце Ракушавых

Ля акна пры месячным святле сядзяць Вавіла Іванавіч і Федзя.

Федзя. Раскажы, тата, як вы княскі луг дзялілі ў пятым годзе.

Вавіла. І як судзілі?

Федзя. І пра суд. Пра Нарымскі край. З табою ж там былі бальшавікі! Такія людзі!.. А то ўсё нейк урыўкамі, як што ўспомніш.

Вавіла. Навошта табе, сыне?

Федзя. Каб ведаў я ўсё спачатку, як ты стаў бальшавіком, як зачыналася Савецкая ўлада, як ваяваў за яе. Пра камуну я помню: як яе стваралі, як пайшоў ты на фронт, як мы хаваліся ад пілсудчыкаў і вярнуліся сюды.

Вавіла. Вялікі і цяжкі будзе расказ.

Федзя. А ты пакрысе, па парадку ўспамінай, да драбніц. Я буду запісваць. Можа, складзецца кніга.

Голас Хадоры. Вы будзеце сёння спаць?

Федзя. Зараз, мама, зараз.

Вавіла. А ў газеты што—пісаць ужо няма ахвоты?

Федзя. Ахвота ёсць, ды нешта слаба памагаюць. Напісаў у «Саху і Молат», што галоўныя самагоншчыкі Галыгі і Хомка папаліся. Ды не строга іх судзілі. Абавязаліся здаць апарат. Суд павінен пакончыць з язвай самагоншчыны — з-за яе ў нас хуліганства і бандытызм. У «Звязду» пісаў: за год — сем падпалаў і два забойствы, а злачынцы не знойдзены.

Вавіла. Здаеш пазіцыі?

Федзя. Ды не.

Вавіла. Здаеш. А ўсялякай дрэні гэта на руку. Меры не прымаюць? Хочаш, каб адразу, адным махам? Так не бывае. Спатрэбяцца гады, гады... Ды і меры прымаюць. У райкоме партыі — новы сакратар, узяўся за чыстку міліцыі. Начальніка перавялі ў Бялынічы, малодшага міліцыянера пасадзілі.

Федзя. Але ж ён уцёк і з бандытамі абрабаваў міліцыю, цяпер у іх вінтоўкі, патроны, бомбы.

Вавіла. Ну і што? У цара было не гэтулькі! Войска, жандары, стражнікі, ураднікі... Давядзецца расказаць...

Падыходзіць Рыгор.

Федзя. А ты чаго не спіш?

Рыгор. Таксама хачу слухаць.

Вавіла. З чаго ж вам пачаць?

Федзя. З легенды пра вёску.

Рыгор. Пра Івана Ліхога.

Вавіла. Паны Ліхім празвалі. А быў харошы хлопец! Малады, прыгожы, дужы! І спагадны, праўдзівы, чэсны. Не мог глядзець, як паны глуміліся над маладзіцамі, дзеўкамі за сабраныя ў пушчы ягады, арэхі, грыбы і

жалуды. Не мог цярпець, калі па загаду магната служкі секлі мужыкоў за суччa, ламачча і хмыз, прывезеныя з пушчы без дазволу і адработку. Хлопец бойка ступаў наперад і гаварыў вяльможу, панам, падпанкам: «Пушча без канца і краю, і дабра гэтага ў ёй відзіма-нявідзіма. Расце яно і на корані гіне. Жывяцца хіба ласі, мядзведзі, ваўкі ды дзікі. То іх карайце і змушайце, ягамосці, а не людзей, што кормяць вас. А што чысцім пушчу ад ламачча — будзьце ўдзячныя». Лазою секлі няшчадна Івана за такія словы. А ён не сунімаўся — болей узбунтоўваўся і ўзбунтоўваў згнечаных сялян. Тады разгневаны магнат выгнаў яго ў пушчу: «Не хацеў, хаме, ціха жыць спаміж людзей — сцішэеш са звярамі». За дваццаць вёрст Іван аблюбаваў месцейка ля рэчкі. Працавіты хлопец к восені зрубіў сабе хату. І зацяплілася ў пушчы чалавечае жыццё. Раскарчаваў Іван лапіну ляда, стаў прыручаць ласёў, дзікоў, разводзіў пчол. Да свайго заступніка падаліся хто гэтаксама не мог трываць панскіх здзекаў. Пушчынскае селішча ля Падола паны празвалі Ліхім, а з цягам часу і Ліхінічамі.

Ф е д з я. Цяпер вось паганіць легенду ўсялякая погань. *(Да бацькі.)* А чаго мяне не назвалі вы Іванам?

В а в і л а. Хацеў, ды поп тады імя даваў па святцах.

Р ы г о р. Іван пачуў вунь — устае.

В а в і л а. На двор, відаць, прыспічыла. *(Гледзячы ў акно.)* На зыходзе студзень, а калі той будзе снег? Дрэўцы могуць вымерзнуць. А харошыя сады растуць!

Г о л а с Х а д о р ы. Іванка, адзенься. А вы ўсё не спіцё? Вавіла, можа, скаціну ўжо карміць?

Чуюцца стрэлы. Вавіла бяжыць да дзвярэй і падае ад бандыцкіх куль.

У хату ўрываюцца раз'ятраныя В а с і л ь, Ц і т і С і л а Г а л ы г і, Х о м к а К а м л ё ў. Страляюць у Х а д о р у. Федзя і Рыгор кідаюцца на бандытаў. Рыгора забіваюць.

Ф е д з я *(збівае з ног аднаго, другога)*. Контр-ра!..

Люба *(з сынам-піянерам у маўклівай жалобе кладзе на магілу кветкі)*. Любы Федзя, сэрца-факел... *(Заўважыла падыходзячую Волю з дачкою-піянеркаю, выцірае слёзы.)*

Воля. Плач, Люба, плач.

Люба *(дзецям)*. Запомніце: тут самы першы сакратар Саюза сялянскай моладзі, арганізатар ячэйкі камсамола ў нашай вёсцы, рэдактар газеты «Факел».

Воля. І брат яго — камсамолец Рыгор. І іхні бацька — бальшавік Вавіла. Яны загінулі, каб мы жылі. І наша Савецкая ўлада.

* * *

Падыходзіць Калістрат, знімае шапку.

Калістрат. Дык вось, Федзя, і я стаў селькорам. Пішу ў «Звязду», «Беларускую вёску», «Камуністычны шлях». Член выканкома нашага Савета. Арганізоўваў калгас «Беларуская вёска». Цяпер выбралі старшынёй калгаса ў Васільках. Ды замяніць цябе я не магу...

* * *

Падыходзяць былыя камсамольцы, цяпер старшы лейтэнант Міхаіл Вавілавіч Ракушаў і падпалкоўнік Цімох Антонавіч Ермалаеў.

Ракушаў. Вось і скончылася Айчынная вайна. Адстаялі, баця, нашу Савецкую ўладу. Адстаялі. Ды не дажылі да нашай Перамогі маці, Іван, Павел, Вася, Таня і Анюта. З усёй сям'і адзін застаўся.

Е р м а л а е ў. У той год і на мяне рыхтавалі замах... Я напішу, Федзя, што не паспеў ты,— кнігу пра нашу вёску, пра вас.

Да Ракушава і Ермалаева далучаюцца п і я н е р ы і на момант заміраюць у салютам

**Дзейныя асобы:**

Стася.
Мірон Лясун — яе бацька.
Міхась Карэнька.
Стрэмка.
Альбіна — яго жонка.
Казік — іхні сын.
Сымон — год пад 60.
Надзейка — яго дачка.
Юстына — удава.
Янэк — яе сын.
Пятровіч — старшыня сельсавета.
Яніна Маркаўна — настаўніца.
Мацей Вікенцевіч — сакратар райкома партыі.
Антось Кудзелька.
Зуй.
Міцька Бакланок.
Сташэўскі.
Сяляне, сялянкі, моладзь.

Дзея адбываецца ў першую пасляваенную вясну.

## Замест пралога і эпілога

М а ц е й В і к е н ц е в і ч *(узіраецца ў газету).* Стася Міронаўна?.. Заслужаная калгасніца. *(Нешта прыгадвае.)* Стася... Яна! Бач, якая стала! Павіншаваць. Абавязкова павіншаваць! Тэлеграмай! *(Зноў прыгадвае.)* Колькі ж мінула з тае пары?.. Адбудоўвалі спаленыя вёскі, раўнялі траншэі і заворвалі межы. Сеялі. Думалі, як ладзіць жыццё. Як зрабіць яго такім шчаслівым, радасным, якім яшчэ ніколі не было ў гісторыі.

Зацямненне. Прамень святла працінае цемру і выяўляе дзве чалавечыя постаці.

П е р ш ы. Там пачынаюць ствараць калгасы. У іх, вядома, адразу не ўсе пойдуць. Будуць прыглядацца, чакаць. Іх і трэба выкарыстаць.

Д р у г і. А канкрэтна? З кім мець сувязь?

П е р ш ы. Там быў атрад Зуя. Апошнім часам ні ад яго, ні пра яго ніякіх вестак. Звязацца з ім ці даведацца пра яго можна... *(Шэпт, слоў не чуваць.)* Можа, адмовіцца: «Я нікому нічога ніякага...» То скажы... *(Зноў шэпт.)*

## Раздзел першы

### Карціна першая

У лесе, ля дарогі, С т а с я збірае пралескі, уплятае іх у вянок, спявае.

Ой, ляцелі гусі
З далёкага краю.
Пачакайце, гусі,
Я вас запытаю:
— Ці з таго вы краю,
Скуль яго чакаю?

З-за дрэў паказваецца М і х а с ь у вайсковай форме, з рэчавай сумкай, назірае за Стасяй.

С т а с я *(адчула прысутнасць Міхася, азірнулася)*. Ой!

М і х а с ь. Добры дзень, пралеска!

Стася кулачком працірае вочы, усё яшчэ не даючы ім веры.

Стася!

С т а с я. Міхась?

Міхась парываецца да дзяўчыны.

*(Адступае)*. Не-не, ты здань, прывід. *(Хрысціць яго.)*

М і х а с ь. Што ты, Стася?

С т а с я. Хіба можа быць такое?

М і х а с ь. Выходзіць, можа.

С т а с я. То ж толькі ў казцы.

М і х а с ь. І мы з табою ў ёй, дзівоснай казцы. Ну, не бойся ж... *(Працягвае руку.)* Дай руку на шчасце.

С т а с я *(дае руку)*. Хіба што на шчасце. *(І раптам адступае.)* А чаго не пісаў, што прыедзеш? І наогул, не пісаў зіму.

М і х а с ь *(здзіўлена)*. Я?.. Не пісаў? У маці нат пытаўся: дзе Стася? Што з ёю? Адпісвала: «Бачыла ў царкве, а так не паказваецца нідзе». Ад цябе ж ні слова.

С т а с я *(усё яшчэ старонніцца)*. Маці, можа, і пісаў.

М і х а с ь. От жа нявера. Ды я... дома яшчэ не быў!

Чуецца «Вяснянка».

Эй, вясна-красна,
Прыхадзі хутчэй,
Цеплынёй павей,
Зямельку сагрэй.

М і х а с ь. Цябе гукаюць. А ты... як вясна!

С т а с я. Яшчэ што выдумай.

Песня набліжаецца.

Эй, вясна-красна,
Зіхаці ярчэй,
Зацвіці пышней,
Зямельку сагрэй.

Міхась. Чуеш? «Зіхаці ярчэй, цеплынёй павей».

С т а с я. Сюды ідуць.

М і х а с ь. Хай.

С т а с я. Я не хачу, каб нас убачылі.

М і х а с ь. То давай адыдземся.

С т а с я. Хітранькі. Я кароў пасу, цялушку.

М і х а с ь. Мілая пастушка-пястушка.

С т а с я. Ідзі, пастушок, іншым разам пагамонім.

М і х а с ь. Калі той шчасны будзе час?

С т а с я. Не ведаю, ды будзе, як надоўга завітаў.

М і х а с ь. Назусім!

С т а с я. То пабачымся. А зараз ідзі да маці. От радасці будзе! Ды абміні іх. *(Бяжыць насустрач дзяўчатам.)*

М і х а с ь. Пралеска, вяснянка. *(Адыходзіць.)*

З'яўляюцца д з я ў ч а т ы, хлопцы. Між іх С т а с я, Н а д з е й к а, К а з і к, Я н э к.

С т а с я. Я пакажу вам дзеразу.

Н а д з е й к а. Ім пакажы, а мы пралесак назбіраем. Ой, колькі ж іх тут!

К а з і к. Дзевачкі, пралесачкі!

Я н э к. Не йдзіце ў арэшакі.

Х л о п ц ы. Без нас вы заблудзіце, арэшкі пагубіце!

Н а д з е й к а. Толькі вы не заблудзіце!

К а з і к. Стася выведзе.

Я н э к. Без яе знойдзем. Заставайся, Стася. А вечарам — у клуб.

Х л о п ц ы адыходзяць.

Надзейка. А праўда, прыходзь, Стася. Канцэрт будзе!

### Карціна другая

Вясковая вуліца. На пярэднім плане ганак дома і шыльды: «Сельскі Савет», «Клуб».

З мелодыяй «Вяснянкі» з'яўляюцца дзяўчаты. У іх кветкі, дзераза. Насустрач выходзіць Пятровіч.

Надзейка. Добры дзень, Пятровіч.

Пятровіч. Вітанне, дзяўчаткі. Уга, колькі кветак! А хлопцы дзе?

Надзейка. Ідуць вунь. Нейкага незнаёмца затрымалі.

Дзяўчаты ўваходзяць у дом.

Пятровіч. Малайцы. А то швэндаюцца ўсялякія. Днямі тут адзін такое пра калгасы плёў, што і дзесяці агітатарам цяпер цяжка пераканаць.

З'яўляюцца хлопцы. Сярод іх і незнаёмы.

Казік *(да незнаёмага)*. Вось і старшыня Савета.

Незнаёмы. Вось і добра. Дзень добры, таварыш. *(Здымае канфедэратку. Да хлопцаў.)* А вам дзякую, што прывялі да самога таварыша старшыні.

Казік *(перадражнівае)*. «Таварыш...»

Пятровіч. А хто ж?

Казік. Падазроная асоба. З Польшчы, кажа. Рэпатрыянт.

Незнаёмы *(да Пятровіча)*. Але. Калі ласка. *(Вымае з кішэні паперкі, паказвае.)* Ад Савецкай улады.

Пятровіч *(узяў паперкі, агледзеў)*. Антось Кудзелька, значыцца?

Антось. Але.

Пятровіч. Сваякі ці знаёмыя тут?

Антось. Некалі былі. Цяпер не ведаю, ці жывыя.

Пятровіч. А ў Польшчы ўлада не даспадобы?

Антось. Ды пры цяперашняй жыць можна.

Пятровіч. То чаго ж да нас?

Антось. Беларус я.

Падыходзіць Стрэмка.

Стрэмка. Добрага здароўя вам...

Пятровіч. Здарова, Стрэмка. *(Да Антося.)* А сям'я?

Антось. У Лунінцы. Я — даведацца, ці можна пасяліцца тут?

Пятровіч. Будуемся вось...

Антось. Ведама, пасля гэткага спусташэння... Мне куточак дзе-кольвечы...

Пятровіч. Добраму чалавеку і дом збудуем. А мо і будаваць не трэба. Пажывяце ў Стрэмкі...

Стрэмка. У мяне цеснавата будзе.

Антось. Абы не ў крыўдзе, таварыш.

Пятровіч. Знойдзем іншую, не ў крыўдзе. *(Да Казіка)*. А пра сход усім сказалі?

Казік. Усім.

Пятровіч. Добра. *(Адыходзіць з Антосем.)*

Хлопцы ідуць у дом.

Стрэмка. Чакай, Казік.

Казік запыніўся.

Стрэмка. Навошта было чапляцца да чалавека?

Казік. А як шпіён які?

Стрэмка. Дурань. Што яму тут шпіёніць? Калі ты паразумнееш?

Казік схіліў галаў і пайшоў у клуб.

І ў каго такая ўродзіна?

Падыходзіць Сымон. На ім светла-шэрая світка, зрэбныя штаны, лапці. З-пад шапкі-рагоўкі вылазяць сівыя валасы.

Сымон. Што за чалавек?

Стрэмка *(неахвотна)*. Нібыта з Польшчы.

Сымон. А ты збіраешся туды.

С т р э м к а. Не я.

С ы м о н. Альбіна? Кажуць, жонку слухай, ды свой розум май... Дзе ні быў, а лепшага кутка, як наш, не бачыў. І няма ў чалавека большае тугі, чым па роднаму краю.

С т р э м к а. Каб не калгасы, прызнацца, я і не падумаў бы адгэтуль кранацца.

С ы м о н. Ты ж не жыў яшчэ ў калгасе, мо і спадабаецца. Як Яніна Маркаўна кажа...

С т р э м к а. Чаго ж яна не схацела жыць там? Дык прыехала к нам чмуціць галовы людзям.

С ы м о н. Яна прыехала на радзіму.

С т р э м к а. З якіх гэта часоў з сібірскіх і польскіх краёў сталі перараджацца ў палешукоў?

С ы м о н. З табою гаварыць, як па крапіве хадзіць. Пасля рэвалюцыі іхняя сям'я выехала ў Расію. То, можна сказаць, яшчэ пляменніца. Яе маці — мая стрыечная сястра.

С т р э м к а. У яе маці андарак гарэў, то ты рукі пагрэў?

Сымон сплюнуў, напакаваў люльку тытунём.

Не крыўдуй — то к слову.

С ы м о н. У дурня і слова і да слова аднакава. *(Сеў на бервяно.)*

С т р э м к а. А чуў, што калгаснік казаў?

С ы м о н. Свіння сказала бораву, а бораў — усяму гораду.

С т р э м к а. Што ні кажы, а калгас!..

Падыходзіць М і р о н у лахматай кунічай шапцы, з рыжай бародкай, маленькімі хітрымі вачыма.

М і р о н. Здрасьце. І тут пра калгас?

С т р э м к а. Агітуе вось.

М і р о н. Сымон Халімонавіч? Хаця... Яму ж не рабіць — болей за паўвека.

**Сымон.** Паўвека — не век. Яшчэ і на камунізм параблю, а мо і да яго дажыву.

**Мірон.** Дай бог чутае бачыць.

На ганак выходзяць **хлопцы** і **дзяўчаты**, упрыгожваюць дзеразою шыльды.

**Стрэмка.** І грэху не баяцца. У сённяшні дзень, бывала, дзеўка касы не заплятала. Бог крата за тое асляпіў, што на благавешчанне зямлю рыў.

**Мірон.** І твой жа камсамолец там. Кажуць, абразы хацеў павыкідаць з хаты. А то што за вайсковец?

**Стрэмка.** Карэнька.

**Мірон.** Міхась?

З'яўляецца **Міхась**. Не заўважаючы Сымона, Мірона і Стрэмкі, накіроўваецца да моладзі.

**Міхась.** Прывет вам, племя маладое!

**Янэк.** І знаёмае. З прыездам!

**Казік.** З прыездам, таварыш старшына!

**Надзейка.** З вяртаннем, Міхась!

**Міхась.** Дзякуй вам. А што за свята будзе?

**Казік.** Сход і наш канцэрт. Прыходзь.

**Міхась.** З задавальненнем.

**Мірон.** Старых салдат мінаеш, таварыш камандзір.

**Стрэмка.** Навошта моладзі старыя?

**Міхась** *(вінавата)*. Выбачце, не заўважыў. Добрага здароўя вам.

**Сымон.** Ды пакуль не жалімся.

**Міхась.** То добра. *(Вітаецца з Сымонам, Міронам, Стрэмкам, паціскае рукі.)*

**Мірон.** Добра, што і ты вярнуўся.

**Стрэмка.** Жывы. Здаровы...

**Міхась.** А вы як жывяце?

**Стрэмка.** Як гузікі: з пятлі ў пятлю, з пятлі ў пятлю.

**Міхась.** Чаго так?

**Сымон.** Наважыўся ў Польшчу ехаць.

М і х а с ь. Да цешчы ў госці?

С ы м о н. Назусім.

М і х а с ь. Вольнаму воля.

М і р о н. А шалёнаму поле? Навошта так? Улада дазваляе. Свабода! Дзе хто хоча — там хай і жыве. І жыве як хоча.

Падыходзяць П я т р о в і ч і яшчэ н е к а л ь к і с я л я н.

П я т р о в і ч. З добрым днём вас... *(Да Міхася.)* А цябе яшчэ і са шчаслівым вяртаннем.

М і х а с ь. Дзякуй.

М і р о н. І я казаў ужо... Добрага здаровічка, Пятровіч.

С ы м о н. Ды дзень к ураджаю! З начы марозік быў — на ярыну. Нядаўна дожджык пырснуў — на жыта.

С т р э м к а. А па-мойму, год будзе няўродны — у каляды інею не было, а на хрышчэнне дзень быў пагодны.

П я т р о в і ч. Трэба спачатку пасеяць — потым варажыць. А сёлета ўсё засеяць трэба.

С т р э м к а. Цяжка адолець.

П я т р о в і ч. Кепскія ж гаспадары будзем, як не адолеем. Ваявалі за зямлю не дзеля таго, каб пуставала.

Падыходзяць Я н і н а М а р к а ў н а, Ю с т ы н а.

Я н і н а М а р к а ў н а. Добры дзень.

М і р о н. Добрага здаровічка, Яніна Маркаўна.

С т р э м к а. Каб коней было, як да вайны.

П я т р о в і ч. І на гэтых можна зрабіць болей. Як вёску з лесу вывозілі?

С т р э м к а. То ж талакой.

П я т р о в і ч. А чаму б талакой не сеяць? З пракатнага пункта трактар можна ўзяць. Трактарыст свой — сын Юстыны.

С т р э м к а. Трактар, канечне... можа памагчы ў пахаце, толькі пасля яго, кажуць, нічога не расце. Газай глебу высмальвае, а яна ў нас і так неўрадлівая.

М і х а с ь. Глупства. Не толькі па Усходзе, у калгасах

і саўгасах, а і на Захадзе трактарамі аруць і сеюць, і ўраджай не нашаму раўня.

Мірон. Там зямля не такая — чарназём. А ў нас? Пяскі ды балоты.

Міхась. І балоты можна прымусіць радзіць, калі асушыць.

Мірон. Лёгка сказаць: асушыць!

Міхась. У адзіночку цяжка. А як усёй грамадой, калгасам!..

Стрэмка. А навошта калгас? Асушыць можна грамадой, а сеяць — кожны сабе, як хаты будавалі.

Да сялян далучаецца моладзь.

Пятровіч. Хіба ж Ленін так вучыў?

Мірон. А як ён вучыў? Тады ж і калгасаў, здаецца, не было?

Стрэмка. Тады і гаворкі пра іх не было.

Яніна Маркаўна. Няпраўда. Ленін гаварыў пра калгасы.

Мірон. Што?

Яніна Маркаўна. Дробным гаспадаркам з нястач не выйсці. Калі будзем сядзець па-старому ў дробных гаспадарках, хоць і вольнымі грамадзянамі на вольнай зямлі, усё адно гора не збавіцца. Ленін і раіў пераходзіць да агульнай апрацоўкі зямлі ў буйных узорных гаспадарках.

Стрэмка. А не выдумляеце, Яня Маркаўна?

Сымон. Яна не такая, як у твайго бацькі дзеці.

Пятровіч. Ну што, Мірон? Адказам задаволен?

Мірон. А пры чым тут я? У калгасах не жыў, жыцця іхняга не бачыў. Як кажаце, то добра. Я не супраць.

Пятровіч. І не за?

Юстына. Ён баіцца калгаса, як чорт ладану.

Стрэмка. А ты не?

Юстына. А чаго мне баяцца? Горш не будзе. Асабліва кабетам, удовам, у каторых ні кала ні двара. Можа, лепей будзе.

4 Зак. 1299

М і р о н. У каторых сыны — трактарысты.

Ю с т ы н а. А хто вам не дае вучыць сваіх на трактарыстаў?

С т р э м к а *(выступіў крыху наперад)*. Ну, добра. А цяпер скажыце людзям, як то будзе? Скажам, налавіў я рыбкі. І куды яе? У калгас? А мне? Фігу пад нос? Ці, скажам, Мірон. Заб'е дзіка. Ну, вепрука яшчэ добра. А як зайца ці куніцу? Таксама ў калгас? Альбо Сымон... Збярэ мядку...

С ы м о н. Я магу сам за сябе сказаць. *(Выкрэсіў агню і задыміў люльку.)*

П я т р о в і ч. Скажы, скажы, Сымон Халімонавіч.

С ы м о н. І скажу. Гляджу я часам на сваіх пчолак і дзіву даюся: такія малюткія, а колькі багацця наносяць! І думаю: от каб і мы гэтак дружна жылі і рабілі, колькі б багацця мелі! У мяне тры вуллі ўсяго, а ў калгасе сотню можна мець і болей.

М і р о н. Каб жа людзі паходзілі з пчол, а то, як кажа Яніна Маркаўна, з малпаў.

С т р э м к а. З малпаў? Малпы ж, нібыта, баяцца агню і вады. А людзі з маленства цягнуцца да агню і ў гразь.

Ю с т ы н а. Як Мірон у балота.

П я т р о в і ч. Пойдзем у клуб, параімся.

К а з і к. Калі ласка. Там можна пасядзець радам, пагаманіць ладам.

М і х а с ь. А ён бацьку пераймае — у рыфму размаўляе.

С я л я н е накіроўваюцца ў дом.

С т р э м к а *(Мірону)*. У рай просяцца, а жывымі ў пекла лезуць.

С ы м о н *(пачуў)*. Лепей з разумнымі ў пекле, чым з дурнымі ў раю.

У доме ўспыхнула святло. З двароў і агародчыкаў выпаўзлі прыцемкі, а з імі — прыгнутая п о с т а ц ь. Услухоўваецца, вымае з-пад крыса нямецкі аўтамат, настаўляе ў акно.

З'яўляецца Стася. Заўважыўшы постаць з аўтаматам, ускрыквае і ўцякае.

Стрэлы. У доме гасне святло.

**Карціна трэцяя**

Кабінет сакратара райкома партыі. У ім Мацей Вікенцевіч і Міхась.

Мацей Вікенцевіч. Можа, надта крута павярнулі?

Міхась. На крутым павароце адразу бачна, хто як сябе паводзіць.

Мацей Вікенцевіч. І што заўважыў?

Міхась. Пакуль нічога.

Мацей Вікенцевіч. Нічога? А забойства старшыні Савета, раненне настаўніцы? Альбо ў вёсцы арудуе вораг, альбо паварот быў надта рэзкі. Альбо тое і другое разам.

Міхась. У вёсцы была ініцыятыўная група: Пятровіч, настаўніца, Юстына, камсамольцы. Яны ўмела вялі растлумачальную работу. Стварэнне калгаса выспела. Патрабавалася арганізацыйнае афармленне.

Мацей Вікенцевіч. І ніхто — супраць?

Міхась. Былі. Стрэмка...

Мацей Вікенцевіч. А Лясун?

Міхась. Той ні туды ні сюды.

Мацей Вікенцевіч. А кажаш—выспела. Дыверсія выспела. Яе мы бачым. А калгаса няма.

Міхась. Будзе, таварыш сакратар.

Мацей Вікенцевіч. Людзі напалоханы, насцярожаны.

Міхась. Людзі абураны. Да глыбіні душы.

Мацей Вікенцевіч. Да глыбіні душы. Азірацца ж будуць, каб не забілі з-за вугла, не спалілі. А час ідзе. Сеяць трэба. Калектыўна сеяць. Абагульняць насеянае будзе цяжэй.

М і х а с ь. Я думаю, калгас усё ж арганізуем гэтаю вясною. Толькі трактар дайце, таварыш камісар.

М а ц е й В і к е н ц е в і ч. Камісар ведаў старшага сержанта Карэньку не толькі смелым, адважным, а і кемлівым разведчыкам.

М і х а с ь. На фронце ведалі, дзе вораг, а дзе свае. А тут... А што кажуць у органах?

М а ц е й В і к е н ц е в і ч. Ні органы, ні мы з табою без народа нішто. Трэба, каб сам народ уключыўся ў пошукі бандытаў. Усе чэсныя людзі... Брудная вада цячэ не з чыстай крыніцы. Балота недзе тут, у нас. Магчыма, непадалёку ад вашага Зарэчча.

М і х а с ь. Ваўкі не шкодзяць паблізу логава.

М а ц е й В і к е н ц е в і ч. Можа, і так. Ды пасля дыверсіі трэба болей пільнасці. Усім. *(Тэлефонны званок перапыняе размову.)* Алё. Адкуль яна? Не кажа? Зараз скончу з таварышам Карэнькам, потым... *(Кладзе трубку.)* Дзяўчына нейкая на прыём. Мо таксама за парадай: ці ісці замуж? Учора прыходзіла такая.

М і х а с ь. І інтымнымі справамі займаецеся?

М а ц е й В і к е н ц е в і ч. Давяраюць. А як твая дзяўчына? Стася, здаецца?

М і х а с ь. Не паспеў яшчэ пагаманіць як след. Без маці — хатніх клопатаў багата.

М а ц е й В і к е н ц е в і ч. А ты сам схадзі. З Лесуном паталкуй. Ён там уплывовы гаспадар. За ім многія пайшлі б.

М і х а с ь. Магчыма. А што вы думаеце наконт рэпатрыянтаў?

Мацей Вікенцевіч маўчыць.

Да нас з Польшчы адзін прыехаў. Якраз у той дзень.

М а ц е й В і к е н ц е в і ч. Як табе сказаць?.. Людзі едуць да нас з верай і надзеяй.

М і х а с ь. Сярод іх могуць жа быць і нелюдзі. Лягчэйшы сродак засылкі.

Мацей Вікенцевіч. Надта лабавы, бандыцкі ўдар. А наогул — пазнаёмся бліжэй. Толькі будзь асцярожны. Малейшая падазронасць выкліча ў чалавека душэўную траўму.

З-за акна даносіцца гул аўтамашыны і раптам сціхае.

Мацей Вікенцевіч. Вось і машына ўнутраных войск.

Міхась. Як пажарнікі пасля пажару.

Дзверы рэзка адчыняюцца. Уваходзіць Зуй у форме капітана.

Зуй. Дазвольце.

Мацей Вікенцевіч. Калі ласка. *(Ідзе насустрач, вітаецца.)*

Зуй. Ёсць важная размова. *(Ківае ў бок Міхася.)* Прашу...

Мацей Вікенцевіч. Гэта свой таварыш.

Зуй. Я не знаю, свой ці не. *(Міхасю.)* Скажыце сакратарцы, заняты.

Міхась выходзіць. Зуй заходзіць за стол сакратара райкома. Мацей Вікенцевіч здзіўлены нахабствам капітана.

Зуй. Я — камандзір вядомага вам атрада — Зуй. Там мае хлопцы. Сядай. Пагаворым чын чынам. Прабач, што займаю тваё месца. Гэта каб не націснуў кнопку ў органы. Хаця... таксама бескарысна — мае хлопцы напагатове. Чын чынаром.

Мацей Вікенцевіч. Звяругі. Сярод белага дня.

Зуй. Пераймаем партызанскую тактыку. Сакратар не быў партызанам? Палітработнік арміі. Маральны дух, так сказаць, падтрымліваў. Натхняў на подзвігі.

Мацей Вікенцевіч. Чаго вы хочаце?

Зуй. Нам вядома, што ты — добры агітатар, прапагандыст. Таму і прыехалі, каб выступіў з дакладам.

Мацей Вікенцевіч. Якім дакладам?

Зуй. Аб міжнародным і ўнутраным становішчы. І нашых задачах, так сказаць.

М а ц е й   В і к е н ц е в і ч. Аб задачах бандытаў?

З у й. Так. Нам патрэбен дакладчык. А лепшага ў раёне няма. У іншы ехаць не хочацца. Ды і раўні табе ў суседзяў няма. Таму і завіталі.

М а ц е й   В і к е н ц е в і ч. Гэта немагчыма.

З у й. Можам пакрыўдзіцца. Нават паскардзіцца. Чын чынам. У абком партыі, у ЦК. Не паздаровіцца. З намі таксама трэба весці палітработу.

М а ц е й   В і к е н ц е в і ч. Дзеля чаго даклад?

З у й. То ўжо нашага розуму справа. Можа, хочаш ведаць, колькі будзе слухачоў? Якая, так сказаць, аўдыторыя? Дзе?

М а ц е й   В і к е н ц е в і ч. Як хутка патрэбен даклад?

З у й. Да вечара зможаш падрыхтавацца. Толькі не ўздумай займацца іншай падрыхтоўкай. Тады я не магу паручыцца за галаву сакратара райкома.

М а ц е й   В і к е н ц е в і ч. Дзеля справы мы не шкадуем галоў.

З у й. Дзеля справы. А без усякага сэнсу навошта падстаўляць пад кулю? Я даю гарантыю: ніхто і пальцам не кране. Завязем і прывязем у цэласці. Чын чынаром. Ну? Сустрэнем ля Замошша. У шаснаццаць па мясцоваму часу. *(Пазірае на гадзіннік.)* Пастаў зараз на дзевяць. І каб без хваста. Да сустрэчы. Там! *(Выходзіць.)*

М а ц е й   В і к е н ц е в і ч *(глядзіць у акно, як ад'язджаюць бандыты, падыходзіць да дзвярэй, адчыняе)*. Зайдзі, таварыш Карэнька. А дзе тая дзяўчына? Знікла? Не ўгледзелі калі? *(Вяртаецца з Міхасём.)* Загадкава. Загадка за загадкай. Бачыў яе?

М і х а с ь. Не. А што здарылася?

М а ц е й   В і к е н ц е в і ч. Непрадбачанае. *(Бярэ тэлефонную трубку.)* Алё! Першага сакратара абкома. Тэрмінова.

**Карціна чацвёртая**

У зямлянцы. Цьмяны водбліск газнічкі. Звініць палявы тэлефон.

М і ц ь к а *(знімае трубку, слухае)*. П-пане Сташэўскі. З-з... вобласці званяць.

С т а ш э ў с к і ўзнімаецца з нараў, бярэ трубку. Твар засяроджаны. Па ім прабягае слізкая ўсмешка. І зноў насцярожанасць.

Шумна ўваходзіць З у й у форме капітана. Ён задаволены, хоча расказаць аб сваёй паездцы. Ды Сташэўскі дае знак маўчаць і прадаўжае слухаць тэлефонную размову.

З у й *(да Міцькі)*. Важнае што?

М і ц ь к а. Н-не ведаю.

З у й. Табе прывецік. *(Распранаецца і напаўголасу размаўляе з Міцькам.)*

М і ц ь к а. Ад каго?

З у й. Здагадайся.

М і ц ь к а. Хто мяне можа вітаць? Ды яшчэ ў гарадку.

З у й. Міронава пястуха.

М і ц ь к а. Чаго там была?

З у й. У царкву, мусіць, хадзіла.

С т а ш э ў с к і *(паклаў трубку)*. Як ваяж?

З у й. Усё чын чынам. Абяцаў прыехаць.

С т а ш э ў с к і. Цяпер прыедзе пэўна.

З у й. Сказаў каму? Мы ж дамаўляліся. Чын чынаром.

С т а ш э ў с к і. Чын чынаром ён адразу ж пазваніў сакратару абкома.

З у й. І што?

С т а ш э ў с к і. Сказалі: параімся, паведамім. Зараз далі кіруючае ўказанне: ехаць! Падрыхтавацца як мае быць. Яны разумеюць, што калі захочам убраць яго, зробім гэта ва ўсякі раз. Але, кажуць, не адважымся.

З у й. Не адважымся. Нявыгадна. Калатні многа будзе. А так... чын чынаром!

С т а ш э ў с к і. Сёння ў цябе цудоўны настрой.

Зуй. Пабачылі б, як вёў перагаворы! На вышэйшым узроўні! Як ён напалохаўся!

Міцька. Уяўляю. Сам атаман!..

Сташэўскі. Пераканаўся, што можна і без шуму?

Зуй. Упаўне! Вы — геній, пане Сташэўскі.

Міцька. Ш-шарахнуць бы яго там...

Сташэўскі. Кінь сваё шараханне. Кожнае забойства рэгіструецца ў вярхах і прыцягвае ўвагу.

Міцька. Выходзіць, нікога чапаць нельга?

Сташэўскі. Можна. Такіх, як старшыня Савета. А настаўніцу дарма зачапіў.

Міцька. Яна таксама бальшавічка. П-патомная!

Сташэўскі. Усё адно. Самі гаварылі: у вёсцы яе любяць. З такімі можна дамовіцца ціха, мірна. Цішэй нават, як з сакратаром райкома.

Зуй. Якім чынам?

Сташэўскі. Прыйсці на ўрок пад выглядам інспектара. А пасля, як застанецца адзін на адзін, прапанаваць даць падпісачку, што не будзе агітаваць за калгасы, за бальшавікоў. Што будзе вучыць толькі чытаць, пісаць, задачы развязваць.

Міцька. І песеньку п-пра шэрага козліка?

Зуй. А потым?

Сташэўскі. Трымаць падпіску як залог галавы. Галаве ж той сказаць, што падпіска можа апынуцца ў органах. А там ведаюць, што з такімі рабіць.

Зуй. Вось гэта чын чынам!..

Міцька. П-памёр бы і не дадумаўся.

Сташэўскі. Вы многае не дадумвалі. Не маглі нават тэлефон у сябе паставіць.

Міцька. П-падпісачку? Трэба п-паспрабаваць.

Сташэўскі. Паспрабуй. А зараз ідзі прагуляйся. Нам трэба тое-сёе абмазгаваць.

Міцька. Да сустрэчы партыйнага сакратара? Я буду тут, побач. *(Выходзячы.)* Л-лоўка...

Сташэўскі. Цяпер трымайся, пане Зуй.

З у й. Нічога страшнага. Да вашага прыезду было горш. Занудзіліся хлопцы.

С т а ш э ў с к і. І цяпер у многіх чэрві на душы. Я ж бачу.

З у й. Хісткіх цяпер нямнога.

С т а ш э ў с к і. Назіраць за кожным. Каб аўтамат быў на ўзводзе.

З у й. Будзьце пэўны: ад мяне жывымі не ўходзілі. Чын чынаром.

С т а ш э ў с к і. Міцьку за кулямёт пасадзі. Важна не ўпусціць моманту.

З у й. Міцька не падвядзе. А калі будзем абгаворваць даклад?

С т а ш э ў с к і. Потым, як адправім. Завядзём гаворку: можа, і сапраўды разысціся па хатах, здацца?

З у й. Сакратара ўсё-такі адправім?

С т а ш э ў с к і. Ты ж даў гарантыю.

З у й. Чын чынам, значыцца? З павязанымі вачыма? З якім задавальненнем я выкалаў бы тыя вочы.

С т а ш э ў с к і. Іх выкаляць свае. Мёд ёсць?

З у й. Вам хочацца мёду?

С т а ш э ў с к і. Мне хочацца зрабіць падарунак.

З у й. Падарунак? Мёду?

С т а ш э ў с к і. Але.

З у й. Каму?

С т а ш э ў с к і. Сакратару райкома пасля даклада.

З у й *(незадаволена)*. Няма мёду.

С т а ш э ў с к і. Трэба знайсці. У Лесуна вазьміце. Потым вернеце фальварковаму скваппюгу. Мы адправім мёд сакратару райкома поштай, з прыпіскай-падзякай за даклад.

З у й. За даклад? Цяпер уцяміў. Я ж гаварыў, вы — геній, пане Сташэўскі. Памёр бы, як кажа Міцька, і не дадумаўся.

## Раздзел другі

### Карціна першая

Ля сялібы Мірона. Праз шызы змрок, падобны на туман, віднеюцца абрысы прырэчных хмызнякоў. Зводдаль далятаюць пералівы гармоніка, часам дружнага рогату і песень моладзі.

З боку сялібы выходзіць Мірон. Ён на момант прыпыняецца, услухоўваецца, лыпіць вочы ў цемрыва, хаваецца ў хмызняках.

Ідуць Міхась і Стася.

Міхась. Што з табою, Стася? Усе дзяўчаты спяваюць, весяляцца... Ты ж не была такой. Салаўі ўляталі, зязюлі сціхалі, а ты спявала сабе. Як вучыліся ў школе, памятаеш?

Стася. Як не памятаць?..

Міхась. Я часта прыгадваў, асабліва на фронце. І потым... А ведаеш, як цябе завуць на вёсцы?

Стася. Фальваркоўкай. Лесуновай пястушкай.

Міхась. Феяй. Лясной феяй. Чараўніцай, што адорвае людзей дабром ці чыніць зло.

Стася. Ні дабра, ні зла я не раблю нікому. Ды і што я магу?

Міхась. Адарыць мяне шчасцем.

Стася. Я не роджана на шчасце.

Міхась. Поп сказаў? Часта ў цэркаў ходзіш.

Стася. Хаджу.

Міхась. Молішся ўсё.

Стася. Каму ж пажаліцца? Сказаць пра боль? Лесу? Балоту?

Міхась. Людзям. Мне.

Стася. Людзі — злыя. Пасмяюцца, абгавораць. А табе... Як было сказаць? Ды і хто цябе знае, якія ў цябе намеры.

Міхась. Самыя найлепшыя. Думаеш, дзяўчат не бачыў? І калі вярнуўся да цябе, значыць, кахаю. Любая, кахаю.

Стася. Каб то была праўда...

М і х а с ь. Праўда, вяснянка, іначай не праводзіў бы дачку аднаасобніка. Старшыні Савета гэта не да твару, а я не магу інакш. Разумееш, не магу.

С т а с я. Дарэмна ўсё.

М і х а с ь. Стася, я зраблю ўсё магчымае, каб выцягнуць цябе з лесу. Вядома, і ад цябе будзе залежыць...

С т а с я. Каб толькі ад мяне...

М і х а с ь. Ад каго ж 'яшчэ? Ад бацькі? І з ім буду мець гаворку. Само сабой.

С т а с я. Не варта. Як немцаў выгналі адсюль, я так хацела ў горад, павучыцца. Рыхтавалася. Да Яніны Маркаўны хадзіла. І не дазволіў. Гаспадарку, кажа, некаму глядзець, бабылём застануся.

Пачулася працяглае воўчае завыванне і раптам абарвалася.

С т а с я. Бывай. Ваўкі!

М і х а с ь *(затрымлівае Стасю)*. Яны часта тут ходзяць?

С т а с я. Так. Апошнім часам зачасцілі.

М і х а с ь. Трэба прыйсці на паляванне.

С т а с я. Не трэба. *(Хацела яшчэ нешта сказаць, ды стрымалася.)* А зараз ідзі. Ідзі, Міхасёк.

М і х а сь. Да спаткання. Заўтра я прыйду сюды.

С т а с я. Лепей я...

М і х а с ь *(пацiскае руку з вялікай прыхільнасцю, потым парывіста абдымае і цалуе)*.

С т а с я. Не трэба. Я не варта. *(Заплакала.)*

М і х а с ь. Што з табою, любая? *(Паварачвае Стасю тварам да выглянуўшага месяца і запытліва глядзіць на яе.)*

С т а с я. Пакінь, Міхасёк. Ідзі...

Зноў пачулася воўчае выццё. С т а с я цалуе Міхася і ўцякае.

М і х а с ь *(глядзіць услед доўгім развітальным поглядам, азіраецца)*. Тут штосьці таямнічае. Тут штосьці ёсць. *(Знікае ў хмызняку.)*

Ваўкі выюць паблізу. І зноў ціха. З'яўляюцца Мірон, Міцька, Сташэўскі.

Мірон. Нельга да мяне.

Сташэўскі. Чаму?

Мірон. Каб не ўгледзеў хто.

Сташэўскі. Хто ўбачыць у такую пару? А можа, сочыць хто? Нешта не дамаўляеш!

Мірон. Старшыня Савета быў. Во толькі што. Мо яшчэ недзе тут.

Міцька. М-міхась? А чаго сюды прыходзіў? К-к Стасі?

Мірон. Праводзіў з вечарынкі.

Міцька. З-з... ім, з-значыцца? Як жа дапусціў да таго?

Мірон. Не даглядзеў.

Сташэўскі. Ёсць прымаўка: не дагледзіш вокам — заплаціш бокам. Яна дарэчы нам.

Міцька. Бацька павінен ведаць.

Мірон. Цяпер не выпушчу з дому. Хіба што ў царкву.

Сташэўскі. У царкву можна — хай моліцца... А што чуваць наконт калгаса?

Мірон. Сарганізавалі, пане Сташэўскі. Учора. Прыязджаў сакратар райкома. Сабраў народ і пачаў пра вас...

Міцька. П-пра нас? Я ж казаў, т-трэба было яго...

Сташэўскі. Што мовіў пра нас?

Мірон. Такія вы, сякія. Тулягі, валацугі, карчэўнікі, бандыты. Трэба намацваць нераты, выблытваць выпадкова трапляючых людзей. Адным словам, блага мовіў.

Сташэўскі. Блага мовіў, а калгас зрабіў. Хто старшынёй калгаса?

Мірон. Сымон-Халімон.

Міцька. Стары дымар.

Мірон. Стары, ды жылісты. Колькі па турмах цягалі за Польшчай, а крэпкі, як дуб!.. Сёння трактар прыгналі.

М і ц ь к а. Т-трактар? *(Зірнуў на Сташэўскага.)*

С т а ш э ў с к і. М-да-а... Невясёлыя навіны.

М і р о н. А чаго няма пана Зуя?

С т а ш э ў с к і. Нас і то не можаш прыняць як належыць.

М і р о н. Выбачце, рызыкоўна. Я сюды вынесу харчу. А лепей у абору, на балота. Далей ад людскога вока. Там можна і спачыць.

М і р о н, М і ц ь к а і С т а ш э ў с к і знікаюць. З боку сялібы прытоена ўслухоўваецца С т а с я.

С т а с я. Чаго яны бадзяюцца? Што ім трэба? Яшчэ каго забіць? Цяпер Міхася могуць. Не-не. Ён жа кахае. І я... не магу без яго. Не змагу. *(Прыгадвае Міхасёвы словы.)* Лясная фея. Чараўніца, што адорвае людзей дабром ці чыніць зло. Што ж мне рабіць? Божа!.. Дагнаць і сказаць? О, не-не!.. Здрада, грэх... А яны? Хіба ж то не грэх забіваць? О, божа!..

Зацямненне. Справа бачны М і х а с ь.

М і х а с ь. І Лясун з імі. Вось яна, брудная крыніца. Вось яно, балота. А казыраў сувяззю з партызанамі. Трэба зараз жа ехаць у раён. А Стася? І яе ж судзіць могуць як саўдзельніцу. Цяпер ясна, чаго такая самотная, баязлівая. А я?.. Выходзіць, не з любасцю ішоў сюды, а ў разведку?.. Каб сама, сама дапамагла!..

### Карціна другая

На полі. Паблізу вуркоча трактар.
М і х а с ь, С ы м о н, К а з і к стаяць ля С т р э м к і, які распасцёр на зямлі рукі.

С т р э м к а. Не маеце права! Не вы давалі зямлю, не вам і адымаць. Савецкая ўлада дала! Савецкая ўлада!

С ы м о н. Савецкая ўлада перадае гэтую зямлю калгасу.

С т р э м к а. Дзе то бачна? Дзе? Дзе такі закон?

С ы м о н. Днямі пакажам. На сходзе.

С т р э м к а. Тады тое і будзе. А сёння не дам. Зямля мая! З яе паны зганялі. Потым фашысты забіралі. А цяпер вы? Не дам! Нікому! За яе ваяваў, галаву падстаўляў.

М і х а с ь. Мы надзелім з краю.

С т р э м к а *(ускоквае)*. Каб стравілі? Стапталі? Спаскудзілі? Не хачу! Не жадаю! Мая хата не з краю.

М і х а с ь. Мы болей дадзім. Болей, як тут.

С т р э м к а. Сабе вазьміце. А я не жадаю!

Падыходзяць Ю с т ы н а, Н а д з е й к а.

М і х а с ь. Ну што з ім рабіць?

К а з і к. Сыдзі, тату, не смяшы людзей.

С т р э м к а. Антыхрыст! Блазан! Гэць адсюль!

Ю с т ы н а. А навошта табе зямля? Ты ж рыбак.

С т р э м к а. Я — рыбак, а ты — арцельны андарак. Патаскуха.

С ы м о н. Гаўкай, ды меру знай. А то знаеш, што за гэта можа быць?

Падыходзіць Я н э к.

Я н э к. Штоваждаецеся з ім? Не можаце звалоч? Трактар жа стаіць.

С т р э м к а. Едзьце! Давіце! Душыце! Рэжце на кавалкі. Хай усе ведаюць!..

Ю с т ы н а. І так ведаюць, якая цаца Стрэмка.

С т р э м к а. Хай ведаюць, завошта зарэзалі Стрэмку!

Падбягае А л ь б і н а.

А л ь б і н а. Устань, Юзік. Хай яны падавяцца гэтай палоскай.

С т р э м к а. У іх будзе з глоткі перці, а ты што будзеш жэрці?

А л ь б і н а. Хопіць і з нас зямлі.

С т р э м к а *(садзіцца)*. На магільніку?

А л ь б і н а. У Польшчы. Я ж казала табе: паедзем, Юзік. Мы там раскажам. Усяму свету раскажам!

Сымон. Дзе чорт не зладзіць, туды бабу пашле. Прабач, Юстына, не пра цябе сказана.

Міхась. Ладна. Хай застаецца ягонай.

Янэк. Пасярод поля? А як жа араць?

Міхась. Можа, перадумае і сам аддасць. *(Трактарысту.)* Аб'язджай.

Янэк адыходзіць.

Міхась. Прыйдзе час — сорамна будзе ўспомніць яму, як кідаўся пад трактар. Перад унукамі, праўнукамі сорам!

Стрэмка. Тады тое і будзе. А цяпер зямля мая! Ма-ая-а!..

### Карціна трэцяя

Вясковая вуліца. Здалёк даносіцца мерны рокат трактара. З'яўляецца Стрэмка. Заўважыўшы Сымона, сялян з сеўнямі, збочвае.

Сымон. Добрага ранку, дзядзька Юзэф.

Стрэмка *(запыніўся)*. Добрага здароўя.

Сяляне. Нядобра ад сваіх адварачвацца. Які ён свой? Адшчапенец.

Сымон. Свой, ды трапіў, як рыба ў нерат,— ні ўзад ні ўперад. Так, Стрэмка? *(Той змоўчаў.)* Пойдзем разам шчасце сеяць.

Стрэмка. Бог у помач.

Сейбіты адыходзяць.

*(Глядзіць услед.)* Шчасце сеяць. Шчасце... Каб ведаць, дзе тое шчасце.

Падыходзіць Антось.

Антось. Аб чым так дужа думае Юзеф?

Стрэмка *(ціха, з глыбокай задуменнасцю)*. Так сабе... Аб шчасці.

Антось. Хто не думае аб ім? Вось і я марыў вярнуц-

ца на радзіму, думаў — тут маё шчасце. А пакуль не бачу. Не відно.

Чуваць Альбінін покліч: «Юзэф! Юзэф! Хадзі скарэй!»

Стрэмка. Што там? Гарыць?

Альбіна. З Казікам нелады. Зусім збіўся з пуцявіны.

Стрэмка адыходзіць. Антось прыслухоўваецца да сваркі на Стрэмкавым двары.

Казік. Саха мне не трэба!

Стрэмка. А плуга не дам.

Казік. Плуг мне належыць. Я брані ад нямецкага танка прывёз і з кавалём рабіў.

Стрэмка. Я ж твайму кавалю паўтара пуда хлеба ўпёк за яго!

З'яўляецца Мірон.

Мірон *(Антосю)*. Здрасьце. Што там за дзялёж у Стрэмкаў?

Антось. Хто іх ведае.

Альбіна. Рана, сынку, дзяліцца стаў. Пажывеш — не раз памянеш. І папросішся.

Казік. Пабачым, хто каго будзе прасіць.

Стрэмка. Ах так, лайдак. Бяры, ды не ідзі пад бацькаў дах.

З'яўляецца Казік з перадком воза і плугам на ім.

Зубамі грызі яго, як есці не будзе чаго.

Казік. Есці да нові будзем умесце, ды і насення яшчэ дасі.

Стрэмка *(выбягае на вуліцу)*. Дулю во, бачыш? Скулу балючую палучыш.

Плуг злятае з перадка. Казік паднімае плуг, прымацоўвае.

Мірон. Куды, Казік?

Казік *(усхвалявана, з гонарам)*. У калгас.

М і р о н. Навошта з такім гвалтам? Ціха нельга было? Ціха, памяркоўна...

З'яўляецца А л ь б і н а.

А л ь б і н а. Казічак, сыночак, адумайся.

С т р э м к а. Сыночак... Праўду кажуць людзі: чужы дурань — смех, а свой — сорам.

М і р о н. Ды і які сорам!

С т р э м к а. Чуйце і глядзіце ўсе людзі: мой сын звар'яцеў! Не сын мне болей — адракаюся!

Падыходзіць М і х а с ь.

М і х а с ь *(Казіку)*. Кінь! Цябе і так прымем.

К а з і к. Не хачу без сваёй маёмасці.

М і х а с ь. Янэк на трактары ўзарэ. Не такія плугі цягае. Чуеш, як варочае.

К а з і к. І конныя спатрэбяцца. І калёсы...

А л ь б і н а. Вось і гадуй іх. Галубіш, да грудзей туліш, ночы не спіш, лепшыя свае гады траціш на іх, а вунь якая ўдзячнасць!

М і х а с ь і К а з і к адыходзяць. Услед за імі бяжыць Альбіна.

А л ь б і н а. Казік, вярніся! Вярніся, кажу!..

М і р о н *(Стрэмку)*. Ну і даецца ён табе ў знакі. То абразы выкідвае, то дзеліцца.

С т р э м к а. Камсамолія звяла. Бальшавікі. Б'юць іх, а ўсё не каюцца. *(Вяртаецца дамоў.)*

М і р о н. Развярэдзілі чалавека. А як Антось? У калгас, ці як?

А н т о с ь. Яшчэ не ведаю.

М і р о н. Зямлі ж хоць даюць?

А н т о с ь. Даюць, ды сеяць не маю чаго.

М і р о н. Канешне, труднавата на новым месцы абжывацца. Зайдзі заўтра к абеду — паладзім.

А н т о с ь. Як жа вас знайсці?

5 Зак. 1299

М і р о н. Вунь там, на хутары. Прыходзь. А зараз прабач, у краму трэба. *(Адыходзячы.)* Прыходзь.

А н т о с ь запыняецца ў роздуме і таксама адыходзіць. З'яўляецца Н а д з е й к а з сяброўкамі.

С я б р о ў к а. Такі верхал ушчалі, што, думалі, б'юцца ці рэжуцца.

Н а д з е й к а. Малайчына Казік.

С я б р о ў к а. Ты малайчына. Каб не ты...

Н а д з е й к а. Цішэй, маці яго...

Вяртаецца А л ь б і н а.

Н а д з е й к а. Дзень добры, цётка Альбіна.

А л ь б і н а. Каб вам жыццё такое на ўвесь век, як гэты дзень.

Н а д з е й к а. А чым благі? Цёпла, сонечна.

А л ь б і н а. Радуйцеся, скачыце.

Н а д з е й к а. А вы хочаце, каб плакалі? Цётка Альбіна?

А л ь б і н а. Пачэзніце ў сваім калгасе. *(Адыходзіць.)*

С я б р о ў к а. Ну і свякроўка будзе ў Надзейкі.

2-я с я б р о ў к а. Затое муж будзе, што трэба!

Н а д з е й к а. Хай яшчэ ў арміі паслужыць, тады бачна будзе.

С я б р о ў к а. У арміі лепшым стане. Як Міхась.

З'яўляецца М і х а с ь.

М і х а с ь. Куды, дзяўчаты?

Н а д з е й к а. Насенне чысціць. Ды Альбіна тут... Пачэзніце, кажа.

М і х а с ь. Яшчэ пабачым, хто пачэзніць...

Раздаўся грымотны выбух.

М і х а с ь. Здаецца, ля трактара.

Н а д з е й к а. Але. Вунь хмара дыму.

Усе бягуць. Ідзе А н т о с ь, устрывожаны, заклапочаны.

А н т о с ь. І вайна скончылася, а ўсё грыміць. Тады стралялі і цяпер... Нясуць кагосьці.

З'яўляюцца С ы м о н, М і х а с ь, К а з і к. Яны нясуць Я н э к а.

М і р о н *(падышоўшы)*. От не шанцуе! Газа ж гэта і ў керагазе...

Я н э к *(праз стогн)*. Не ад газы. Міна-а...

## Раздзел трэці

### Карціна першая

Ля сялібы Мірона. Ідуць М і р о н і А н т о с ь.

М і р о н. Хай пакажуць, дзе твой палетак, і бяры каня, зярнят. А цяпер будзь здароў.

А н т о с ь. Дзякаваць, пане Мірон.

М і р о н. Які пане?

А н т о с ь. Я па звычцы.

М і р о н. Адвыкаць трэба. *(Развітваецца і адыходзіць.)*

Антось глядзіць услед, потым робіць некалькі крокаў да вёскі. Насустрач ідзе М і ц ь к а ў міліцэйскай форме, з аўтаматам.

М і ц ь к а. С-ст-той, грамадзянін.

А н т о с ь *(азіраецца)*. Я?

М і ц ь к а. Т-ты хто т-такі?

А н т о с ь. Антось Кудзелька. З Залесся.

М і ц ь к а. У З-залессі не бачыў т-такіх.

А н т о с ь. Я нядаўна тут. Рэпатрыянт. Мірон знае. Вярніце, спытайце. Ён пацвердзіць.

М і ц ь к а. Я ў цябе пытаю.

А н т о с ь. Я і кажу: з Польшчы.

З'яўляецца С т а ш э ў с к і, таксама ў міліцэйскай форме.

С т а ш э ў с к і. З Польшчы?

А н т о с ь. Але, рэпатрыянт.

С т а ш э ў с к і. А чаго швэндаешся тут?

А н т о с ь. У Мірона быў. Ён абяцаў каня даць і насенне.

С т а ш э ў с к і. Я таксама з Польшчы. Сядай.

А н т о с ь. Таго не можа быць. *(Садзіцца.)*

С т а ш э ў с к і. Усё мажліва. Я сапраўды з Польшчы. Прыехаў, як і ты, рэпатрыянтам. Ды крыху раней і, мабыць, з той жа мэтай.

А н т о с ь. Якой мэтай?

М і ц ь к а. Н-не прыкідвайся.

А н т о с ь. Што ад мяне хочаце? Хто вы?

С т а ш э ў с к і *(ухмыляючыся)*. Ну, вядома ж, не міліцыя.

М і ц ь к а. Сваіх не п-пазнаеш?

А н т о с ь. Якіх сваіх? Я — беларус.

С т а ш э ў с к і. А можа, бальшавіцкі агент?

А н т о с ь. Што вы? Які з мяне агент? Я — Антось Кудзелька, чалавек цывільны, рэпатрыянт.

С т а ш э ў с к і. Дык вось, Антось, дарога ў нас адна.

А н т о с ь. Ва ўсіх яна адна — усе будзем там.

С т а ш э ў с к і. Ды не ўсе разам выправяцца.

А н т о с ь. Рабіце што хочаце. Я чалавек бяззбройны, цывільны.

С т а ш э ў с к і. А як зброю дадзім?

А н т о с ь. У мяне ж сям'я.

С т а ш э ў с к і. Добра, аставайся пры сям'і і з намі. Уцяміў? Зараз табе рабіць нічога не давядзецца. Патрэбна толькі згода.

А н т о с ь. Якая карысць? Забілі старшыню — цяпер іх два: Савета і калгаса.

С т а ш э ў с к і. Заўтра не будзе ні калгаса, ні старшынь.

А н т о с ь. Што вы кажаце? Заўтра будзе свята! Калгасу перададуць зямлю законна — навечна і бясплатна.

М і ц ь к а. М-мы дадзім ім зямлі. Навечна і бясплатна. П-пабачыш!

А н т о с ь. Пабачым — сказаў сляпы. Пачуем — сказаў

глухі. А нябожчык, лежачы ў труне, дабавіў: і да гэтага дажывяце.

М і ц ь к а. Ты ўжо дажыў. Паварачвайся спіной. *(Настаўляе аўтамат.)*

А н т о с ь. Страляйце так. Я нічога благога не зрабіў.

С т а ш э ў с к і. Ідзі! Яшчэ спатрэбішся.

М і ц ь к а. А падпіска?

С т а ш э ў с к і. Ён сам не адмовіцца, што быў з намі, паведаміў пра сход. Ідзі і запомні гэта.

А н т о с ь устае і адыходзіць. З'яўляецца М і р о н з харчамі для бандытаў, аддае Міцьку.

М і р о н. Ну, як?

С т а ш э ў с к і. Слімак.

М і р о н. Праўда, слізкі. Асцярожны вельмі.

С т а ш э ў с к і. Заўтра давядзецца ісці на свята і рабіць тое, што і Міцька.

М і р о н. Вы, пане, пойдзеце?

С т а ш э ў с к і. Пойдзе пане Мірон.

М і р о н. Я? Я ж не калгаснік.

С т а ш э ў с к і. А ты напішы заяву, каб прынялі.

М і р о н. Вы што, пане Сташэўскі?

С т а ш э ў с к і. Напішаш заяву, прыйдзеш на сход, знімеш шапку...

М і р о н. Перад галадранцамі? Ды я...

С т а ш э ў с к і. Пасля сходу будуць абмываць акт на перадачу зямлі. Пэўна ж будуць. То і ты з імі ў застолле. Як калгаснік. Прыхапі з сабою настойкі ці мядку. Мы дадзім атруты.

М і р о н. А як самому скажуць паспытаць.

С т а ш э ў с к і. Паспытай. Настойка павінна быць чыстай. І мёд. Пры любой экспертызе. Атруту ж падсып у іхнюю закусь.

М і р о н. Я лепш Міхася, як сюды прыйдзе.

М і ц ь к а. А ён п-прыйдзе?

М і р о н. Пасля гулянкі праводзіць Стасю. Я адпушчу яе.

Сташэўскі. Тут мы самі, а ў вёску нельга нам. Хай думаюць, што калгаснікі...

Мірон. Не, я не магу...

Сташэўскі. Што ж, давядзецца паведаміць у органы пра сувязь з намі і пра тваю падпіску гестапа.

Мірон. Вы гэтага не зробіце, пане Сташэўскі... Пашкадуйце.

Сташэўскі. А нас шкадуе хто?

Мірон. Хіба мала паслужыў вам?

Сташэўскі. Зрабі апошнюю паслугу — і мы пойдзем адсюль.

Мірон. Хіба што апошнюю. Што ж, кажуць, служыў да вуса, служы і да барады.

Сташэўскі. Так бы адразу. *(Аддае атруту.)* Бяры і падсып неўпрыкметку. Жадаю ўдачы.

Мірон. А як што?.. Не ўдасца?

Сташэўскі. Дарогу да нас ведаеш. Да відзэння. *(Адыходзіць з Міцькам.)*

Мірон. З богам. *(Сам сабе.)* Вось каму б атруты ў харч.

**Карціна другая**

У сельсавеце. Пры газнічцы сядзяць Міхась і Антось.

Антось. Я пазнаў яго — то начальнік карнага атрада.

Міхась. А ён цябе не ведаў?

Антось. Я жыў ціха, мірна. Каб наперад вылазіць, дык не.

Нясмела ўваходзіць Казік.

Міхась. Заходзь, заходзь. *(Антосю.)* Пры ім можна. *(Антось маўчыць.)* А другі хто? З выгляду.

Антось. Малады яшчэ, заікаецца.

Казік. Няйначай Міцька Бакланок, паліцай!

Антось. Імя не называлі.

К а з і к. Ён, прыдурак той. А нап'ецца — вар'ят вар'ятам. Як быў паліцаем, выгнаў Міронавага сабаку з будкі і сам туды.

А н т о с ь. І сабака не разарваў такую погань?

К а з і к. Сабакі п'яных ліжуць.

М і х а с ь. А чаго ён у Мірона быў?

К а з і к. Да Стасі заляцаўся. Гэта ж Стася і пажартавала тады. «Партызаны!» — кажа. То ён з перапуду ў сабачую будку. Пасля пагражаў расстраляць за сувязь з партызанамі.

М і х а с ь. А Мірон быў звязан з імі?

К а з і к. Дакументы мае, кажа, і яшчэ будуць, бо не з адным атрадам сувязь меў. Нібыта да ўзнагароды прадстаўлены. Усё можа быць. У лесе жыў... *(Міхасю.)* Там Стася да цябе з Надзейкай.

М і х а с ь *(адчыняе дзверы)*. Заходзьце, дзяўчаты,— тут усе свае.

Н а д з е й к а *(за дзвярыма)*. Нельга пры іх. Стася хоча сказаць нешта аднаму.

К а з і к *(Антосю)*. Выйдзем, дзядзька Антось.

К а з і к і А н т о с ь выходзяць. М і х а с ь вяртаецца са С т а с я й.

М і х а с ь. Ну што, мая вяснянка?

С т а с я. Сачыце за перасяленцам — ён у бандытаў быў.

М і х а с ь *(з прыемнай усмешкай)*. Ведаю.

С т а с я. Усё ведаеш? А я...

М і х а с ь. У тым і справа, што не ўсё.

С т а с я. Яны збіраюцца зрабіць яшчэ нейкую подласць. Мо заўтра, на свяце. То глядзі, беражы сябе, глядзі...

М і х а с ь. Дзякуй, любая. А дзе яны зараз — не ведаеш?

С т а с я. Зараз — не. Бываюць у нашай аборы на балоце. Толькі не ідзі туды. Беражы сябе. Для вяснянкі.

М і х а с ь. Якая ж ты... Ну, расцалаваць мала.

С т а с я. Што ты? Падгледзіць хто ў акно. Бывай, пабягу.

М і х а с ь. Бацькі баішся? А ведаеш, што і ён з імі?

С т а с я *(нямее ад нечаканасці, потым затуляе твар рукамі, хаваючы раптоўна нахлынуўшыя слёзы)*. Не вінаваты ён. Не вінаваты.

М і х а с ь. Папаўся ў нерат — ні ўзад ні ўперад? Чаго ж не прасіў ратунку?

С т а с я. Баяўся. Іх было многа. Маглі забіць, спаліць.

М і х а с ь. Сюды б пераехаў. Ці яшчэ куды.

С т а с я. А тут не знойдуць? *(Плача.)*

М і х а с ь. Не плач, любая, харошая мая. *(Прытуліў да сябе.)* Заставайся ў нас, у Надзейкі.

С т а с я. Нельга, Міхасёк.

М і х а с ь. Тады праводжу.

С т а с я. Баронь божа. Заўважаць. Я сама...

М і х а с ь. Ну хоць нямнога.

Вуліцу асвятлілі фары аўтамашыны. М і х а с ь падскочыў да газнічкі, патушыў яе і выбег са С т а с я й. І за акном згасла святло, сціх гул аўтамашыны.

Вяртаецца М і х а с ь з Я н і н а й М а р к а ў н а й.

Месячны водбліск цэдзіцца праз акно і бякла асвятляе іх постаці.

М і х а с ь *(запальвае газнічку)*. Яня Маркаўна, мы натрапілі на сляды тых, што стралялі ў вас. Больш таго, ведаем, дзе яны зараз.

Я н і н а М а р к а ў н а. А ў нашых адпаведных органах ведаюць?

М і х а с ь. Мо і ведаюць, ды мы самі, самі!..

Я н і н а М а р к а ў н а. Вы што?..

М і х а с ь. Іх толькі двое.

Я н і н а М а р к а ў н а. Двое?

М і х а с ь. Ну хай больш — усё адно!..

Я н і н а М а р к а ў н а. Што за самадзейнасць? Перадаў бы шафёрам Вікенцевіча...

М і х а с ь. Не! Тут такі выпадак!..

Яніна Маркаўна. Выпадак... *(Пахіснулася, прысела да стала.)*

Міхась *(хуценька налівае ёй шклянку вады).* Вы яшчэ нездаровыя. Чаго ж спяшаліся?

Яніна Маркаўна. Трэба. У Вікенцевіча непрыемнасці. Тэрмінова выклікалі ў вобласць. Прыслалі нават самалёт.

Міхась. Думаеце, непрыемны выклік?

Яніна Маркаўна. Перад вылетам заехаў у бальніцу і прасіў перадаць табе... *(Вынімае з сумкі кнігу.)* Старшыні райвыканкома нешта нездаровіцца, дык каб уручыў калгасу старшыня сельскага Савета. Ад імя Савецкай улады, партыі.

Міхась *(разглядвае вокладку, на якой пазалотай гараць словы: «Дзяржаўны акт на вечнае і бясплатнае карыстанне зямлёй»).* Так, вялікі гонар уручаць такое! Ды ўручыць першы сакратар райкома. Адкладзем сход да яго вяртання.

Яніна Маркаўна. Цяпер вернецца.

Міхась. А што здарылася?

Яніна Маркаўна. Бандыты прыслалі яму мёду ў падарунак. І паштоўку з падзякай, што памог збавіцца баязліўцаў і ўмацаваць атрад.

Міхась. Умацаваць? Банду? Ды вы што?..

Яніна Маркаўна. Не я, а яны так напісалі.

Міхась. І паверылі? Ды я ж быў тады!..

Яніна Маркаўна. На шчасце, пасля ад'езду Вікенцевіча прывезлі ў бальніцу параненага бандыта. Ён расказаў, што пасля дакладу сакратара райкома яны нейкі час раздумвалі. Адзін пан завёў гамонку, як быць далей. Выявілі ненадзейных і хацелі прыкончыць. Пачалася разня. Пагінула нямала, а рэшта разбрылася. Атамана забілі.

Міхась. То ж цудоўна! Зуя забілі! Вось чаго яны тут апынуліся!

Яніна Маркаўна. Дзе?

М і х а с ь. У Міронавай адрыне. Сёння абложым звяруг. І не такі падарунак зробім Мацею Вікенцевічу!..

У пакой з шумам уваходзяць Н а д з е й к а, К а з і к, ю н а к і, д з я ў ч а т ы.

Н а д з е й к а. Яня Маркаўна! З прыездам!

С я б р о ў к а. Добры вечар, Яніна Маркаўна. Вось добра, што вярнуліся, а то засумавалі.

Н а д з е й к а. І вучні...

Я н і н а М а р к а ў н а. Дзякуй, мае дарагія.

К а з і к. Шкада, не вернецца Пятровіч.

Жалобнае маўчанне.

М і х а с ь. І Пятровіч вернецца, і ён будзе з намі. Навекі. Ганаровым старшынёй. Калгас яго імем назавем.

**Карціна трэцяя**

У хаце Мірона. На куце абразы. Пад імі за сталом М і р о н піша заяву. Піша нетаропка, слюніць аловак, абдумвае, узважвае кожнае слова.

М і р о н *(перачытвае напісанае)*. Заява. Прысуд, а не заява. Скончылася твая вольная жысць, Мірон Азаравіч. Мірон Азаравіч. І пашана скончылася. Ніхто ўжо не заве па бацьку — забываць сталі. А было ж, шапкі здаля знімалі. За свата быць прасілі. За кума хацелі мець, бацькам хросным! Бо ў сіле быў Мірон. Дарунак мог паднесці, што завідкі ўсіх бралі. Не панам быў Мірон, але ж і галадранцам не раўня. Спраўны гаспадар. Адных пчол меў столькі, што мог жыць — не тужыць... А мо ў калгасе пчаляром паставяць? Сымон любіць пчолак, разумее ў іх толк. Самому некалі будзе займацца імі, бо старшыня! Па ўсяму бачна, будзе-такі калгас. І нічога тут не паробіш. І нікуды, Мірон, не дзенешся. *(Кладзе заяву за абразы.)* Дай божа, каб усё было ладна. *(Хрысціцца. У пярэднім пакоі грукнула.)*

Прыйшла. *(Бярэ з падаконніка бутэлю настойкі, ставіць на стол. Потым дастае з-пад лаўкі бутэльку, лейку.)*

Уваходзіць Стася.

Стася. Што гэта, тату, за настойку ўзяўся? Свята якое?

Мірон. Сватоў чакаю.

Стася. Якіх сватоў?

Мірон. Такіх, што зазываеш.

Стася. Нікога я не звала. Сам хіба? Бандытаў?

Мірон. А дзе ж тады была?

Стася. У клуб бегала, па кніжку.

Мірон *(пераліваючы настойку)*. Знаю, якой кніжкі закарцела.

Стася. Не верыш? Вось... *(Паказвае кнігу.)*

Мірон *(бярэ кнігу, чытае на вокладцы, вяртае)*. «На прасторах жыцця». На прастор захацелася, у свет, як у капейку. Каб на той свет не трапіла. Прыстрэляць разам з Міхасём. Не хадзі з ім болей, чуеш?

Стася. У цябе находзіш. Кроку не даеш ступіць за хутар. І пісьмы перахватываў, хаваў.

Мірон. Расказаў? Што ж, хаваў. Трэ было, дык і хаваў.

Стася. Навошта?

Мірон. Каб не збегла да яго, не з'ехала.

Стася. Без дазволу не паехала б. Як і на вучэнне. Хаця... дурніца, што не паехала ў тэхнікум.

Мірон. І пакінула б аднаго на старасці? Без рук, без дапамогі?

Стася. Наймічку б узяў.

Мірон *(ускіпеў)*. Наймічку? Ты на што намякаеш? За наймічку ў мяне? А я — куркуль-кулак? Эксплуататар?.. А можа, жаніцца загадаеш? Дык у мяне даўно прайшоў той шал. Ніхто тут не патрэбен. Ніхто! Не хачу, каб хто распараджаўся маім набыткам, размантачваў. А табе закарцела замуж, дык вызірай хлопца па сабе. Пра-

цавітага. Гаспадара. А Міхась не пара. Ён вучыцельку возьме.

С т а с я *(не стрывала, заплакала)*. Ой, мама, мамачка, родненькая. Навошта ж ты пакінула мяне?..

М і р о н *(зжаліўся, падышоў да Стасі, гладзіць па галаве)*. Ну, годзе румзаць. Годзе. Не пачуе. Будзем неяк жыць.

С т а с я. Як? Як! Усе ў калгас ідуць. А мы, як ваўкі...

М і р о н. І мы пойдзем.

С т а с я. У балота.

М і р о н *(дастае з-за абразоў паперку і аддае Стасі)*. На, пачытай, тут сказана ўсё.

С т а с я *(выцірае слёзы, чытае, не верачы напісанаму)*. «Пакорнейша прашу прыняць мяне ў калгас. І дачку маю Стасю. І каня, карову...» Тату! Гэта праўда? Як жа ты... рашыўся?! Сам?

М і р о н. Ты ж хочаш таго.

С т а с я. Ой, як добра, тату! Татачка!.. А яны? Што яны скажуць?

М і р о н. То ўжо мой клопат. *(Бярэ ў Стасі сваю заяву.)*

С т а с я. Тату, заяві пра іх куды трэба. А то я баюся.

М і р о н. На сябе заявіць?

С т а с я. Тату, прашу цябе. Зловяць іх — выкажуць цябе. Арыштуюць. І мяне...

М і р о н. Ты магла і не ведаць, не бачыць.

С т а с я. Баюся, тату. За цябе, за сябе. Заяві. Ты ж партызанскі сувязны. Табе вераць. Ды і сакратар райкома на сходзе абяцаў дараванне.

М і р о н. Усе яны абяцаюць. Сакратара райкома самога могуць адправіць, дзе Макар цялят не пасе.

С т а с я. Татачка, родненькі. *(Валіцца на калені.)* Раскажы, пакуль не позна. Яны добрыя, спагадныя. На каленях пайду за табою. Буду дзень і ноч маліцца...

М і р о н. Цьфу, нячыстая сіла. *(Засоўвае паперку ў кішэню і таропка выходзіць, грымнуўшы дзвярыма.)*

С т а с я. Царыца нябесная! За што такая кара? За што? Загіне без людскога спогаду. І мне яго не будзе. І роду ўсяму. Пашкадуй нас, маці боская. Матачка ж мая малілася да самай смертачкі.

Унурыўшы галаву ў плечы, асцярожна ўваходзіць М і ц ь к а.

Злітуйся над няшчаснымі. Абразум яго...

М і ц ь к а. К-каго?

Стася ўстрапянулася, азірнулася.

К-каханага бальшавічка? За Міхася молішся?

С т а с я *(устае)*. Чаго прыйшоў?

М і ц ь к а. Бацька дзе?

С т а с я. Недзе тут.

М і ц ь к а. А хто на кані паехаў?

С т а с я. Можа, тата — стрыножыць на поплаве.

М і ц ь к а. А сюды ніхто не заязджаў?

С т а с я. Вам лепей ведаць — пільнуеце ж.

М і ц ь к а. Ой, глядзі. *(Адкідвае за плячо аўтамат і спрабуе абняць дзяўчыну.)* Не брыкайся, а то і я магу ўбрыкнуць.

С т а с я *(адвіхаецца)*. Гэта ты можаш. А на што добрае, дык розуму бракуе. Бадзяецеся тут, як ваўкі, жыць спакойна не даяце.

М і ц ь к а. Ну-ну, разумніца. Думаеш, раз знюхалася з Міхасём, то м-можаш выказюлівацца? Ды м-мы яго, як і таго... Так што не будзе па-вашаму. Усё адно астанешся мне. *(Абхапіў Стасю, цалуе.)* М-мая будзеш. М-мая! Альбо н-нічыя.

С т а с я *(вырываецца з абдымкаў)*. Сучку пацалуй. *(Уцякае ў пярэдні пакой.)*

М і ц ь к а. Ах ты ж!.. *(Бяжыць за Стасяй. У дзвярах трапляе ва ўчэпістыя рукі Мірона.)*

М і р о н. Пачакай. Зараз ажаню і долю дам.

У пакой прыбягаюць М і х а с ь. і К а з і к, абяззбройваюць Міцьку.

Доча, дай вяроўку.

Міцька. П-пан Сташэўскі!..
Мірон. Заткніце ляпу.
Міхась. Не гэткім затыкалі.

Стася прыносіць вяроўку.

Казік. Цяпер не выкруцішся.
Стася. І хутчэй да нашае аборы на балоце. Не ўпусціце пана!
Міхась. Не ўпусцім!

Не спяць купальнаю ноччу:
Дзёмка, Янка, Сёмка з сябрамі;
Карына, Алёна, Яніна з сяброўкамі;
Святланка — падлетак;
Бацькі іх —
Лукаш, Ягор, Зарына, Усціна.
Спаць не даюць:
Жаўруку, Ружыне, Стэпе і ўсёй вёсцы.

Песні, прыпеўкі, наігранкі народныя і кампазітараў, што палюбіліся народу.

## Уступ

На суперзаслоне эпіграф: «На купалле юнацтву не спіцца». І сімвалы гэтае ночы: вогнішча, вянкі і папараць.

Мелодыя песні Юрыя Семянякі «Ты мне вясною прыснілася» («Цёмнаю ночкай купальнаю»). Яна льецца праз увесь спектакль і набывае найбольшае гучанне ў канцы.

З рухам круга перад суперзаслонай пачаргова з'яўляюцца дзейныя асобы. Напачатку Лукаш у форме пажарніка.

Лукаш. Не спіцца на купалле і нам, бацькам. Мне *(наструніўся)* на абавязку службы. *(І хітравата ўсміхнуўся.)*

Ружына *(з сумнасцю, скаргай)*. Та ж ноч пільнуе, удзень палюе, а ў двары... гасцём.

Лукаш *(лагодна, спагадна)*. Трэба ж некаму, Ружына, пільнаваць, вартаваць...

Ружына *(з ласкавым дакорам)*. Дзяды вартуюць хай — ім усё адно як бавіць час.

Ягор. А Лукаш і парабіць не зломак.

Ружына *(у бок Ягора)*. Брыгадзір Ягорка, у якога заўжды нагаворкі ды адгаворкі.

Стэпа. Ягорка, дзе ты дзеўся? Прыспаў і ў шкоду?

Зарына. То Стэпа яго тэпае. Зранку ёй росна, апоўдні млосна, а ўвечары спаткі.

Стэпа. Ёй няўседна і няўлежна. Не спіцца, бо ўдавіца.

Жаўрук. Зарына — звеннявая наша, працаўніца. Чараўніца.

Зарына. Дзякуй за пашану, Ян Сымонавіч. *(Да гле-*

6 Зак. 1299

*дачоў.)* Жаўрук — старшыня калгаса. Верны свайму прозвішчу і адвечнаму сялянскаму звычаю, ён засынае і прачынаецца адначасна з жаўрукамі.

Д з ё м к а. Вечар жаданы, зарністы. Чаго ж такі сцішны? Дзе хлопцы, дзяўчаты, мая Купалінка? Гульні, забавы, пацешкі і грай гарманіста...

## Частка першая

### Вянкі

Над рэчкай масток і вярба. На схіле гары купа голля.

Ля вярбы і на гушкалках д з я ў ч а т ы з вянкамі, бы русалкі. І х л о п ц ы тут з травянымі паясамі і хвастамі. Спяваюць пад грай Сёмкі песню «Ручнікі» *. У канцы песні адыходзяць.

На мастку з'яўляецца Д з ё м к а. Ён у новай форме марака-падводніка, з чамаданам і плашчом.

Д з ё м к а *(з лагодаю)*. Родная вёска, любая рэчка. Бярозавы гай і Дзівава горка. А на ёй — мая Купалінка.

Бяжыць д з я ў ч ы н к а з паперкаю.

*(Запыняе)*. Светлячок? На горку спяшаеш?

С в я т л а н к а. Ды не. А скуль вы знаеце, што Светлячок я?

Д з ё м к а. Мушка-вусянка, знічка Святланка...

С в я т л а н к а *(у здзіўленні)*. Вяселік? *(Пераймае спеў жаўранка.)* Цюр-цюр! Цюр-цюр! Цюрлі-рлі.

Д з ё м к а. Ах ты ж, гарэзніца!

С в я т л а н к а. А тата дзе?

Д з ё м к а. Спытаць бы мне.

С в я т л а н к а *(звярнула ўвагу на чамадан)*. А-а!..

Д з ё м к а. Навошта ён?

С в я т л а н к а. Яму тэлефанаграма. Да нас госці едуць!

---

* Словы В. Вярбы. Напеў М. Пятрэнкі, апрацоўка К. Паплаўскага.

Д з ё м к а. Якія госці?

С в я т л а н к а. Не ведаю.

Д з ё м к а. Як не ведаеш?

С в я т л а н к а. Так. Не напісана якія.

Д з ё м к а. Мо за мяне паклапаціўся нехта? Пакажы.

С в я т л а н к а. Цёмна ж.

Д з ё м к а. А ты свяці.

С в я т л а н к а. Нечым.

Д з ё м к а. Які ж ты Светлячок? *(Вымае з кішэні ліхтарык.)* Тады на́ маю бліскаўку. *(Запальвае ліхтарык, аддае дзяўчынцы, бярэ ў яе паперку, чытае.)* Госці едуць. Раніцою будуць. Старшыня райвыканкома. Дапраўды невядома, што за госці. Калі я, то пры чым тут райвыканкома старшыня? *(Да Святланкі.)* Галоўнага, выходзіць, і не ведаем.

С в я т л а н к а. Выходзіць. *(Насцярожылася.)* Ой, нехта пад мастком.

Сціхлі, услухоўваюцца.

Д з ё м к а. Дапраўды. Ці не вадзяны? Давай папалохаем.

С в я т л а н к а. Я сама баюся.

Д з ё м к а. Са мною? Ды знаеш, што ў мяне?

С в я т л а н к а. Зброя?

Д з ё м к а. Збруя. *(Вынімае з чамадана маскі.)* На.

С в я т л а н к а. Маска? *(Надзяе.)*

Д з ё м к а. І гарус. *(Вымае квяцістую хустку і акрывае дзяўчынку ледзь не да пят.)* Цяпер і маці не спазнае. *(Сам таксама надзяе маску і плашч, вымае зорачку з берэта).* Гайда.

Знікаюць пад мастком. Там немы ўскрык.

Д з я ў ч а т ы *(здаля)*. Ведзьма! Ведзьма! Оя-ёй!..

Я н к а. Купалле без ведзьмаў і прымхаў не бывае.

З-пад мастка выбягае напалоханая З а р ы н а з ручніком.

Д з я ў ч а т ы.

Купальнай ноччу
Выпеклі ведзьме вочы:
Каб уночы не хадзіла,
Каб і росы не збірала,
Каб у печы не сушыла,
Каб у жорнах не малола,
Каб і кашы не варыла,
Каб і дзяцей не карміла,
Каб вядзьмат не пладзіла.

Хлопцы заходзяць напярэймы Зарыне і пазнаюць яе.

Я н к а. Цётка Зарына?
Я н і н а *(здзіўлена)*. Мама? Чаго тут, мама?
З а р ы н а. Ручнік забыла во, як паласкала.
С ё м к а. То песня нагадала?
К а р ы н а. А мы думалі...
А л ё н а. Папраўдзе.
З а р ы н а. Папраўдзе, нехта там.
С ё м к а. Праверым, хлопцы?
Х л о п ц ы. Пачакаем. Пашукаем. Спаймаем.

Дзёмка і Святланка бягуць ад мастка ў супрацьлеглы бок, а хлопцы — пад масток.

Х л о п ц ы. Дзе ты, вадзяны? Нікога. І нічога такога. *(Вяртаюцца.)*

Я н к а. Мо ў цёткі чары?

З а р ы н а. Былі, Яначка, ды сплылі. Як ручнікі, вянкі. *(На дзяўчат.)* Хай яны цяпер чаруюць.

С ё м к а. Зайздросціце ім?

З а р ы н а. Дажывяце маіх год — спазнаеце.

Я н к а. Колькі тых год яшчэ! Цётка Зарына такая маладая, што невядома да каго сватоў чакаць.

З а р ы н а. Шалуны вы. Спелі б што харошае, купальнае.

Я н к а *(да дзяўчат.)* Спяём цётцы Зарыне?

А л ё н а. Спяём.

Сёмка зайграў.

Хлопцы.

Ой, на купалле, на Яна
Дзевачкі кветкі збіралі.

Дзяўчаты.

Мы збіралі і не зналі,
У матулі пыталі:
— А мамачка, што за кветкі?

Зарына.

Гэта, дочанькі, купалле —
Дзявоцкае ўмыванне.
Дзявоцкае ўмыванне,
А дзецюкам каханне.

Наважылася ісці.

Карына. Пабудзьце яшчэ з намі.

Алёна. Раскажыце пра Дзіваву гару.

Зарына. Даўняя даўнасць мне невядома — самі ж казалі: яшчэ маладая.

Сёмка. А як вы гулялі ночкай купальнай? *(Да хлопцаў.)* Цікава?

Хлопцы. Цікава. Цікава.

Зарына. Цікава было, як моладзь з усяго наваколля папы на купалле збіралі.

Янка. Папы? То ж не царкоўнае свята. Некалі ж самі яго асуджалі.

Зарына. А мы гулялі. Папараць-кветку шукалі.

Алёна. А вянкі завівалі?

Зарына. Завівалі. З купавы.

Карына. А не з васількоў, медуніц, незабудак?

Зарына. З купавы — кветкі цнатлівай і чыстай — кветкі русалкі.

Карына. З адной купавы?

Зарына. Чаго не было! І явар, любісцік, бярозу і чаромху падчас уплятаалі — так чаравалі.

А л ё н а. А мы во і не зналі.

З а р ы н а. Гожую самую наракалі русалкай. Ёй самы шыкоўны вянок адзявалі. Самую ж маладую русалачкай звалі. Русалцы косы расплятали, і яна з распушчанымі валасамі...

Х л о п ц ы. Як у Пячэрску. А ў Мінску? Уга, колькі там іх! Модная пошасць.

Я н к а. Ціха вы.

З а р ы н а. ...у бялёвай вышыванай сарочцы брала за ручку малую і спявала:

Павяду я русалачку да бору,
А сама вярнуся на Дзіваву гору.
Правяду русалачку ў цёмны бор,
А сама пайду у таткаў двор.

І светлячкоў, што з'яўляюцца сённяшняй ночкай, шукалі. Імі вянкі аздаблялі. Потым на ціхія хвалі пускалі. І плылі вянкі-светлячкі, а з імі дзявочыя мары...

Я н к а. А вы як паэтка, цётка Зарына.

З а р ы н а. Кабетка я, а не паэтка.

А л ё н а. А ці праўда: як вянок патоне, то застанешся векавухай ці памрэш?

З а р ы н а. Навошта сябе засмучаць вам заўчасна?

С ё м к а. А хлопы што вычваралі?

З а р ы н а. Цяпло рыхтавалі, як вы... *(Глядзіць на купу голля.)* Ды не з простага голля, а з маю.

С ё м к а. З маю?

З а р ы н а. Якім упрыгожвалі вуліцы і хаты да тройцы... Самыя смелыя купаліся ў рэчцы, таемнай і страшнай уночы...

Я н к а. А потым?

З а р ы н а. Цераз цяпло, як вы, скакалі.

С ё м к а. А што было потым?

З а р ы н а. Хлопцы жаніліся, мы замуж выходзілі. Іншыя думкі займалі. Травы, карэнне купальнаю ночкай

збіралі. Маюць сягоння яны цудадзейную сілу. І прыкмячалі: зорная ночка — грыбоў будзе бочка, багата расы — гуркоў вазы.

Я н к а. Вазы?

С ё м к а. Нам бы цяпер па гурочку.

Я н к а. А пра дзівы, прыгоды, праявы?..

С ё м к а. Як папараць-кветку на шчасце шукалі...

З а р ы н а. Казак жадаеце?

Я н к а. Легенд і паданняў купальных.

З а р ы н а. Самі складайце вы іх у казачным часе. У любасці, згодзе і ладзе. *(Адыходзіць.)*

Моладзь праводзіць З а р ы н у.

Я н к а. Дзякуй за шчырае слова, наша паэтка.

С ё м к а. А за вядзьмарку даруйце — мы не наўмысна.

Д з я ў ч а т ы. Даруйце, даруйце...

З'яўляюцца Д з ё м к а і С в я т л а н к а.

С в я т л а н к а. Аднясём цяпер тату?

Д з ё м к а. А як і ён спытае: што за госці?

Святланка паціскае плячыма.

Мо дапішам? Шаноўныя, дарагія...

С в я т л а н к а. А хіба ёсць не дарагія?

Д з ё м к а. Сапраўды. Давай дапішам: са спаборнічаючага калгаса дэлегацыя.

С в я т л а н к а. На пошце гаворка была: маюцца быць ветэраны, што вызвалялі наш раён, і партызаны...

Д з ё м к а. То давай пра іх...

С в я т л а н к а. А як не яны? Не-не, маё прозвішча там запісалі і марак далі.

Д з ё м к а. Вось як! Цяпер ты не звычайны Светлячок, раз запісалі, а сама гісторыя!.. Дзівачка. Сёння ж Купала! Усё як у казцы. Давай напішам так: едуць вашыя самыя блізкія, вялікія ваенныя сябры. Раніцою будуць.

С в я т л а н к а. Сустракайце з кветкамі.

Д з ё м к а. Правільна. І з папараццю, музыкаю. Ды гэта і само сабою зразумела. Згода?

С в я т л а н к а. А за ману не пападзе табе ад таты?

Д з ё м к а. Ды не. Такія жарты сама Купала даравала. Зрэшты, я таксама самы блізкі...

С в я т л а н к а. І вялікі...

Д з ё м к а. Ваенны... *(Аддае Святланцы ліхтарык, вымае з кішэні блакнот, аўтаручку.)* сябар. Свяці, Светлячок, свяці... *(Піша.)*

Дзёмку і Святланку заўважылі.

К а р ы н а. Вунь яны! Вунь!..

А л ё н а. Ой-ёй!..

Я н і н а. Маці ж казала...

К а р ы н а. Праўда.

Я н і н а *(да хлопцаў)*. А вы і не знайшлі.

А л ё н а. Таксама збаяліся.

Я н к а. Ды не е... Вадзяныя — у рацэ пахаваліся.

С ё м к а. Ці ваўкі. А мо і ваўкалакі. У ваўкоў гэтак бліскаюць вочы.

Я н і н а. А яны агню баяцца?

С ё м к а. Баяцца.

Я н і н а. То чаго ж стаіце? Вогнішча хутчэй паліце.

Хлопцы падбягаюць да купы голля, запальваюць.

Д з я ў ч а т ы. Хутчэй! Хутчэй!

Дзёмка і Святланка прыляглі на зямлю, прытаіліся.
Сёмка зайграў.

Д з я ў ч а т ы.

Гары, гары ясна,
Каб жылося шчасна,
Каб жылося святлей,
Каб жылося весялей...

Хлопцы пабраліся за рукі, скачуць цераз зыркае палыханне вогнішча. Спрабуе пераскочыць і Яніна, ды трапляе ў яго. Іскры, смех, рогат.

С в я т л а н к а *(да Дзёмкі).* А ты пераскочыў бы?
Д з ё м к а. Не ведаю.
С в я т л а н к а. Пераскочыш. Ну, паспрабуй...
Д з ё м к а. Давай з табою, вадзяны і русалка.
С в я т л а н к а. Не хачу быць русалкай.
Д з ё м к а. Чаго так?
С в я т л а н к а. Русалкі — няшчасныя журынкі.
Д з ё м к а. А ты вясёлай хочаш быць?
С в я т л а н к а. І шчаслівай.
Д з ё м к а. То будзь Вясёлкай.
С в я т л а н к а. Вясёлкай?
Д з ё м к а. Але. Шчаслівою Вясёлкай.
С в я т л а н к а. А ты — Вяселікам. Не, цябе і так завуць: Жаўручок-Вяселік. Будзь... знаеш, кім?
Д з ё м к а. Кім?
С в я т л а н к а. Дзівасілам!
Д з ё м к а. Ого!
С в я т л а н к а. Сам жа казаў: сёння ўсё як у казцы.
Д з ё м к а. Хай будзе па-твойму. *(Падхоплівае дзяўчынку на рукі і нясе да палымлівага вогнішча.)*

Там сполах. Усе адступілі. Дзёмка са Святланкай пераскокваюць цераз вогнішча раз, другі.
Збянтэжаныя хлопцы ачомаліся, акружаюць іх.

Д з ё м к а *(спрабуе абмінуць хлопцаў, выйсці з акружэння, а потым безнадзейна апускае Святланку на дол. Зменлівым голасам.)* Вітанне, русалкі і чэрці.
Я н к а. Вітанне, незнаёмцы. Хто ж вы? Вадзяныя? Лясныя? Палявыя? Ці з іншай планеты зляцелі да нас на купалле? Скажыце хоць імя.
С в я т л а н к а. Дзівасіл.
С ё м к а. Ух ты!..
Я н к а. З казкі, значыць? А мы лічылі цябе...
Х л о п ц ы. Вадзяным. Ваўком. Ваўкалакам.
К а р ы н а *(да Святланкі).* А ты хто? Таксама з казкі?
Я н і н а. Русалачка?
Д з ё м к а. Вясёлка.

К а р ы н а. Вясёлка?

Дзяўчаты пільней прыглядаюцца да Святланкі

К а р ы н а *(да Дзёмкі)*. Твая каханка?
Я н і н а. Такая малая?
А л ё н а. Дзяўчынка яшчэ.
К а р ы н а. Ну, пакажыся.
Я н і н а. Пакажыся.
Я н к а *(да Дзёмкі)*. А ты пакажы сваю дзіўную сілу.
Д з ё м к а. Спачатку пакажыце нам танок вянковы.
А л ё н а *(да дзяўчат)*. Пакажам?
Я н і н а. Грай, Сёмка!

Сёмка зайграў мелодыю «Беларускай рапсодыі». Дзяўчаты з вянкамі, а потым і з хлопцамі наладжваюць навокал вогнішча карагод. Дзёмка са Святланкаю таксама ўліваюцца ў яго.

К а р ы н а *(усё пазірае на Дзёмку, шэпча сабе)*. Няўжо ён? Ён! Не, не ён...

Улучыўшы зручны момант, Д з ё м к а са С в я т л а н к а ю ўцякаюць.

К а р ы н а *(спыняецца, з трывогай глядзіць услед)*. Не, ён бы не пабег.

А л ё н а *(да Карыны)*. Знік Дзівасіл?
К а р ы н а. З Вясёлкаю.
Я н і н а. Шкада, не разгледзелі.
А л ё н а. А голас нібыта знаёмы.
Я н і н а. І я недзе чула.
С ё м к а. Мо з Зарэчча хто?
Я н к а. Ці з Барка.
А л ё н а. Каб не быў Дзёмка ў арміі...
Я н і н а. І я падумала.
Я н к а. Дзёмкаў голас не такі.
А л ё н а. Мо змяніў. *(Да Карыны.)* Як ты думаеш?
К а р ы н а. Не ведаю. Не, то немажліва.
С ё м к а. А раптам?..
Я н к а. Яшчэ ж і году не мінула, як пайшоў.
С ё м к а. Сёння ўсё мажліва — ноч, поўная чараў.

Я н і н а *(да Карыны).* Паварожым?

Дзяўчаты знімаюць з галоў вянкі, хлопцы факеламі запальваюць свечкі на вянках.

Я н і н а. Асцярожней, а то і вянкі спаліце.

Дзяўчаты на хаду скідаюць чаравічкі і ідуць да рэчкі, апускаюць вянкі на люстраную роўнядзь.

Хлопцы падхопліваюць чаравічкі і назіраюць за вянкамі.

Я н і н а. Хай люляюць іх ціхія хвалі.

К а р ы н а. Хай плывуць, як нашы думкі-мроі.

А л ё н а. Хай збудуцца нашы жаданні-спадзяванні.

З мелодыяй канчатку песні «Ручнікі» агеньчыкі-вянкі пагойдваюцца на хвалях і плывуць у тумане.

Хлопцы з дзяўчатамі ідуць росным берагам, не зводзячы вачэй з вянкоў.

К а р ы н а. Ой, дзевачкі!.. *(Затуляе твар рукамі.)*

Я н і н а. Твой?

А л ё н а. Усплывае. Усплывае!

Я н і н а. Усё будзе хораша, Карынка. Вернецца Дзёмка.

* * *

Чуецца дзявочая песня:

Сонца за хмаркамі ўранні
Скрылася — болей не свеціць.
Што ж ты мне сэрца параніў,
Што ж ты мне сэрца параніў,
Мой найдарожшы на свеце?..*

На вясковай вуліцы з'яўляюцца Д з ё м к а і С в я т л а н к а.

С в я т л а н к а *(хітравата).* Карынка Лукашова запявае. Яе вянок ледзь не патануў. А хто ёй сэрца параніў?

Д з ё м к а. Малая яшчэ, Вясёлка, ведаць..

---

* Словы Н. Тарас. Музыка І. Сушко.

С в я т л а н к а. Сам нясі, як вялікі.
Д з ё м к а. Я параніў, я.
С в я т л а н к а . А навошта раніў?
Д з ё м к а. Я загаю тыя раны.

Падыходзяць да акна, прыслухоўваюцца.

Д з ё м к а. Спіць Жаўрук. Храпе і свішча на ўсе застаўкі.
С в я т л а н к а. Хі-хі-хі...
Д з ё м к а. Цісь... *(Стукае ў акно.)*
Ж а ў р у к. Хто там?
Д з ё м к а *(да Святланкі)*. Азавіся. Ды знімі маску.
Ж а ў р у к. Хто стукаў?
С в я т л а н к а. Вам тэлефанаграма.

Ж а ў р у к адчыняе акно. Дзёмка хаваецца за вугал.

С в я т л а н к а. Вазьміце, калі ласка.
Ж а ў р у к. Не магла ранку дачакацца?
С в я т л а н к а. Тэрміновая ж.
Ж а ў р у к. Хто цябе паслаў?
С в я т л а н к а. На Зарэчнай пошце я была, то перадалі. І марак далі.
Ж а ў р у к. А чыя ты?
С в я т л а н к а. Янкі-бухгалтара сястра.
Ж а ў р у к. Рабоцькі. Марцы такія справы давяраюць.
С в я т л а н к а. Маркам давяраюць і не такое.
Ж а ў р у к. Пачакай. Зірну, што тут тэрміновага? *(Знікае за акном. У доме ўспыхнула святло.)*
С в я т л а н к а *(Дзёмку)*. Ой, і пападзе нам!
Д з ё м к а. Не бойся.
С в я т л а н к а. А сам баішся? Хаваешся? Такі вялікі! Дзівасіл. *(І раптам палахліва.)* Ой!
Д з ё м к а. Чаго ты?
С в я т л а н к а. Камбайн вунь...
Д з ё м к а *(здзіўлена)*. Ідзе без гулу. Штукары. Ну і штукары! *(Бяжыць да камбайна.)* Стойце, чэрці. Прытаі-

лісяʼ? Давядзецца прызнацца. *(Знімае маску.)* Не бойцеся, я — свой.

Дзёмку абступаюць хлопцы.

Сёмка. Дзёмка?

Янка. Вяселік?

Сёмка. З прыездам, Дзівасіл!

Янка. Як ты змог? На самае купалле!

Дзёмка. Куды вы?

Сёмка. Да канторы. Камбайны не гатовы да ўборкі.

Янка *(паказвае плакат)*. Пакорнейша прашу падрамантаваць.

Дзёмка. Малайцы!

Сёмка. Касілку ўжо завалаклі.

Дзёмка. Ведаеце што?

Янка. Не ведаем.

Дзёмка. Давайце задні ход.

Сёмка. Чаму так?

Дзёмка. Можа быць інфаркт. Зараз баця выйдзе. Вунь святло.

Янка. Ад гэтага інфаркт?

Дзёмка. Усё вам раскажу. А зараз прашу, вельмі...

Сёмка. Шкада. Ды калі так просіш...

Хлопцы неахвотна адыходзяць.

Жаўрук *(выхіліўся з акна)*. Дзе ты, марка?

Святланка. Тута. *(Падбягае да акна.)*

Жаўрук. Бяжы да Сёмкі. Хай садзіцца за абаранак і збярэ ўсіх начальнікаў службаў.

Святланка. Якіх службаў?

Жаўрук. Брыгадзіраў, загадчыкаў... Ён ведае. Па гатоўнасці нумар адзін.

Святланка. А што гэта такое? Як атрад збіраецца ў паход?

Жаўрук. Які атрад? У які табе паход?

Святланка. Па роднаму краю. Па месцах баявой славы.

Ж а ў р у к. Тут іншае. Тут гатоўнасць незвычайная.

С в я т л а н к а. А можа, у рэйку зазваніць?

Ж а ў р у к. Ты што? Рабі, як сказана. Без панікі.

С в я т л а н к а. Добра, Ян Сымонавіч.

Ж а ў р у к. Не, лепей гукні яго ў кантору — сам скажу, а то наблытаеш, бывае.

С в я т л а н к а. Не наблытаю.

Ж а ў р у к. Рабі, як сказана. Ды хуценька. *(Зачыняе акно.)*

С в я т л а н к а. Бягу. Лячу *(Адбягае. Да Дзёмкі.)* Гукаць?

Д з ё м к а. Счакай тут. І затрымай яго, як выйдзе. Скажы: не знайшла. Ці яшчэ што змані.

С в я т л а н к а. А маніць хіба можна?

Д з ё м к а. Я ж казаў: сёння Купала даравала. *(Сабе.)* Трэба ж тэлефон адключыць, а то пазвоніць... *(Спешна адыходзіць.)*

С в я т л а н к а. Пападзе нам. Ой, і пападзе. Дзёмку мо і нічога, а мне і дома, і ў школе, як дазнаюцца...

З дому выходзіць Ж а ў р у к.

Няма Дзёмкі.

Ж а ў р у к. Што-о?.. Дзёмкі?.. Знаю, што няма. Я ж казаў Сёмку, а не Дзёмку. От жа няўцямнае дзяўчо...

С в я т л а н к а. І Сёмкі няма.

Ж а ў р у к. Як няма?

С в я т л а н к а. Не знайшла.

Ж а ў р у к. Дзе яго вецер носіць? Гулянкі-забаўлянкі...

Недзе спяваюць д з я ў ч а т ы.

Дармо, Ясю, ходзіш,
Свае ножкі б'еш,—
Не люблю я цябе,
Бо гарэлачку п'еш.

Ж а ў р у к. Ляці на Дзіваву гару — мо там.

С в я т л а н к а. Лячу, лячу...

Адыходзіць і Ж а ў р у к.

А д з я ў ч а т ы:

Не пі, Ясю, піўца,
Ні гарэліцы.
Пайду разам з табой
За аселіцу.

На вуліцы сустракаюцца Л у к а ш і Я г о р.

Я г о р. Палюеш?

Л у к а ш. Пільную.

Я г о р. Каго?

Л у к а ш. Народнае дабро. А ты цікуеш за дачкой, каб не звялі ў папараць? Ці самога жыўчыкі на Дзіваву гару пацягнулі?

Я г о р. Стаміўся, замытляўся за дзень — іду ўжо на спачын.

Л у к а ш. Пара. Стэпа там у сне ўжо наглядзелася ціятраў. Цалуй яе — прыемней будуць сны. А за дачкамі я паназіраю.

Я г о р. А яшчэ за кім? Знаю цябе я, бугая.

Л у к а ш. У такую ноч не грэх. Здавён на купалле хадзілі да чужых жанок, каб шчасціла ў гаспадарцы. Шкада, час не той — цяпер не ходзяць.

Я г о р. Не ходзяць. Ездзяць! На легкавых. І лётаюць на рэактыўных. А будуць жа і на ракетах лётаць. На іншыя планеты.

Л у к а ш. Да марсіянак? А што ты думаеш?

Я г о р. Думаю, што дзяды і прадзеды не дурнямі былі. Патрэбна такая ноч, калі б можна было расказаць чалавеку пра свае пачуцці. Хоць раз у год.

Л у к а ш. Паспавядацца? Гы-гы-гы... А што ты думаеш? Сёння разумныя кажаш ты рэчы. Не думаў, што гэткі пачуццёвец.

Я г о р зірнуў незадаволена і пайшоў.

Лукаш. Не крыўдуй. Спакойнай ночы. Гы-гы-гы.... На рэактыўных. Вазьму і я курс да марсіянкі.

Зноў дзявочы спеў:

Чабарок, чабарок
Ды каля дарожкі.
Харошанькі мой мілецькі,
Ды крывыя ножкі.
Ох! Ох! Ды крывыя ножкі.
Ох! Ох! Ды крывыя ножкі.

А мой жа ты, даўганосы,
Ой, які ж ты нехарошы.
Каб ты быў такі, як я,
То даўно была б твая.
Ох! Ох! То даўно была б твая.
Ох! Ох! То даўно была б твая.

* * *

У Лукашоў дом уваходзіць Ягор.

Ружына *(з-за шырмы)*. Ты, Лукаш?

Ягор. Я *(Распранаецца, скідае боты.)*

Ружына. Карынкі там не бачыў?

Ягор. Не. *(Моўчкі заходзіць за шырму, месціцца да Ружыны.)*

Ружына. Оячё! Хто тут?

Ягор. Ціха-ша.

Ружына. Ягорка? Здурнеў, ці што? Ноччу да чужое бабы?

Ягор. У такую ноч не мог я не прыйсці.

Ружына. У такую ноч ганьбіць мяне? Перад Лукашом, дачкою? *(Выбягае з-за шырмы.)* Авоечкі!

Ягор *(выходзіць за ёю)*. Якая ганьба? Здавён гэтай ночкай хадзілі ў маладосць сваю. І ты неяк вясною замаўляла...

Ружына. Я? Замаўляла?

Ягор. Але. Замужняя ўдава, мовіла. Лукаш ноч пільвуе, дзень палюе, а ў двары гасцём.

Ружына. А каб з табою мовіў воўк. Пажартавала, а ён і паспадзяваўся. Ішоў бы лепей да якой бязмужкі. А то ўдаву знайшоў. Авоечкі...

Ягор. Па табе сэрца маё млее.

Ружына. Па мне?

Ягор. Толькі з табою мне хочацца быць,
Толькі з табою.

Ружына. Ты ўсім так пяеш, кот памаўзлівы?

Ягор. Табе толькі, Ружачка, адной-адзінай.

Ружына. І жонцы не?

Ягор. Што пытаеш?..

Ружына. І не спяваў ніколі?

Ягор. Калі тое было!

Ружына. Разлюбіў сваю Стэпу?

Ягор. У яе падушачкі не ўзбіты, ласкавыя словы пазабыты.

Ружына. Ласкі, пяшчоты захацеў? А каб цябе мядзведзь песціў...

Ягор. Ці ж я вінаваты, калі
Сэрцу хочацца ласкавай песні
І харошай, вялікай любві.

Ружына. Во скажу Стэпцы — будзе табе з ласкі на пацеху.

Ягор. Яна ў мяне свядомая.

Ружына. Свядомая?

Ягор. Памяркоўная.

Ружына. Памяркоўная?

Ягор. І спагадная. Жывём па кодэксу: сяброўка, таварышка, сястра. Як ты з Лукашом.

Ружына. Мы па любасці жывём.

Ягор. Любасці і на мядовы месяц ці хапіла. Пагалілася на франта, а цяпер жалкуеш. Не любіць ён цябе.

Ружына. А скуль ты ведаеш?

Ягор. Каб любіў — на ноч бы не сыходзіў.

Р у ж ы н а. А каб ты ў балота ішоў. Трэба ж некаму пільнаваць, вартаваць.

Я г о р. Сама ж мовіла: дзяды пільнуюць хай — ім усё адно як бавіць час.

Р у ж ы н а. Лукаш ідзе вунь — ён табе напільнуе і напалюе.

Я г о р. Зараз не прыйдзе — то я пэўна знаю.

Р у ж ы н а. Пэўна? Гэтаксама ў якой бабы?

Я г о р. Таго я не скажу. Адно скажу: люблю цябе. З самай маладосці. Па-маладому.

Р у ж ы н а. У маладосці мо што і было.

Я г о р. Было, было! Ты гэта ведала, бачыла. І цяпер...

Р у ж ы н а. Цяпер наўрад. За столькі год прытупілася ўсё, мы звыклі.

Я г о р. Ты звыкла. *(З памкненнем.)* А ў мяне з гадамі жаданні ўсё мацней. Як пісаў паэт: «І смак жыцця, як смак вады ў пустыні».

Р у ж ы н а *(адступае)*. Не варуш успамінаў. Так суджана.

Я г о р. Несправядліва суджана. Несправядліва!

Р у ж ы н а. Цішэй. Там-такі нехта ходзіць.

Я г о р. Карынка з хлопцам — хто ж яшчэ? Не звяртай увагі.

Р у ж ы н а. Пачуе. Пабачыць.

Я г о р. Хай бачыць, ведае.

Р у ж ы н а. І вашая ж Алёна будзе ведаць. Пасаромся хоць дачок.

Я г о р. Яны таксама сёння кахаюцца, мілуюцца.

Р у ж ы н а *(са скрухай)*. Іх час.

За акном заспявалі х л о п ц ы:

Купалінка, Купалінка,
Цёмная ночка.
Цёмная ночка.
Дзе твая дочка?

Я г о р. Зараз адпяю ім.

Р у ж ы н а. Маўчы, пяюн.

Я г о р. Буськi. Хоць раз.

Р у ж ы н а. Потым.

Я г о р. Ведаю тваё потым — яшчэ да замуства абяцала.

Р у ж ы н а. А каб цябе воўк буськаў. *(Цалуе Ягора, потым спявае.)*

Мая дочка ў садочку
Кветку ружу поле.
Кветку ружу поле,
Белы ручкі коле.
Кветачкі рве,
Кветачкі рве,
Вяночкі звівае.
Вяночкі звівае,
У рэчаньку кiдае.

З а а к н о м.

Вяночкі звівае,
Слёзкі праліваe.
Слёзкі праліваe,
Мілага чакае.

Я г о р. Прыклалі ўжо — таго ў песні не было.

Р у ж ы н а. Не тое прыкладуць, як дазнаюцца.

З а а к н о м.

Купалінка, Купалінка,
А дзе твой Купала?

Р у ж ы н а. На каланчы.

С ё м к а. Нешта там не бачна.

Я г о р *(падказвае Ружыне)*. Цёмна, то і не бачна.

Р у ж ы н а. Цёмная ночка, то і не бачна.

Я н к а. Яго ў кантору клічуць.

С ё м к а. Спешна.

Я г о р. Брэшуць, валачобнікі.

Р у ж ы н а. Маніце, хлопцы.

Сёмка. Дапраўды. Усіх начальнікаў збіраюць. Па гатоўнасці нумар адзін.

Ягор. Што ён сказаў?

Ружына. Што ты сказаў?

Сёмка. Па гатоўнасці нумар адзін.

Ягор. Ясна. Скажы: іду.

Ружына. Пайду — знайду.

Ягор. Дзе мае боты?

Ружына. Чаго так заспяшаў?

Ягор. Тут такі пажар займаецца, што і Лукашы не дадуць рады.

Ружына. Які пажар?

Ягор. Вайна, Ружачка, вайна.

Ружына. Оя-ёй!

Ягор. Боты! Дзе мае боты?..

* * *

На прасцэніуме з'яўляецца Дзёмка з хлопцамі.

Дзёмка. Цяпер пабудзім брыгадзіра Ягорку.

Сёмка. У якога заўжды адгаворкі.

Дзёмка. Э, ды ў яго палісаднік новы!

Янка. І бэз, і ружы ў ім.

Дзёмка. Твая Алёна пастарался, няйначай.

Сёмка. Пасля таго як асінку і дзядоўнік пасадзілі пад акном. Помніш?

Дзёмка. Як не помніць!

Мелодыя «Купалінкі».

* * *

У доме Ягора. За акном спяваюць:

Купалінка, Купалінка,
Цёмная ночка.
Цёмная ночка.
Дзе твая дочка?

С т э п а *(прачнулася, працірае вочы, пазяхае)*. Каб на вас ліха, як не даеце ўсмак паспаць, паляжаць. *(Падышла да акна.)*

Мая дочка
Пайшла па лужочку.
Пайшла па лужочку,
Гуляючы,
Вянкі завіваючы.
На годы добрыя,
На жыта густое,
На ячмень каласісты,
На авёс расісты.
На грэчку чорную,
На капусту белую.

З а  а к н о м.

Купалінка, Купалінка,
А дзе твой Купала?

С т э п а.

Сёння Купала,
Заўтра Ян.
Будзе, хлопчыкі,
Ліха вам.

С ё м к а. Мы сур'ёзна, цётка Стэпа, дзе Ягор?
С т э п а. Спіць. Дзе ж яму быць?
С ё м к а. Загадана спешна з'явіцца ў кантору.
С т э п а. Не тлуміце-ка, хлопцы.
Я н к а. Старшыня гукае.
С т э п а. Ты, Янка?
Я н к а. Я.
С т э п а. Чаго так раптам, ноччу?
Я н к а. Там яму скажуць.
С т э п а. То зараз будзе... Ягорка, а Ягорка! Нямаша-

ка? Дзе ты, Ягорка? Як праваліўся. Клаліся ж спаць разам. Прыспаў і некуды даў цягу. Куды ж яго панесла ліха? Яшчэ ж рана. А мо да якой бабы? Ці не да Зарыны? Тая спакусіць, каго заўгодна. Трэба-ка пашукаць. *(Адзяецца, спыняецца, услухоўваецца.)* Не, ідзе-такі.

Уваходзіць Я г о р.

С т э п а. Ягорка?

Я г о р. Тут я.

С т э п а. Ягорка тут, Ягорка там? Як Фігара? Дзе быў, бягун? Прыспаў і ў шкоду?

Я г о р. У якую табе шкоду?

С т э п а. Буду прывязваць цяперка за нагу да ложка. Ці да сваёй нагі. Каб не збягаў.

Я г о р. А як па патрэбе?

С т э п а. Па патрэбе цябе гукалі ў кантору.

Я г о р. Чуў.

С т э п а. Чаго так ноччу?

Я г о р. Нешта, мабыць, сталася. На ўсякі выпадак сухары сушы.

С т э п а. Сухары? Забяруць куды?

Я г о р. Могуць і забраць. Усё могуць. Адным словам, сушы. І гатуй торбу.

* * *

Зноў на прасцэніуме х л о п ц ы.

Д з ё м к а. Святло ў Зарыны?

С ё м к а. Але. І спеў.

Я н к а. Весялуха.

С ё м к а. Чаруе.

Я н к а. А ля рэчкі казала: сплылі чары, як ручнікі, вянкі. Яны хай цяпер чаруюць.

С ё м к а. Трэба і яе паклікаць — перадавая ж звенявая. Паклічам?

Д з ё м к а. Паклічам.

Мелодыя «Купалінкі».

* * *

У доме за сталом Лукаш і Зарына.

Зарына. Як пірог?

Лукаш. Харош. І шынка хараша.

Зарына. Да чаркі. А я?

Лукаш. Ты смачней за ўсё на свеце.

Зарына. Праўда?

Лукаш. Святая, Зарыначка. Як бог.

Зарына *(бярэ каску, гуллівa)*. А ведаеш, што хлопцы мне казалі сёння каля рэчкі?

Лукаш. Якое-небудзь глупства. Што яны цямяць у жанках?

Зарына. Невядома да каго сватоў чакаць, казалі: да мяне ці да маёй Яніны.

Лукаш *(куляе чарку)*. А то праўда. Што праўда, то праўда. Маладая шчэ, прыгожая. Кроў з малаком.

Зарына. Астацца з імі на гулянкі запрашалі.

Лукаш. Чаго ж не засталася?

Зарына. Ты ж меўся прыйсці. Падумаць толькі: дочкі ўжо купалле гуляюць, сваю папараць-кветку шукаюць.

Лукаш. Любасці, цалункаў шукаюць.

Зарына. І ў іх знаходзяць сваё шчасце.

Лукаш. І няшчасце.

Зарына. Скажы, Лукашок, а як ты любіш?

Лукаш. Я? І сам не ведаю.

Зарына. То не любіш, як не ведаеш!

Лукаш. Люблю. Во як люблю! *(Абдымае, хоча пацалаваць.)*

Зарына. Не-не, скажы спачатку мне. Скажы.

Лукаш. Слоў такіх не ведаю.

Зарына. Ну, а пра мяне хоць думаеш?

Лукаш. А як жа? Усю ноч думаю.

Зарына. Скажы: а што ж рабіць мне болей?

Лукаш. З-за цябе і не сплю.

З а р ы н а. З-за мяне і ў пажарнікі пайшоў?

Л у к а ш. Ах ты ж, чараўніца... *(Зноў імкнецца да Зарыны.)*

З а р ы н а *(забаўляецца каскаю).*

Ты пажарнік увішны і яры,
Ты ўдарнік такі баявы,
Ты гатовы тушыць ўсе пажары,
Аднаго не тушы ты — любві.

Л у к а ш.

Світальная зара,
Вяснянка ты мая,
Іскра агністая
І прамяністая.

З а р ы н а. А казаў: слоў такіх не ведаеш.

Л у к а ш. То ж песня.

З а р ы н а. А ў песні думкі, пачуццё.

З а  а к н о м. Купалінка, Купалінка,
Цёмная ночка.
Цёмная ночка.
Дзе твая дочка?

Л у к а ш. Каб на вас агонь. Хаця... тушыць жа давядзецца.

З а р ы н а *(спявае).*

Мая дочка
Пайшла па барочку.
Пайшла па барочку,
Гуляючы,
Ягадкі збіраючы.

З а п ы т. Спеленькія?

З а р ы н а. У збаночак.

З а п ы т. А зялёненькія?

З а р ы н а. У прыполачак.

З а п ы т. Спеленькія каму?

З а р ы н а. Роднай матачцы.

З а п ы т. А зялёненькія?

З а р ы н а. Вам, пацешнікі.

Я н к а. Цётка Зарына, вас у кантору просіць старшыня.

З а р ы н а. Выдумайце яшчэ што, каб дала веры.

С ё м к а. Папраўдзе, цётка Зарына.

Я н к а. Тэрмінова. На важную нараду.

З а р ы н а. Нешта дужа рана.

Л у к а ш. Адчапіся, абяцай.

З а р ы н а. Скажыце, зараз буду. *(Лукашу.)* Пайшлі.

Л у к а ш. А не прытаіліся? Паслухай.

З а р ы н а. Не чутно.

Л у к а ш. Высачылі ці сапраўды Жаўрук прачнуўся.

З а р ы н а. Спужаўся? А яшчэ начальнік! Начальнік высокае службы.

Л у к а ш. І высокае, а што ж ты думала?

З а р ы н а. Павінен з паднябесся ноччу бачыць, як Жаўрук удзень.

Л у к а ш. Павінен.

З а р ы н а. Чаго ж не глядзіш?

Л у к а ш. Цябе захацелася пабачыць.

З а р ы н а. Пабачыць толькі?

Л у к а ш. Ну, вядома...

З а р ы н а. Вядома. Ха-ха-ха.

Л у к а ш. Чаго смяешся? *(У крыўдзе.)* Калі на тое, то ў мяне ёсць усё сваё. І цалункі, і ўсё такое. А ў цябе? Адны жаданні?

З а р ы н а. У мяне ўсе вы. Каго зажадаю і што зажадаю — мець буду. І вольная. І ні на каго не прамяняю сваёй волі. А вы — рабы. Рабы!.. І смешна з вас, і шкада вас. Міргні вам толькі, пальцам памані — і гатовы ісці хоць на край свету.

Л у к а ш. Не за ўсякай гатовы.

З а р ы н а. Не кажы. Болей за нас падатныя на звабу.

Л у к а ш. А навошта зваблівць?
З а р ы н а. Палашчыць душу. Ха-ха-ха.
Л у к а ш. Вядзьмарка ты. Існая ведзьма.

Нехта стукае ў акно.

З а р ы н а. Хто там?
Я г о р *(па-змоўніцку)*. Лука-аш...
З а р ы н а. Сп'яна, ці што? Не ведаеш, дзе яго хата?
Я г о р. Ведаю, дзе яго хата і дзе ён палюе.
Л у к а ш. Запрыкмеціў, шэльма.
З а р ы н а *(у акно)*. Ідзі, Ягорка, не дуры. *(Да Лукаша.)* І ты — таксама. Праз двор.
Я г о р. Старшыня яго гукае. І Ружына ўжо шукае.
Л у к а ш. Гэта горш — трэба пасняшаць. *(Таропка адзяецца.)*
З а р ы н а. Хутчэй. *(У акно.)* Хай шукае, а мне што? А будзеш плявузгаць—у суд падам, у турму ўпяку за зняvагу, за абразу. Калі ўдава, то кожнага прымаць павінна? Не кожны птах — сокал! *(Узяла падушку, з усмехам.)*

Каго люблю, каго люблю,
Таго пацалу-у-ю-у...

*(І ўжо з плачам, наўзрыд.)*

Пухаву-ую ппадду-ушачку
Ттаму ппаддару-ю-у...

*(У падушцы хавае твар.)*

## Частка другая

### Жаўрукі

У калгасную кантору ўваходзіць Ж а ў р у к, кульгаючы, сядае на стул, мацае нагу.

Ж а ў р у к. Здаецца, цэла. Та ж трэба! Ля плота пакінулі касілку... Але што ж за сябрукі такія едуць? *(Вымае*

*з кішэні паперку, перачытвае.)* Самыя блізкія, вялікія ваенныя сябры. Раніцою будуць. Няўжо Нурыеў з делегацыяй? Вырас да палкоўніка. А мо ўжо і генерал. Ці Караневіч... Цяпер міністр. Невядома, як і падступіцца. Мо ён праездам з кім? Трэба пазваніць Пятровічу. *(Падыходзіць да століка з тэлефонам, знімае трубку, дзьмухае ў яе, круціць дыск апарата.)* Маўчыць, як нябожчык. Вось і даведайся, удакладні. Сувязь называецца. А як на самай справе аб'явяць першую гатоўнасць?.. *(І зноў да тэлефанаграмы.)* А мо Салавейка з Налівайкам сабраліся ў водпуск завітаць да Жаўрука? Пацешнікі, жартаўнікі. Ці сын? Таксама ж ваенны, ды не ваеннага часу. І маці там. Мабыць-такі Нурыеў — у раёне чакаюць дэлегацыю ветэранаў. Як жа даведацца? *(Зноў спрабуе звапіць і зноў дарэмна.)* Паслаць машыну ў горад? Дык Сёмку недзе шал носіць. Мо не знайшла марка. І ў самога як на тое...

З'яўляецца С ё м к а.

С ё м к а. Клікалі, Ян Сымонавіч?

Ж а ў р у к. Во маруда. На машыне?

С ё м к а. Не, пехам.

Ж а ў р у к. Я ж казаў...

С ё м к а. Ключ згубіў, як пераапранаўся.

Ж а ў р у к. Што-о?..

С ё м к а. Раніцай знайду.

Ж а ў р у к. Раніцай? Мне зараз трэба. Разумееш, зараз! А яшчэ ў армію збіраецца. Ды там за такое!..

С ё м к а. Вінаваты.

Ж а ў р у к. Заводзь як хочаш і ў горад куляй! Хаця, не,— да раніцы не ўправішся. Кації ў брыгады. Перадай распараджэнне: да раніцы навесці парадак. Належны, баявы.

С ё м к а. Ёсць перадаць!..

Ж а ў р у к. Пачні з трактарнай.

С ё м к а. Ёсць! *(Убачыў уваходзячага Ягора.)* Брыгадзір трактарнай сам з'явіўся.

Я г о р. Клікалі ж.

Ж а ў р у к *(да Сёмкі).* Янку гукні сюды. А надалей ключы будуць вісець вось тут, пад шклом. Ясна?

С ё м к а. Ясна, таварыш старшыня. *(Выходзіць.)*

Я г о р. Што здарылася?

Ж а ў р у к. Што? Машыны валяюцца пад нагамі. Касілка пад плотам.

Я г о р. За тым і клікалі?

Ж а ў р у к. А хоць бы і за тым! Нагу скалечыў.

Я г о р *(сам сабе).* Добра, што не галаву.

Ж а ў р у к. Што?

Я г о р. Дзе скалечыў?

Ж а ў р у к. Ля самай канторы.

Я г о р. Ніякіх касілак тут не бачыў.

Ж а ў р у к. А што ты бачыш апроч сваёй Стэпы?

Я г о р. Мо хлопцы? Сёння ж дурэюць, развалакваюць усё. Каб іх на пагост завалаклі.

Ж а ў р у к. Разам з брыгадзірам, які не сочыць.

Я г о р. Я не дазорца, не надзорца.

Ж а ў р у к. І па машынным двары не гаспадар. Там і сам чорт нагу зламае. Не двор, а пляц металалому.

Я г о р. Рамантуем жа, рыхтуемся да ўборкі. Праўда, ёсць і несумленныя, нядбайныя.

Ж а ў р у к. Які? А брыгадзір цаца? Сам даў папуску.

Я г о р. Ды за працу не скажу — шчыруюць. А каб паклалі, дзе ўзялі, паставілі на месца, дык не — кідаюць дзе папала. Каб іх ліхаманка кідала.

Ж а ў р у к. Годзе, Ягорка, адгаворак. Трэба зараз жа навесці парадак. Да раніцы паставіць на лінейку ўсё.

Я г о р. Да раніцы? Механізатары ж у розных вёсках. Пакуль збяруцца...

Ж а ў р у к. А ты збяры гэтых самых... пустадомкаў, што развалакваюць.

Я г о р. Цяжкая задача. Паспрабую.

Ж а ў р у к. Не паспрабую, а зраблю! — такі павінен быць адказ.

Я г о р. А чаго так спешна?

Ж а ў р у к. Тэлефонаграма вось — прывесці ўсё ў гатоўнасць баявую.

Я г о р. Так бы адразу. Будзе парадак у танкавай часці.

Ж а ў р у к. Да раніцы каб быў. Ды без панікі, чуеш?

Я г о р. Разумею, Ян Сымонавіч. Можна ісці?

Ж а ў р у к. Як найхутчэй!

Я г о р выходзіць.

Ж а ў р у к. Хай пабегае, пакруціцца. А то прыедуць, паглядзяць — сораму не абярэшся.

З'яўляецца Л у к а ш.

Л у к а ш. З'явіўся па вашаму загаду, таварыш старшыня.

Ж а ў р у к. Спаў?

Л у к а ш. Ды што вы?.. Як можна?..

Ж а ў р у к. А чаго так позна? Ягор не дазорца і то хутчэй з'явіўся.

Л у к а ш. Вінаваты, на хвілінку адлучыўся.

Ж а ў р у к. Да жонкі? Яна ў цябе спраўная. А машына? І ўвесь рыштунак?

Л у к а ш. Як вам сказаць?

Ж а ў р у к. Як у дакалгаснай дружыне: вуздэчка ў Цішкі, сядзёлка ў Грышкі, лейцы ў Данілы, конь у Гаўрылы. Запрагай у дугу — я па хамут пабягу.

Л у к а ш. Цяпер не тое — усё на месцы.

Ж а ў р у к. А як праверу?..

Уваходзіць Р у ж ы н а.

Р у ж ы н а. Лукаш, ты тут? А цябе шукаюць.

Л у к а ш. Не іголка, каб шукаць.

Ж а ў р у к. Збяры зараз жа пажарную дружыну і сам правер усё.

Л у к а ш. Ёсць сабраць, таварыш старшыня. Да вінціка праверым.

Ж а ў р у к. І сябе ў парадак прывядзі. А то без папругі. Штаны спадаюць.

Ружына пpыглядаецца да Лукаша.

Л у к а ш. Вінаваты. *(Падцягвае штаны. Да Ружыны.)* Што зіркаеш? Не бачыла? Ідзі да хаты.

Ж а ў р у к. А трэба ж па ўсёй форме. З амуніцыяй. І ўсё такое...

Л у к а ш. Усё будзе, Ян Сымонавіч. У момант будзе!

Ж а ў р у к. Глядзі, каб па першаму сігналу куляй!

Л у к а ш. Можаце быць упэўнены!.. *(Да Ружыны.)* Ну, чаго стаіш? Пайшлі.

Р у ж ы н а. Мне яшчэ трэба...

Л у к а ш. Дапытацца хоча. От жа нацыя!.. *(Выходзіць.)*

Ж а ў р у к. Што, Ружына?

Р у ж ы н а. Вайна, Сымонавіч? І Дзёмка ўжо ваюе?

Ж а ў р у к. Хто сказаў?

Р у ж ы н а. Вы.

Ж а ў р у к. Я-а?..

Р у ж ы н а. Лукашу, каб куляй...

Ж а ў р у к. Ніякай вайны — звычайная праверка.

Р у ж ы н а. Каб усяго і страху, што праверка. А я гляджу...

Ж а ў р у к. Лукаша лепей глядзі. І дачку, а то збэндзіцца, пакуль той Дзёмка.

Р у ж ы н а. Ды ўжо ж, Сымонавіч, буду глядзець.

Ж а ў р у к. Пільна глядзі.

Р у ж ы н а *(выходзячы)*. Дзе ж ён быў?

Ж а ў р у к *(як застаўся адзін)*. На машынным двары і ў пажарнай цяпер будзе парадак. На ферме заўсёды парадак. А вось вуліцы... Вуліцы! Ламаюць на купалле старыя платы, парканы. А тыя б трэба, што выпіраюць, хадзе замінаюць, псуюць выгляд. Як я ім не падказаў? Неўтай-

маваная сіла. Спыніць яе немажліва, а даваць накірунак трэба. Многае не дадумоўваем. *(І зноў за тэлефонаграму.)* Што ж за госці?..

З'яўляецца Я н к а.

Я н к а. З'явіўся па гатоўнасці нумар адзін!

Ж а ў р у к. Штабіст — знаеш, што такое.

Я н к а. Гатоўнасць баявая. Які будзе загад?

Ж а ў р у к. Рыхтуй аператыўныя звесткі па ўсёй форме.

Я н к а. Зараз, Ян Сымонавіч. У мяне ўсё, як у люстэрку. Улік дакладны. *(Хуценька адчыняе стол, перабірае паперы.)* Так. Та-ак... На сто гектараў малака...

Ж а ў р у к. То мне вядома.

Я н к а. Мяса.

Ж а ў р у к. Таксама ведаю.

Я н к а. Яек...

Ж а ў р у к. Дробязь Неабавязкова.

Я н к а. Тэхнікі.

Ж а ў р у к. Помню назубок.

Я н к а. Паседжанняў на сто гектараў, брыгадных сходаў...

Ж а ў р у к. Што-о?.. Ты што?..

Я н к а *(з бесклапотнай усмешкай)*. Усё ж улічваем і дзелім мы на сто.

Ж а ў р у к. З кім я працую? З кім?

Я н к а. З вясёлымі людзьмі. Цаніць трэба, Ян Сымонавіч.

Уваходзіць З а р ы н а.

Я н к а. Во яшчэ весялуха.

Ж а ў р у к. Што скажаш, Зарына?

З а р ы н а. Прыйсці сказалі, і я... прыйшла.

Ж а ў р у к. Магла і не прыходзіць. Хаця... і ты патрэбна. *(Адзывае яе для сакрэтнае размовы.)* У цябе ёсць пірог?

З а р ы н а. Сёння ва ўсіх ёсць. А што?

Ж а ў р у к. У цябе надта ўжо ўдаюцца.

З а р ы н а. Хто казаў?

Янка тым часам абменьвае пакінутую Жаўруком на стале паперку.

Ж а ў р у к. Сам паспытаў. На імянінах, помніш? Дзіў, а не пірог!

З а р ы н а. Дзякуй за ўхвалу. То і зараз захацелася?

Ж а ў р у к. Вельмі.

З а р ы н а *(гулліва)*. Няўжо? Яно, вядома, адзін, без жонкі...

Ж а ў р у к. Але, якраз у адлучцы.

З а р ы н а. А ноч такая!.. Салоўкі адспёўваюць...

Ж а ў р у к. Мне не салоўкі, а пірог патрэбен.

З а р ы н а. І ўсё? *(Сабе.)* Як мала чалавеку трэба.

Ж а ў р у к. Толькі нікому ні гу-гу. Едуць самыя блізкія, вялікія ваенныя сябры.

З а р ы н а. Ваенныя? Я зараз бачыла ваенных. Во толечкі. Ішлі да рэчкі.

Ж а ў р у к. Няўжо тут ужо? З тылу? *(Вяртаецца да стала, забірае паперку і на хаду засоўвае ў бакавую кішэню.)*

Я н к а. Выбачце, калі ласка, Ян Сымонавіч, то якія ж трэба звесткі?

Ж а ў р у к. Усялякія, пра ўсё. Па ўсіх артыкулах і графах.

Я н к а. І пра наяўнасць гаручага і іншых стратэгічных матэрыялаў?

Ж а ў р у к. У першую чаргу. *(Да Зарыны.)* Ідзём, пакажаш.

Выходзяць.

Я н к а *(прачытаў пра сябе тэлефонаграму, усміхнуўся)*. Вось так з блыхі робяць вала, а вала ператвараюць...

Дзверы прыадчыняюцца. З-за іх вызірае С в я т л а н к а.

С в я т л а н к а. Янка, ты адзін?

Я н к а. Адзін.

С в я т л а н к а ўваходзіць з Д з ё м к а м.

Д з ё м к а. Як тут баця?

Я н к а. Завёўся. І іншых завёў.

Д з ё м к а. А тэлефанаграма?

Я н к а. Усё ў парадку. *(Аддае.)*

С в я т л а н к а. Ой, добра, Яначка. Ой, як добра!

Я н к а *(да Дзёмкі)*. Злітуйся — падключы ўжо тэлефон. *(Да Святланкі.)* А ты — дамоў.

С в я т л а н к а. Яначка, на купалле ж юнацтву не спіцца.

Я н к а. І ты юнацтва?

Д з ё м к а. Яна яшчэ спатрэбіцца. *(Спраўляе тэлефон. Звоніць.)* Алё! Выбачце, што патурбаваў. Са святам вас, Купалачка. Хто? Купала. *(Кладзе трубку на апарат.)*

Я н к а. Пакрыўдзілася?

Д з ё м к а. Міла ўсміхнулася. Пойдзем, Светлячок, наладзім яшчэ адну сувязь.

С в я т л а н к а *(хітравата)*. З Карынкай?

Я н к а. А ты скуль ведаеш?

С в я т л а н к а. Дзёмка ёй сэрца параніў. А ты Алёну цалаваў ля рэчкі. Хі-хі-хі...

Я н к а. Ах ты ж, мушка...

С в я т л а н к а. Хі-хі-хі... *(Выбягае.)*

Д з ё м ка. Ад яе не ўтоіш. *(Выходзіць.)*

Я н к а. Ды не ўтоіш. *(Раскрывае кнігу, шчоўкае на лічыльніках.)* Гаручага, змазачных...

Нас не трогай — мы не тронем,
А затронеш — спуску не дадим!
И в воде мы не утонем,
И в огне мы не сгорим.

Так, не згарым. Гаручага малы запас. Змазкі таксама. *(Заўважыў уваходзячую Алёну, спяшае да яе.)*

8 Зак. 1299

А л ё н а. Янычка, а цябе возьмуць?

Я н к а. Як гэта возьмуць? Сам пайду, як трэба. Я — запасны пісар штаба.

А л ё н а. Без цябе нельга?

Я н к а. Як жа без штаба?

А л ё н а. Яначка, а як жа я?

Я н к а. Праваджаць будзеш. Лісты пісаць. Чакаць. *(Напявае.)*

Я на подвиг тебя провожала...

*(Потым з другой песні.)*

Провожала, руку жала,
Провожала, провожала...

*(Абдымае дзяўчыну.)* Усё, Алёнка, можа стацца. То будзь цярплівай салдаткай.

* * *

Масток і вярба, што і ў першай карціне.
Мелодыя песні «Ты мне вясною прысніласся».
Д з ё м к а з усхвалёванасцю папраўляе берэт і ступае насустрач К а р ы н е і С в я т л а н ц ы.

К а р ы н а *(убачыла Дзёмку)*. Змоўшчыкі.

С в я т л а н к а. Ды яшчэ якія! *(Падміргвае.)* Во каму сэрца параніў. Хі-хі-хі... *(Знікае.)*

Карына спачатку сарамліва ўсміхнулася, потым далонямі затуліла твар.

Д з ё м к а *(працягвае рукі)*. Ну, давай твае лапанькі... Што з табою? *(Бярэ дзявочыя рукі, цалуе іх, здзіўлена.)* Плачаш?

К а р ы н а. А што ж ты?..

Д з ё м к а *(цалуе вочы)*. Якія ж яны...

К а р ы н а. Салёныя?

Д з ё м к а. Мятныя. Боскія, святыя. Не трэба слёз, любая. Не трэба.

К а р ы н а. Сэрца збалелае плача.

Д з ё м к а *(пяшчотна гладзіць яе валасы)*. Болю слязамі не сцішыш.

К а р ы н а. Сцішалі. Не раз чула матчыну прыплачку: «Сыночак, любы мой сыночак...» Заходжу да яе, а яна ціхутка плача.

Д з ё м к а. І ты з ёю?

К а р ы н а. Я суцяшала.

Д з ё м к а. От дзівачкі.

К а р ы н а. Дзівачкі. Ты пра сябе ўсё ведаў, а мы жылі ў невядомасці, трывозе.

Д з ё м к а. Я ж вам пісаў: па лужы плаваем на чарапасе.

К а р ы н а. Так табе і паверылі. Маці не сцярпела — самалётам паляцела.

Д з ё м к а. Да мяне?

К а р ы н а. Ужо з тыдзень.

Д з ё м к а. Як жа не застала? Хаця...

К а р ы н а. Цяпер пабачыць дома — будзе радасці.

Д з ё м к а. Можа стацца — і не пабачыць. Надта мала далі часу.

К а р ы н а. Як мала?

Д з ё м к а. Столькі, каб пабыць тут на купаллі. Ну і, вядома ж, Купалінку сваю пабачыць. Бацькоў. Пакланіцца землякам, вось гэтай рэчцы, горцы, гаю...

К а р ы н а *(з трывогаю)*. Што ты, Дзёмка? Нібы прыехаў развітацца назаўсёды... Не адпушчу нікуды.

Д з ё м к а. Адыдзем, а то нехта ідзе.

Адыходзяць. З'яўляюцца Ж а ў р у к і З а р ы н а.

Ж а ў р у к. Ну, дзе твае ваенныя? Дзе?.. Скажы, прыснілася, здалося.

З а р ы н а. Ды не, Сымонавіч. На свае бачыла вочы.

З-за мастка спяшаецца Л у к а ш у поўнай форме пажарніка.

Ж а ў р у к. Гм... Мо пажарнікаў за войска палічыла? І Лукаша за генерала?

8*

Л у к а ш. Так што дазвольце далажыць, таварыш старшыня...

Ж а ў р у к. Дакладвай.

Л у к а ш. Добраахвотная пажарная дружына даверанага вам калгаса ў поўным зборы і гатова выканаць любое ваша заданне, як таго патрабуюць інтарэсы абароны і разгрому любога падпальшчыка! Можаце смела спадзявацца на ўсю баявую дружыну і на кожнага яе байца.

З а р ы н а. І камандзіра.

Л у к а ш. Так точна!

Ж а ў р у к. А ваенных часам там не бачыў?

Л у к а ш. Ніяк не, таварыш старшыня.

Ж а ў р у к. Тады ідзі — глядзі. Як пабачыш — адразу да мяне.

Л у к а ш. Слухаю, таварыш старшыня. *(Крута паварочваецца і вяртаецца)*. От жа ведзьма, і Жаўрука звабіла.

Ж а ў р у к *(да Зарыны)*. Канечне, і Лукаш можа здацца генералам.

З а р ы н а. Нявера вы, Сымонавіч. Пацвельваецеся, кпіце ўсё.

Ідуць далей. З'яўляюцца Д з ё м к а і К а р ы н а.

К а р ы н а. А я ўяўляла цябе ў бесказырцы.

Д з ё м к а. То ж таксама бесказырка.

К а р ы н а. Без істужак. Нязвыкла неяк. Ідзі, пакажыся тату. Суцеш яго, парадуй, супакой.

Д з ё м к а. А ты?

К а р ы н а. Пачакаю — не гэтулькі чакала.

Д з ё м к а. А гаварыла: не адпушчу нікуды.

К а р ы н а. То ж ненадоўга.

Д з ё м к а. Родная, спагадная, любая. Як маці, як першая настаўніца мая, як сонечная кветка — з усіх пакрыху лепшага.

К а р ы н а. То ўжо занадта. Так я, мой любы, магу і заганарыцца.

Д з ё м к а. Пабудзем разам. Пакуль сонейка над гаем

ранкам загуляе. Сумесная мінута здаецца дарункам неацэнным.

Карына. Чаго ж адразу не пазваў, не падышоў?

Дзёмка. Баяўся.

Карына. Ты? Чаго?

Дзёмка. Што сарвуся, абдыму пры ўсіх і расцалую. Была і трывога: а раптам з кім яшчэ?.. А потым хлопцы...

Карына. Дурненькі Дзёмачка. Дурненькі. Як мог ты гэтак думаць?

Дзёмка. Даруй, Купалінка. Заўсёды думаў хораша я пра цябе. Абагаўляў. Ды хто ведае: а раптам д'ябал?

Карына. Што ты выдумляеш?

Дзёмка. І выдумляў. Амаль штоночы сніў. Вяснянкай. Вясёлкай. Пралескай. Захацеў пабачыць наяву. І вось ён, цуд! Жывы бальзам. Цябе я бачу. П'ю. Дыхаю табой. *(Абдымае дзяўчыну.)*

Карына. Пабачыш, перагарыш, супакоішся і забудзеш.

Дзёмка. Цябе? Купалінка, Бажэна...

Карына. Ты з некім блытаеш. Ці імя маё не даспадобы? Карынка ж — музыка.

Дзёмка. Музыка, музыка. Ты — мая музыка! Народзіш мне Бажэну. З сінімі-сінімі, як васількі, вачыма... *(Цалуе дзяўчыну.)*

Карына. Ты вар'яцееш, Дзёмка.

Ружына *(зводдалі)*. Авоечкі, ці не Карына то? *(Гукае.)* Карына-а!..

Дзёмка акрывае дзяўчыну плашчом і знікае з ёю.

З кім жа яна? З кім?

З'яўляецца Сёмка.

Сёмка. Цётка Ружына? Старшыні не бачылі?

Ружына. Быў нядаўна ў канторы.

Сёмка. Ведаю, што быў. А цяпер?

Ружына. Не бачыла, Сёмачка. А там хто?

Сёмка. Здані нейкія — ноч чараўнічая.

Р у ж ы н а. Няўжо абазналася? *(Уходзіць назіркам за Дзёмкам і Карынай.)*

Да Сёмкі падбягае Я н і н а.

Я н і н а. Куды ездзіў?
С ё м к а. Ваенная тайна.
Я н і н а. І ад мяне тайна? *(Пагрозліва.)* Ну, чакай жа...
С ё м к а. Было заданне баявое.
Я н і н а. Баявое? Я таксама на вайну пайду... А што — не возьмуць?
С ё м к а. Чаму ж? Могуць...
Я н і н а. З табою разам. Хочаш?
С ё м к а. Ты папраўдзе?
Я н і н а. І ў агонь, і ў ваду за табою пайду.
С ё м к а. Пойдзем, мілая, да роты.
Я н і н а. Разам будзем ваяваць.
С ё м к а. Буду біць я з кулямёта.
Я н і н а. Я — патроны падаваць.
С ё м к а. А як раняць друга?
Я н і н а. Пераважа падруга гарачыя раны яго.
С ё м к а. Янічка, мілая, золатка. І не ведаў, што такая.
Я н і н а. Якая?
С ё м к а. Смелая. Адважная, Баявітая.
Я н і н а. А яшчэ?
С ё м к а. Шчырая.
Я н і н а. А яшчэ?
С ё м к а. Зіхатлівая. Як сонечны зайчык. Як золатка.
Я н і н а. А яшчэ?
С ё м к а. Золата ж самае зіхоткае і каштоўнае.
Я н і н а. Найкаштоўней мілая.
С ё м к а. Мілая.
Я н і н а. Толькі не мані.
С ё м к а. Шчыра. *(Цалуе дзяўчыну.)*
Я н і н а. Не трэба так, Сёмачка. Пажэнімся — тады.
С ё м к а. Давай сёння пажэнімся.
Я н і н а. Сёння немажліва.

Сёмка. На купалле ўсё мажліва. Пойдзем да Янкі і папросім запісаць. Скажам: заручыліся ночкай купальнай, знайшлі папараць-кветку сваю. Лады?

Яніна. Нечакана неяк.

Сёмка. Сёння ўсё нечакана. Нечакана і маці вунь твая ідзе са старшынёй. Я скажу ім зараз.

Яніна. Што ты? Што ты, Сёмачка?

Сёмка. Ну, добра. Толькі пачакай. Не знікай.

Яніна адыходзіць. Сёмка ідзе насустрач Жаўруку і Зарыне.

Сёмка. Ян Сымонавіч...

Жаўрук. Усіх аб'ехаў?

Сёмка. Усіх узняў, таварыш старшыня. Усе на сваіх месцах. Прыводзяць усё ў гатоўнасць баявую.

Жаўрук. Дзякуй. А ваенных ты нідзе не бачыў?

Сёмка. Не, хаця...

Жаўрук. Што «хаця»?

Сёмка. Не, не бачыў. Можна быць свабодным?

Жаўрук. Пільнуйся машыны і канторы. Чакай далейшых указанняў.

Сёмка. Ясна. *(Таропка ўходзіць.)*

Жаўрук. Яму ясна, а мне пацёмкі. Хоць і світанак.

Зарына. Але, займаецца на ранак.

Жаўрук. То дзе ж твае ваенныя?

Зарына паціскае плячыма. Ад мастка бяжыць Ягор.

Зарына. Мо Ягор дзе бачыў?

Жаўрук. Што там у цябе?

Ягор. Парадак у танкавай часці. Усё на лінейцы гатоўнасці.

Жаўрук. Даўно б так.

Ягор. То ці ж я супраць? Несвядомасць іхняя...

Жаўрук. Годзе, Ягорка, адгаворак. Людзі не благія ў нас, калі церпяць кіраўнікоў такіх, як мы. Пойдзем паглядзім...

Жаўрук і Ягор уваходзяць.

З а р ы н а. Але ж ваенныя! На свае ж бачыла вочы. Аднаго, праўда. Мо пераапрануўся хто? На купалле такое бывае.

Бяжыць С в я т л а н к а.

С в я т л а н к а. Госці едуць. Госці едуць!

З а р ы н а *(да Святланкі)*. Ужо едуць?

С в я т л а н к а. Хутка будуць. Трэба кветак, папараці! Як мага болей! *(Бяжыць далей.)* Госці едуць!..

З а р ы н а. Пайду па пірог — трэба ж сустрэць. *(Убачыла некага.)* А там хто? *(Радасна ўражаная.)* Ну во, а Жаўрук не верыў. *(Узіраецца.)* Ці не Дзёмка? Ён, з Карынаю. Ну і Жаўрукі! Ну і Жаўрукі!..

* * *

У калгаснай канцылярыі. Я н к а цалуе А л ё н у. З'яўляюцца С ё м к а і Я н і н а.

Я н к а. Нехарашо падглядваць.

С ё м к а. Мы па важнай, спешнай справе.

Я н к а. Вось як!

С ё м к а. Дамовіліся з Янінай пажаніцца.

Я н к а. То віншую.

А л ё н а. І я, ад усяе душы.

С ё м к а. Потым вітанні-віншаванні. Запішы спачатку.

Я н к а. Зараз?

С ё м к а. Неадкладна.

Я н к а. Не магу, браце.

С ё м к а. Чаму? Ты ж запісваў.

Я н к а. Як замяняў сакратара Савета. Цяпер няма ў мяне той кнігі.

С ё м к а. Запішы куды-небудзь Усё адно.

Я н к а. На млын ці на вяселле?

С ё м к а. Без жарцікаў.

Я н к а. У якую запісаць вас кнігу? *(Неспяша вымае са стала і перабірае кнігу.)* Інвентарная вось, па ўліку маёмасці. Жадаеце?

С ё м к а. Ты што?

Я н і н а. Мы не маёмасць.

Я н к а. Ды не маёмасць. Жывыя ўсё-такі. І людзі. *(Паказвае вялікую цыраватую вокладку з залатым цясненнем.)* Як вам падабаецца?

С ё м к а *(чытае)*. Дзяржаўны акт па вечнае і бясплатнае карыстанне... Во ў гэты самы акт! Навечна!

Я н і н а *(незадаволена)*. Бясплатнае карыстанне...

Я н к а *(адкрывае апошні радок)*. Зямлёй.

С ё м к а. Хопіць, Янка, кепікаў. Тут справа сур'ёзная.

Я н к а. Дзе ж вам узяць такую кнігу? Ёсць вось шнуравая. Пранумаравана, прашнуравана, з сургучнаю пячаткай.

С ё м к а. Пішы ў яе.

Я н к а. Па ўліку сядзіб калгаснікаў.

С ё м к а *(да Яніны)*. Што скажаш?

Я н і н а. Сядзіба нам не трэба.

Я н к а. А з часам?

Я н і н а. Не-не.

С ё м к а. Не падыходзіць.

Я н к а. Ёсць! Як жа я забыў? Ёсць такая кніга. *(Вымае са стала.)* Вось, калі ласка, па ўліку сем'яў калгаснікаў. Самая падыходзячая.

С ё м к а. Лады! Куй жалеза, Янка, пакуль яно гарачае.

Я н к а *(раскрывае кнігу, бярэ ручку, наважваецца пісаць)*. Улічваючы гарачае, палымянае жаданне нашых маладых калгаснікаў Сёмкі і Яніны... Правільна разумею? Палымянае?

С ё м к а. Пішы.

Я н к а *(усё яшчэ наважваецца пісаць)*. Палымянае жаданне і выключныя акалічнасці часу, ці, як кажа старшыня калгаса, сітуацыю... А што ён на гэта скажа?

С ё м к а. На што?

Я н к а. На запіс без яго ведама, без рашэння праўлення калгаса? Не, даражэнькія, выбачце,— не магу.

С ё м к а. Ну і бюракрат ты, Янка.

Я н к а. Такі парадак, браце. Спачатку падайце заяву ў загс ці сельсавет, пачакайце з месяц. Потым, як афармяць там, напішыце заяву ў праўленне калгаса. На чарговым пасяджэнні разгледзім, прымем рашэнне, і я, калі ласка, да вашых паслуг, з прыемнасцю, задавальненнем...

Я н і н а. А гатоўнасць нумар адзін?

Я н к а. Усё адно — парадак ёсць парадак.

Я н і н а. Самі запісаліся ўжо... *(Выбягае.)*

С ё м к а. Яня! Янічка! Чакай! *(Бяжыць за ёю.)*

А л ё н а. Так і скажа ўсім.

Я н к а. Хай кажа. А мы і папраўдзе сёння...

А л ё н а. Як? То ж столькі валаводы!

Я н к а. Была б на тое твая згода. Згодна?

А л ё н а. Яшчэ пытае.

Я н к а. Любая. Інакш я не ўяўляў. Папросім паскорыць, зрабіць выключэнне. У гонар Купалы, на ўспамін аб ночы купальнай. Як хораша, што такія бываюць ночы, што такое бывае на свеце!.. *(Цалуе Алёну.)*

Уваходзіць Ж а ў р у к. А л ё н а знікае за дзвярыма.

Я н к а . Выбачце, усё падлічана, разлічана.

Ж а ў р у к. Разлічаны і спатканні?

Я н к а. Усё трэба спалучаць.

Ж а ў р у к. Не званілі?

Я н к а. Не. А звесткі ўсе ў вас на стале.

Ж а ў р у к. І пра пасяджэнні, сходы?

Я н к а. Усе. Мо цяпер адпусціце? *(Умольна.)* Ян Сымонавіч...

Ж а ў р у к. Ідзі ўжо, ідзі.

Я н к а. Дзякуй. *(Спешна выходзіць.)*

Ж а ў р у к *(усміхаецца, знімае з апарата трубку)*. Слава табе... Зараз дазнаемся. *(Зазірае ў тэлефонную кніжку, набірае нумар.)* Спяць. Ці няма дома. Не, нехта ёсць. Алё! Пятровіч? Гэта я, Жаўрук. Прабач, што непакою ў такі час. На тое і Жаўрук, каб рана прачынацца. Тут такая сітуацыя... Атрымаў, атрымаў. А што за госці? Хутка ўбачу?

Добра. А чаго сам?.. Аддаў «Чайку»? То на «казле». З жонкаю, калі ласка. Шкада. Тады перадай маё прабачэнне і ёй, што патрывожыў. І харашэнька пашануй. Харашэнька. *(Паклаў трубку.)* Госці такі сапраўды едуць.

На парозе з'яўляюцца Лукаш, Ягор са Святланкай. За імі — Янка.

Святланка. Не вінавата я. Не вінавата.

Лукаш. А хто чуткі распускае пра гасцей?

Ягор. Галёкае па вуліцы пра кветкі?

Святланка. У тэлефанаграме ж так...

Лукаш. Што-о?..

Ягор. Дэзынфарматарка.

Лукаш. Бачылі яе? Такое малое, а ўжо маніць.

Святланка. Я не маню. Там так напісана.

Ягор. Што скажаце, Ян Сымонавіч?

Янка. Пакажыце тэлефанаграму.

Жаўрук. Неабавязкова. Адпусціце яе.

Святланка. Не, я так не хачу.

Янка. Дайце пачытаць.

Жаўрук. Потым.

Янка. Не, зараз.

Жаўрук. Што ж, на, чытай. *(Вымае з кішэні паперку, аддае Янку ў надзеі, што той падтрымае яго.)*

Янка *(чытае ўголас)*. Едуць госці. Раніцою будуць. Старшыня райвыканкома.

Жаўрук. І ўсё?

Ягор. Госці?

Лукаш. Якія госці?

Жаўрук. Вось іменна! *(Хапае паперку, адзяе акуляры, чытае сабе, праціpae шкельцы і зноў чытае.)* Шаленства нейкае. Чыстае замарачэнне. Тут жа было!..

Жаўрука абступаюць Лукаш, Ягор і Янка, па чарзе разглядаюць паперку. Святланка, падміргнуўшы гледачам, выбягае.

Янка. Мо панікніца вас апанавала?

Жаўрук. Панікніца? Я ж сам бачыў, як цябе з-з...

Я н к а *(да Ягора).* З вашаю Алёнай, хоча сказаць. Праўда, бачылі. Я і не таю. *(Да Жаўрука.)* І вы не таіце ўжо, скажыце.

Л у к а ш. Аб'ягорыў?

Я г о р. Інакш нас не прыспешыш.

Л у к а ш. Сапраўды. Гы-гы-гы... Здорава прыдумаў!

Я г о р. А пра гасцей не прыдумка? Не купальскі жарт?

Ж а ў р у к. Не, госці дапраўды едуць. Я толькі што гаварыў са старшынёй райвыканкома.

Я н к а. А што за госці?

Ж а ў р у к. Важныя, раз Пятровіч аддаў персанальную машыну.

Л у к а ш. Персанальную? То трэба страчаць. Як належыць!

Ж а ў р у к. Ідзі — глядзі з каланчы.

Л у к а ш. Слухаю! Лукаш заўжды ў дазоры. *(Выходзіць.)*

Ж а ў р у к. А мы давайце параімся, як сустрэць, прывеціць. Што-ніпто заказана ўжо. Хлеб-соль ёсць.

Я н к а. І кветкі.

Ж а ў р у к. Чаго нестае, дык гэта вяселля. *(З усмехам пазірае на Янку.)* За вясельны б стол іх, га? *(Да Ягора.)* Як лічыш?

Я г о р. Ды не блага было б.

Ж а ў р у к *(да Янкі).* То за кім затрымка?

Я н к а. За Ягорам Піліпавічам.

Я г о р. За мною?

Я н к а. Але. Дазвольце, Ягор Піліпавіч, нам з Алёнай?.. Сёння...

Я г о р. Прама-такі сёння?

Я н к а. Дзень такі. Памятны, Купальны. І госці якраз..

Ж а ў р у к. Спадзяюся, на гэты раз у Ягоркі не будзе адгаворкі.

Я г о р. Калі ёсць жаданне, згода.

Я н к а. Ёсць! Усё ёсць!

Я г о р. Тады што ж тут замінаць?

Ж а ў р у к. Правільна! Радавацца трэба, а не замінаць. Весяліцца. Ідзіце і спавясціце ўсім, запрашайце за вясельны стол, Гуляць будзем усім калгасам.

Я н к а. Дзякуй вам.

Я г о р. Што ж, пайшлі. *(Да Янкі)*. А то цешча там сушыць сухары і збірае торбу.

Ж а ў р у к. Торбу?

Я г о р. Па гатоўнасці нумар адзін. *(Выходзіць з Янкам.)*

Ж а ў р у к. Каб Дзёмка адслужыў — ажаніў бы і яго. Ды прычакаю. А пакуль чаканне гасцей. Што ж за госці? І чаму мне здалося, што блізкія, вялікія ваенныя?.. Даўмець не магу, як прыдумалася. Тут не панікніца, а гіпноз нейкі, замарачэнне. І як не дасі веры, што купальскія бываюць чары?..

Уваходзіць З а р ы н а.

З а р ы н а. Ну і Жаўрукі. Ну і Жаўрукі.

Ж а ў р у к. Што такое?

З а р ы н а. Бачыла вашых гасцей.

Ж а ў р у к. Ваенных?

З а р ы н а. Цяпер ужо добранька разглядзела.

Ж а ў р у к. Дзе?

З а р ы н а. Нібыта не ведаеце?

Ж а ў р у к. Не. Дзе яны? Дзе?..

З а р ы н а. Схадзіце і падзівуйцеся ля рэчкі.

* * *

Мелодыя песні «Ты мне вясною прыснілася».
Тыя ж масток і вярба.
Ідуць Д з ё м к а з К а р ы н а ю.

К а р ы н а.

Летняя ночка купальная
Яснай растаяла знічкаю.

Падаюць зоры світальныя
Ў чыстыя воды крынічныя.

Д з ё м к а.

Ой ты, дзяўчыначка мілая,
Як жа ты свет упрыгожыла.
Ластаўка ты легкакрылая,
Светлы мой сон растрывожыла *.

Песню падхопліваюць *х л о п ц ы* і *д з я ў ч а т ы*. Яны з папараццю, кветкамі акружаюць Дзёмку і Карыну.

Я н і н а. З прыездам, Дзёмка!
А л ё н а. З прыездам!
Д з ё м к а. Вітанне, русалкі.
А л ё н а. А я спазнала твой голас, Дзівасіл.
Я н і н а. І я. А дзе ж Вясёлка?
Я н к а. Яснай растаяла znічкаю.
С ё м к а. Гляджу на вас...
Д з ё м к а. І што?
С ё м к а. Хочацца сыграць вяселле.
Я н к а. Сыграеш сёння.
С ё м к а. Давай, Дзёмка, а то пайду ў армію...
Я н к а. Спачатку нашае. Потым ужо яго.
К а р ы н а *(да Алёны)*. Сёння?
Я н і н а. Я ж казала...
Я н к а. У гонар Купалы, на ўспамін аб ночы купальнай. І гасцей, што маюцца быць, запросім.
Я н і н а. А госці сапраўды будуць?
Я н к а. То пэўна.
Х л о п ц ы, д з я ў ч а т ы. Гасцей, а нас? Самі прыйдзем! Вядома рэч!..
Я н к а. Якое ж вяселле без Сёмкі, без Дзёмкі, без вас?
А л ё н а. Усіх запрашаем.
Х л о п ц ы *(на вясельны лад)*.

---

* Словы М. Шушкевіча.

Касіў Ясь канюшыну,
Касіў Ясь канюшыну,
Касіў Ясь канюшыну
Й заглядзеўся на дзяўчыну.

Дзяўчаты.

А Алёна жыта жала,
А Алёна жыта жала,
А Алёна жыта жала
І на Яся паглядала.

Яніна *(да Сёмкі)*. А мы?..
Сёмка. Таксама заглядаемся.
Яніна. А вяселле?
Сёмка. Сыграю, а як жа?
Яніна. Янкава, Дзёмкава, а сваё?
Сёмка. Мне будзе граць аркестр! *(Да Дзёмкі.)* Бяры. Дзёмка, у сваю часць.
Дзёмка. З музыкаю?
Сёмка. А як жа?
Дзёмка. Ахвотна.
Яніна *(да Сёмкі)*. Спачатку спытай, у якой ён часці?
Сёмка. Дапраўды, у якой?
Дзёмка. Звычайнай.
Сёмка. А форма? Незвычайная.
Дзёмка. Ды не звяртайце ўвагі вы на форму. Важна сутнасць.
Яніна. Ваенная тайна?
Сёмка. Тады скажы хоць: ці бываюць там купальныя прыгоды?
Дзёмка. Бываюць. І не раз у год.

Ідзе Жаўрук.

Карына *(да Дзёмкі.)* Ідзі, стрэнь.
Дзёмка *(паправіў берэт і страявым крокам накіраваўся да бацькі)*. Здравія жадаю, таварыш старшына...

Ж а ў р у к *(папраўляе)*. Старшыня. *(Узіраецца.)* Пастой-пастой...

Д з ё м к а. Баця!

Ж а ў р у к. Сыне! *(Абдымае Дзёмку.)* Якім цудам?

Д з ё м к а. Купальным, баця, купальным.

Жаўрук адступае і ўзіраецца пільней.

Д з ё м к а. Што глядзіш так, баця?

Ж а ў р у к. Даўно не бачыў. То ты і ёсць той самы госць?

Д з ё м к а. Не ведаю, каго вы маеце на ўвазе, а я — госць.

Ж а ў р у к. І даўно тут?

Д з ё м к а. Ды як сказаць...

Ж а ў р у к. Твае пажартункі-пацешкі?

Я н к а. І вашыя. З гатоўнасцю...

Я н і н а *(да Сёмкі)*. І над намі пацяшаліся?

А л ё н а. Над дзявочымі пачуццямі смяяцца грэх.

Я н к а. Вялікі грэх.

С ё м к а. Каемся.

Д з ё м к а. Купала даравала.

Моладзь усміхаецца.

Ж а ў р у к. Смех смехам, а торба з мехам павінна быць напагатове.

Д з ё м к а. Верна, баця. Усё павінна быць напагатове.

Я н і н а. Зорка! Малінавая зорка!

А л ё н а. То сонейка.

К а р ы н а. Вырываецца з хмарак.

Я н і н а. Ружавее.

А л ё н а. Пунсавее.

Ж а ў р у к. Зараз усміхнецца. *(Дзёмку на Карыну.)* Як яна.

Д з ё м к а. А баця назіральны.

Ж а ў р у к. Стары жаўрук — набачыўся світанкаў.

К а р ы н а. Дапраўды ўсміхаецца.

Я н і н а. Ой, якое смяхуткае!

А л ё н а. Прыветнае, лагоднае.

Я н к а *(да Алёны)*. Каб ты заўжды была такою.

Ж а ў р у к. Зараз загуляе.

Я н і н а. Глядзіце, вясёлкі па краях!

А л ё н а. Кружыцца, кружыцца...

К а р ы н а. Якое гуллівае!

Х л о п ц ы і д з я ў ч а т ы. Сонейка! Вітанне, сонейка! Дзень добры, сонейка!

Раздаецца звон рэйкі.

Ж а ў р у к. Што там яшчэ такое?

Бяжыць С в я т л а н к а.

С в я т л а н к а. Едуць! Едуць!

Ж а ў р у к. Хто едзе?

С в я т л а н к а. Госці едуць!

Ж а ў р у к. Якія яшчэ госці?

Д з ё м к а. Мабыць, ёсць і апроч мяне.

З'яўляецца Л у к а ш.

Л у к а ш. Так што едуць, таварыш старшыня. З каланчы бачна машына.

Ж а ў р у к. Што за насланнё? Вольна. Пойдзем — стрэнем.

Л у к а ш. Цяпер не сорамна сустрэць любых гасцей, любую дэлегацыю.

Ж а ў р у к. Пайшлі. *(Уходзіць з Лукашом, за імі — моладзь.)*

Бягуць Р у ж ы н а і З а р ы н а з пірагом і ручніком, спыняюцца, падкладваюць ручнік пад пірог.

Р у ж ы н а. Хутчэй, хутчэй, суседачка, а то познімся.

Спяшаюць за мост. З'яўляюцца Я г о р і С т э п а. Чуваць урачыстая музыка.

С т э п а *(спынілася ўражаная)*. Ці не Усціна то?

Я г о р. Вусця. Жаўрукова Усця.

С т э п а. Страчаюць, як касманаўтку.

9 Зак. 1299

Вяртаюцца Ж а ў р у к, Д з ё м к а з пакункамі. Паміж імі У с ц і н а з ахапкам кветак. За імі — Л у к а ш, Р у ж ы н а, З а р ы н а, м о л а д з ь.

У с ц і н а. А я званіла-званіла ў кантору — ніхто не азваўся. Тады Пятровіч пазваніў на пошту ў Зарэчча, каб перадалі: Усця едзе, раніцою будзе.

Ж а ў р у к. А глухія недачулі, то прыдумалі.

З а р ы н а *(да Лукаша)*. І самых блізкіх ваенных сяброў?

Л у к а ш. А што ты думаеш? Самыя блізкія яны і ёсць. Усця з вайны ў яго.

Р у ж ы н а. І Дзёмка вайсковец.

Ж а ў р у к. Сапраўды. Выходзіць, усё правільна.

У с ц і н а *(да сына)*. Дай жа, сынку, разгледжу цябе на світанку. Не саромся. На лодцы ўсё пра цябе мне расказалі.

С ё м к а. На лодцы?

Я н к а. Як і нарад давалі нечарговы?

У с ц і н а. Водпуск нечарговы. Да нагароды прадстаўлялі, а ён дадому папрасіўся на купалле. *(Падміргнула Карыне.)* А на лодцы знаеце якой?

Д з ё м к а *(з ласкавым дакорам)*. Мама...

Я н і н а. Ваенная тайна?

У с ц і н а. Яе мне паказалі. Атамку.

Я н к а. То ты на атамнай падводнай?

Ж а ў р у к *(да сына)*. Малайчына.

Л у к а ш. Не малайчына, а герой!

Я г о р. Такім можна і ганарыцца.

Сёмка грае марш у гонар Дзёмкі.

Д з ё м к а *(да Сёмкі)*. Не трэба, браце. Лепей танок харошы.

Я н і н а. Рэж, Сёмка, перуноў агняцвет.

Х л о п ц ы. Бога маланкі! Папараць! Папараць!

У разгары маляўнічага, іскрыстага танца апускаецца заслона.

# МЯДОВЫЯ РОСЫ

*Сцэны з сённяшняга
вясковага жыцця*



*А. С. Бархаткову*

Перад маім сталом твая карціна «Раніца на пасецы». Гляджу на яе, слухаю п'есу «Чэрвеньскія росы» Кастуся Паплаўскага ў выкананні ансамбля скрыпачоў — і ў думках вяртаюся ў вёску, да нашых сяброў і знаёмых.

Запрашаю і ўсіх туды ў зеніце лета, калі адцвітае ліпа і зацвітае грэчка.

**Дзейныя асобы:**

Адамейка — пчаляр.
Марына — яго жонка.
Мальвіна — іхняя дачка.
Пятрусь — студэнт сельскагаспадарчай акадэміі.
Агашка — калгасніца.
Ія — яе дачка.
Агеевіч — старшыня калгаса, год 30.
Змітрок — эканаміст калгаса, студэнт-завочнік.
Аксюта — яго маці.
Света, Воля — сяброўкі Мальвіны і Іі.
Госць.

## Дзея першая

### Карціна першая

На світанку сіняваты туманок. Ірдзее ружовы ўсход. Цурчыць жаўрук.

На калгаснай пасецы будан. Паблізу акацыя. Ля яе **Мальвіна** і **Ія.**

Ія *(да Мальвіны)*. Навошта стала паміж намі ты? Да гэтага ж прыезду ён кахаў мяне. Мяне! З самага маленства.

Мальвіна. То было сяброўства, дружба. Школьная дружба.

Ія. Ён слаў лісты. Во яны! *(Вымае з-за пазухі.)* Чытай.

Мальвіна. Не буду, не магу.

Ія. Грэблівая паненка. У цянёчку, чысцюткая, бялюткая, як новенькая лялька. Таму і зачаравала. А я ўсё на полі, на лузе — загарэла во, як цыганка, негрыцянка. І скура на руках грубая. І на нагах...

Мальвіна. Затое на калгаснай Дошцы гонару!

Ія. Які ён, гонар? Ганьба, як цураецца любы... Слухай, Мальва, прашу, малю цябе: адступіся, з'едзь. На калені стану. На станцыю праводжу. Грошай на дарогу дам.

Мальвіна. Выкуп?

Ія. Усё адно тут не падрыхтуешся. Ні я, ні людзі не дамо. Праваліш — пасміхацца будзем. А ў горадзе на курсы паходзіш, болей пачытаеш. Там — што трэба!

Мальвіна. Ты — змяя.

Ія. Я дурнічка. Дурнічка, што ленавалася вучыцца. Пятрусь быў бы мой. Мой!..

За вуллямі вогненным дыскам узнімаецца сонца.

П е с н я.

Сонца, умыйся расою
На світальнай зары.
Сонца, пойдзем з табою
Праз дубровы, бары.

І я. О, божа! Што ж мне рабіць цяпер?
М а л ь в і н а. Супакойся. Не нервуй. Не злуй.
П е с н я.

Праз лужок жураўліны
Дабяромся ўдваіх
Да харошай дзяўчыны,
Да харошай жняі.

І я. Да харошай пчалы. *(Плача.)* Збегчы, збегчы куды вочы глядзяць. Толькі б не бачыць вас тут разам.
М а л ь в і н а *(стрымлівае Ію)*. Не рабі глупства.

З будана вызіраюць заспаныя твары С в е т ы і В о л і.

С в е т а. Ці не Пятрусь? Да цябе, Мальвіна.
В о л я. А мо да Іі. Ці да цябе.
С в е т а. Скуль ён ведае, што мы начуем тут?
П е с н я.

Падары яснавокай
Залатую красу.
Пацалуй яе ў шчочку,
Пацалуй у касу.

С в е т а. Во як!
М а л ь в і н а *(да Іі)*. Пойдзем у будан. І вы...

Дзяўчаты папраўляюць косы, прыхарошваюцца, хаваюцца ў будане.

П е с н я.

Глянуць, сонейка, люба
На прыгожую нам.
Не цалуй толькі ў губы —
Пацалую я сам *.

З'яўляецца П я т р у с ь, азіраецца, ідзе да будана. З яго выскокваюць С в е т а і В о л я.

С в е т а. Ну, цалуй!

П я т р у с ь *(зазірае ў будан)*. Усіх?

В о л я. Сваю яснавокую.

П я т р у с ь. Усе ж вы яснавокія. *(Спрабуе абняць дзяўчат. Яны запішчэлі, не даюцца.)*

М а л ь в і н а *(выходзячы з будана)*. Не верашчыце, а то ўстрывожыце мне пчол.

В о л я. Пчолы не раўнівыя.

М а л ь в і н а. Яны галды не любяць.

С в е т а. А песні?

В о л я. Харошай песні кожны рады.

С в е т а. Тады спявай, Пятрусь, спявай.

П я т р у с ь. А вы?

С в е т а. Мы наспяваліся. Хіба не чуў?

П я т р у с ь. Я думаў — у суседняй вёсцы.

В о л я. І хадзіў туды? Усю ноч блукаў?

С в е т а. Затое песню гэткую знайшоў!

П я т р у с ь. І схоўку вашую. Скажу во хлопцам, дзе шукаць цяпер.

С в е т а. А як перахаваемся?

В о л я. Знойдзеце — дадзім рэкамендацыю ў разведчыкі. А не — у абоз.

С в е т а. Петруся? Яго — на асамблею! *(Дэкламуе з жартоўным пафасам.)*

Да трыбуны, як да агнявой траншэі,
Плячысты падыходзіць чалавек —

* Словы А. Бялевіча. Музыка А. Ленскага.

І заціхае ў залі асамблеі
Атамны дваццаты век *.

Учора нагадала, як з лекцыяй ты выступаў. Харошая лекцыя! Як і верш.

Пятрусь. Дзякуй за ўхвалу.

Воля. Ды начальства нашае ці ўхваліць.

Света *(да Петруся)*. І я адказ не зразумела твой.

Воля. Пра каханне.

Света. Але. Каханне — рэакцыя біялагічная, псіхалагічная ці хімічная?

Пятрусь *(з гумаркам)*. Псіхічная.

Воля. Во гэта верна!

Света *(зноў да Петруся)*. А скуль ты ведаеш?

Пятрусь. На тое вучымся.

Света. Харошая акадэмія! І Змітрок жа вучыцца ў ёй, а нічога такога не гаварыў.

Пятрусь. Табе. А каму-небудзь кажа.

Воля. Што той Змітрок ведае? Ён жа завочнік.

Света. А завочнік не такі студэнт?

Воля. Кажуць, верабей — таксама салавей, ды вучыўся ў кансерваторыі завочна.

Пятрусь. Ну і зласлівая ж ты, Волька. Існая жыгучка. Завочнікам чытаюць той жа курс. Праўда, скарачаюць крыху.

Света. Пра каханне?

Пятрусь. У надзеі, што на практыцы да ўсяго даходзяць самі.

Воля. Цікава, а пры камунізме будзе рэўнасць?

Пятрусь. Мусіць, будзе. Бо будуць пачуцці, эмоцыі...

Воля. Які ж то камунізм з рэўнасцю?

Ія. Пайшлі дамоў.

Пятрусь. Маці напяклі ўжо там бліноў.

---

* З верша А. Вялюгіна «Гаворыць Вышынскі».

С в е т а. Пойдзем, Мальва, з намі ў суніцы.

М а л ь в і н а. Счакаю тату. Бывае, рой...

І я *(да Петруся)*. А ты?..

П я т р у с ь. З вамі на бліны? Ці ў ягады?

І я. На бліны не ведаю, ці ёсць яны, а суніц багата.

П я т р у с ь *(нараспеў)*. Зарадзілі сільна-буйна ягады ў бары...

В о л я. Ён Мальвіне паспявае тут.

І я. Тады бывайце.

М а л ь в і н а *(да Іі)*. Я пагаманю з ім. Апошнім разам.

Ія адварочваецца і выходзіць.

С в е т а *(да Петруся і Мальвіны)*. Не крыўдзіце ж адно другога.

В о л я. Спявайце.

Д з я ў ч а т ы адыходзяць з Петрусёвай песняй:

Сонца, умыйся расою
На світальнай зары.
Сонца, пойдзем з табою
Праз дубровы, бары...

Апускаецца заслона.
Пятрусь і Мальвіна апынуліся на прасцэніуме.

П я т р у с ь. Я прынёс табе не толькі песню.

М а л ь в і н а. Што ж яшчэ?

П я т р у с ь. Сонца.

М а л ь в і н а. І сэрца?

П я т р у с ь. Хіба мала?

М а л ь в і н а. Напаказ — усім? Каб бачылі і ведалі ўсе: на пасеку да мяне ходзіш? Разам з сонцам?

П я т р у с ь. Табе непрыемна?

М а л ь в і н а. Сорамна. Перад Іяй.

П я т р у с ь. А мо яшчэ перад кім? Кажуць, Змітрок заляцаўся да цябе.

М а л ь в і н а. Глупства. А Ія сапраўды цябе кахае. Раўнуе. Злуе на мяне.

П я т р у с ь. І сябруе з табою? Зразумей, Ія мне — што сястра. Ёю і застанецца. А ты — нешта лепшае. Не зямное. *(Спрабуе абняць дзяўчыну.)*

М а л ь в і н а. Сонца пасаромся.

П я т р у с ь. З сонцам я прынёс табе навіну. Хацеў сказаць учора, пасля лекцыі, ды знікла, як анёл. Не ўгледзеў нат калі.

М а л ь в і н а. Якую навіну?

П я т р у с ь. Здагадайся.

М а л ь в і н а. Не варожка.

П я т р у с ь. А мне цыганка на вакзале варажыла, як дадому ехаў.

М а л ь в і н а. І што яна маніла?

П я т р у с ь. Твая нарачоная, кажа, у вянку. Не з цернят і не з руж, не са званочкаў, васілёчкаў, а з акацыі.

М а л ь в і н а *(недаверліва)*. З акацыі?

П я т р у с ь. Але. У яе поўна сэрца агню, поўна дум галава...

М а л ь в і н а. А твая цыганка паэтка.

П я т р у с ь. У іх дапраўды нешта паэтычнае.

М а л ь в і н а. Годзе маны. Якую навіну ты меў сказаць?

П я т р у с ь. Надвячоркам атрымаў з Міністэрства пісямко.

М а л ь в і н а. І што ў ім?

П я т р у с ь. Песня.

М а л ь в і н а. Што спяваў? Мані-мані!..

П я т р у с ь. Пачытаеш — сама заспяваеш. *(Аддае ліст.)*

М а л ь в і н а *(чытае, твар асвятляецца шчаслівою ўсмешкай)*. Ды за гэта!..

П я т р у с ь. І пацалаваць можна?

М а л ь в і н а. Які хітрун! Учора трэ было.

П я т р у с ь. Пацалавала б?

М а л ь в і н а. Мажліва.

П я т р у с ь. Яшчэ мажліва. А сёння? І мне нельга?

М а л ь в і н а. Не.

П я т р у с ь. Тады хадзем дамоў — парадуем бацькоў. А па дарозе — у краму. Трэба ж неяк адзначыць такую навіну. Якраз нядзелька. *(Нагадвае з паэмы Я. Коласа.)* Ад рання блінцы пякліся на снеданне.

Выходзяць. З'яўляецца З м і т р о к.

З м і т р о к *(з болем глядзіць услед)*.

Кто — рвущий розу — рук не уколол?
Кто — бравший мед — не знает жала пчел?
От первых наших до последних дней
Печаль и радость — спутники людей.

**Карціна другая**

Веранда пры доме Адамейкаў прыстасавана ўлетку для кухні і сталоўкі.

М а р ы н а пячэ бліны на газавай пліце.

Уваходзіць А г а ш к а, рухавая, гаваркая кабета, ды часам на твары з'яўляецца сумнасць.

А г а ш к а. Добрага ранку, суседачка.

М а р ы н а. Добрага, Агашачка, добрага.

А г а ш к а. Нешта нашых дзявок не чуваць. Заспалі там.

М а р ы н а. А хай паспяць. Нядзелька. Ранак цёплы.

А г а ш к а. І то праўда, Марыначка. І то праўда. Паветра пахкае там, мядовае... А што вы ўчора ў клубе не былі?

М а р ы н а. Чаго там? З дачкой на скокі?

А г а ш к а. На скокі як сабе хочаце, а лекцыі не лішне слухаць. Яй-права. Пятрусь пра хімію расказваў. Хоць і студэнт яшчэ, а гаманіў не горш за прыезджых лектараў.

М а р ы н а. Што ж ён такое гаманіў?

А г а ш к а. Разумна, кажа, ужывайце яе. Каб не шкодзіла зямлі, здароўю... Шмат было пытанняў. Мужчыны пра гарэлку пыталіся: з якой яна хіміі? То формулы пісаў,

паказваў, які яд у спіртах, гарэлцы, самагоне. Ну, а моладзь пра любоў пыталася. То казаў: ёсць такая навука...

Марына. Пра любоў? Бач ты! А мы і не ведалі.

Агашка. Ці ж мы гэтулькі вучыліся? Сямігодку скончылі і на поле. Брыгадзір на ганку школы ўжо чакаў.

Марына. Ці сказаў жа што пра тую навуку?

Агашка. Мусіў. Пра псіхалогію, нейкія там імпульсы, пачуцці. А потым усміхнуўся і кажа: «Любоў, як тое мора,— песціць, вірыць, хвалюе».

Марына. А я думала, яна — чад, ачмурэнне, насланнё.

Агашка. Гэта як у каго. Пятрусь, мусіць, пра сваю любоў казаў. Прыехаў, пабачыў, як расцвіла вашая Мальвіна... І яна...

Марына. Што яна?

Агашка. Учора на лекцыі глядзела на яго. Так глядзела, так глядзела... ну, як зачараваная.

Марына. Сама ж казала: цікава гаманіў.

Агашка. Цікава то цікава, ды сам ён цікавей. А Змітрок Мальвіне вочы прадаў. Шчасціць ёй на жаніхоў. Яй-права. Адзін аднаго лепей.

Марына. І тваёй пашчасціць. Не перастарка. Як суджана, то свайго стрэне і завірыць...

Агашка. А вой-вой!..

Марына. Чаго ты?

Агашка. Пліта ж там паліцца. Мусіць, павыкіпела ўсё. То ж я па хімію прыйшла, загаманілася во і забыла.

Марына. Па якую хімію?

Агашка. Надумала спячы бліноў, а соды няма. Яй-права. То мо дасі?

Марына. Многа то не — у самае кот наплакаў. Не завозяць яе нешта ў краму — у аптэцы толькі. *(Дае соды.)*

Агашка. Дзякуй, Марыначка. А каравай надумаеш пячы ці пірагі — гукні. Такую хімію зраблю — пальчыкі абліжуць. Яй-права. *(Выходзіць.)*

Марына. Ну і людзі, ну і суседзі. Усё яны бачаць,

як каты ноччу. А мы і ўдзень сляпыя. Яна такі перамянілася, як Пятрусь прыехаў. То спявала, кукавала, а то ўціхла. На пасеку стала прасіцца панач — душна тут. А яно вунь што — рэакцыя. Адась, а Адась!

Адамейка *(за дзвярыма)*. Тута, тута. *(Нараспеў.)* А дзе мая Марфута? *(Уваходзіць, кульгаючы. Намыльвае твар.)*

Марына. Яму жартачкі.

Адамейка. А табе гора якое?

Марына. Гора, не гора, а і радасці мала.

Адамейка. Дзе ж вазьму тае радасці?!

Марына. Заходзіла Агашка. Казала, рэакцыя ў Мальвіны. Хімічнае каханне.

Адамейка. Хімічнае? Не чуў я пра такое.

Марына. Не чуў, то пачуеш.

Адамейка вяртаецца ў дом.

Ай ты не супраць?

Адамейка. Я не супраць снедаць, а ты і пагаліцца не даеш. Мыла во сохне. *(Выходзячы.)* На пасеку пазнюся.

Марына. Цэла яна будзе. Сваю пчолку трэба берагчы. А то, бывае, паляціць да Петруся. Што-о? Хай ляціць? І я з ёю? Куды ж я палячу? Куды?

Адамейка *(вяртаецца з брытваю)*. Чаго раскудахталася? Чаго?

Уваходзіць Аксюта, вельмі сур'ёзная, разважлівая кабета.

Аксюта. Міру і шчасця вам.

Марына. І табе, Аксютачка.

Адамейка выходзіць.

Аксюта. Чаго ён з брытваю?

Марына. Са снеданнем во запазнілася. Нядзелька, думала, пазней.

Аксюта. То ён да цябе з брытваю? Аж я пералжагнулася.

М а р ы н а. Ды не — на пасеку спяшае.

А к с ю т а. Да пчол ідзе, то голіцца?

М а р ы н а. А як жа? І свежую кашулю адзяе. І халат каб яму быў чысцюткі.

А к с ю т а. Нібыта да дзявок. А дома і няголенаму можна? Жонцы і так ладны?.. А Мальвіна ж дзе?

М а р ы н а. На пасецы.

А к с ю т а. З Петрусём на пару?

М а р ы н а. Чаму з Петрусём? З Іяй, Светай, Волькай.

А к с ю т а. Глядзіце, а то звядзе, звязе Мальвіну і кіне. Як Ію. А так любіліся, так любіліся...

А д а м е й к а выходзіць на падворак і там умываецца.

М а р ы н а. Нашую не звядзе. Во практыку адбудзе і паедзе давучвацца.

А к с ю т а. Аняго ж, паедзе. Навучыўся ўжо, цяпер іншых навучае. Паслухала б, што ўчора казаў у клубе. І гэна не так, і тое не гэнак. Я ж думала: якая шкода ад той хіміі? Ну, ракі пагінулі, дык бяды тае — які з іх наедак? І рыбы колькі тае елі? Ажно, кажа Пятрусь, і птушкі зводзяцца. Жаўранкі хіба толькі ля пасекі. Гнёздаў перапёлак не відаць. Вусеняў і халера не бярэ, як пстрыкаюць на сады, а шпакі гінуць. І пчолы. Тое ж і Адамавіч твой казаў. Выходзіць, усё атруціць хімія: і зямлю, і ваду. І нам канец, як ад таго атаму.

М а р ы н а. Не разумею я цябе, Аксюта: жаліцца прыйшла ці сварыцца.

А к с ю т а. Я — сварыцца? Баронь божа, Марыначка. Мы ўсёй душой да вас. Ці ж вы не знаеце?.. А прыйшла па сіта я. Драпікаў спячы хочу. Надрала бульбы, стала працэджваць — і крухмал жа трэба, а сіта, як на тое, парвалася. То выручы — у вас дужа харошае, пчалярскае.

М а р ы н а. На, ды не тлумі галовачкі, а то распухла ад думаў.

А к с ю т а. А ты дужа не думай: што людзям, тое і нам будзе. *(Выходзіць з сітам.)*

М а р ы н а. Адась! Адамка!

А д а м е й к а. Што, мая мамка? Снеданне гатова? То я ўраз. *(Уваходзіць.)*

М а р ы н а. Не снедаць, а выць трэба.

А д а м е й к а. Спаліла што? Разбіла? То давай паплачам.

М а р ы н а. Табе ўсё жарты. Чуў, што Аксюта казала?

А д а м е й к а. Казала-вязала. Некалі слухаць балаболак.

М а р ы н а. Табе ўсё некалі, усё некалі. І ў канцылярыю не сходзіш, і ў клуб...

А д а м е й к а. Прычасціцца? Замест царквы, ці што?

М а р ы н а *(ставіць на стол бліны, смятанку і патэльню з яечняю)*. Кідай ты тую пасеку. Не будзе з яе карысці аніякай.

А д а м е й к а. Як не будзе? Ты што?..

М а р ы н а. Вынішчыць хімія ўсіх пчол: і калгасных, і калгасніцкіх.

З'яўляюцца М а л ь в і н а і П я т р у с ь.

П я т р у с ь. Добрага ранку.

М а р ы н а. Хай будзе добра.

П я т р у с ь. Прыемнага апетыту, Адамавіч. Якраз да снедання.

М а л ь в і н а ідзе ў дом.

Ад рання бліны пякліся на снеданне. Да бліноў чаю вось прынеслі. Нам з Адамавічам без заваркі, а вам — з чаборам. *(Ставіць на стол пляшкі з гарэлкаю, віном, кладзе цукеркі.)*

М а р ы н а. З чаго б так?

П я т р у с ь. Было б пітво, а прычына знойдзецца. Так, Адамавіч? Вы нечым узрушаны, засмучаны. То я ўраз бяду развяду.

М а р ы н а. Яму няможна — да пчол сабраўся.

П я т р у с ь. Да пчол яно вядома... А мо апклалі б

сёння свой візіт на пасеку? Мальвіна кажа: усё там у парадку.

Марына. Не спакушай ты сваёй хіміяй — хай ідзе.

Пятрусь. Тады мы з вамі, Марына Стахаўна.

Марына. І я не буду — горка без яе.

Пятрусь. А вы салодзенькага паспытайце — віна, цукерак.

Марына. Лёстачкамі сцелеш, хлопча, ды мулка спаць. Накуплялі во, навошта?

Адамейка *(да Марыны)*. Выйдзі-ка на мінутку. Мы тут пашэпчымся.

Марына. Шэпты хату губяць.

Адамейка. У нас мужчынская гамонка.

Марына выходзіць.

Адамейка. Слухай, Пятрусь. Не думаў я, не спадзяваўся...

Пятрусь. А што сталася?

Адамейка. Кавалерам нягожа так заходзіць.

Пятрусь. А як жа?

Адамейка. Час бы ведаць, а не ўпадабацца пустадомкам. Думаеш, у нас няма свайго такога зелля? Ёсць лепшае. А ты купіў. Не на свае ж заробкі.

Пятрусь. Як не на свае?

Адамейка. На матчыны мазолі.

Пятрусь. На стыпендыю.

Адамейка. Яна даецца не на п'янства. Забірай. Мёду гарэлка не радня. К д'яблу!.. *(Запіхвае пляшкі ў Петрусёвы кішэні.)*

Пятрусь. Не вазьму. Пасаромілі — і годзе.

Адамейка. Вазьмі. Зойдзеш іншым разам, як належыць.

Пятрусь шпурляе пляшкі на падворак.

Хлапчук! Блазан!

Прыбягаюць маці і дачка.

Марына. Што тут такое?

Пятрусь. Кажуць, калі прыйсці ў госці — справа госця, калі ўходзіць — справа гаспадара.

Адамейка. Гаспадар не затрымлівае.

Пятрусь. Ну, вось... Выбачце, Стахаўна. Бывайце, як кажуць, здаровы, жывіце багата. *(Выходзіць.)*

Марына. За што ты яго?

Адамейка. Маладь труцень. Недавук. Ніякай выхаванасці. Не зарабіў яшчэ, а п'е. Спачатку матчына малако, а цяпер і кроў. Потым нашую будзе смактаць. І дзяржавы...

Марына. Апомніся, Адась, што ты кажаш? Ён павіншаваць прыйшоў Мальвіну. З Міністэрства атрымаў абнадзейны ліст. На пчаляроў будуць вучыць у акадэміі. А ты...

Мальвіна бяжыць у дом. Маці плача.

Адамейка. Так бы і сказалі. Без фокусаў. Без гэтага самага... *(Выходзіць.)*

* * *

Па прасцэніуму ідзе ўзрушаны Пятрусь, нікога і нічога не заўважаючы. Натыкаецца на Агашку.

Агашка. Добрага здаровічка, Іванавіч.

Пятрусь. Маё шанаванне.

Агашка. Якое шанаванне, як не зойдзеш, не праведаеш? Заганарыўся ўжо. Забыў. Яй-права.

Пятрусь. Забыць вас немажліва. Зайду як-небудзь.

Агашка. Зараз бы зайшоў. Якраз нядзелька. Ці куды спяшаеш?

Пятрусь. Ды не-е.

Агашка. То прымі ласку. Раскажаш, як там... А то спытаю ў тваёй матачкі, дык скажа што якое. Зайдзі, Петрусёк, не грэбуй. Ія скора вернецца з суніцамі. Рада будзе. Яй-права. Ай Адамейкаў саромеешся? Баішся? То

10 Зак. 1299

не зяць яшчэ. *(Са скрухай.)* А і зяцем станеш — не мінай нас.

Пятрусь. З прыемнасцю прымаю ласку.

Агашка і Пятрусь. адыходзяць.

Агашка. Даўно б так. А то не ведаем, што і думаць...

З'яўляецца Аксюта.

Аксюта *(уражаная)*. Да Агашкі пайшоў, да яе Іі. Аняго ж. Залучылі-такі, закарагодзілі. А што? Без гаспадара. Як пні на ўзлессі. А жаніх паглядны. Трэба-ка праведаць трохі спагадзя! І калі якое што — скажу Адамейкам.

**Карціна трэцяя**

У застоллі Пятрусь, Ія, Агашка. Да іх месціцца Аксюта.

Агашка. Сядай, Аксютачка, сядай. Бліжэй. Прымі ласку. *(Налівае чарку.)*

Аксюта. Адна? Разам ужо...

Агашка. Мы выпілі. Яй-права. Выпі і ты. За здароўе Петруся Іванавіча.

Аксюта. То будзьце ўсе здаровенькія. Чырвоненькія, як вішнёўка гэтая.

Агашка. Мёдам на душу.

Аксюта *(п'е смакуючы)*. А яна такі як мёд. Аняго ж. І салодкая, і сцюдзёная, а цяплом разліваецца па нутрах. Нібы начараваная.

Агашка. Бог з табою. Выдумае ж — начараваная.

Аксюта. Хацела сказаць — хімічная. Са спіртам ці гарэлкаю.

Пятрусь *(узняўся)*. Злая цётка. *(Пахіснуўся, выходзячы з-за стала, ледзь яго не апракінуў.)* Выбачце.

Агашка. Нічога, Петрусёк, бывае.

П я т р у с ь. Шчыра ўдзячны за ласку, за частунак. *(Наважваецца ісці.)*

А г а ш к а. Ну, што ты?.. Куды ж ты?

П я т р у с ь. Дамоў. Пара і чэсць знаць.

А г а ш к а. Ці дойдзеш жа? Та ж не блізка.

П я т р у с ь. Дайду. *(Хістаецца.)*

А г а ш к а. Людзі ўбачаць, што пад хмелем. Нехарашо. Яй-права. Нешта разамлеў.

А к с ю т а. Аняго ж. Ды і як разамлеў! Залішне накуляўся гэнай хіміі.

А г а ш к а. Колькі таго выпіў. Як верабей. Яй-права.

І я. Непрызвычаены.

А г а ш к а. Пасядзі, Петрусёк. Акно адчынім, а то душна, можа. Ці ў садок? Пад вішнямі паляжыш. Яй-права. Ія, пасцялі яму там.

П я т р у с ь. Не, я тут крыху, на канапе, з вашага дазволу.

А г а ш к а. Калі ласка. Калі ласка, Петрусёк.

Пятрусь садзіцца на канапу, схіляе галаў.

А г а ш к а. Ія, пакладзі яму падушку.

А к с ю т а. То я пайду. Чаго ўжо тут? Аняго ж. Дзякуй вам...

А г а ш к а. Ну што ты, Аксютачка?..

А к с ю т а выходзіць.

Ія, папраў падушку. Ды, можа, туфлі зняла б. Та ж трэба — так ахмялеў. Я на гародзе буду. *(Выходзіць.)*

Пятрусь засынае.

І я *(знімае Петрусю абутак, потым падсаджваецца да яго)*. Харошы мой. Любы, родненькі. *(Гладзіць галаву.)* Сонейка маё. І валасы сонцам пахнуць. Як я цябе чакала! Дні лічыла. І прычакала во на муку. Няўжо і дапраўды разлюбіў? Ну, скажы ж, скажы хоць слоўка. Петрусёк, любы... Што ж ты маўчыш?.. Золатка маё...

П я т р у с ь. Мальва. *(Працягвае руку.)* Мальвіна, ты?..

Іа затуляе рукамі вочы, адскоквае.

П я т р у с ь. Мальва, кепска мне...

* * *

Пакуль адкрыецца заслона, па прасцэніуме ідуць А к с ю т а і М а р ы н а.

А к с ю т а. То я шусь за парог. І Агашка за мною. Вунь на градах корпаецца. А яны там адны. Во якія ў нас суседачкі. Во якія цацы! Аняго ж. Залучылі, спаілі і спаць паклалі. Мо і з чарамі тое пітво, бо дужа ахмялеў. Салодкае, халоднае, а агнём разліваецца па нутрах. Агашка ведае, як чараваць, і дачку, няйначай, навучыла. Во сабрала колькі кропель свайго поту і дала выпіць Петрусю з настойкаю. І будзе ён кахаць, так кахаць, што і жыткі не пашкадуе, каб толькі яго кахалі. Аняго ж. Або сцёрла ў пыл лісток, што дужа прыліпае ў лазні, падсунула выпіць з вішнёўкаю, і, лічы, прапаў хлопец.

М а р ы н а. А божачка!.. Ці ж можна гэтак?..

А к с ю т а. Аняго ж. Ёсць многа спосабаў прываражыць хлопца. Ёсць такі, што *(азірнулася)*, не тут кажучы... Самы пэўны спосаб. Агашка ведае. Яна ўсё ведае.

М а р ы н а. Чаго ж сабе не прываражыла, як засталася без Рамана?

А к с ю т а. Нам ужо тое не рупіць. А дзеўкам самы раз...

**Карціна чацвёртая**

На веранду ўзыходзяць М а р ы н а і А к с ю т а.

А к с ю т а *(прадаўжае гамонку)*. І Пятрусь харош. Аняго ж. А я-то думала, ён усур'ёз да вашае Мальвіны.

М а р ы н а. Якое там!

А к с ю т а. Ажно як той матыль... А ўсё горад. Горад!

Распешчвае і разбэшчвае. І хлопцаў, і дзявок — аднакава. Такія косы ў нас тут адрастаюць. Такія косы! А пабудзе ў горадзе — ані касы, ані красы. Шаньёны прычэпяць, хвасты распусцяць. Каб у нас — сляпні ўвіваліся б. Аняго ж. Яшчэ і вочы падмалююць, касымі зробяць. Во і Мальвіна гэнакай стане. Пляснiце тады ў далоні.

Марына. Не думаем, каб нашая такая стала.

Аксюта. А хто ж думае? Не ручайся, Марыначка, не ручайся. Там навучаць. Аняго ж. Як Петруся. Не благі быў хлопец — нечага сказаць. А стаў галган галганам. Вунь заліў жалейку, счырванеў, як вішнёўка тая, і ляжыць з Іяю ў абдымку.

Марына. Ну ты ж не бачыла, як яны там. Што ты кажаш?

Аксюта. Як не бачыла? Бачыла. Аняго ж. Ія расчырванелася. Гарыць сунічкаю. Засталася з п'яным п'яная. Лічы — прапала дзеўка.

Марына. А ты нявесткаю хацела мець яе, ці што?

Аксюта. Якой нявесткаю? Якой нявесткаю! Яны б то не супраць. Ды Змітрок — не Пятрок.

Марына. То што ж тады да іх?

Аксюта. Я не да іх. Я — каб не дапускалі да Петруся Мальвіну. А то зачасціў у ваш садок. Кажуць, і да пасекі дабраўся.

Марына. Та ж ён памагае рыхтавацца да экзаменаў.

Аксюта. А Змітрок не мог бы памагчы? І ён жа вучыцца ў той самай акадэміі. Завочна, праўда, ды не горш за Петруся. А старшыня як цэніць! Усякі раз пытаецца парады. І зараз там у нас нешта плануюць. Збіраецца ж на курсы. Змітрака за сябе пакідае... То хіба не памог бы ён Мальвіне? Дык грэбуеце ж.

Марына. Хто грэбуе? Сама казала, возьмеце вучоную: настаўніцу ці доктарку.

Аксюта. Аняго ж. Не возьмем мы гэнакіх. Доктаркі — чысцюлі, беларучкі — і бульбіны не абяруць і не ачысцяць, да град не дакрануцца. А настаўніцы ўсё з вуч-

нямі, кніжкамі ды сшыткамі. Я ж не хачу быць іхняю абслугай. Во Мальвіна вашая панаравіла мне.

М а р ы н а. Табе. А Змітраку?

А к с ю т а. І яму. Табе адной скажу: млее па ёй сынок, сохне. Ані на кагусенькі не пазірае. Альбо на ёй, кажа, жанюся, альбо застануся бабылём. Хоць плач, хоць скач. І ніякай радачкі. Аняго ж. А ці ж не шкада матцы, га? Сэрца не баліць, гледзячы?.. Пагамані ты з ёю, мо і пазгоджваліся б.

М а р ы н а. Чаго там! Самі хай, як знаюць. Я не замінаю.

А к с ю т а. Самі то самі, ды і мы ж не староннія — дзецям спрыяць павінны.

Прыходзіць А д а м е й к а.

Пайду ўжо, а то мо зачакаліся там. А сіта прынясу. Прынясу. *(Выходзіць.)*

М а р ы н а. То ж яна пра Петруся. Як ад нас выйшаў — залучылі Агашка з Іяю, напаілі і спаць паклалі. І Ія, нібыта, з ім...

А д а м е й к а. А дзе Мальвіна?

М а р ы н а. Чытае ў альтанцы. Увесь дзянёк без перадыху. Не піла, не ела.

А д а м е й к а. Заві ды кармі.

М а р ы н а. Зноў на пасеку пашлеш? Нанач болей не пушчу. А то гамана, сплёты-пераплёты. Кажуць, ужо днюе і начуе на пасецы з Петрусём.

Адамейка змоўчыў.

Мальвіна, а Мальвіна!.. *(Выходзіць.)*

А д а м е й к а *(распранаецца, бярэ ручнік)*. Гамана. Абы языкі мянташыць.

Т р ы в о ж н ы г о л а с М а р ы н ы. А божачка!.. Ратуй, Адамка!..

А д а м е й к а спяшае на падворак.

Хутчэй!..

* * *

На прасцэніуме з'яўляюцца Аксюта, Змітрок і Агеевіч.

Змітрок. Глядзі ж, маці...

Аксюта *(з сітам, загорнутым у вышываны ручнік).* Адразу мо і не высватаем. Як першы раз сваты прыходзяць, то не можна пагаджацца аддаваць дачку замуж — маладыя не будуць шчаслівыя. І людзі пасмяюцца, што адыначку хутка збываюць. Аняго ж.

Змітрок. Ну, а ў другі раз я не пайду.

Аксюта. Ты даслухай. У першы раз бацькі кажуць: дачка яшчэ маладая альбо што іншае. Каб сваты здагадаліся і прыйшлі яшчэ раз і зрабілі славу нявесце.

Змітрок. Ну, гэта кінь, маці. Скажы дзякуй Агеевічу, што сёння робіць славу ім, а нам гонар.

Аксюта. Я і кажу. Аняго ж. І надзею маю. Толькі ж вы, Агеевіч, адразу не кажыце, чаго прыйшлі. Сваты ніколі проста не кажуць, а ўсё дамаўляюцца байкамі, каб перахітрыць нечысць і зрабіць лад, пакуль яна расшалопае, што дзеецца.

Змітрок. Пра тое магла і не гаварыць — мы нічога такога не прызнаем.

Аксюта. Як сабе хочаце — не прызнавайце. Ды рабіце, як нашы бацькі-нябожчыкі.

Агеевіч. Па традыцыі? Што ж, дзеля неблагіх традыцый...

Аксюта. Ой, ледзь не забыла! Не стрымоўвайцеся ж ля парога, а хутчэй да стала ды на лаву.

Змітрок. Мама, ды ў іх жа няма лавы.

Аксюта. Стулле ёсць, крэсла — усё адно. А як супыніцеся, то дзеўкі не аддадуць. Аняго ж. Ці пры нас разаб'ецца які посуд...

Змітрок. Годзе, мама, прымхаў. Пайшлі.

Аксюта. У добры час. *(Затрымліваецца, адварочваецца ад Агеевіча і сына і хрысціцца.)*

**Карціна пятая**

Тая ж веранда. На ёй Адамейка, Марына і Мальвіна.

Адамейка. Выбач, доча. Мо і надта крута абышоўся.

Марына. І ён харош. Калі цяпер здрадлівы такі, то і ад жанатага не чакай вернасці.

Мальвіна. Не мне судзіць.

Адамейка. А гэта ты дарма. Дарма. Неправату хай судзіць кожны. Кожны чэсны. Шчыра і адкрыта.

Мальвіна. Хай судзіць час. Зараз ён у вашу карысць.

Адамейка. Зараз. А потым? То-та і яно. Час — справядлівы, ды марудлівы суддзя. Бывае, прысуд выносіць надта позна, калі ў ім ужо няма патрэбы.

Мальвіна цяжка ўзнімаецца з крэсла, бярэ кніжкі і ідзе ў дом.

Марына *(праваджае)*. Паляжы, дачушка, паляжы. Адпачні. Ды ўжо болей не чытай. *(Вярнуўшыся, да мужа.)* То ж трэба — чытае да замарачэння.

Адамейка. А можа, гэта і ёсць тое самае хімічнае каханне?

Марына. Хто ж яго ведае, мо і яно. Ці ж яна скажа? Добра, што пайшла па яе... Ды, слава богу, акрыяла. Водпуск ёй патрэбны. Папрасі ў старшыні. Зараз у Аксюты ён. Мо запрасіў бы, пачаставаў...

Адамейка. Ён па гасцёх не ходзіць. На вяселлі толькі ды хаўтуры. Ды і я не ахвочы.

Марына. Таму цябе і недалюбліваюць. Не ахвочы да гаркухі — медавухі выпіце. Яшчэ ж цалюткі бачонак. Хто пап'е?

Адамейка. Жанок частуй на сенаванні, на льну.

Марына. А мо ўсё ж запрасіць?.. А божачка! Сам ідзе!..

Адамейка. Са Змітраком, Аксютай? Ці не змовіліся тут?

М а р ы н а. Якія табе змовіны? Якія змовіны!..

Уваходзяць А г е е в і ч, А к с ю т а і З м і т р о к.

А г е е в і ч. Добры вечар, Адамейкі. Добры вечар, пчаліная сямейка.

М а р ы н а. Хай будзе добра.

А г е е в і ч. Дазвольце ў вулей ваш утульны.

А д а м е й к а. Калі з дабром — прашу.

Аксюта падштурхоўвае Агеевіча і Змітрака: хутчэй, маўляў, да стала.

А г е е в і ч. А з ліхам — на дзверы пакажу.

З м і т р о к. На дзверы паказаць лягчэй, як самому знайсці выйсце.

А к с ю т а. Лягчэй, аняго ж. А знайсці выйсце ой як бывае цяжка.

М а р ы н а. Сядайце, калі ласка.

Сваты садзяцца.

А к с ю т а . Дзякую, Марыначка.

А д а м е й к а. Адкуль вы і з якім намерам?

А г е е в і ч. Зквяцістай, медунічнай стараны, усім багатай беларускай зямлі, з дружнай працавітай, калгаснай сям'і.

А д а м е й к а. А не шэршні часам? Ці восы?

А к с ю т а. І ў вос жа ёсць там нейкі мёд. Аняго ж.

М а р ы н а. Мусіць, горкі.

А д а м е й к а. Навошта нам асіны мёд, калі свае пчолы ёсць?

А г е е в і ч. Мы з мядком-саладком. *(Разгортвае ручнік і вымае бохан хлеба і віно.)* Чмялі, з блізкае радні.

А д а м е й к а. Чаго ж вы хочаце?

З м і т р о к. Быць яшчэ бліжэй, радней.

А к с ю т а. Радней за ўсякіх родных.

А г е е в і ч. Ёсць у вашай святліцы-камяніцы яго нарачоная сястрыца-чараўніца. Салаўіныя слёзкі пралівае, карункавыя ўзоры вышывае. Без іголкі, без шоўку. Ні сілом,

ні вузлом. Залатая пчолка, красуня-прыгажуня. То паглядзець хацелі, падзівіцца. Пагаманіць, а мо і заручыцца.

А д а м е й к а. Пчолы часам джаляць.

З м і т р о к. Кто — рвущий розу—рук не уколол? Кто—бравший мед — не знает жала пчел?..

А г е е в і ч. Верна. Што за ружа без шыпшыны, а пчала без джала?

А к с ю т а. І мой сынок, як цвяток...

А д а м е й к а. Не на ўсякую квецень пчала садзіцца, не з усякай краскі бярэ паноску.

А к с ю т а. А мо з нашага якраз і возьме. Узятак ладны і паглядны. Не хлопец, а скарб нектару. Апяго ж.

А г е е в і ч. Жаніх што трэба. Гаспадарлівы. Эканаміст. Ён ведае цану зямлі і працы. Якая ёсць тая цана і якой можа быць. Многія б за гонар палічылі... То хай будзе ён вам любым сынам, а Мальвіне — радней за брата.

А д а м е й к а. Таварыш старшыня, вы ж Мальвіне не тое зычылі.

А г е е в і ч. Памятаю. Абяцаў паслаць вучыцца на калгасны кошт.

А д а м е й к а. А цяпер як жа?

А г е е в і ч. Высветліў: ні ў акадэміі, ні ў інстытутах на пчаляроў не вучаць. У Мар'інай Горцы, у тэхнікуме толькі, і то...

А д а м е й к а. А ў Магілёўскіх Горках?

З м і т р ок. Летась адзін абараніў дыплом на пчаляра. І таго абралі старшынёй калгаса.

А д а м е й к а. Мо і добра, што абралі. Развядзе пчол, адродзіць іх былую славу. Некалі на нашым павятовым гербе былі пчолы.

А г е е в і ч. Некалі апроч мёду, смалы і пянькі нічога не пастаўлялі на рынак.

А д а м е й к а. А цяпер купляем мы вяроўкі. І мёд, як лекі. Я ж хачу, каб ён заўжды быў на сталах. Як цукар. І свой беларускі чай.

А г е е в і ч. Чай?

Адамейка. Але, і чай. Ёсць жа рускі чай? Ёсць! А чаму б і ў Беларусі не разводзіць? І болей пчол.

Агеевіч. Рамантык вы, Адамавіч. Сівы рамантык.

Адамейка. Таму і дачку пашлю вучыцца. І надзея ёсць — у акадэміі набіраюць групу пчаляроў.

Агеевіч. Адкуль такія весткі?

Марына. Пятрусь мае ліст.

Агеевіч. А калі і так, то міне год пяць ці болей. Песня доўгая.

Аксюта. А дзявочы век кароткі.

Адамейка. Якая б ні было, а песня!

Агеевіч *(пасля паўзы)*. І не шкада такую пчолку выпускаць у свет? А як наляціць вецер, нагоніць хмар і пойдзе дождж? Саб'ецца пчолка з пуцявіны, заляціць у іншы вулей ці трапіць у асінае гняздо?

Аксюта. Усё стацца можа. Усё. Аняго ж. Трапляюцца і шэршні. Звабяць, згубяць. Горад — не вёска, што кожнага мы знаем, усю паднаготную яго. А там адусюль і ўсялякія. Паспрабуй раскусіць.

Змітрок. І звабліваюць. Колькі не вяртаецца дамоў!

Адамейка. Наша вернецца.

Агеевіч. Адкуль такая пэўнасць?

Змітрок. Мо дасцё падпіску?

Адамейка. Дадзім, як трэба. Ды і без падпіскі...

Аксюта. А як выйдзе замуж за гарадскога? Вучонага, начальніка якога? Можа ж такое быць?

Агеевіч. Сапраўды, сямейныя абставіны?..

Змітрок. І ніякім судом не змусім вярнуцца. І затрат не спагонім.

Агеевіч. Хлопцаў будзем пасылаць.

Аксюта. І то з асцярогаю. А то вунь навучылі Петруся, дык цэліць на вашае месца. Усё яму не так, не гэнак...

Змітрок. Мама, не пра яго гамонка.

Марына. Выходзіць, як дзеўчына, то і вякуй дома.

Адамейка. Не звякуе. Во прыйшлі ж...

Змітрок. Прыйшлі са шчырасцю і ласкай.

А г е е в і ч. Вялікай любасцю і сардэчнай прапановай.

А д а м е й к а. То ўжо вядома.

З м і т р о к. Не ўсё.

А д а м е й к а. Што ж яшчэ?

З м і т р о к. Мальвіна будзе вучыцца са мною, завочна. Дадзім рэкамендацыю...

А д а м е й к а. А калі таго... кахацца вам завочна?

А к с ю т а. Аняго ж. Агеевіч казаў, як яно можа быць. Заляціць у іншы вулей ці трапіць у асінае гняздо.

А д а м е й к а. Каханне выпрабоўваецца адлегласцю і часам. Калі адчуюць, што не змогуць адзін без аднаго...

А г е е в і ч. А як мы не парэкамендуем у навуку?

А д а м е й к а Ну, ведаеце!.. Чаго-чаго, а гэткага я не чакаў ад вас.

А к с ю т а. Усё ў яго ўладзе. Усё!

А д а м е й к а. Э не — не ўсё. Ёсць яшчэ праўленне, сход калгасны. І закон нарэшце.

А к с ю т а. Сіла закану не знае, а ў свата сіла вунь якая! І ў праўленні, і на сходзе, і вышэй!

А д а м е й к а. Права спараджае бяспраўе?

М а р ы н а *(мужу)*. Яны хочуць запоінаў.

А к с ю т а. Само сабою: сватанне, змовіны-запоіны. А потым вяселлейка. Лад-ладам.

А д а м е й к а. Не ладам, а жывасілам хочаце. То часы ж не тыя.

З м і т р о к. Хто сказаў, што жывасілам? Мы па-харошаму.

А г е е в і ч. Спытаем-ка ў самае нявесты. Мо запросіце нарэшце ў вулей ваш утульны? Ці самую пчолку з пэнтам запрасіць сюды?

М а р ы н а *(зірнула на мужа, потым да сватоў)*. Адну мінутку. *(Знікае за дзвярыма.)*

У чаканні Мальвіны ўсе нервова пахаджваюць. Аксюта ўсё яшчэ не траціць надзеі, падбадзёрвае сына. Агеевіч, мабыць, упершыню адчуў, якая няпростая роля свата, нават калі сват і старшыня калгаса.

Вяртаецца М а р ы н а.

М а р ы н а. А мо іншым разам?

А к с ю т а. Чаго ўжо тут? Раз прыйшлі!..

А г е е в і ч. То пакажыце хоць сваю пчолку.

Адамейкі не хочуць прызнацца, што дачцэ нездаровіцца. І адмовіць нельга.

А д а м е й к а. Што ж, запрашай, маці.

М а р ы н а. Калі ласка, сваток. Калі ласка, Змітрок.

А д а м е й к а *(да Аксюты)*. І ты, аса...

Ідуць у дом.

## Дзея другая

### Карціна першая

Пакой праўлення калгаса. За сталом З м і т р о к лістае бухгалтарскую кнігу.

З-за адчыненага акна даносіцца песня:

Матачка дачку прапіла,
Машну грошай набіла,
Воласам зашыла,
Голасам завыла.

Змітрок адрываецца ад кнігі, зачыняе акно. Ды песня ўсё ж чуваць.

Прапіла матка дачку
На салодкім на мядку,
Ды ўпіўшыся, скача,
А выспаўшы, плача.

З м і т р о к. Заплача. Зарумзае. *(Раздражнёна.)* Пчаліная сямейка. *(Знаходзіць патрэбныя запісы.)* Зараз разбяром цябе па костачках. Летась прыбытак ад пчол склаў... На кожную сям'ю выходзіць... Запішам. А выдаткі? Выраб вулляў, скрынак розных, набыццё вашчыны і іншага на-

чынання... Плюс падкормка пчол... Угу! А пчаляроў? *(Знаходзіць у другой кнізе.)* На кармленне пчаляроў... Так і ёсць — нерэнтабельныя. А сёлета? *(Разгортвае яшчэ адну кнігу.)* Гэтаксама. Трэба адкапаць усё год за пяць, абгрунтаваць...

Акно адчыняецца.

Воля *(з-за акна)*. Здароў, жаніх.

Света. Віншуем маладога.

Змітрок. Ну-ну...

Ія. Які чыны!

Воля. Наеўся мёду і запанеў.

Змітрок. Мёд хай табе — язык падмазваць. А мне і цукру хопіць.

Ія. Горкі мёд?

Воля. Ці з гарбузом вярнуліся?

Света. А як віно пілі? Як калісь, лыжачкамі з чашы? Ці як?

Ія. З наска. Ха-ха-ха...

Змітрок. Годзе вам, сарокі. *(Зачыняе акно)*. Ія, зайдзі на мінутку. *(І ўжо ля стала.)* Зараз я табе пакажу мёд.

Уваходзіць Ія.

Ія. Чаго зваў?

Змітрок. Каб ведала — усё мана.

Ія. І ў Адамейкаў не былі?

Змітрок. Былі. Пасядзелі, пагаманілі. Выпілі, канечне.

Ія. Адамейка ж не п'е.

Змітрок. Сам не піў, а нас пачаставаў. Медавухай.

Ія. З якой такой нагоды?

Змітрок. Мальвіна ў акадэмію збіраецца. Характарыстыка патрэбна, рэкамендацыя, калгасная стыпендыя.

Ія. Стыпендыя? На калгасную і я паехала б. А на вёсцы гамана.

Змітрок. Гамана, што з Петрусём учора мілавалася.

І я. Мілавалася. Маці твая пусціла пагалоску. Навошта? За што вы нас не любіце?

З м і т р о к. Хто табе сказаў? Ды я... Я гатовы хоць сёння да цябе ў сваты.

І я. Да мяне? Чаго так раптам?

З м і т р о к. Не раптам. Ты ж ведаеш, даўно да цябе прыглядаюся. Ты ж хілілася да Петруся, яго любіла. А цяпер рашыў...

І я. Назло Адамейкам? І Петрусю?

З м і т р о к. Пятрусь ужо там, на пасецы. Ды мы прададзім яе. Да вулею, да мухі. Як нерэнтабельную. Адны выдаткі на яе, адны страты.

І я. Адамейка так не здасца. Былы партызан...

З м і т р о к. Акалічнасці не тыя, і Адамейка ўжо не той. Слабы целам і душою. На ладан дыша.

І я. Пятрусь заступіцца, паможа.

З м і т р о к. Пятрусь — дэмагог, асветнік. Меціць у вучоныя. Такі не рынецца ў бойку.

І я. Значыць, хадзіў у сваты?

З м і т р о к. Не.

І я. Маніш, як наняты лгун.

З м і т р о к. Лепей, Ія, святая мана, чым горкая праўда. *(Паблажліва.)* Не ўсякую праўду варта гаварыць. Скажы Адамейку, што калека... Ці дзяўчыне, жанчыне, што непрыгожая. Пакрыўдзяцца. І наогул... праўда — што цыбуля: хто хоча здзерці з яе лушпінне, той мусіць заплакаць.

І я. А мне здавалася...

З м і т р о к. Яна — мёд? Мне гэтаксама раней здавалася.

І я. Як жа тады жыць?

З м і т р о к. Пажэнімся і разам думаць будзем. То калі прыйсці ў сваты?

І я. Ты ўсур'ёз?

З м і т р о к. Зусім сур'ёзна, Ія.

І я. Спярша пазаляцайся, харашэнька. Пакахай...

З м і т р о к. Я і так кахаю. *(Горне дзяўчыну да сябе.)*

І я *(адвіхаецца)*.

Не кажы ты мне слоў,
Што не грэюць цяплом,
Не кажы...
Калі сэрца тваё
Не палае агнём,
Не кажы...*

З м і т р о к. Палае, зорачка. Ды яшчэ як палае! Пякельным полымем шугае.

І я. Пякельным? То ўжо страшна.

З м і т р о к. Ну, як цябе ўпэўніць? Як табе сказаць, каб дала веры?

І я. Не трэба слоў пра гэта, Змітрачок. Каханне — яно бачна.

З м і т р о к. Што ж, я магу прывезці і з акадэміі.

І я. Назло? Дыпламаваную дурнічку?

З м і т р о к. Чаму дурнічку?

І я. Без кахання ж толькі дуры ідуць замуж. Потым каяцца.

З м і т р о к. А разумненькія застаюцца векавухамі. Спахвацяцца, ды позна — не бярэ ніхто. Нікому не патрэбна. І дажывае век ганарлівай перастаркай, хадзячым мехам зла. Падабаецца табе такая перспектыва?.. Адзін мудрэц сказаў: «Жанчына хараша з мінулым, а мужчына з будучым». Як бы там ні было, а з учарашняга дня ты стала мінулым. А я — будучыня. Разумееш, бу-ду-чы-ня! І калі ў гэткай сітуацыі прапаную табе ратунак, то лічы за шчасце, будзь удзячная.

І я. Не трэба мне такога шчасця. І ратаўніка-ненавісніка.

З м і т р о к. Ненавідзець толькі той не можа, хто па-сапраўднаму нікога не любіў.

---

* З песні на словы А. Русака.

І я. А ты любіў? Каго? Мальвіну? Самога сябе любіў. Як той Нарцыс. Хаця, не. Ты — не нарцыс. Ты — баравік. Прыгожы баравік, які сабою выхваляўся між грыбоў, да пары да часу. *(Уходзячы.)* Пакуль не завяліся чэрві.

З м і т р о к. Да пары да часу і ты патрэбна мне. Не без таго — падабаешся. Кахаю ж я Мальвіну. Яе, адзіную. Ненавіджу і кахаю. Кахаю і ненавіджу. Болей за ўсіх на свеце.

Уваходзіць П я т р у с ь.

П я т р у с ь. Здарова, старшынёва правая рука.

З м і т р о к. Здарова, левая. *(Складвае кнігі.)*

П я т р у с ь. А дзе сам?

З м і т р о к. Не дакладваў.

П я т р у с ь. Яшчэ не паехаў?

З м і т р о к. Не. Заўтра. А што?

П я т р у с ь. Атрымаў аналізы мёду, пчол.

З м і т р о к. І што? У бочцы мёду лыжка дзёгцю?

П я т р у с ь. Яду. *(Паказвае паперкі.)*

З м і т р о к. Угу! Гексахларан і ДДТ! От добра.

П я т р у с ь. Што добра?

З м і т р о к. Ну, што ёсць... аналізы. Будзем ведаць, што рабіць. Слухай, а мо ў лекцыі пра гэта расказаў бы?

П я т р у с ь. Ці варта? І так, мабыць, перасаліў мінулым разам.

З м і т р о к. Бо не эканаміст. У гаспадарцы, браце, усё трэба лічыць, узважваць, калі хочам быць гаспадарамі, даваць прыбытак чысты. Абмежаванне хімічнай апрацоўкі пасеваў павялічыць затраты працы. А колькі спатрэбіцца рабочых рук і механізмаў на знішчэнне хмызняку? З самалёта ж хімікатамі — зручна, хутка, танна.

Уваходзіць А г е е в і ч, ды яго не адразу заўважае Пятрусь.

П я т р у с ь. А каму патрэбна эканомія на людскім здароўі?

З м і т р о к. Эканомім дзеля гэтых жа людзей, дзеля іх здароўя. Пакаленні жанчын гнулі спіны, гібелі на прапол-

цы. А якія былі ўраджаі? Цяпер жа ўсё расце як на дражджах. Амаль без ручной працы.

П я т р у с ь. Ураджай любой цаной? Прымітыўны меркантэлізм — імкненне ўзяць сёння рубель, нават калі заўтра на гэтым страцім дзесяць.

А г е е в і ч. Што яму да нашай эканоміі? *(Са штучнай лагодна-спачувальнай усмешкай.)* Яму жаўранкаў не хапае, перапёлачак.

П я т р у с ь. А вы ведаеце, чаго яны знікаюць?

А г е е в і ч. І жабы? І буслоў, журавоў па Палессі паменела?

П я т р у с ь. А ведаеце, што гэта значыць?

А г е е в і ч. Ведаю. Дзесяткі, сотні тысяч гектараў новай нівы! Соль! Нафта! Сланцы! Вугаль! А жаб тых хто лічыў? Не з таго ты пачынаеш сваю тут практыку. Пераняваеш Адамейку. Што ён супраць хіміі — зразумела: стары буркун, здзяцінеўся. А ты ж малады, будучы вучоны і ўжо кансерватар. Калупаешся, выбач, як той гноевы жук. Чаго шукаеш? Недахопаў? А дзе іх няма?

П я т р у с ь. Крытыка заўсёды ўспрымалася хваравіта і лічылася недастаткова абгрунтаванай.

А г е е в і ч. Тут не крытыка, а крытыканства, разбэшчанасць і п'янства. Наколькі мне вядома, такая практыка не прадугледжана праграмай акадэміі. Вось паеду туды...

П я т р у с ь. Гэта ўжо занадта. Магчыма, і зрабіў якое глупства, недзе памыліўся, ды ў галоўным...

А г е е в і ч. І ў галоўным... Крытыкаў хапае ў нас і яшчэ болей там... Нам жа трэба ведаць, што і як рабіць. Гэта — галоўнае.

П я т р у с ь. Я і прыйшоў параіцца, што рабіць.

З м і т р о к. З пчоламі.

А г е е в і ч. А пры чым тут пчолы? Да іх якое мае дачыненне?

З м і т р о к. Мае аналізы. *(Паказвае старшыні паперкі.)* Думае ў чарговай лекцыі расказаць.

А г е е в і ч. Зноў?

З м і т р о к. Тут ён мае рацыю.

А г е е в і ч. Мае позу, фразу, акадэмічны тлум. ДДТ і гексахларан не так небяспечныя — не гранaзан, ціафос, нікацін-сульфат.

П я т р у с ь. І ўсё ж атрутныя. Накапліваюцца ў арганізме...

А г е е в і ч. А ты ведаеш, што сказаў Леў Талстой наконт атруты?

Пятрусь змоўчыў.

А могуць жа спытаць у лектара. Тым больш у аграхіміка. То запомні: большасць ядаў рэчавых агідныя на смак. Яд жа разумовы, на няшчасце, прываблівае часта... Прываблiваюць і твае лекцыі. Прываблiваюць і атручваюць.

П я т р у с ь. Я не магу пагадзіцца.

А г е е в і ч. З Талстым?

П я т р у с ь. З вамі, пры ўсёй да вас пашане. Людзі павінны ведаць праўду.

А г е е в і ч. Якую праўду?

З м і т р о к. Падыдзі да праўды з сямі бакоў — убачыш яе з сямі канцоў. Мая маці падышла з твайго боку і цяпер з жудасцю гаворыць, што ўсё атруціць хімія: і зямлю, і ваду: І нам канец, як ад таго атаму.

П я т р у с ь. Так. Хімія, як і атамная бомба, можа прычыніць небывалае, невымерна цяжкае зло. Не толькі будучым пакаленням, а і цяперашняму. Ужо зараз на свет з'яўляюцца выродлівыя дзеці, калекі. У тых, хто меў дачыненне да ядахімікатаў.

А г е е в і ч. А я ведаю вучонага — Паўла Фёдаравіча Пратасава. Дык вось, ён гаварыў, што гэта «дзівосная навука! Яе пільны, смелы позірк пранікае і ў вогненную масу сонца, і ў цемру зямной кары, у нябачныя часціцы вашага сэрца, у тайны будовы каменя і ў бязмоўнае жыццё дрэва. Яна глядзіць усюды і, паўсюдна адкрываючы гармонію, упарта шукае пачатак жыцця... І яна знойдзе яго, яна

знойдзе!» Такімі словамі нам пачыналі чытаць курс хіміі ў тэхнікуме. Раскрывалі яе сілу. І я зведаў гэтую сілу. На гэтай вось зямлі.

П я т р у с ь. Так. Хімія можа стаць цудадзейнай сілай ці, як кажуць, бомбаю жыцця. Асвятліць дзівосным святлом. Абнавіць зямлю, жыццё і быт людзей. І ўжо дае цудоўны плён. Дае! Не толькі багатыя ўраджаі. З біямасы атрымліваюць цукар, зярністую ікру і іншыя харчовыя прадукты.

А г е е в і ч. У чым жа тады справа?

П я т р у с ь. У руках. У якія яна трапляе: у добрыя, разумныя ці няўмелыя і злыя. Як і атам.

А г е е в і ч. Што ж ты раіш, прапануеш?

З м і т р о к *(за Петруся)*. Разводзіць муравейнікі ў садах, як у Італіі. Стварыць апыліцельны трэст, накшталт амерыканскіх.

П я т р у с ь. А што? І нашыя вучоныя асвойваюць новыя, біялагічныя метады знішчэння шкоднікаў і пустазелля. Ды і старыя людзі раяць выпускаць на лён авечак. Выліжуць кожную травінку. І рыхліць будуць скарынку.

З м і т р о к. Утопія!

П я т р у с ь. Не верыш?

З м і т р о к. Верую, бо недарэчна і бязглузда,— казалі яшчэ ў сярэдневякоўе. Не прымаю я на веру. Лічу, узважваю, аналізую, што з таго можа быць.

П я т р у с ь. І ўсё ж, бывае, памыляешся?

З м і т р о к. Калі паддаюся веры і пачуццю. І зноў, і зноў упэўніваюся: разлік, толькі дакладнейшы разлік заўсёды і ва ўсім можа прывесці да жаданай мэты.

П я т р у с ь. Значыць, мэта, а не вера? Як жа без веры ты дасягнеш мэты?

З м і т р о к. Я ўжо сказаў.

А г е е в і ч *(да Петруся)*. Ты ж браўся за аналіз глебы.

П я т р у с ь. Я і раблю. Ды неабходна дапамога.

З м і т р о к. Навуковая экспедыцыя. Пастуху ў памочнікі вучоных!

Пятрусь *(да Агеевіча).* Выпускнікоў сярэдняй школы, старшакласнікаў.

Змітрок. А ўбіраць хто будзе? Усе заняты на сенаванні. Потым жніво. На ўліку кожны чалавек. Усё разлічана да самых дакопак.

Агеевіч *(да Змітрака).* Трэба ўсё ж выкраіць. *(Да Петруся.)* А можа, з настаўнікамі дамовішся? Ды рабі як след. Разгарні нам поўную карціну. На кожным полі і ўчастку.

Пятрусь. Разгарну. *(Выходзячы.)* А між іншым, жаўранкі з'ядаюць каларадскіх жукоў.

Змітрок. От жа дэмагог!

Агеевіч. Так падчас мы называем таго, хто ў чымсьці нас перавышае, дасягае большага.

Змітрок. Большага? Самі ж гаварылі: поза, фраза, акадэмічны тлум.

Агеевіч. Гаварыў, каб выклікаць на спрэчку. І ў ёй здалося нешта вартаснае, прывабнае.

Змітрок. Як той разумовы яд?

Агеевіч. Як прыхаванае святло, якое можа раптам асвятліць.

Змітрок. І асляпіць. Здаецца, асляпляе ўжо. Разгорне сваю карціну і павязе ў акадэмію. Абароніць дыплом, напіша дысертацыю...

Агеевіч. Была б карысць.

Змітрок. А як апублікуе? Выставіць напаказ калгас і нас. Аслепіць калгаснікаў, раённае начальства...

Агеевіч. Што ж ты прапануеш?

Змітрок. Даць яму адстаючую брыгаду на перыяд практыкі. Каб мы кантралявалі. Мы! А не ён.

Агеевіч. А хто абновіць картаграмы, глебавыя карты? Запрашаць вучоных? Паспрабуй знайсці, дамовіцца. А ўносіць усляпую ўгнаенні болей нельга.

Змітрок. Глядзіце, я засцерагаю, каб сумленне было чыстым.

**Уваходзіць Агашка.**

А г а ш к а. Добрага здаровічка.

А г е е в і ч. І вам.

З м і т р о к. Сядайце, калі ласка.

А г а ш к а. Не квактуха, каб расседжвацца. Ды і некалі. Яй-права.

А г е е в і ч. Пільнае што?

А г а ш к а. Пільнае — не пільнае, а і адкладваць навошта?

А г е е в і ч. Гледзячы што якое. Бывае, і адкласці варта, падумаць, узважыць.

А г а ш к а. Па-вашаму, мо яно і так. А як на мой бабскі розум, то сёння рабі як змогі. Яй-права. Як на сенаванні ці жніве. А заўтра хто ведае, як яно будзе. Бывае, захмарыць, задажджыцца...

З м і т р о к. І так бывае.

А г е е в і ч. То што ў вас такое?

А г а ш к а. Мо і маю Ію паслалі б павучыцца на якія курсы?

З м і т р о к. Разам са старшынёй? Мо і вас?

А г а ш к а. Праўду кажуць, чалавек хоча, а начальства рагоча. *(Заплакала.)* Каб мой Раман жыў... А то з ваенных ран памёр, а нам іх пакінуў. І некаму пажаліцца, памоч...

А г е е в і ч. Ну, гэта вы дарма. Дачка і вы ў пашане.

З м і т р о к. Ія на Дошцы гонару.

А г е е в і ч. Гордасць і акраса наша.

А г а ш к а. Такіх вучыцца і пасылайце.

З м і т р о к. Горад вабіць. Ён спакуслівы. З яго не хочацца дамоў.

А г а ш к а. А вы з годнасцю праводзьце. Каб помнілі, як іх шануюць і чакаюць.

А г е е в і ч. А мо і праўда?

А г а ш к а. Яй-права, таварыш старшыня. А пра горад я так скажу: з яго мы багацеем. Усе настаўнікі, медыкі, аграномы там вучыліся. І прыехалі во ў вёску. І вы... Ды што казаць, усё лепшае ў нас з горада. Яй-права.

А г е е в і ч. Хто б мог падумаць: гэткі агітатар!

Агашка. А была. І агітатарам, і брыгадзірам. І сагітоўвала. На што хочаш. Гэта цяпер маладзейшыя... Ды я не крыўдую — яны разумней, адукаваны болей.

Агеевіч. Ай ды цётка Агашка. Амаль сагітавала.

Зміт рок. Вас. Што ж да мяне, то хай сагітуе сама.

Агеевіч. Сапраўды. Думаю, з ёю мы да згоды прыйдзем.

Агашка. Калі ласка. Не крыўдзіце сірацінку. *(Выходзіць.)*

Агеевіч *(як выйшла Агашка)*. Вось да чыёй дачкі з ахвотаю пайшоў бы я за свата. А мо пойдзем выпраўляць памылку?

Змітрок. І рабіць новую?

Агеевіч. Баішся, што можа стацца, як у палясоўшчыка Тараса: кляпсь! — не паліць! Крамзель з другога — не пякець!

Змітрок. Учора не ведаў я вось гэтай карціны. *(Паказвае выпіскі-падлікі.)* А то прыціснуў бы як след. І ніякай выкруткі. Бачыце? Пчолы саміх сябе з'ядаюць. Плюс Петрусёвы аналізы. Трэба збываць. Як нерэнтабельных і заражоных.

Агеевіч. А апыляць хто будзе? Ты?

Змітрок. Прададзім пенсіянерам, хай забаўляюцца і апыляюць. Можам і аб'яву даць аб продажы іншым гаспадаркам.

Агеевіч. Пчол ці пчаляроў? На тваю ўладу — разам бы на выселкі. Ды, як казаў Адамейка, ёсць яшчэ праўленне, сход калгасны.

Змітрок. А мы? Навошта мы? У нас аналізы, эканамічныя падлікі. Пагодзіцца і праўленне. Баіцеся пагалоскі? То скажам: яны нас запрашалі, каб характарыстыку Мальвіне далі, паслалі вучыцца на калгасны кошт.

Агеевіч. А ты, аказваецца, не толькі эканаміст, а яшчэ і эгаіст, авантурыст.

Змітрок. Я — рэаліст. На жыццё і рэчы гляджу пагаспадарску. А эгаізм кожнаму ўласцівы: у большай, мен-

шай меры — то ўжо залежыць ад самапавагі. Так, ад самапавагі, ад разумення чалавечага ў чалавеку, усведамлення сваёй чалавечай годнасці.

А г е е в і ч. Пасля сённяшняй размовы не будзе ў мяне на курсах душэўнага спакою.

* * *

На прасцэніуме сустракаюцца С в е т а і З м і т р о к.

С в е т а. Чаго зажурыўся, планавік?

З м і т р о к. Нічога. Так...

С в е т а. Шкада цябе.

З м і т р о к *(у здзіўленні)*. Мяне?

С в е т а. Зусім змарнеў.

З м і т р о к. Якая ж ты насмешлівая зорка.

С в е т а. І зусім не насмешлівая.

З м і т р о к. А якая?

С в е т а. Харошая.

З м і т р о к. Лагодная?

С в е т а. Твая.

З м і т р о к. Мая? Бач ты! А я і не ведаў.

С в е т а *(засаромелася)*. Адкуль табе ведаць, калі Мальвіна з Іяю засцяць белы свет. Блукаеш паміж дзвюх сасонак і не бачыш прасцягу.

З м і т р о к. Ты сапраўды здзіўляеш. Дай зірну на сваю знічку. *(Паварочвае да сябе дзявочы твар, узіраецца.)* Ласкавы, зіхатлівы, вільготны бляск вачэй... Ты сапраўды як зорка.

С в е т а. А ты — месячык.

З м і т р о к. Ну і Света! Такога мне ніхто шчэ не казаў. Нават маці.

С в е т а. Мне гэтаксама: «зорка», «знічка»...

З м і т р о к. Мілая пацешка. Ты папраўдзе... любіш?.. Як жа я раней не заўважаў? Не знічка ты, не зорка, а сузор'е!

С в е т а. Я і за зорку згодна. Хаця, па-шчырасці, хаце-

ла б быць як сонца. Як бы жыццё асвятліла, як бы яго ўпрыгожвала!

З м і т р о к. І маё?

С в е т а. Тваё найболей.

З м і т р о к. А ведаеш, ты ўжо асвятляеш. Я адрываюся ад дзвюх сасонак.

С в е т а. І мкнеш да трэцяй? А не заблудзіш?

З м і т р о к. З табой гатовы заблудзіцца.

С в е т а. А мне хочацца з табою на прасцяг. Дзе сонца золатам сцеле пад ногі, дзе вятрыска кранае крылом...

З м і т р о к. Ты — чараўніца, Света. Як ні дзіўна, а мне таксама захацелася прасторы, сонца, ветру! Захацелася зрабіць нешта харошае. Дай цябе за гэта пацалую.

С в е т а. Адразу?

З м і т р о к. Табе не хочацца?

С в е т а. Іншым разам. *(Адступае.)*

Змітрок памкнуўся да дзяўчыны.

Не бяжы за мною. Табе нягожа, месячык. Да спаткання.

З м і т р о к. Да хуткага спаткання. *(Як застаўся адзін.)* Кахае. Аказваецца, і мяне кахаюць. Ну і Света! Ну і смяхутка! Спакуслівая, як грэх. І праменная. Так і свеціцца. Каб Мальвіна гэткаю была!..

**Карціна другая**

На пасецы на схіле дня. А д а м е й к а і М а л ь в і н а ў белых халатах і сетках ля расчыненага вулею. Бацька падкурвае дымаром, дачка корпаецца ў вулею.

А д а м е й к а. Так. Та-ак. Асцярожней. Во і ўсё. І ўся аперацыя. Магла б і доктаркаю стаць, хірургам.

М а л ь в і н а *(аддае бацьку пяро, пчалярскі нож і зачыняе вулей)*. Некаму ж трэба і пчол лячыць.

А д а м е й к а. Лячы, лячы. З часам прафесарам нашае справы станеш!

Мальвіна. Так ужо і прафесарам. Хоць бы такой, як ты.

Адамейка. Самавукам? Э, не — тут складаная навука.

Мальвіна з фанендаскопам прыслухоўваецца да вулею.

Што там?

Мальвіна. Гул з трэскам сухое кастры.

Адамейка. Запрацавалі. А ты адпачні. Я сам цяпер дагледжу.

Мальвіна. Табе ж нездаровіцца.

Адамейка. Палегчала. Як і табе. Ідзі дамоў — яшчэ пачытаеш.

Мальвіна. Бачыць там нікога не хачу.

Адамейка. Дарма. Там маці і неблагія людзі.

Мальвіна. Людзі абмываюць языкамі.

Адамейка. Трэба ж ім пра нешта гаманіць. А ты ўсміхайся ім, нібы нічога і не знаеш. Як фацэлія. Ці гарыцвет. І яны табе ўсміхнуцца ветла.

Мальвіна. Выдумае ж тата... *(З усмехам.)* Фацэлія. *(Адыходзіць да будана. Сама сабе.)* Як бы хацела ўсміхнуцца яму, гарыцвету. Ды не паказваецца болей. І не трэба. Не пабачыць яму цяпер усмешкі.

Адамейка. Дарослае дзіця. *(Згадвае нешта сваё.)* Як і Мальвіна тая. Нестае толькі тае пяшчоты і адвагі. Колькі ў вачах было лучнасці, колькі ў сэрцы цяпла, колькі ласкі!.. *(Ідзе да другога вулею.)*

Падыходзіць старшыня калгаса.

Агеевіч. Добрага здароўя, Адамавіч.

Адамейка. А, старшыня! Здарова!

Агеевіч. Як настрой?

Адамейка. У мяне?

Агеевіч. І ў пчол. Не агрэсіўны?

Адамейка. Ды не-е...

Агеевіч. Як жа не, калі вось нападае. *(Адмахваецца ад пчалы.)*

А д а м е й к а. Не спазнала. Даўно не бачыла начальства. А мо зусім не бачыла. З маладых. Мальвіна, сетку прынясі.

А г е е в і ч. Сапраўды, не быў даўно.

А д а м е й к а. А пчолы летнія жывуць па месяцу, па два ўсяго.

А г е е в і ч. Які кароткі век.

А д а м е й к а. У асенніх больш — па 8—9 месяцаў.

А г е е в і ч. А праўда, што высакагорныя не джаляць?

А д а м е й к а. Ёсць такія.

А г е е в і ч. Чаго ж не выпішаш міралюбівых?

А д а м е й к а. Прасіў. Не з-за міралюбства. Помесі высакагорных з нашымі даюць мёду ўдвая. Не паверылі ці пашкадавалі грошай.

М а л ь в і н а *(прыносіць сетку і халат)*. Дзень добры.

А г е е в і ч. Добры. Дзякуй, пчолка. *(Апранаецца.)* Як думаеш, чаго злуюць на мяне пчолы?

М а л ь в і н а. Мала медапосаў сееце. І саду мала, ліп... Крыўдуюць.

А г е е в і ч. Так, мала. Затое канюшыны ж цяпер сеем многа. І люцэрны.

М а л ь в і н а. І косіце ў самай квецені. А з канюшынай і пчол на сянаж. Дзеля прыправы.

А г е е в і ч. Удзень перасталі — толькі вечарам і ўранку. А грэчкі дык ніколі гэтулькі не сеялі.

М а л ь в і н а. За яе дзякуй.

А г е е в і ч. Твайму тату. Пераканаў праўленне. «Беларусь,— кажа,— колькі год не дае і палавіны плана грэчкі. Ганьба!»

А д а м е й к а. І не дасць без пчол. Зацвітае — трэба перавозіць.

А г е е в і ч. Таму і заехаў. Паглядзім, аблюбуем месцы ім. *(Да Мальвіны.)* Едзем?

М а л ь в і н а. Тата хай — ён ведае.

А г е е в і ч. А ты не? З маленства ж да пчалярства хілішся. Акадэмія — не трэба лепей.

Мальвіна адышла.

Агеевіч. Крыўдуе. А Змітрок можа пайсці ўверх.

Адамейка. Хочаш узвысіць чалавека — узвысь. Хочаш унізіць — таксама ўзвысь.

Агеевіч. Каб лепей бачыць яго заганы? Мудра сказана. У яго ёсць... Самаўпэўнены, ганарысты...

Адамейка. Чаго ж тады ішлі за свата? Многа давяраеце. За сябе вось пакідаеце.

Агеевіч. Хачу зберагчы для свайго калгаса. Усё-такі свае спецыялісты. А заганы — ад маладосці. Маладосць — не толькі душы цудоўныя парывы, а і нявопытнасць, гарачнасць, паспешлівасць у меркаваннях і ўчынках. З гадамі ўсё ўтаймуецца, уладкуецца.

Адамейка. Ды яно так. У сталыя годы мы часам без агляддкі крытыкуем маладых.

Агеевіч. Як ліпеньскі ўзятак?

Адамейка. Так сабе. *(Адчыняе вулей, падкурвае, вымае рамку.)*

Агеевіч. Амаль жа поўная янтару.

Адамейка. Заўтра выкатаем.

Агеевіч. Усе так напакаваны?

Адамейка. Дзе слабей — там меней.

Агеевіч. Чаго слабей? Падкормкі нехапала? То на яе ж не шкадавалі грошай.

Адамейка. Не шкадавалі і хімікатаў.

Агеевіч. На сад, пасевы. Вас жа папярэджвалі загадзя.

Адамейка. Атрута шкодзіць не толькі ў тыя дні, гадзіны. Яна пранікае ў кветкі і нават плады. Ды што казаць, атрута ёсць атрута.

Агеевіч. Наслухаўся Петруся? Ён такое выдумае, што і фантасты пазайздросцяць.

Адамейка. Я не сказаў бы. Ён тут збіраў мёртвых, хворых пчол.

Агеевіч *(распранаецца, ідзе да будана)*. Усюды нос

тыркне. *(Аддае Мальвіне халат і сетку.)* Лётае як той матыль. Так, Мальвіна?

Мальвіна змоўчыла.

Паехалі. *(Выходзіць.)*

Адамейка. Я вярнуся, доча. *(Ідзе ўслед за старшынёй.)*

Мальвіна. Чаго ён прыязджаў? Няўжо стаў дбаць пра пчол? А мо сватанне няўдалае загладзіць?.. Чытаць трэба, чытаць. *(Разгортвае кнігу.)* Каб спыталі: а што ты, Адамейка, ведаеш пра Арыстоцеля? Калумелу, Плінія, Вяргілія? Што яны пра пчол пісалі? Я прачытала б ім з Вяргілія:

Часта яшчарка грызе каварна соты,
І прайдзісвет-праныра таракан,
І на чужым тлусцеючы
Гультаяваты труцень месціцца;
Ці са страшнай зброяй
Грубы шэршань урываецца;
Ці шкадлівае патвор'е молі,
І ненавіслівы мінеўравы павук
Снуе сетку на яе дзвярах...

Вуркоча матацыкл.

Каго там чорт нясе? *(Хаваецца ў будане.)*

З'яўляецца Пятрусь.

Пятрусь. Ёсць тут жывая хоць душа? *(Падыходзіць да будана.)*

Мальвіна. Не падыходзь. Не падыходзь і блізка.

Пятрусь. Чаго так?

Мальвіна. А то не знаеш?

Пятрусь. Годзе, до злаваць. З-за нейкай сплёткі...

Мальвіна. Сплёткі?

Пятрусь. Якая папаўзла вужакай, абрасла небыліцай, раніла сэрцы. Не злуй — яшчэ мы пасябруем.

М а л ь в і н а. Ні прымірэнню, ні сяброўству не бываць.

П я т р у с ь. Шкада, ды час пакажа.

М а л ь в і н а *(нагадвае бацькавы словы)*. Час — справядлівы, ды марудлівы суддзя. Прысуд яго бывае надта позні, калі ў ім ужо няма патрэбы.

П я т р у с ь. А быць такою злюкай ёсць патрэба?

М а л ь в і н а. Ёсць.

П я т р у с ь. Хай так. Неяк жа сцярплю. А дзе бацька?

М а л ь в і н а. Навошта ён?

П я т р у с ь. Трэба. Таму і прыехаў.

М а л ь в і н а. То можаш паварочваць назад. Ён са старшынёй паехаў.

П я т р у с ь. Як жа я размінуўся? А ты ўсё чытаеш? Чытай, чытай. Магу даць свежанькі часопіс «Наука и жизнь». У ім пра мову пчол, іх размовы, танцы.

М а л ь в і н а *(з кплівай усмешкай)*. Прыехаў сказаць пра гэта тату?

П я т р у с ь. Яму хацеў сказаць пра іншае. А ў часопісе сапраўды шмат новага пра пчол. Пра іх мову, дыялекты. Пра сістэму колеравага зроку, пра механізм канстантнасці ўспрыняцця колеру. *(Сарваў кветку.)* А ведаеш, на якой хвалі пахнуць медуніцы? Ёсць жа гучанне кветак. Некаторыя вучоныя лічаць, што водар распаўсюджваецца асобымі электрамагнітнымі ваганнямі. Каля сарака год назад у Швейцарыі гледачы бачылі на экране «Сад Арміды», «Зачараваны лес» і «Балотныя міязмы», адчувалі іх водар. А праз чвэрць стагоддзя такі ж цуд паўтарыўся ў часе прагляду амерыканскага фільма «След тайны». Сцвярджаюць, што адрознівалі тады трыццаць пяць водараў. Так што... недалёкі час, калі ў кіно мы будзем не толькі бачыць кветкі, а з дапамогай радыётэхнікі адчуваць іх водар, як і тут...

М а л ь в і н а. Прыехаў чытаць лекцыю? То тут не клуб.

П я т р у с ь. Не хочаш слухаць?

Мальвіна. І не думай.

Пятрусь. Што-што, а думаць пра цябе не забароніш. Не ў тваёй уладзе. І не ў маёй таксама. Бо люблю. Люблю!

Мальвіна. Ты? Хіба вы, мужчыны, здольны на такое? Толькі бавіце час, вярэдзіце сэрцы.

Пятрусь. Я вярэджу? *(Парываецца да Мальвіны.)*

Мальвіна *(адскоквае)*. Не падыходзь. Не веру.

Пятрусь *(умольна)*. Мальвіна...

Мальвіна. Стань на калені.

Пятрусь. Не жартуй.

Мальвіна. На калені.

Пятрусь валіцца на калені.

Мальвіна. Які няўклюдны.

Пятрусь. Не натрэніраваны.

Мальвіна. Цяпер прасі даравання.

Пятрусь. За што? Што жыву на свеце?

Мальвіна. Што заходзіў да Іі.

Пятрусь. Эгаістка. А эгаізм — атрута для кахання.

Мальвіна. Што п'янстваваў.

Пятрусь. За тое выбач.

Мальвіна. Цяпер пакляніся, што ў цябе нічога з ёю не было.

Пятрусь *(з дакорам)*. Мальвіна, як можна?

Мальвіна. І ўсё ж кляніся.

Пятрусь. Даю чэснае слова.

Мальвіна. Цяпер дай чэснае, што не будзеш на дзяўчат пазіраць.

Пятрусь. То ўжо занадта.

Мальвіна. Не хочаш? І не трэба. *(Адварочваецца.)* Можаш ехаць.

Пятрусь. Ну, не буду. Не буду заглядацца на дзяўчат.

Мальвіна. І маладзіц.

Пятрусь. Клянуся.

М а л ь в і н а. Які ж ты... слабы, бесхрыбетны, варты жалю...

П я т р у с ь. Слабы? *(Ускочыў, падхапіў яе на рукі і горача цалуе.)*

М а л ь в і н а. Не трэба, Пятрусь. Не трэба...

П я т р у с ь. Мальва, любая...

* * *

П е с н я д з я ў ч а т.

Медунічка мядовая,
Не стой жа ты пры дарозе:
Хлопцы пойдуць — цябе скосяць,
Дзеўкі пойдуць — цябе зграбуць,
Вазы пойдуць — цябе звязуць.

На прасцэніуме з'яўляюцца В о л я і С в е т а.

С в е т а. Зойдзем на пасеку.

В о л я. Потым — на начлег. Усё адно ў клубе сёння выхадны.

С в е т а. Ці застанецца ж яна нанач?

В о л я. Думаеш, збаіцца? Цяпер у яе двое ахоўнікаў, як у каралевы.

С в е т а. Шанцуе людзям! Хоць бы да нас пазаляцаўся хто. Цікава, праўда?

В о л я. Яшчэ цікавей дуэль.

С в е т а. Не, дуэлі не хачу. Каб па-харошаму. Прыгожа, міла. Чытаеш часам у рамане і адчуваеш, як трапеча сэрца, палаюць шчокі, і робіцца так млява, мройна.

В о л я. І кудысьці цягне, і чагосьці хочацца... І слодыч, і мука безнадзейнага кахання.

С в е т а. А ты скуль ведаеш?

В о л я. Чытала.

С в е т а. А сама не адчувала?

В о л я. Не.

С в е т а. Маніш. Хаця... зялёная яшчэ.

В о л я. А ты выспела? Глядзі, згарыш з першым жа хлопцам.

С в е т а. Не згару. А наогул, хай бы была тайна. Можа, у ёй і шчасце... *(Па-змоўшчыцку.)* Давай ціхутка, неўпрыкметку?.. Скідай балеткі.

**Карціна трэцяя**

На пасецы ля будана М а л ь в і н а і П я т р у с ь.

П я т р у с ь. Такой прыгожаю цябе ніколі шчэ не бачыў.

М а л ь в і н а. А я — такім памаўзлівым і бессаромным.

П я т р у с ь. Сама вінаватая. *(Нагадвае яе словы.)* Слабы, бесхрыбетны, варты жалю...

М а л ь в і н а. Хіба ў тым сіла?

П я т р у с ь. Што ж ты хочаш; каб спярша прыйшоў у сваты, як Змітрок?

М а л ь в і н а. Кахання я хацела, чыстага, вялікага, святога.

П я т р у с ь. Яно і ёсць. І будзе яшчэ большым.

М а л ь в і н а *(з недаверам)*. Большым?

П я т р у с ь. Мне дарага кожнае тваё дыханне...

Закрычалі дзяўчаты.

С в е т а. І-і-і...

В о л я. Чаго ты?

С в е т а. Вожык!..

М а л ь в і н а *(да Петруся)*. Ідзі! Зараз жа.

З'яўляюцца басаногія д з я ў ч а т ы.
П я т р у с ь крута павярнуўся і пайшоў.

С в е т а *(да Мальвіны)*. То ж я на вожыка ступіла. Мо ёсць чым забінтаваць капыт?

М а л ь в і н а. Ёсць аптэчка.

В о л я. Давай.

М а л ь в і н а ідзе ў будан. Зноў затрашчаў, залапатаў, завурчэў матацыкл і сціх.

Света. І трэба ж было так натрапіць?
Воля. Ты пра вожыка ці Петруся?

Мальвіна прыносіць аптэчку.

Света. А вожык не заразны?
Мальвіна. Санітар.
Воля. Яе даўні і верны кавалер. *(Забінтоўвае нагу сяброўкі.)*
Света. Мёду б замест ёду.
Мальвіна. Зараз паласуецеся. *(Вяртаецца ў будан.)*
Света. Змажам губы. А я як ведала — з полудніка аставіла крыху пірага. Сухама не еўся.
Воля. Нестае бутэлечкі віна — пір бы закацілі.
Света. Будзе на заручынах. А потым вяселейка!

Ой, вяселейка, ой, вяселейка
Едзе з песняй да сяла *.

Мальвіна прыносіць абрэзкі сотаў з мёдам.

Света. Пазавеш?
Мальвіна. Год праз пяць ці болей. А пакуль... магу пазваць на медазбор.
Света. От дзякуй!
Воля. То няпраўда, што выходзіш замуж?
Мальвіна. Матачка дачку яшчэ не прапіла.

Сяброўкам ніякавата.

Воля. А мы, прызнацца...
Мальвіна. Сплёткам далі веры.
Воля. Злавалі нават: то з Петраком, то Змітраком...
Мальвіна. Прыйшлі ўпэўніцца? Ніякіх, дзевачкі, не было сватоў. Яны заходзілі да таты на бяседу. І сёння старшыня тут быў. Паехаў з татам на грэчку прымеркаваць, дзе вуллі ставіць.
Света. Шчаслівая ты, Мальва.

---

* З песні на словы А. Дзержынскага.

М а л ь в і н а. Чым?

С в е т а. Усім. Наўкол такая прыгажосць і насалода.

М а л ь в і н а. Любіш мёд?

С в е т а. І ў сне сню. Краскі і мёд. І нават не самы мёд, а мядовыя росы.

В о л я. Дыяменты-росы — дзявочыя слёзы.

С в е т а. Салодкія росы. Росы-кара́лі. Бурштынавыя кара́лі. На медуніцах, фацэліі, канюшыне — скрозь. Ачнуся і зноў заплюшчваю вочы.

В о л я. Ты закахалася, няйначай.

С в е т а. Ыгы.

М а л ь в і н а. У каго?

С в е т а. То маёй хай будзе тайнай.

В о л я. А я мінулай ноччу бачыла ў сне Гагарына. *(Мальвіне.)* І твайго бацьку. На Марсе даглядалі сад і пчол.

М а л ь в і н а. Мо пад уражаннем тэлевізійнай пастаноўкі.

С в е т а. Ці песні «І на Марсе будуць яблыні цвісці».

В о л я. Мажліва. *(Да Мальвіны.)* І Пятрусь з табою быў там. Адбіваліся ад Змітрака.

М а л ь в і н а. Дзіўны сон. Аж страшна.

В о л я. Не бойся. Плюй на іх цераз левае плячо, і ўсё будзе ладна. Адпрэчыла во Петруся і правільна зрабіла.

С в е т а. І няправільна. Змагайся, Мальвіна, за каханне. Што Пятрусь цябе кахае — мы бачылі. А Ію — яшчэ невядома. Ну, жылі разам, раслі... І што з таго? *(Да Мальвіны.)* Хочаш, я табе верш раскажу? Армянскай паэткі.

В о л я. На армянскай мове?

С в е т а. Па-армянску не ведаю. Па-руску хочаце? Харошы верш харошай паэткі.

В о л я. Давай.

С в е т а. Як жа гэта?.. А!

Ушел...
Но знаю всей душою —

Нам друг от друга не уйти,
Я знаю, я всегда с тобою,
Я перекрою все пути.

...Когда домой вернешься поздно,
Ты снова вспомнишь обо мне.
Я стану дымом папиросным,
Я стану звездами в окне.

Через любые километры
До сердца сердцем дотянусь.
В окно влечу я нежным ветром,
Закроешь — бурею ворвусь!

Есть у любви своя отвага.
Влетев в твой дом,
В твой мир, в твой быт,
Смешаю все твои бумаги,
Всю жизнь смешаю, может быть...

Не сможешь ты меня забыть *.

*(Счакаўшы крыху.)* Ну, як? Чаго галовы пахілілі, як вербы ніцыя? І як такіх самотных хлопцы любяць? На тваім бы месцы, Мальва, я пацалункамі апякла ўсяго.

Воля. Ненармальная.

Мальвіна. Збегай да крынічкі, глыні вады, умыйся.

Света. Я пайду на рэчку і папешчуся. Люблю яе лагодны аксаміт. *(Вальсіруе.)* Купаецца сонца ў Дняпры... *(Спыняецца і ўсклікае.)* Сонца! І Я!

Мальвіна і Воля здзіўлена глядзяць на Свету.

Пойдзем, Мальва. Паплаваем, як лебедзі. І стане так хораша, лагодна. Забудуцца ўсе засмучэнні і няўдачы.

Мальвіна. Ідзіце сабе. Тата вернецца, тады і я.

Воля. Мы пачакаем.

---

* З верша С. Капуцікян.

Мальвіна. Не, дзевачкі, не варта.

Света. А тут не заначуеш?

Мальвіна. Не. Дзякуй, што завіталі.

Света. Табе — за ласунак. *(Адыходзячы.)* А Петруся нікому не ўступай. Нават самой багіні хараства, кахання.

Месяц, умыйся расою
На вячэрняй зары.
Месяц, пойдзем з табою...

Света і Воля знікаюць.

Мальвіна. Мядовыя росы. Дыяменты-росы. Дзявочыя слёзы. І сны. Гэтулькі загадак і праяў. *(Прыгадвае парады сябровак.)* Змагайся, Мальва, за каханне. Не ўступай нікому. Нават самой багіні хараства, кахання. А тая: плюй на іх цераз левае плячо. Анёл і д'ябал. Хто з іх анёл?..

Я стану дымам папяросным,
Я стану зоркамі ў акне...
У акно ўлячу лагодным ветрам,
Зачынеш — бураю ўварвуся.

Не, так я не змагу. Нават як Ія не магу.

Пайшоў...
Ды знаю ўсёй душою —
Нам друг ад друга не ўйсці...

Што гэта са мною? З думак не сыходзіць.

## Дзея трэцяя

### Карціна першая

Тая ж веранда пры доме Адамейкаў. На ёй Марына і госць.

Госць. Старшыня, кажуць, на курсы паехаў.

Марына. Яго замяняе планавік.

Г о с ц ь. І ён недзе ў адлучцы. Дай, думаю, зайду да пчаляра.

М а р ы н а. Сёння медазбор. Ды на вечар будзе. Пасядзіце. Я вам чаю... З чаборам любіце?

Г о с ц ь. З чаборам? Гм...

М а р ы н а. А мо квасу?

Г о с ц ь. О, гэта з прыемнасцю, шаноўная.

М а р ы н а з глечыкам выходзіць.

Г о с ц ь *(аглядае веранду)*. Шыкоўная веранда, газ...

Уваходзіць А к с ю т а.

А к с ю т а. Дзень добры вам.

Г о с ц ь. І вам. Хоць і на зыходзе ён.

А к с ю т а. Аняго ж. А гаспадароў яшчэ няма?

Г о с ц ь. Гаспадыня недзе тута.

А к с ю т а. А скуль вы? Нешта не бачыла ні разу.

Г о с ц ь. Не зблізку, шаноўная. Ды і не з-за мора, не з-за гораў.

А к с ю т а. Кажаце, нібы ў казках, нейкімі загадкамі. На агледзіны, ці як?

Г о с ц ь. На агледзіны. Гляджу вось...

А к с ю т а. Сват, мусіць. Ці купец?

Г о с ц ь. А як рэвізор? Карэспандэнт?

А к с ю т а. Хто вас знае. Раз на агледзіны, то нешта ж трэба.

Г о с ц ь. Ды не без патрэбы.

А к с ю т а. І да нас заходзьце. Мы тут па-суседству.

Г о с ц ь. А чай, шаноўная, у вас з чаборам? Ці яшчэ з чым?

А к с ю т а. Чай?

Г о с ц ь. Але, чай. Ці квас?

А к с ю т а. Мо тае вадзіцы, што гусі не п'юць?

Г о с ц ь. Ды не, самага звычайнага квасу.

М а р ы н а. Нясу-нясу. *(З'яўляецца з глечыкам.)* Аксюта, і ты тута?

А к с ю т а. Аняго ж. Думала, нікога вас няма, а ён...

Г о с ц ь. Бадзяга, валацуга нейкі.

А к с ю т а. Хто б ні быў, а сустрэць, прывеціць трэба. Аняго ж.

Марына засцілае стол бялюткім абрусам.

А к с ю т а. То я пайду. *(Да госця.)* Заходзьце, калі што якое. Сын неўзабаве мае быць.

Г о с ц ь. Шчыра ўдзячны, шаноўная.

А к с ю т а выходзіць.

Г о с ц ь. Цікаўная кабета.

М а р ы н а *(ставіць на стол глечык, карэц)*. Дужа цікаўная. На яе месцы я сюды і не зірнула б.

Г о с ц ь. Чаго так? Пасварыліся? Бывае. Куры ўзляцяць на грады, парася ўваб'ецца.

М а р ы н а. Каб жа куры — аддала б не шкадуючы. І парася. А то... Ды што казаць?.. *(Налівае госцю.)*

Г о с ц ь. Гаспадара хацела? І то бывае.

М а р ы н а. Гэтага яшчэ неставала.

Г о с ц ь. Пеніцца, бы шампанскае.

М а р ы н а. То ж бярозавік. Каштуйце.

Г о с ц ь. Бярозавік у ліпені?

М а р ы н а. Піце на здаровічка.

Г о с ц ь *(п'ючы)*. З вашчынай? Напітак боскі, што і казаць.

М а р ы н а. Мо да квасу што?

Г о с ц ь. Замнога ўдзячны, шаноўная. Нічога болей мне не трэба. Раней на Беларусі квас быў праз увесь год. Пра чай і гамонкі не вялі. Цяпер жа чай, кава, ліманад.

М а р ы н а. Каб жа чай! Гарэлку жлукцяць.

Г о с ц ь. І закон не памагае?

М а р ы н а. Не, апошнім часам пацішэлі. А то ж у палучку ўсю ночку жлукцяць, і як толькі тыя кішкі не перагаралі. Некаторыя жылі прапіваючы, а не прыпяваючы.

Па радыё перадаюць песню.

Над ракою ў спакоі
Расцвітала каліна.
У сяле за ракою
Падрастала дзяўчына.

Вячэрнія зарніцы. Шкада, гаспадара няма. Дужа любіць гэту песню. А яшчэ «Бярозы ды сосны».

Г о с ц ь. Партызан, мабыць?

М а р ы н а. І там быў пчаляром.

Г о с ц ь. І там паланілі пчолы?

М а р ы н а. Спачатку паланілі немцы — раненага ўзялі ў палон. Ды знайшлася спагадная душа. Неяк выпрасіла, выкупіла ў ахоўнікаў. Выхадзіла мёдам, травамі.

Г о с ц ь. То былі вы.

М а р ы н а. Не, пчаляров дачка, Мальвінай звалі. А я—Марына. Фашысты яе закатавалі за сувязь з партызанамі. Усю іхнюю сям'ю парашылі. Тады і зарок даў. І пачаў разводзіць пчол. На дрэвах вуллі ставіў, даглядаў. І пры шпіталі быў. Раненых лячыў мёдам, травамі. Як і яго — Мальвіна. А як выгналі чужынцаў — сюды пчол перавёз. Доўга не жаніўся — не мог забыць дзяўчыну тую. І дачку назваў яе імем.

Г о с ц ь. Мальвінай? *(Пра сябе.)* Мальвіна — Марына — Галіна...

М а р ы н а. Ды во і сам ідзе.

Уваходзяць А д а м е й к а і П я т р у с ь.

П я т р у с ь. Добры вечар.

М а р ы н а. Хай будзе добры. *(Да мужа.)* Толькі што тваю песню перадавалі па радыё. З госцем слухалі.

А д а м е й к а. Рады гасцям.

Г о с ц ь. Харошая песня. І квас. Цуд, а не квас.

А д а м е й к а. Ды яна ў нас...

М а р ы н а. Якое там!.. Піце. *(Мужу і Петрусю.)* І ты. Пятрусь. *(Ставіць кубкі.)*

П я т р у с ь. Дзякуй, Марына Стахаўна.

Г о с ц ь. Як медазбор?

А д а м е й к а. Ды так...

Г о с ц ь. Не багаты? Разумею. Па пуду таварнага з вулля, а па цэнтнеру з'ядае сям'я.

А д а м е й к а. Яны маюць права на гэтыя цэнтнеры.

Г о с ц ь. І мы ж маем права болей мець.

П я т р у с ь. Хто ж, як не пчаляр, рупіцца пра тое?

Г о с ц ь. Калі не сакрэт, колькі маеце на продаж?

П я т р у с ь. Вы — нарыхтоўшчык?

Г о с ц ь. А вы—эканаміст, збыўца?

М а р ы н а. Ды не, не ён.

Г о с ц ь. Хаця... той ведае.

П я т р у с ь. Скуль? Толькі ж важылі? Без яго.

Г о с ц ь. Ведаў, значыць, загадзя. На то і планавік-эканаміст. Ён і званіў нам...

П я т р у с ь. Каб ехалі па мёд?

Г о с ц ь. Па пчол.

П я т р у с ь. Што-о?..

А д а м е й к а. Жартуеце.

Г о с ц ь. Зусім паважна.

П я т р у с ь. То вы купец?

Г о с ц ь. Як кажа вашая суседка, на агледзіны.

М а р ы н а. Аксюта была тута.

А д а м е й к а. Ах, Аксюта!.. Колькі ж вам трэба?

Г о с ц ь. Уся пасека.

П я т р у с ь *(яшчэ больш здзіўлена)*. Што-о!..

А д а м е й к а. Уся?

Г о с ц ь. Але, шаноўныя. Ваш эканаміст казаў: можаце купляць усё, да вулею.

П я т р у с ь Хіцер Зміцер.

Г о с ц ь. Ну, а старшыня наш любіць пчолак, знае ў іх толк. Дыплом абараняў па пчолах.

А д а м е й к а. А-а, той самы...

М а р ы н а. А божачка, што ж цяпер будзе?

А д а м е й к а. Самачынна не мае права. Не яго ўласнасць!

М а р ы н а. Ён жа за старшыню цяпер.

А д а м е й к а. Усё адно: павінна быць рашэнне.

М а р ы н а. Мо і ёсць, скуль ты знаеш? Мо і старшыня заадно?

А д а м е й к а. Не можа таго быць. Яшчэ ж учора мы глядзелі з ім, дзе вуллі на грэчцы ставіць.

М а р ы н а. Вер ты ім. Во апыляць грэчку і прададуць.

Г о с ц ь. А калі разам з пчоламі ўсю вашу сям'ю?

А д а м е й к а. Купіце?

Г о с ц ь. З задавальненнем.

П я т р у с ь. Пчаляр не прадажны.

Г о с ц ь. Выбач, шаноўны. Я хацеў спытаць: а калі вас запрасіць у наш калгас? Паставім дамок у садзе, з гэткаю ж верандай. І пасеку перавязём.

П я т р у с ь. Не будзе таго, шаноўны. Мы самі расшыраць будзем пасеку. Створым вялікую пчалаферму і будзем даваць вуллі напракат іншым гаспадаркам на перыяд апылення.

А д а м е й к а. І вырошчваць беларускі чай, лекавыя травы.

Г о с ц ь. Чай?

П я т р у с ь. А што? Столькі ў нас адукаванай моладзі! Патрэбна прастора іхнім мерам, шырыць гарызонты дзейнасці на зямлі бацькоў.

Г о с ц ь. Нядаўна ў Тырговіштэ бачыў я, як дзяўчаткі даілі пчол.

М а р ы н а. Даілі пчол?

П я т р у с ь. Пацвельваецеся, шаноўны.

Г о с ц ь. Зусім не. У кааператыўнай лабараторыі мініяцюрнымі лыжачкамі вымала з сотаў густое белае малачко. Тонкая, ювелірная праца. Па расінцы збіраюць і на сусветны рынак пастаўляюць тоны эліксіру жыцця.

М а р ы н а. Тоны?

Г о с ц ь. Так, тоны пчалінага малачка, пылку, прапалісу. Гэта апроч мёду і воску.

М а р ы н а. Дзе ж такія Тырговіштэ?

Г о с ц ь. У Балгарыі.

М а р ы н а. Вы былі ў Балгарыі?

Г о с ц ь. Калгас пасылаў. У міжкааператыўную гаспадарку. Дарэчы, старшыню завуць там, як і вас,— Марын. Марын Багданаў. Дык вось у той гаспадарцы пяцьдзесят сем пасек, восем тысяч пчаласем'яў! У Балгарыі ўжо дзевяць такіх спецыялізаваных гаспадарак, а ў іх восемсот тысяч кааператыўных пчаласем'яў.

А д а м е й к а. То і вы ствараеце такую гаспадарку?

М а р ы н а. Таму і прыехалі да нас?

П я т р у с ь. Не благі купец, не благі, ды прыехаў дарма.

Г о с ц ь. Пасля таго што расказала гаспадыня, грэх было б у вас купляць. А прыехаў не дарма. Сустрэўся во з харошымі людзьмі. Папіў такога квасу! Харошы квас. Дзівосны! Замнога ўдзячны.

**Карціна другая**

П е с н я.

Зачем вы, девочки,
Красивых любите?
Одни страдания
От той любви *.

Ідуць В о л я і С в е т а.

В о л я. Ты яшчэ спала і сніла краскі і росы, як я цалавала іх. Коцікі, пралескі, лотаць, траўку. І плакала ўпотай. Слёз было, што і рос. А потым азірнулася: у кожнага свой клопат. Птушкі свае гнёзды ладзяць. І нікому да цябе ніякай справы. А тут яшчэ сны. Гагарын, сады на Марсе. І Адамейкаў сённяшні расказ на пасецы пра сувязную.

С в е т а. І тая цалавала кветкі, траўку, лістоту перад смерцю.

В о л я. Во і я, можа, памру.

* Музыка Я. Пцічкіна. Словы І. Шаферана.

С в е т а. Што ты, Воля? Мо каго кахаеш? І безнадзейна?

В о л я. Я ведаю яго дзень нараджэння. І ў той дзень езджу ў горад і адтуль віншую тэлеграмай. Як выступае — пляскаю гучней за ўсіх. А ён не заўважае. Ці заўважаць не хоча. Сама адчуваю, што нехарашо ўсё, ды парабіць з сабою нічога не магу.

С в е т а. Хто ж ён? Настаўнік?

В о л я. Не. Не пытайся — не скажу.

С в е т а. То яму скажы, прызнайся.

В о л я. Не магу. Паміраць буду і то...

С в е т а. Дурненькая. А я сказала б. Хай ведае. А што? Таіць?

В о л я. Не магу, бо ён жанаты. *(Выходзіць.)*

С в е т а. Жанаты? *(Спыняе сяброўку.)* І што з таго, як жанаты? Кахаць не грэх, каго б то ні было. Хай мучаецца і ён, калі сумленне мае. Нашто ж адной?

Выходзяць. З'яўляецца А к с ю т а.

А к с ю т а. Частуюць. Аняго ж. І Пятрусь у іх. Падмазваюць і яго, каб не цураўся. Знаю іхнія хітрыкі. Зёлкаў дадуць. Кропель. Мо і не знаді, то навучыла. Во дура. Та ж трэба было так разгаманіцца. Ды самага вернага спосабу не сказала, не. Мо і не ведаюць. А чары Іїны не памаглі, раз сюды ходзіць. Дарма падмазвалі. Затое я падмазала. Не сёння-заўтра ўсе пабачаць. Пайду і вам падмажу. Так падмажу, што пчолы будуць ляцець ад вас, як ад чумы.

Чуваць А г а ш ч ы н лямант: «А во-вой-вой!.. А людзечкі!..»
А к с ю т а выходзіць. Бяжыць І я.

А г а ш к а. Вярніся, Ія. Вярніся, дачушка. Людзечкі добрыя!..

З'яўляюцца П я т р у с ь, М а р ы н а, г о с ц ь і А д а м е й к а.

Спыніце мне яе. Вярніце.

А д а м е й к а. Чаго яна?

А г а ш к а *(ужо на сцэне).* Мазутай картку вымазалі на Дошцы гонару.

М а р ы н а. А божачка!.. Як некалі вароты дзёгцем.

П я т р у с ь. Сволачы.

А г а ш к а *(з плачам).* Во як яно выйшла, Петрусёк. А ты казаў: звяга — не брага, не звяртайце ўвагі.

Г о с ц ь. Якая дзікасць — мёд і дзёгаць.

А г а ш к а *(да Петруся).* Знайдзі яе цяпер.

Падыходзяць д з я ў ч а т ы.

П я т р у с ь. Сяброўкі пашукаюць. Я адвязу Адамавіча на пасеку — мо там.

А г а ш к а. Там яе не будзе.

М а р ы н а. Пашукайце, дочанькі, а то, бывае...

А г а ш к а. Рукі на сябе накладзе, яй-права. *(Ляман-туе.)* А мая ж ты сіраціначка!..

А д а м е й к а. Не хавай жывую.

П я т р у с ь *(да дзяўчат).* Ля рэчкі пашукайце. А я — на пасеку, на станцыю... Паехалі, Адамавіч.

А г а ш к а. Чакай, Пятрусь. Спярша скажы. Пры ўсіх скажы, каб усе ведалі: ці вінаватая яна? Ці было што ў вас?

П я т р у с ь. Усе і так ведаюць: вы мне... як родныя. Таму і заходзіў без аглядкі. Як да матулі і сястры. *(Адыходзіць з Адамейкам.)*

Знікаюць і д з я ў ч а т ы.

А г а ш к а. А матулю і сястру зганьбілі во. Яй-права. За-гу-бі-лі...

М а р ы н а. Супакойся, Агашачка. Супакойся.

А г а ш к а *(да госця).* А ўсё завідкі. Зайшоў да нас — і завідкі ўзялі: чаго не да іх. А тады не бачылі іх на пажарышчы. Пакуль не ўзяла Петруся на рукі і не прынесла да сябе.

Г о с ц ь. Ну, чаму ж так, шаноўныя? Дамы якія! І ў кожным — газеты, кнігі, электрычнасць, радыё. Колькі тэлевізараў!

М а р ы н а. І цілівізары, і газ, і пральныя машыны. І мэбля, як у горадзе. І апранаюцца па модзе, жывуць, як у мёдзе...

Г о с ц ь. Вось іменна!.. То чаму ж такое?

А г а ш к а. Чорныя завідкі. І ніякай хіміяй іх не вытруціш. А дачушачка мая, сірацінечка. Рукі на сябе наклала ўжо. *(Бяжыць.)*

Г о с ц ь. Чакайце, мы з вамі...

**Карціна трэцяя**

На пасецы вечаровым часам.

М а л ь в і н а *(палахліва)*. Ой, нехта бяжыць сюды. *(Здзіўлена.)* Ія? *(Як падышла Ія)*. Што з табою?

І я. Фотакартку мазутай на Дошцы гонару...

М а л ь в і н а. Хто?

І я. Хто ж яго ведае? Мо і Змітрок.

М а л ь в і н а. Змітрок?

І я. Учора прапаноўваў руку і сэрца. Адмовілася. Як і ты.

М а л ь в і н а. Я?

І я. А то не? Прыходзіў жа ў сваты.

М а л ь в і н а. Яны прыходзілі да таты на бяседу.

І я. Няпраўда! Ён прызнаўся мне. Пагражаў назло збыць пасеку. Прадаць да вулею, да мухі. Як нерэнтабельную. А сёння ўжо і купец з'явіўся. Аксюта кажа, на агледзіны.

М а л ь в і н а. Паразіт. А я думала...

І я. Што?

М а л ь в і н а. Мёду пакаштуеш?

І я. Не хочацца.

М а л ь в і н а. То квасу выпі.

І я. Нічога мне не хочацца.

М а л ь в і н а. А я думала...

І я. З-за Петруся прыбегла? Змірылася ўжо. У думках.

Ды сэрца не згаджаецца, шчыміць. Праклятае сэрца. Не хоча зразумець яно. Не хоча!..

Мальвіна. Чым жа памагчы табе?

Ія. Сабе памажы. Сабе і бацьку.

Мальвіна. Як?

Ія. На станцыю і ў горад. У райком, пракуратуру. Раніцою будзем там. Раскажам. Нешта ж зробяць.

Мальвіна. Не дачакаўшы таты?

Ія. Пакуль будзеш чакаць — Змітрок усё прадасць.

Мальвіна. А экзамены? Сама ж казала: «Правалішь — пасміхацца будзем».

Ія. Дабіцца праўды, справядлівасці — галоўнейшы экзамен.

Мальвіна. Усё так неспадзявана.

Ія. Як сабе хочаш — я паеду.

Мальвіна. Шкада бацькоў — будуць хвалявацца.

Ія. А мне, думаеш, не шкада маці? Там вык, маці ламае рукі. *(І сама плача.)* То давай давядзём, што і мы нечага вартыя.

Мальвіна. Чаго мы вартыя — яшчэ невядома.

Іія. Не заступяцца ў раёне, вобласці — у Мінск паедзем!.. Пішы бацьку, і гайда на станцыю.

Мальвіна. Што пісаць?

Іія. Не шукайце, не гукайце, не пытайце. Вернемся з праўдаю. Пішы, пішы.

Мальвіна *(піша)*. А як яе не знойдзем?

Іія. Не можа быць, каб не знайшлі. А ўрэшце ўладкуюся дзе-небудзь. Падрыхтуюся і таксама паступлю ў інстытут ці акадэмію. Пішы, пішы. Тады паглядзяць. Напісала? Пакладзі, ды каб знайшоў адразу.

Мальвіна *(кладзе паперку пры ўваходзе ў будан)*. Бывайце, пчолкі.

Іія. Не плач. Скончыш акадэмію і не гэткую пасеку развядзеш. *(Бярэ Мальвіну за руку і адыходзіць з ёю.)*

З'яўляецца Аксюта.

А к с ю т а. Пагнала-такі халера. *(Вымае з-пад кофты нешта загорнутае ў анучу і змазвае вуллі знізу.)* Зараз вам падмажу. Годзе раскашоўвацца. Давядзецца як усім рабіць. Мы-то прызвычаены. А вам мутарна будзе. Ой, мутарна. *(Насцярожылася.)*

З'яўляецца З м і т р о к, заўважае маці, ды ў цемры прымае за Мальвіну.

З м і т р о к. Мальва!

Аксюта прысядае за вуллем.

З м і т р о к. Не бойся — не крану. Прыйшоў апошнім разам, за апошнім словам. Нікога гэтак не прасіў і прасіць не буду. *(Падыходзіць бліжэй да вулею.)*

Аксюта ўскочыла і пашыбавала.

З м і т р о к. Мама? Мама!

А к с ю т а *(спынілася)*. Цішэй, а то ўчуюць.

З м і т р о к. Чаго тут, мама? Што рабіла?

А к с ю т а. То ўжо ведаць мне.

З м і т р о к. Мазутай пэцкала? Як там?..

А к с ю т а. Аняго ж. Тут ні паху, ні знаку.

З м і т р о к. Гэта ж злачынства, мама. Як можна?

А к с ю т а. А ім можна пляваць табе ў твар? *(З дакорам.)* Ані гонару ў цябе, ані мужнасці. А яшчэ мужчына. Сам жа казаў...

З м і т р о к. Што? Што я казаў?

А к с ю т а. Прадаць, звесці пчол.

З м і т р о к. То ж зусім іншае. Законна. А ты...

А к с ю т а. Аняго ж, прадасі. Купца закарагодзілі. І Петруся ўлагоджваюць. Частуюць, пояць.

Залапатаў матацыкл.

Хадзем, сынок, а то нехта едзе.

З м і т р о к. Скажы, што тут рабіла?

А к с ю т а. Таго не пераробіш.

З м і т р о к. Скажы, а то спыню матацыкл і адпраўлю ў міліцыю.

**Аксюта.** Адпраў. Я нічога не рабіла. Цябе з Мальвінай цікавала. Цябе, пяшчасцейка маё...

**Змітрок.** Сам адвёз бы, ды сораму не абярэшся. *(Ідзе ўслед за маці.)*

З'яўляюцца Адамейка і Пятрусь.

У вечаровай цішы ўсё выразней чуецца пчаліны звон, ды не аднастайны, як раней.

**Пятрусь.** А пчолы гудуць. Няма спачыну і ўначы. Як і вам.

**Адамейка.** Мне-то хутка будзе. *(Прыпыніўся, задыхнуўся.)*

**Пятрусь.** Што з вамі, Адамавіч?

**Адамейка.** Здае матор.

**Пятрусь.** Не хвалюйцеся, Адамавіч. Усё абыдзецца. Ія знойдзецца, і пасека будзе на месцы. Я прывяду сюды ўсё праўленне, паклічу ўсіх на сход. У такую вось пару. Хай пабачаць, якія яны працавітыя, як шчыруюць. Вось дзе праўдзівы скарб!

**Адамейка** *(з палёгкаю).* Дзякуй, сынку. Хацеў бы мець цябе за сына. Ды жаніся на Іі. Жаніся.

**Пятрусь.** Што вы, Адамавіч?

**Адамейка.** Жаніся, раз так выйшла. Ты — іхні. Мальвіна! *(Ідзе да будана.)* Доча!

**Пятрусь.** Не чутно.

**Адамейка.** Што ж яна не дачакалася? *(Прыслухоўваецца.)* А пчолы не проста вентылююць — нечым устрывожаны. Як людзі. *(Грамчэй.)* Доча! Што тут было?

**Пятрусь** *(з ліхтарыкам зазірае ў будан).* Тут нейкая паперка.

**Адамейка.** Яе выпіскі з кніжок.

**Пятрусь** *(усё ж паднімае паперку, чытае сабе).* Ія такі з ёю.

**Адамейка.** Мальвіна!..

**Пятрусь.** Паехала Мальвіна. І Ія з ёю.

**Адамейка.** Як паехала? Куды?

13 Зак. 1299

**Пятрусь.** Па праўду ў горад.

**Адамейка.** Бесавы дочкі. Навошта ж так?.. *(Да Петруся.)* На станцыю. Хутчэй на станцыю! Вярні іх.

Пятрусь спяшае да матацыкла, хавае паперку ў кішэню.

Хаця... Стой! Стой, Пятрусь.

Пятрусь вяртаецца.

Пачытай, што напісалі.

**Пятрусь** *(чытае пры святле ліхтарыка).* «Дарагія, любыя. Не гукайце, не шукайце, не пытайцеся. Вярнёмся з праўдаю. Ці зусім не вернемся. Мальвіна. Ія».

**Адамейка.** Вернуцца. Тут іхняя душа, карэнні.

**Пятрусь.** Я ўсё ж паеду, даганю. *(Паспяшаў да матацыкла. Той залапатаў і сціх.)*

**Адамейка.** Як знаеш... Чаго ж яны ўстрывожыліся? Ад трэску матацыкла? А мо што Мальвіна збегла? *(Адчыняе вулей, асвятляе ліхтарыкам.)* Улятаюць. Улятаюць! *(Кульгае да другога вулею.)* І тут. Няўжо ў іх прадчуванне, як у галубоў, буслоў?.. Якая недарэчнасць. Такога не заўважаў яшчэ. Што з вамі сталася? *(Спыняецца, прыціскае далонь да грудзей.)* Ну, скажыце, памажыце... Джальце, джальце! *(Паволі апускаецца на дол.)*

З'яўляецца Змітрок.

**Змітрок.** Адамавіч! Дзе вы? *(Знаходзіць і з жудасцю ўсклікае.)* Адамавіч!..

**Карціна чацвёртая**

На пасецы сонечны, водарам пчасця напоены ранак.
Ля будана ўмываюцца дзяўчаты. Гарэзлівы, іскрысты смех.

**Мальвіна.** Цішэй, дзяўчаткі.

**Воля.** Пчолы галды не любяць?

**Света.** Успомніла той рынак? А я — Петрусёву песню: «Сонца, умыйся расою...» Давайце і мы расою ўмыемся.

І я. Хочаш быць прыгожаю?

С в е т а. А ты — не? Давай з табою, Мальва. У акадэміі расы не будзе. Хаця... цябе і так любяць.

В о л я. Лепей пакупайся ў расе.

С в е т а. А што ты думаеш — ідэя! *(Вальсіруе.)*

Купаецца сонца ў расе...
Купаецца Света ў расе...

*(Спыняецца, працягвае сонцу далоні.)* Сонца і я! *(Раздзяецца.)*

М а л ь в і н а. Ашалела — зарэжуць пчолы.

С в е т а. Такое цела непрыгожае? А раптам спадабаюся?

М а л ь в і н а. Не дурэй.

С в е т а. Ну, не буду. *(Заспявала.)*

Сонца, умыйся расою
На світальнай зары.
Сонца, пойдзем з табою
Праз дубровы, бары.

Праз лужок жураўліны
Дабяромся ўдваіх
Да харошай дзяўчыны,
Да прыгожай пчалы.

Песню падхапілі дзяўчаты.

Падары яснавокай
Залатую красу.
Пацалуй яе ў шчочку,
Пацалуй у касу.

Глянуць, сонейка, люба
На прыгожую пам.
Не цалуй толькі ў губы...

П я т р у с ь *(яшчэ за сцэнай)*. Пацалую я сам.

І я. І ён тута.

З'яўляецца Пятрусь.

Пятрусь. Добрага ранку, дзяўчаткі. Зноўку сабраліся?

Воля. Зноўку. На гэты раз пацалуеш ужо яснавокую.

Пятрусь. Усе ж вы яснавокія.

Света. Ды Мальвіна ясней.

Пятрусь *(да Мальвіны)*. Віншую! Той выпадак, калі сапраўды пацалаваць можна. Пры ўсіх. *(Абдымае Мальвіну.)*

Воля. З прыемнасцю.

Света. Асалодаю.

Пятрусь *(да Мальвіны)*. А іх?.. Можна?

Мальвіна. Цалуй, як такі ласы на цалункі.

Воля. Э, не-не...

Света. Усіх няможна.

Пятрусь. А на пасеку без майго дазволу можна?

Воля. Тут яшчэ Мальвіна гаспадыня.

Пятрусь. Яна ўжо госця ў нас. Так, Мальвіна?

Мальвіна. Буду і гаспадыняй.

І я. Усіх пчалафермаў у раёне. А мо і ў вобласці.

Пятрусь *(да Мальвіны)*. А цяпер каго замест сябе пакінеш?

Мальвіна. Каго? Ію. *(Аддае ёй сетку.)*

І я адзяе сетку, аглядае ўсіх.

Воля. Ой, як ёй пасуе!

І я раптам рэзка зрывае сетку і вяртае Мальвіне.

Света. Дай-ка я прымераю.

Воля. Аддай Свеце. *(Петрусю.)* Яна і ў сне сніць. Краскі і мёд.

Света. Мядовыя росы. Ну, як?

Пятрусь. Цудоўна! *(Да Іі.)* Усё правільна. Пойдзеш у лабараторыю.

Воля. На аналіз.

С в е т а. Лабаранткай?

П я т р у с ь. Бярыце вышэй! Яна будзе кіраўнічкаю аграхімлабараторыі. І вучыцца ў акадэміі завочна.

С в е т а. Як Змітрок? Ці паступіць жа?

П я т р у с ь. За гэта я ручаюся.

В о л я. А мне, як казаў Шчукар, якая выйдзе парада?

П я т р у с ь. З жыгучкаю і перцам.

В о л я. Для вас, каб не зазнаваліся, насоў не задзіралі, як станеце вучонымі.

П я т р у с ь. Расціць будзеш, журыначка, меданосы, лекавыя травы.

М а л ь в і н а. І з татам разводзіць беларускі чай.

В о л я. Смейцеся.

П я т р у с ь. Дапраўды. Старшыня згодзен. І Адамавіч.

С в е т а. Не дарэмна цалавала краскі і росы на світанку.

З'яўляюцца А г е е в і ч і А д а м е й к а.

А г е е в і ч. Са светлым ранкам, пчолкі.

В о л я *(з лагоднай усмешкай да старшыні)*. І вас...

М а л ь в і н а. Ёсць у нашых святліцах-камяніцах сястрыцы-чараўніцы.

А г е е в і ч. Ды ёсць. Малайчына, пчолка. Рады за цябе. І бацька адразу акрыяў.

А д а м е й к а. У які час хіба ўлежыш?

П я т р у с ь. То, можа, цяпер дасцё адстаўку?

А д а м е й к а. Табе? *(Да Агеевіча.)* Бачылі? Яму адстаўку? Я і то не думаю.

А г е е в і ч *(да Мальвіны)*. Ведаеш, што мы тут надумалі?

М а л ь в і н а. Ведаю. Расказалі.

А г е е в і ч. То-та ж, пчолкі. З квяцістай, медунічнай стараны. Усім багатай беларускай зямлі. З дружнай, працавітае калгаснае сям'і.

Воля апладыруе. За ёю ўсе.
З'яўляюцца З м і т р о к, А г а ш к а, М а р ы н а.

З м і т р о к. У сям'і і гаспадарцы ўсё трэба лічыць і важыць. Калі хочам быць гаспадарамі. Усё павінна быць рэнтабельным. *(Да Светы.)* І прыгожым. Свяціцца харacтвом і радасцю.

С в е т а. Мядовымі росамі. Бурштынавымі кара́лямі.

А г а ш к а *(Марыне)*. Шчасціць вашай Мальвіне. Яйправа. Паступіла во.

М а р ы н а. І тваёй пашчасціць.

А к с ю т а *(падышоўшы)*. І майму Змітраку. *(Да Светы.)* Яны яшчэ пажалкуюць.

А д а м е й к а. Ты, аса?

А к с ю т а. І ў вос жа ёсць там нейкі мёд.

М а р ы н а. Горкі.

А д а м е й к а. Хай будзе мёд салодкім.

П я т р у с ь. Без атруты.



# ТРАГЛАДЗІТЫ

*Сатырычная камедыя*



Дзейныя асобы:

Маеўскі Марцін Пятровіч — дырэктар камбіната.
Кіра Кірэеўна — яго жонка, хатняя гаспадыня.
Лена — іхняя дачка, студэнтка.
Ярутка Міхал Кузьміч — майстар камбіната.
Лёня — яго сын, студэнт.
Лунская Ніна Акімаўна — старшыня камітэта прафсаюза камбіната.
Вадзім — яе пляменнік, студэнт.
Баравы Васіль Андрэевіч — кіраўнік філіяла інстытута.
Віта — яго жонка.
Эла Сёміна — сакратар райкома камсамола.
Ася і Кася — студэнткі.
Валер Пілюта — малады рабочы цеплаэлектрацэнтралі.
Рабочы.
Работніца.
Студэнтка-модніца.

## Частка першая

У цэху камбіната. Сярод рабочых і работніц Вадзім, Лёня, Ася і Кася. За столікам Лунская.

Маеўскі *(на трыбуне заканчвае прамову).* Адным чынам, таварышы, перспектывы вашага цэха і ўсяго нашага камбіната ясныя, светлыя. Я сказаў бы, цудоўныя перспектывы! Ды ўсё ад вас залежыць: ад вашай старраннасці, ініцыятывы, пошукаў і вынаходстваў. Маем надзею і на вас, студэнты тэхналагічнага інстытута, нашы будучыя спецыялісты. Мы вам — сваё ўменне, вопыт; вы нам — веды, малады запал...

Лунская *(дапаўняе).* Задор і задзёр.

Маеўскі. Верна. Гарэнне, творчасць. *(Да рабочых.)* Укладзём жа, таварышы, розум, энергію, прыкладзём залатыя рукі... *(Апошнія словы патанаюць у воплесках.)* Поспехаў вам, сябры!

Ярутка *(як сціхлі воплескі).* А пытаннейка можна?

Маеўскі. Чаму ж? Калі ласка.

Ярутка *(да прысутных).* Хораша гаварыў наш дырэктар. Прыемна, радасна чуць, якім будзе наш камбінат у новым годзе. І я веру: будзе! А як жа! *(Воплескі.)*

Лунская. Калі ласка, Міхал Кузьміч. *(Указвае на трыбуну.)* То ж не пытаннейка — прамова!

Рабочы. Давай, Кузьміч, вышэй! На гамонку!

Ярутка. Ці варта? То была прэамбула. Цяпер пытаннейка. Скажыце, таварыш Маеўскі, калі мы пап'ёмся ўволю?

Лунская *(прыўзнялася)*. Нап'ёмся? Ты што, Кузьміч?

Работніца. Чаго наш майстар захацеў!

Ярутка. Не пра гарэлку я — гарэць ёй гарам. Я пра ваду.

Маеўскі. Газіраваную? Сатуратары няспраўныя?

Лунская. Яны ў спраўнасці.

Ярутка. Нестае вады ў дамах. Асабліва наверсе.

Работніца. Адзін сорам. Прадукцыю даем на экспарт. Да Месяца дабраліся. А самае зямное зрабіць не можам.

Вадзім *(да Лёні)*. Залічым іх у асацыяцыю?

Лунская. Цішэй, таварышы. Вы ж ведаеце, Марцін Пятровіч зусім нядаўна ў нас, не ўнік яшчэ. Будзе клапаціцца, дбаць.

Рабочы. Чулі ўжо.

Лунская. Ад іншых чулі.

Работніца. Годзе абяцанак!

Маеўскі. Тады без абяцанак. Думаю, вырашым і гэтую праблему. Сумесна з вамі. *(З іроніяй.)* Калі можна назваць яе праблемай.

Ярутка. Не ў вадзе праблема, а ў адносінах да людзей.

Лунская. Ёсць яшчэ пытанні? Няма? Тады дазвольце мне ад імя і па даручэнню прафсаюзнага камітэта камбіната пажадаць вам здароўя, шчасця і радасцей у новым годзе.

Воплескі.

Рабочы. Во гэта сказ! Коратка і ясна.

Маеўскі *(выходзячы)*. Да пабачэння ў новым годзе.

Работніца. Да пабачэння, таварыш дырэктар.

Рабочы. Усяго найлепшага.

Маеўскі *(спыняецца ля Яруткі)*. Да сустрэчы, таварыш Ярутка.

Ярутка. Прыемных клопатаў і стрэч.

М а е ў с к і выйшаў. За ім пайшла м о л а д з ь.

Л у н с к а я *(затрымалася, прыпаліла папяросу, журліва)*. Ну і ну! Маеўскі вам пра планы, дырэктывы, перспектывы, а ён — пытаннейка...

Я р у т к а. Вам лацвей, бо ёсць каму запасіць. А мне жыві па газіроўцы. З яе і чай паскудства. Цьфу.

Л у н с к а я. А Лёня зломак? Вады не прынясе?

Я р у т к а. Ды не зломак... А наогул... не ў нас тут справа. І не ў адной вадзе. Я ж казаў...

Л у н с к а я. У адносінах да людзей? Правільна! І ўсё ж не ў час тваё пытаннейка. Выскачыў, як Мікіта з канапель: «Калі мы нап'ёмся ўволю?»

Р а б о ч ы. І то праўда. Аб святой вадзіцы сёння б мець гамонку. *(Да Яруткі.)* Спырснем гэтую непрыемнасць, Міхал Кузьміч?

Р а б о т н і ц а. Якая непрыемнасць? Прэмію ж далі! Пайшлі, Ніна Акімаўна, у нашае застолле. Ай новага дырэктара будзеце абмываць?

* * *

На вуліцы.

В а д з і м *(да Лёні, Асі і Касі)*. Адну хвілінку. *(Вымае з кішэні блакнот.)* Я карэктывы ўнёс. Трэба ўзгадніць.

К а с я. Некалі.

А с я. Чытай хутчэй, што там наплёў.

В а д з і м *(чытае)*. Сусветная асацыяцыя маладых трагладзітаў, скарочана САМТ, ставіць сваёй мэтай перарастанне чалавека ў малпу.

Л ё н я. То вядома.

В а д з і м. А вось і новае: маладыя трагладзіты будуць жыць без вады...

А с я. Без вады?

В а д з і м. Як ён з бацем. Будуць жыць без вады і харчавацца бананамі, какосавымі арэхамі.

А с я. Лепей ананасамі.

К а с я. Цудоўненька!.. А ў нас яны растуць? Здаецца, не. Цукеркі-то растуць.

А с я. На вербе грушы.

К а с я. Бываюць і на вербе. А ў Абхазіі ёсць такія дрэвы...

А с я. І на іх цукеркі?

К а с я. Ражкі накшталт батончыкаў. З трыццаццю працэнтамі цукру. Смак! Пальчыкі абліжаш.

А с я. Ты ела?

К а с я. У школе батанічка гаварыла. Выспяваюць пад Новы год.

В а д з і м. Мой дядя видал, как барин едал.

Л ё н я. Лепей малінай. Маладыя трагладзіты будуць жыць без вады і харчавацца малінай. Згода?

К а с я. А малпы ядуць маліну?

В а д з і м. Няважна, Кася. Асацыяцыя ж сусветная! Можа, дзе і ядуць.

К а с я. Не, важна. Трэба ведаць, чым яны ласуюцца.

Л ё н я. Маліна адпавядае гімну.

А с я. Якому гімну?

Л ё н я. Дачытае — потым.

В а д з і м. Усе сілы маладыя трагладзіты аддаюць змаганню за вызваленне чалавецтва ад тэхнічнага прагрэсу. *(Супыняецца і пазірае на таварышаў.)*

А с я. А што яны рабіць будуць?

В а д з і м. Лазіць па дрэвах і есці бананы, ананасы.

Л ё н я. Маліну. Прашу не забываць. Маліну і іншыя дары прыроды.

А с я. Як тунеядцы?

К а с я. Малпы. А наконт прычосак напісаў?

Л ё н я. Мы ж дамовіліся: прычоскі бітлаў.

В а д з і м *(удакладняе)*. Гарыл. Шымпанзе.

К а с я. А танцы?

А с я. Якія танцы? Лазяць па дрэвах, і ўсё.

К а с я. Не, яны танцуюць. Я бачыла... у клубе кінападарожжаў, па тэле-еле. Рытмічныя.

**В а д з і м.** Так і запішам. *(Запісвае.)* Усё ў руках заснавальнікаў асацыяцыі. Танцуюць рытмічна. Будуць яшчэ заўвагі?

**Л ё н я.** Здаецца, усё.

**В а д з і м.** Стаўлю на галасаванне. Хто за статут з праўкамі і дапаўненнямі? *(Першы ўзнімае руку, за ім — Лёня і Кася.)* А ты, Ася? Адразу разлад? Па якіх пунктах, параграфах?

**А с я.** Пішыце, што хочаце.

**Л ё н я.** Правільна. Асацыяцыя добраахвотная.

**В а д з і м.** Што ж, пачнём утрох. *(Лёню.)* Цяпер давай свой гімн.

**Л ё н я.** Я прапаную «Славацкі нораў». Словы...

**К а с я.** Лявона Яруткі.

**Л ё н я.** Яна Папічана. Музыку падбірае Лена Маеўская.

**В а д з і м.** Давай тэкст.

**Л ё н я** *(дэкламуе з пафасам).*

...У глухія горы пойдзем
І там жытло сабе заўсёды знойдзем.
Мядзведзь бярлогу ўступіць нам,
Пячэры, шалашы заселім.
На вышыні арліных гнёзд
Раскінем лёгкія пасцелі.

**К а с я.** Цудоўненька! Чытай далей.

**Л ё н я.**

Маліна будзе нам ядой
У тым абветраным прытулку.
А шоўк заменім на кажух,
Каб не было на скалах мулка.
З'ядзім і корань травяны,
Хай кіслы, горкі ці салодкі...

**В а д з і м.** З'ядзім?

**К а с я.** З'ядзім.

**Л ё н я.** Ну, як?

К а с я. Цудоўненька! Памры, Лявон, а лепей не прыдумаеш.

В а д з і м. Прымаецца. Ітак, на баль! Майце на ўвазе, чым болей падабенства на трагладзітаў, тым лепш. Цывілізаванае чалавецтва гэта ацэніць!

К а с я *(нараспеў)*. У глухія горы пойдзем
І там жыллё сабе заўсёды знойдзем.

В а д з і м. Пойдзем!

Л ё н я. Знойдзем!

* * *

Хол у доме Маеўскіх. Канапа. Круглы столік. Два крэслы. Трумо. З гасцінай чутна музыка.

Л е н а *(паставіла на стол попельніцу, падышла да трумо, глядзіцца ў яго, папраўляе прычоску, спявае сабе)*.

Маліна будзе нам ядой
У тым абветраным прытулку,
А шоўк заменім на кажух,
Каб не было на скалах мулка.

Званок. Адчыняе дзверы. Уваходзіць заснежаны Я р у т к а.

Я р у т к а. З Новым годам, Снягурачка.

Л е н а. І вас, дзядуля.

Я р у т к а. Скажы, дачушка, куды я трапіў?

Л е н а *(здзіўлена)*. Да Маеўскіх.

Я р у т к а. Штосьці накшталт мая? Дзіўна. Зіма і май. Турма і рай.

Л е н а *(насцярожана)*. Якая турма?

Я р у т к а. А што ж яшчэ бывае за такім парканам? Манастыроў даўно няма. Крэпасці ў музеі здалі.

Л е н а. Распранайцеся, я зараз...

Я р у т к а. Дзякую. Па гаспадара?

Л е н а. Па тату. *(Выходзіць.)*

Я р у т к а. А я думаў — пакаёўка. *(Адзін.)* Вось тра-

піў дык трапіў! Як кажуць, з карабля — на баль. Да самога Маеўскага!

З'яўляецца Маеўскі.

Маеўскі. Таварыш Ярутка!

Ярутка. Так точна, прыбыў па вашаму загаду.

Маеўскі. Запрашэнню. Прашу... *(Дапамагае распрануцца.)*

Ярутка. Вось дык запрашэнне! Далі пяць мінут на зборы, і ніякай размовы.

Маеўскі. Перастараўся шафёр.

З гасцінай ідуць Сёміна і Баравы.

Ярутка. А я да сябрукоў сабраўся, па традыцыі...

Маеўскі. Тут таксама сябры. *(Да Баравога і Сёмінай.)* Будзьце знаёмы, мой хросны. *(Да Ярутки.)* Новы сакратар райкома камсамола.

Эла *(падае руку)*. Эла.

Маеўскі. Рэктар нашага інстытута.

Баравы. Філіяла інстытута.

Ярутка. Васіль Андрэевіч? Вельмі прыемна. А я — Міхал Кузьміч, майстар...

Эла. Спяваць, скакаць — таксама майстар?

Ярутка. Некалі ўмеў.

Эла. Э, ды вы і цяпер умееце.

Маеўскі. Прашу, таварышы, прашу. *(Адчыняе дзверы ў гасціную і прапускае Ярутку.)*

Эла. Мы пакурым. *(Прыпальвае цыгарэту.)*

Ярутка і Маеўскі выходзяць.

Як вам падабаецца?

Баравы. Мне не падабаецца, як дзяўчаты кураць.

Эла. Хочаце сказаць, не да твару? А вам да твару. Не цыгарэта — трубка. Да вашай сумнасці, задуменнасці пасавала б. Скажыце, Васіль Андрэевіч, калі не сакрэт: чаго такая сумнасць? Па чым? Ці па кім?

Баравы. Вам здаецца.

Э л а. Не здаецца — я ж бачу. Сумуеце? Па бору? Таварыш Баравы. А мо пайшлі б да студэнтаў? Хоць ім... не прыбавіцца весялосці.

Б а р а в ы. А вы чаго не з імі?

Э л а. Мне тут хараша. Пакуль хараша. Ну, не сумуйце, Васіль Андрэевіч. А то і мне стане сумна.

Б а р а в ы. Я псую настрой?

Э л а. І не ствараеце яго. Я думала пагаманіць з вамі. Шчыра, па душы.

Б а р а в ы. Цікава. Пра што?

Э л а. Пра ўсё, што баліць апошнім часам.

Б а р а в ы. Пра боль невясёлая размова. А самі ж кажаце, каб не сумаваў і не псаваў настрою.

Э л а. Нельга так, Васіль Андрэевіч. Вы ж бачаце. Вы не можаце не бачыць. Я выпіла і з сабою суладаць не ў стане, каб не глядзець на вас, не гаварыць. Гэта заўважаюць...

Б а р а в ы *(азірнуўся)*. Прабачце, тут не месца і не час...

Э л а. Пойдзем на вуліцу, у парк.

Б а р а в ы. Няёмка перад гаспадарамі. Вы з Ленай... *(Уваходзіць Кіра Кірэеўна.)*

К і р а К і р э е ў н а. Выбачце, што перапыніла мілую бяседу.

Э л а. Што вы, Кіра Кірэеўна, мы...

К і р а К і р э е ў н а. Я — не поп, а вы — не на споведзі. Прашу да стала.

Б а р а в ы. Дзякуй, Кірэеўна. *(Адчыняе дзверы, запрашае Элу.)*

Э л а. Я потым... з Кірай Кірэеўнай.

Б а р а в ы выходзіць. Званок.

К і р а К і р э е ў н а. Хто там яшчэ? *(Адчыняе ўваходныя дзверы.)*

З'яўляецца Л ё н я ў форме паштальёна.

Л ё н я. Адчыняйце хутчэй — паштальён ля дзвярэй... Добры вечар. *(Вымае з сумкі пачку тэлеграм.)* Дазвольце і мне павіншаваць вас з наступаючым Новым годам і пажадаць вялікага шчасця.

К і р а К і р э е ў н а. Дзякую, хлопча. А табе — добрай дзяўчыны. *(Бярэ тэлеграмы.)*

Л ё н я. Каб вашыя словы ды богу ў вушы. Прашу распісацца. Вось, калі ласка... *(Прапануе аўтаручку.)*

К і р а К і р э е ў н а. Хай яна.

Л ё н я. Выбачце, тэлеграмы самому Марціну Пятровічу.

К і р а К і р э е ў н а. Тады пачакай. *(Выходзіць з Элаю.)*

Л ё н я. От каб яна! *(Нецярпліва.)* Хутчэй, хутчэй!

Адчыняюцца дзверы, з'яўляецца Л е н а з падносам. Пазнала Лёню і ледзь не ўраніла паднос. Келішак упаў, разбіўся.

Л е н а. Артыст.

Л ё н я. То на шчасце. *(Бярэ ў Лены паднос.)* Распісвайся за тэлеграмы — я збяру друзачкі.

Л е н а. Тут жа і тата твой.

Л ё н я. Як ён трапіў?

Л е н а. А ты?

Л ё н я. Я званіў па тэлефоне, ды ўсё занятыя. Давялося прасіць паштальёна...

Л е н а *(аддаючы квіткі)*. А цяпер—марш!

Л ё н я. Хутчэй, а то адубееў там, чакаючы. *(Выходзіць.)*

Лена з падносам сустракае ў дзвярах Л у н с к у ю і Я р у т к у.

Л у н с к а я. Не разумею. Сто́лькі тэлеграм бачыла толькі на цыганскім вяселлі. Такімі пачкамі прыносілі.

Я р у т к а. У маладых шмат было сяброў.

Л у н с к а я *(увесь час паліць запалкі, курыць)*. Спектакль разыгрывалі.

Я р у т к а. І тут спектакль? Во і запрасі нас у гасціну. Былы дырэктар, мабыць, не запрашаў нікога — яго

толькі. А ў Маеўскага як на нарадзе. Ну, хто я яму? У непрыемнае становішча паставіў сёння. У іншыя часы за такое пытаннейка б... А ён, бач, запрасіў да сябе на навагодні баль.

Л у н с к а я. Тэадор Рузвельт запрашаў на снядана к да прэзідэнцкага стала негра Букера. Ведаеш, дзеля чаго? Каб трубілі пра яго гуманнасць.

Я р у т к а. Што гэтым хочаш сказаць?

Л у н с к а я. Двудушных я баюся. Асцерагаюся двулікіх. Сцерліся манеты з Янусам, а двулікасць жыве. Калі Рым ваяваў, дзверы Янусавай аркі расчыніліся насцеж. А насталі мір і цішыня — зноў зачыніліся. Дык тыя хоць адчыняліся!

Я р у т к а. Злую чарку хапіла, Ніна Акімаўна.

З гасцінай выходзіць К і р а К і р э е ў н а і Л е н а.

К і р а К і р э е ў н а *(да Лунскай і Ярутکі)*. Прашу выбачыць.

Я р у т к а. Што вы, Кірэеўна?

З'яўляецца Э л а.

Э л а. Лена, і я з табою.

Л у н с к а я. Правільна, дочкі. З намі тлумна. Харошых кавалераў вам.

Э л а. Дзякуй, Акімаўна, і вам за ўсё.

Л е н а. Да пабачэння, мама. У Новым годзе. *(Цалуе маці і выходзіць з Элаю.)*

Гаспадыня вяртаецца да гасцей.

Л у н с к а я. Пойдзем, Кузьміч, і мы.

Я р у т к а. З моладдзю?

Л у н с к а я. У застолле. Вып'ем, яй-богу, яшчэ! За стары год. Харошы год быў!

Я р у т к а. Пачакаю новага.

Л у н с к а я. Невядома, які ён будзе. Як невядома, які гаспадар. *(Ідзе ў гасціную. У дзвярах сустракае Маеўскага.)*

М а е ў с к і. Калі ласка. *(Потым да Ярутکі.)* Не шкадуеце?

Я р у т к а. Дзякуй, Марцін Пятровіч. Усім задаволены. Калі чаго і нестае, дык маладосці.

М а е ў с к і. Маладух? Ай ды Ярутка? Дармо што дзед!

Я р у т к а. А што? І дзеду прыемна з моладдзю — маладзееш. У маёй змене шмат маладняку. І клапатліва з ім, а разыдзецца — і сумна становіцца. Во і сёння: у нас баль, і ў філіяле баль. І мой малодшы там.

М а е ў с к і. А старэйшыя?

Я р у т к а. Тэхнолагі, канструктары. Ды на якіх заводах! А Лёня тут, пры мне. Хлопец нішто сабе, ды залішне бравады.

М а е ў с к і. Не зведаў голаду, нястач? Усё ясна, проста, лёгка?

З'яўляюцца К і р а К і р э е ў н а і Б а р а в ы.

К і р а К і р э е ў н а. Выбачце, Міхал Кузьміч. У нас тут...

Я р у т к а. Сямейная справа? Што ж... Я, з вашага дазволу, пайду паскачу. *(Выходзіць.)*

М а е ў с к і. От старына! То што ў вас?

К і р а К і р э е ў н а. Званілі Лене з філіяла. Трагладзіты, кажуць. Банда нейкая. А Лена якраз пайшла...

М а е ў с к і *(да Баравога)*. Што за трагладзіты?

К і р а К і р э е ў н а. Трэба ісці туды па яе.

М а е ў с к і. А госці?

К і р а К і р э е ў н а. Скажы, ненадоўга.

М а е ў с к і. Праз якое ж паўгадзіны Новы год!

К і р а К і р э е ў н а. Паспееш. А то я сама...

М а е ў с к і. Потым, потым...

* * *

Невялічкі пакой інтэрната. Абсталяваны сціпла, эканомна. Кніжная паліца і шафа ў сцяне. Вісіць гітара, на тумбачцы — магнітафон. Столік з віном, закускамі.

У пакоі А с я і В а л е р.

Валер. Годзе суму. Мы разам, як у школе...

Ася. Каб і ў інстытуце разам...

Валер. І ў інстытуце буду. Не сёлета — налета. Буду!

Ася. У арміі салдатам, як не паступіш сёлета.

Валер. Не хочаш быць салдаткай? Чакаць не хочаш? Хай іншыя чакаюць? І іншыя вартуюць наш спакой? Гэта ж... эгаізм.

Ася. Ты не эгаіст, таму і просты рабочы.

Валер. Ася, ты ж ведаеш, чаго застаўся тут. На ўсё згодзен, каб толькі бачыць, чуць цябе хоць зрэдку.

Ася. Прабач, Валер. Мне крыўдна. Вадзімы лынды б'юць і — студэнты. А ты чым горшы?

Валер. Вадзім таксама чалавек карысны. Спартсмен. Гонар інстытута.

Ася. Гонар і ганьба. Пячэр даследчык. Альпініст наадварот. Усё навыварат.

З шумам уваходзяць у масках трагладзітаў Кася, Лена, Лёня і Вадзім.

Лёня *(здымае маску)*. Як яно на навагодняй вахце?

Валер. Ды так...

Лёня. Не весела? З віном і Асей?

Здымаюць маскі Кася, Лена, Вадзім.

Кася. А мы цудоўненька патанцавалі.

Вадзім. Да сотага поту. Хоць сушы ў кацельні.

Ася. Зачыні комін.

Вадзім. А што такога я сказаў? Ах, пардон! Тут яго Вялікасць рабочы клас! Згодзен, трэба шанаваць. Ён саграве нас не толькі гарачай, а і святой вадзіцай. Давайце вып'ем за яго Вялікасць. Класс, он тоже выпить не дурак.

Ася. За Данко!

Вадзім. Чаму за Данко?

Ася. Калі я не за сябе, то хто ж за мяне? А калі я толькі за сябе, навошта я?

Вадзім. Данко састарэў, як і старуха Ізергіль. Моц-

ная натура! А каму яе каханне прынесла радасць? Так, Валер?

Валер. Я за подзвігі Курчатава, Каралёва!..

Вадзім. Гэта зусім іншае. А то навыдумлялі вобразаў. Маліся на іх, выдуманых. Курчатаў, Каралёў — вось гэта сімвалы. Гэта — сіла!

Лена. Без Данко не было б ні іх, ні касманаўтаў.

Вадзім. То хай літаратура ўслаўляе рэальных герояў. А то вобразы, тыпы, вымысел, домысел...

Лена. Ты што — супраць літаратуры?

Вадзім *(абыякава)*. Біблейскія казкі пра тое, што было, чаго не было і быць не магло.

Кася. І пра каханне казкі?

Вадзім. Дзе яно, каханне? Прыгожыя словы і... здрада.

Лёня. Ну, гэта кінь...

**Лена бярэ гітару. Лёня ўключае магнітафон.**

Лена. Мне говорят:

Ася.

Нету такой любви.

Лена.

Мне говорят:

Ася.

Как все, так и ты живи.
Больно много хочешь —
Нету людей таких.
Зря ты только морочишь
И себя, и других.

Лена.

А она есть.
А она здесь.
Здесь. Здесь.
В сердце моем
Теплым живет птенцом,
В жилах моих

Жгучим течет свинцом.
Это она — светом в моих глазах.
Это она — солью в моих слезах.

Вадзім. Спыніся, імгненне, ты — цудоўнае! Шкада, Гётэ не дажыў да яго. Сама прыдумала?

Кася. Вераніка Тушнова. А песня яе і Асі.

Вадзім. У Асі мо што і ёсць. А каб у Лены?.. Не веру. Не. Ёй бы ў кансерваторыю. Ці ў тэатральны.

Лена *(прадаўжае песню)*.

Это она — очи и слух,
Грозная сила моя.
Солнце мое,
Горы мои,
Моря!
От забвенья защита,
От зла и неверья броня!
Если ее не будет —
Не будет меня.
Если ее не будет —
Не будет меня.
А мне говорят...

Ася.

Нету такой любви.

Лена.

А мне говорят...

Ася.

Как все, так и ты живи.

Лена.

А я никому души
Не дам потушить.
А я и живу, как все
Когда-нибудь будут жить.
А я и живу, как все
Когда-нибудь будут жить.

В а л е р. Брава! Брава!

К а с я. Цудоўненька!

Л ё н я *(выключыў магнітафон)*. За песню! За паэзію, музыку, што сэрцы хвалююць.

К а с я. І будуць хваляваць!

Л ё н я. За песні, якія палоняць, чаруюць і ўзнімаюць на крылах...

Выпіваюць.

В а д з і м. Я піў за красамоўства, якое цешыць слых. І самому захацелася выказацца. Тут ёсць рацыянальнае зерне. І калі вылушчыць яго з бліскучага шалупіння прыгожых слоў, якія ў нашым асяродку ствараюць рэпутацыю, як цяпер прынята гаварыць, інтэлектуальнага чалавека...

К а с я. Што тады?

В а д з і м. Убачыш тарычэлеву пустату.

К а с я. Ты п'яны, Вадзім, пляцеш абы-што.

В а д з і м. Не, не абы-што. Я прапаную тост за Валера, харошага хлопца, месца якога я заняў у гэтым інстытуце. Мне б у палеалагічны. Ды такіх пакуль няма... Пішы, Валер, заяву. Падпішу: згодзен! Уступаю месца.

К а с я. Які прыгожы жэст! Думаеш, пра гэта напішуць у газетах, будуць услаўляць па радыё, тэлебачанні? Рэальнага героя?

В а д з і м. Дрэнна ты ведаеш Вадзіма.

Л ё н я. А сам куды? Даследаваць пячэры?

В а д з і м. У царствіе нябеснае.

К а с я. Якое?

Л е н а. Касмічнае.

В а д з і м. Бяры вышэй... У духоўную семінарыю.

Смех.

В а д з і м. Што за смехаўё? Шкоды ніякай я не параблю. У цэркаў ходзяць сівыя бабулі. Іх не перавыхаваеш. Дарэмныя патугі. А раз ходзяць — павінен нехта ім служыць? Павінен. І за непуцёвымі мець нагляд. Мая бабулька расказвала, як поп аднаго адпрэчыў.

Ася. Поп?

Вадзім. Глядзеў-глядзеў, а потым і пытае: як табе не сорамна, малады чалавек?

Лена. І той не стаў хадзіць у цэркаў?

Вадзім. Не ведаю.

Кася. Вось бачыш, а ты ідзеш.

Вадзім. Я не маліцца, а з асветнай мэтай.

Лёня. Ну і Вадзім!

Лена. Комік.

Ася. А гэта ідэя! Ідзі, братка, у цырк.

Кася. А спорт? Альпінізм наадварот?

Вадзім. Я і ў царкве буду займацца ім. Такую каманду скалачу!.. *(Падае са стула.)*

Лёня. Э, ды ты ўдрызг... *(Узнімае Вадзіма.)* Пойдзем, праспіся, айцец Вадзім.

Валер. Пайшлі.

Валер і Лёня выводзяць ап'янелага Вадзіма.

Кася. Пляце чорт знае што.

Лена. Пайду.

Ася. Ты што?

Кася. Да раніцы нікуды не пусцім. *(І зноў пра Вадзіма.)* І адкуль у яго такая дурнота?

Лена. Праспіцца і забудзе.

Кася. А як на самай справе? Што тады?

Ася. Будзеш пападдзёй. А зараз, матухна, разбірай пасцель. *(Адкідвае ўманціраваны ў сцяну ложак.)*

У дзверы пастукалі.

Кася. Хто там?

Лёня. Свае. Яшчэ не спіце?

Ася. Заходзь, як забыў што.

Лёня *(увайшоўшы)*. Вось іменна, не забыў.

Кася. Як ён там?

Лёня. Як у бога за дзвярыма. Пойдзем, Лена.

Зноў стукаюць у дзверы.

Ася. Хто там яшчэ?

Маеўскі *(за дзвярыма)*. Адчыніце.

Лена *(устрывожана)*. Тата...

Лёня спяшае да дзвярэй і плячом падпірае іх.

Лена. Хутчэй, дзяўчаткі. *(Пасоўвае стол да дзвярэй. Ася і Кася прыбіраюць віно.)*

Ася. Каму не спіцца там? Без каменданта не адчынім.

Кася. І ў свята не дадуць паспаць.

Лена *(да Лёні)*. Куды ж цябе? У шафу?

Ася *(хапае маску Лены)*. Давай сукенку.

Кася. Не ўзыдзе.

Лена. Лепей паліто.

Кася. І хустку.

Дзяўчаты трымаюць дзверы, Лёня апранаецца.

Лена. Сядзі і памятай — язык каровы вялікі, а гаварыць не можа. Мычы.

Лёня. Ммы-ы...

Лена. Харош.

Кася. Прыляг. Бабулька занядужыла.

Лёня кладзецца на ложак. Ася адчыняе дзверы. Уваходзіць Маеўскі.

Маеўскі. З Новым годам.

Ася. Віншавалі ўжо, таварыш дырэктар.

Кася. У цэху, з надыходам.

Лена непрыкметна выходзіць.

Ася. Вам каго?

Маеўскі. Проста так... паглядзець, як жыве студэнцтва. У вас святло — вось і пастукаў. *(Аглядае стол.)* А жывяце няблага. Новы год сустрэлі пірам.

Кася. Якім пірам? Газіроўкі крыху.

Маеўскі *(заўважае Лёню ў ложку)*. А то хто ў вас?

Кася. Бабулька.

М а е ў с к і. Твая?

К а с я. Ага. Старэнькая. *(Лёня кашляе.)* Прастудзілася ў дарозе. Такі мароз! Такі мароз!..

М а е ў с к і. У вас, не сказаў бы. А ўрач быў?

К а с я. Не яшчэ. Толькі во прыехала.

М а е ў с к і *(бярэ Лёневу руку, глядзіць на свой гадзіннік)*. Пульс таго... Гарачка.

К а с я. Мы «дапамогу хуткую»...

М а е ў с к і *(стоячы ля ложка, зачапіў нагой пляшкі. Яны падаюць са звонам)*. Э, ды ў вас тут вінны склад!

К а с я. Які там склад! З-пад малака бутэлькі.

М а е ў с к і. Малако ад шалёнай каровы. *(Зрывае з Лёні маску.)* Уставай, бабулька.

К а с я. Ведаеце, мы... ключ згубілі.

М а е ў с к і. То ён за вартаўніка? Ці вартавалі вы яго? Нягожа класці хлопца ў пасцель нераспранутым. *(Выходзіць.)*

К а с я. Цяпер прапалі.

* * *

Б а р а в ы *(толькі што вярнуўся дадому)*. Як недарэчна. Як недарэчна!.. Забрацца б у табар, на цыганскае вяселле! Лунскай пашанцавала, ды не ацаніла цыганскае душы. Очи черные, очи жгучие, как люблю я вас, как боюсь я вас... *(Звоніць тэлефон. Падыходзіць да яго і спыняецца ў нерашучасці. А тэлефон звоніць. Узяў трубку.)* Алё.

Э л а. Спалі?

Б а р а в ы *(пазяхае)*. Так.

Э л а. Не, не спалі. Проста... не хацелі падыходзіць да тэлефона. А чаго не зайшлі на студэнцкі баль?

Б а р а в ы. Спазніўся.

Э л а. Не хацелі засмучаць?

Б а р а в ы. Замінаць.

Л у н с к а я. А там было весела!

Б а р а в ы. Прыемна, што вам спадабалася.

Л у н с к а я. Вельмі пацешылі трагладзіты.

Б а р а в ы. І што яны сабою ўяўляюць?

Э л а. Веселуны, жартаўнікі. Стварылі парадыйную асацыяцыю. Са сваім статутам, гімнам... *(З ласкавым дакорам.)* Васіль Андрэевіч, трэба быць бліжэй да студэнтаў. А пра што вы зараз думалі?

Б а р а в ы. Та-ак... рознае.

Э л а. Што сама набіваюся?

Б а р а в ы. Такога я не думаў.

Э л а. Думаеце, лёгка было сказаць? Нават ап'янелаў.

Б а р а в ы. Цяпер шкадуеце? Не трэба. Людзі павінны быць шчырымі.

Э л а. А вы не шчыры. Чаго такая задуменнасць?

Б а р а в ы. Таму што ў жыцці, як у рацэ, бываюць разводдзі, віры і мелкаводдзе.

Э л а. А я хто: вір ці мелкаводдзе?

Б а р а в ы. Я пра жыццё.

Э л а. І пра сваё разводдзе. Я ведаю, чаго такая сумнасць. Трэба быць удваіх. З кім хочаце, толькі не ў адзіноце.

Б а р а в ы. Удзячны за параду. Ды не магу я выкарыстаць яе. Калі б каго і кахаў. А вы...

Э л а. Што я?..

Б а р а в ы. Я веру, вы стрэнеце маладзейшага, такога, як сама. У вас яшчэ ўсё наперадзе. Толькі не бярыце прыклад з тых, хто жыве па прымаўцы: лепей сініца ў руках, чым жураваль у небе. А зараз спаць, спаць.

Э л а. Прабачце. Я разумею, што нядобра выйшла. Ды ўсё ж павінны мы сустрэцца.

Б а р а в ы *(не адразу знаходзіць што адказаць)*. Вядома, стрэнемся.

Э л а. Хто там звоніць?

Б а р а в ы. Ніхто.

Э л а. Не, хтосьці звоніць.

Б а р а в ы. Вам здалося. Прыемнага сну.

Э л а. І вам...

Б а р а в ы *(паклаў трубку, прыслухаўся)*. Дапраўды нехта звоніць. *(Выходзіць.)*

За дзвярыма.

Р а б о ч ы. Даруйце, што не ў час. Жанчына тут... ледзьве жывая.

Р а б о т н і ц а. Дазвольце.

Б а р а в ы. Я ж не ўрач.

Р а б о ч ы і р а б о т н і ц а нясуць у пакой ж а н ч ы н у.

Р а б о ч ы. Пазваніце «Хуткай дапамозе».

Р а б о т н і ц а. На канапу яе, на канапу.

Б а р а в ы. Дзе яе знайшлі?

Р а б о ч ы. Ля вашага дому, на лаўцы. Думалі, перахапіла лішняга. Сёння гэта магчыма. Аж не.

Р а б о т н і ц а. Як лёд. Толькі і сказала: «Да Баравога». Відаць, знаёмая.

Р а б о ч ы. У вас якраз успыхнула святло.

Б а р а в ы *(узіраецца)*. Віта?

Р а б о ч ы. Спазнаў. От і добра.

Р а б о т н і ц а. Пайшлі. Цяпер рабіць нам нечага. Даруйце.

Б а р а в ы. Дзякую. *(Праваджае і вяртаецца да тэлефона.)*

В і т а. Не трэба, Вася. Ты мой эскулап. Толькі ты мне можаш памагчы.

Б а р а в ы. Чым?

В і т а. Сесці. *(Намагаецца ўзняцца.)* Памажы. *(З дапамогай Баравога ўзнялася.)* Дзякуй, мілы.

Б а р а в ы. Як тут апынулася?

В і т а. Яны ж сказалі. Была на лаўцы. Цябе чакала. І заснула. *(Кратае ногі.)* Цэлыя. А так спяшалася, так спяшалася і гэтулькі чакала. *(Устае, кульгае.)* Ой, ой!.. *(Баравы падтрымлівае.)* Цяпер абыдуцца. Брр. Як я замерзла!..

Б а р а в ы. Я зараз... чаю.

В і т а. Зрабі ласку, мілы. *(Калі Баравы выйшаў.)* А жонка дзе, што сам? *(Пахаджвае, распранаецца, азіраецца.)* Паху нашага не чуваць. Няўжо адзін? Бабыль? Я так і думала.

Вяртаецца Б а р а в ы з чаем.

Б а р а в ы. Грэйся, калі ласка.

В і т а. Яшчэ раз дзякуй. А жонка дзе?

Б а р а в ы *(пасля паўзы)*. Чаго прыехала?

В і т а. Павіншаваць з Новым годам. І пажадаць усяго... самага найлепшага.

Б а р а в ы. Дзеля гэтага не абавязкова было ехаць.

В і т а. Вядома, можна і паштоўкай, тэлеграмай. Ды ні на лісты, ні на тэлеграмы не адказваеш. Маўчыш. Злуеш.

Б а р а в ы. Мне здаецца, ні пісаць, ні гаварыць нам няма пра што.

В і т а. Няпраўда. Хоць і муж іншай, і ненавідзіш мяне, а гаварыць павінен. Як чалавек... А можа, і няма ніякай жонкі? Відаць-такі, нікога тут няма, апроч цябе. Я так і ведала: пасля мяне не здолееш кахаць нікога.

Б а р а в ы. А калі кахаю? Калі ўжо ёсць дамоўленасць?

В і т а. Вось табе дамоўленасць. *(Цалуе Баравога ў вусны.)*

Б а р а в ы *(адхінуўся)*. Гэта ўжо занадта.

В і т а. Сядай, мілае цыганё. А то зноў пацалую.

Баравы апускаецца ў крэсла.

Як пасерабрыліся твае кудзеркі.

Б а р а в ы. Годзе. Хапіла пяшчоты па самае горла.

В і т а. Я вінаватая. І прыехала сказаць аб гэтым. Даруй, Вася. Я зразумела, што не магу без цябе. Цяпер паеду з табою куды заўгодна. Хоць у табар... Хоць на Месяц! Ну, што глядзіш так? Як на чужую. Я ж свая, твая Віта...

Б а р а в ы. Была.

В і т а. І буду.

Б а р а в ы. Пабачым. А зараз кладзіся спаць. Вось канапа. Падушку і коўдру дам. *(Выходзіць у другі пакой.)*

В і т а. Буду! Чуеш? Вася!.. *(Бяжыць услед.)*

## Частка другая

Кабінет Баравога ў філіяле інстытута.

Б а р а в ы *(за пісьмовым сталом праглядае кнігі, робіць выпіскі. Тэлефонны званок)*. Слухаю. Маё шанаванне, Марцін Пятровіч. Нічога асаблівага. Лішняга пакоя? А што? Трэба, канечне, трэба. А мы выселім трагладзітак. Хай пажывуць да лета на кватэрах. Праз гадзіну, калі ласка. Зараз у мяне кансультацыя. Міласці прашу к нашаму шалашу. *(Паклаў трубку на апарат.)* Трагладзіткі. Высцебаць бы. І мяне заадно, як некалі ў табары. Сказаў неяк слоўка — трагладзіты, а яны і падхапілі. *(Стук у дзверы.)* Так, так, калі ласка.

Уваходзіць Э л а.

Э л а. Можна?

Б а р а в ы. Міласці прашу.

Э л а. Не чакалі?

Б а р а в ы *(з ледзь улоўнай ironіяй)*. Каго-каго, а вас... заўсёды.

Э л а. От не думала!

Б а р а в ы. Прашу. *(Указвае на крэсла.)* У любы дзень і час.

Э л а. Па абавязку службы?

Б а р а в ы. Хаця б.

Э л а. Па службе могуць быць і непрыемныя сустрэчы.

Б а р а в ы. Што ж, жыццё складваецца не толькі з прыемнага.

Э л а. А кожнаму хочацца прыемнага. Дарослыя, старыя, а, як і дзеці, любяць прыемнае. І баяцца экзаменаў, як вучні. Згодны?

Баравы. Дапусцім.

Эла. Вы — педагог, і ведаеце гэта лепей за мяне. Незразумела толькі, чаго скупыя на добрае, прыемнае слова.

Баравы. А вы шчодрая? Сыпце тады са свайго каша. Ну? Няма. Пуста. То-та і яно. Служба робіць чалавека чэрствым. Ва ўсякім разе, стрыманым. Нават самых чулых педагогаў. І вы не з абдымкамі прымаеце ў камсамол, а з усёй паважанасцю, сур'ёзнасцю. На сходах выступаеце без ценю ўсмешкі. Баронь божа, каб не палічылі легкадумнай. Кажуць, у басейн перасталі хадзіць, як выбралі сакратаром, каб не паказацца ў натуральным выглядзе.

Эла *(з дакорам)*. Васіль Андрэевіч... Хто вам сказаў такое?

Баравы. Студэнты.

Эла. Яны могуць і выдумаць.

Баравы. Веселуны, жартаўнікі. Пацешылі на навагоднім балі.

Эла. Пацешылі, што страціла я сон.

Баравы. Нават так?

Эла. Мяне зацікавіла асацыяцыя. Хачу болей ведаць пра яе.

Баравы. Таму і завіталі? *(Зірнуў на наручны гадзіннік.)* Можаце пачакаць крыху? У мяне зараз кансультацыя.

Эла. Што ж, давядзецца.

Баравы. Маеўскі зойдзе, дык займіце. Прыміце за мяне.

Эла. А пазнаёміцца з бібліятэкай можна?

Баравы. Вядома, калі ласка. *(Выходзіць.)*

Эла. Даведачная ў асноўным. Энцыклапедыі, слоўнікі, даведнікі. Цікава. Ці ёсць пра трагладзітаў? Паглядзім у Даля. «Трока... Женский род. Корова, доящая только из двух сосцов, наперекосяк». Чаму з двух? У каровы ж, здаецца, больш. Незразумела. «Тромбон. Мужского рода. Французское слово. Медная музыкальная труба, раздвижная». Няма. А можа, у замежным слоўніку?.. Ёсць! Грэ-

часкае — «троглодитаи, дикие люди, не умевшие еще строить жилищ и находившие убежище в пещерах, пещерные люди». Цікава. А ў энцыклапедыі? *(Разгортвае энцыклапедыю.)* І тут ёсць! Грэчаскае. «Живущий в норе или пещере. От нора, пещера и погружаюсь, скрываюсь». Тут ужо больш глыбокі сэнс — скрываюсь! *(Разгорнутыя кнігі застаюцца на стале. Вымае з сумачкі запісную кніжку, чытае.)* Так, зусім як у гімне:

Мядзведзь бярлогу ўступіць нам,
Пячэры, шалашы заселім.
На вышыні арліных гнёзд
Раскінем лёгкія пасцелі.

Супадае.

Маліна будзе нам ядой
У тым абветраным прытулку.
А шоўк заменім на кажух,
Каб не было на скалах мулка.

Уваходзіць Віта, спыняецца ў здзіўленні.

Віта. Выбачце, гэта кабінет таварыша Баравога?

Эла. Так, гэта кабінет таварыша Баравога.

Віта. Вы — сакратарка?

Эла. Але.

Віта. Дзіўна.

Эла. Што дзіўнага?

Віта. Сакратаркі звычайна сядзяць там! *(Паказвае на дзверы.)*

Эла. Звычайна. А вы хто?

Віта. Я? Знаёмая яго жонкі. Не трэба чырванець, мілая дзяўчына. Ад жаночага вока нічога не ўтоіш.

Эла. Ну, ведаеце!.. І самой жонцы такім тонам размаўляць я не дазволю.

Уваходзіць Вадзім.

Вадзім. Дазвольце.

Э л а. Калі ласка. Праходзь, сядай.

В а д з і м. Дзякую, ды вы... стаіце.

В і т а. Сядай, малады чалавек. Я зайду іншым разам. *(Выходзіць.)*

В а д з і м. Перашкодзіў?

Э л а. Наадварот, збавіў ад непрыемнае размовы. Вадзім, здаецца?

В а д з і м. Здаецца.

Э л а. Шумейка? Трагладзіт?

В а д з і м. Пітэкантрап.

Э л а. А гэта яшчэ што такое?

В а д з і м. Малпачалавек, які жыў каля мільёна год таму назад. Потым быў сінантроп, якому каля паўмільёна год. Потым — каменьёнец — ужо разумная жывёліна.

Э л а. А трагладзіты — разумныя? Ці таго?..

В а д з і м. Чаму ў мяне пытаеце?

Э л а. З цікаўнасці.

В а д з і м. Калі так цікава, скажу: трагладзіты — народ, што жыў у Эфіопіі.

Э л а. Народ? Дзікуноў так называлі. Пячэрных дзікуноў!

В а д з і м. Мажліва, і так.

Э л а. Дзікуноў, якія не ўмелі будаваць жылля. Жылі ў пячэрах.

В а д з і м. Вам лепей знаць — у вас слоўнікі, энцыклапедыя. Я ж вучыў гісторыю.

Э л а. Гісторыя. Я бачыла яе на вашым балі. Статут перапісала, гімн!

В а д з і м. Ну, і як?..

Э л а. Хто аўтар?

В а д з і м. Творчасць калектыўная. Фальклор.

Э л а. А чаго да Васіля Андрэевіча? Каб зацвердзіў статут?

В а д з і м. Прасіць, каб залічылі хлопца ў філіял.

Э л а. Хлопца? Якога хлопца?.. Зараз? Перад сесіяй? А месцы ёсць?

Вадзім. Я на сваё месцейка.

Эла *(яшчэ больш здзіўлена)*. На сваё? У асацыяцыю? Ці ў спартыўную секцыю? Ты ж, здаецца, і спартсмен.

Вадзім. Здаецца.

Эла. Перад Новым годам першынство заняў па шасту-канату?

Вадзім. Я заняў яго месца ў інстытуце.

Эла. Вунь як!.. І што за хлопец?

Вадзім. Харошы, здольны, верны. Уладкаваўся качагарам, каб быць бліжэй да інстытута і сваёй землячкі. Яе прынялі, а ў яго ба́ла не хапіла. Цяпер дзяўчыне памагае рыхтавацца да экзаменаў.

Уваходзіць Маеўскі.

Маеўскі. Добры дзень.

Эла. Здрастуйце, Марцін Пятровіч. Распранайцеся. Васіль Андрэевіч зараз будзе. Распарадзіўся вас прыняць, заняць. А гэта Вадзім Шумейка, студэнт, чэмпіён па шасту-канату.

Маеўскі. І рабочы нашага камбіната?

Эла. Але. Сядайце, калі ласка. Ведаеце, чаго прыйшоў ён? Прасіць Васіля Андрэевіча залічыць аднаго хлопца на сваё месца.

Маеўскі. Уступае? Як у трамваі, тралейбусе, аўтобусе? Высакародна! А як глядзіць на гэта камсамол?

Эла. Выпадак рэдкі, незвычайны. Як і асацыяцыя маладых трагладзітаў. Ведаеце, Марцін Пятровіч, на навагоднім балі яны абвясцілі статут, у якім ставяць сваёй мэтай вызваленне чалавецтва ад тэхнічнага прагрэсу. Як вам гэта падабаецца?

Маеўскі. Ад тэхнічнага прагрэсу?

Эла. Але.

Маеўскі. Усё чалавецтва?

Эла. Асацыяцыя ж сусветная!

Маеўскі. Яны што, нармальныя?

Эла. Спытайце ў яго.

М а е ў с к і. Дык хто вы?

В а д з і м. Калі чэсна — спемеолаг.

Э л а. Нешта новае. *(Схапіла слоўнік, зашастала.)* Трагладзіт. Крыўляка!

М а е ў с к і. А з працай як? Таксама знайшоў сабе замену?

Э л а. Пусть работает мама, пусть работает папа, пусть работает трактор — отдыхать буду я! Так?

В а д з і м. Устарэлае. Праца вычарпала свае творчыя мажлівасці — ператварыла малпу ў чалавека, больш ад яе чакаць нечага.

Э л а. Чулі? Цяпер яны хочуць ператварыць чалавека ў малпу.

М а е ў с к і. Трагладзіты?

В а д з і м. Якія ўрываюцца ноччу ў інтэрнат, у душы. Груба, нетактоўна.

Э л а. Як сябе паводзіш? Не забывай, дзе і з кім ты размаўляеш.

В а д з і м. Пардон. Я не ведаў, што тут нельга гаварыць праўды. Дзе ж тады? На мітынгу? Ці наняць глашатаяў?

Э л а. Мітынгам нас не палохай. Анархіі не дазволім! Не такі час.

М а е ў с к і. Чакай, чакай. Хай скажа сваю праўду. Якая яна?

В а д з і м. Адзін наш выкладчык таксама быў студэнтам...

М а е ў с к і. Разумеецца, у свой час...

В а д з і м. Студэнтам Беларускага універсітэта. Да іх таксама заходзілі кіраўнікі. У кожны пакой. Пыталіся: адкуль вы? З якой вёскі? З якога горада, чые? Як жывуць бацькі? А потым збіралі ўсіх у чырвоным кутку, садзіліся поруч і гаманілі. Ды так, што цяплей станавілася ў інтэрнаце. «Белыя ночы» — звычайны кіпень — пахнуў усімі кветкамі. Беларусі. І былі салодкія, смачныя «белыя ночы». І хацелася вучыцца, дзярзаць.

Маеўскі. Хто гэты выкладчык?

Вадзім *(недаверліва паглядзеў на Маеўскага).* Можаце даведацца па анкетах. Ды вы не будзеце ведаць таго, што ведалі тыя кіраўнікі. Вам не адкрыюць студэнты свае душы. Бо надта строгія, сур'ёзныя на выгляд. Ад позірку кідае ў холад. Цяпер прабачце і бывайце. *(Выходзіць без азірку.)*

Эла. Ну і тып!

Маеўскі. Забаўны хлопец.

Эла. Корчыць «лішняга чалавека». Паслухайце, што ў іх статуце! «Маладыя траглвдзіты будуць жыць без вады і харчавацца малінай і іншымі дарамі прыроды. Маліна будзе нам ядой у тым абветраным прытулку...»

Уваходзіць Баравы.

Баравы. Маё шанаванне.

Маеўскі. Вітаю ў храме навукі.

Эла. А мы знаёмімся тут з праграмай трагладзітаў храма.

Баравы. Якой праграмай?

Эла. Прабачце, статутам. У ім — мэты і задачы. *(Чытае.)* «Маладыя трагладзіты ставяць свае інтарэсы вышэй грамадскіх. Усе сілы аддаюць вызваленню чалавецтва ад тэхнічнага прагрэсу».

Баравы. Дасціпнікі. Жартаўнікі.

Маеўскі. Не сказаў бы. Зараз адзін тут быў.

Эла. Вадзім Шумейка, што на балі гімны распяваў!.. *(Узнімае блакнот.)* Зваў у глухія горы!..

Баравы. Якія гімны? У якія горы?

Эла. Вам належала б ведаць, што спяваюць у вашым філіяле. *(Перадае блакнот Баравому.)* У філіяле сусветнай асацыяцыі маладых трагладзітаў. Якая ганьба. Якая ганьба!

Баравы *(чытае).* У час бяды ў глухія горы пойдзем...

Эла. Вось іменна! У горы!..

Б а р а в ы.

З'ядзім і корань травяны,
Хай кіслы, горкі ці салодкі,—
Ды не расстанемся з зямлёй,
Якую адстаялі продкі.
Затое першаю вясной
Паводкай хлынем у даліны
І песняй заваюем свет,
І назаўсёды знікнуць міны.

Сапраўды славацкі характар!

Э л а. Адкуль вы ўзялі? У мяне там няма такога.

Б а р а в ы. У вас няма. А ў Яна Панічана ёсць.

Э л а. Спрабуеце выгарадзіць? Абараніць? Апраўдаць?

Б а р а в ы. Я абараняю верш, варты, каб яго чыталі, спявалі.

Э л а. Яго ж выкарыстоўваюць трагладзіты, якія прапаведваюць чужую нам мараль. Барацьба супраць тэхнічнага прагрэсу! Ператварэнне чалавека ў малпу!..

Б а р а в ы. Глупства, Элачка. Усё гэта глупства.

Э л а. Глупства? Іх равеснікі не ў такіх умовах здабываюць вугаль, нафту! Плавяць метал. Расцяць хлеб!.. А ім усе выгоды: камбінат, інтэрнат, інстытут на месцы. Выкладчыкі да іх паслуг, бібліятэкі!.. Не, трэба зараз жа сабраць членаў камітэта!..

Б а р а в ы *(са здзіўленнем)*. Эла!..

Э л а. Я не ваша сакратарка і прашу... называць мяне як належыць.

Б а р а в ы. Даруйце, таварыш Эла...

Э л а. Таварыш Сёміна. Яшчэ трэба разабрацца, як паводзіў сябе гэты самы Панічан у дні чэхаславацкіх падзей.

* * *

На кватэры Маеўскага.

М а е ў с к і ў піжаме збірае на падлозе запалкі. Іх шмат, і пройдзе нейкі час такога занятку.

Кіра Кірэеўна *(увайшоўшы).* Чаго толькі не выдумаюць дактары! Баяцца, каб не атлусцеў. А што ты — маладзён? Навошта табе атлетычны выгляд? Дырэктар павінен быць салідны... *(Пачынае збіраць запалкі.)*

Маеўскі. Не трэба — сам.

Кіра Кірэеўна. Усё сам, усё сам. Па цэхах, будоўлях, скразняках. А дзе твае НАП, АСУ, ЭВМ, кнопкі, тэлебачанне? Каб усё і ўсіх бачыў.

Маеўскі. А мяне ніхто? Ці толькі на тэлеэкране? У кабінеце, ля апаратаў?..

Кіра Кірэеўна. Можа, сам будзеш і прыбіраць, гатаваць? Замест зарадкі?

Маеўскі. На тое ў мяне ёсць жонка, дачка.

Кіра Кірэеўна. Не жонка, а рабыня. Нянька, пакаёўка, кухарка, насільшчык, бухгалтар, адміністратар!.. А Лену не чапай — ёй вучыцца трэба.

Маеўскі. Што ж ты прапануеш? Узяць пакаёўку, кухарку, што там былі ў нас? Каб кожны потым упікаў?

Кіра Кірэеўна. Ну, і так ужо ніякай змогі... А можа, тых дзяўчат узяць? Памаглі б...

Маеўскі. Якіх дзяўчат?

Кіра Кірэеўна. Сяброўак Лены, што высяляюць з інтэрната. Яна хоча з табой пагаварыць.

Маеўскі. Можа, спачатку дазволіце памыцца? *(Выходзіць.)*

Кіра Кірэеўна *(ідзе за ім).* Толькі не халоднай. І Лену не крыўдзі.

З'яўляецца Лена з пыласосам, прыбірае пакой.

Лена. Фіззарадку выдумалі. Во падхалімы! Як гэта ў Гілевіча? Першым разам, добрым часам! Зара-зараніца, ранішняя і вячэрняя, памажы, царыца, чалавеку нікчэмнаму. Хоць і божы ён, ды раб, хоць здароўем не аслаб, не ломіць паясніца і не баляць вантробы, ратуй яго, царыца, ад нялюдскай хваробы. Каб не лізаў так часта ён роднаму начальству ні наскі, ні пяткі... ні хрыбтовай косці, ні ся-

рэдняй часці, ні спераду забягаючы, ні з боку заглядаючы, ні ззаду даганяючы, ні знізу падпаўзаючы! Хай адчуе, што ён чалавек ныне і прысна і навек.

Вяртаецца Маеўскі.

Маеўскі. Ты што: молішся? Бацькі не ведалі і «Отче наш», а яна, як рэпу грызе. Можа, у вас і секта завялася?

Лена. Ад такой самоты ўсё магчыма.

Маеўскі. Самоты? А вам весялосць падавай? Пірушкі з прыгодамі?

Лена. Без прыгод нецікава жыць на свеце.

Маеўскі. У такім разе выбірайце што-небудзь іншае. Інстытут — не ўстанова для забаў.

Лена. Не ведала. Каюся.

Маеўскі. Годзе выпендрывацца. Чаму ўчора не была на занятках?

Лена. Мне сорамнаісці туды.

Маеўскі. Чаго так?

Лена. Таго што ў мяне дужа разумны бацька.

Маеўскі. За бацьку сорамна? Перад кім? Трагладзітамі?

Уваходзіць Кіра Кірэеўна, спыняецца ля кніжнай шафы, перабірае кнігі, выцірае пыл.

Лена. Дзяўчаты не вінаватыя. Калі вінаваціць, дык мяне. Усё з-за мяне. Яны прынялі ў сваю кампанію, у свой пакой...

Маеўскі. Не думаў, што апынешся ў такой кампаніі. Не дарэмна непакоіўся Ярутка.

Лена. Ярутка бярэ іх на кватэру.

Маеўскі. Хай бярэ. Сын начаваў у іх, цяпер яны хай пажывуць у яго.

Лена. А я не хачу.

Маеўскі. Баішся, каб Лёня не закахаўся ў каторую.

Кіра Кірэеўна. Што ты кажаш?

Маеўскі. Яна ведае.

Лена выходзіць.

Маеўскі. Выпесціла, цяпер любуйся. Ёй сорамна за бацьку, а бацьку — за яе.

Кіра Кірэеўна. Выпесціла, а ты спесціў. Доча мая, доча...

Лена (*адчыніла дзверы*). Урач прыйшоў.

Маеўскі. Зараз. (*Выходзіць.*)

Кіра Кірэеўна. Лена! Ідзі сюды.

Лена (*вяртаецца*). Што яшчэ?

Кіра Кірэеўна. Леначка, то праўда? Ты яго кахаеш?

Лена. Так.

Кіра Кірэеўна. Божа мой! Дзіця! Горкае дзіця!..

Лена. А колькі табе было, як пакахала тату?

Кіра Кірэеўна. Не твая справа. Я пакахала, дык чалавек які! А ты?.. Ды ў цябе не такія жаніхі будуць. Кандыдаты, дацэнты...

Лена. А хто ведае, што Лёня не будзе дацэнтам? Тата ж не нарадзіўся дырэктарам. І не быў ім, як пажаніліся. А табе столькі ж было, як мне цяпер. А адукацыі і сярэдняй не было.

Кіра Кірэеўна. Не было. А ведаеш чаму? І наогул, што ты ведаеш пра нашу маладосць? Якія мы былі — ты ведаеш? Ды мы...

Лена. Я ведаю, якія ёсць цяпер. Сама нідзе не працуеш і мяне трымаеш дома. За пакаёўку. А мае равеснікі працуюць. Мне сорамна перад імі.

Кіра Кірэеўна. Хочаш на камбінат? І замуж? Не! Я лепей здаровы зуб вырву!..

Лена. Пашкадуй, мама, ён яшчэ спатрэбіцца.

Званок. Лена выходзіць.

Кіра Кірэеўна. О божа! За што такая кара? Што за свет настаў? Ну, падумайце, людцы добрыя...

З'яўляецца Ярутка.

Я р у т к а. Добрага здароўя, Кіра Кірэеўна.

К і р а К і р э е ў н а. Добрага і вам.

Я р у т к а. Прашу прабачыць, калі не ў час.

К і р а К і р э е ў н а. Нічога, сядайце. У яго ўрач.

Я р у т к а. Можа, не варта турбаваць?

К і р а К і р э е ў н а. Такая наша доля. Ні дня супакою. І пахварэць нельга, як людзям.

Я р у т к а. А хто сказаў, што трэба хварэць? Ды яшчэ ў вашых гадах! Я, можна сказаць, дзед, унукаў маю, а і блізка хворасці не дапускаю.

К і р а К і р э е ў н а. Дзяцей і ўнукаў мець не дзіва. Не паспееш на ногі паставіць, а ўжо люлькі ставяць.

Я р у т к а. Нічога не папішаш, Кіра Кірэеўна, прырода.

К і р а К і р э е ў н а. Вы шчаслівыя — у вас хлопцы.

Я р у т к а. Не скарджуся. І ад дачкі не адмовіўся б.

К і р а К і р э е ў н а. Бярыце нашу.

Я р у т к а. Лену? *(Недаверліва.)* Я так хутка не ўступіў бы.

К і р а К і р э е ў н а. А я ўступаю.

Я р у т к а. Жартуеце, Кіра Кірэеўна.

Уваходзіць М а е ў с к і.

М а е ў с к і. А-а!.. Бацька трагладзітаў! Здарова. *(Жонцы.)* Праводзь, калі ласка, урача.

Я р у т к а. Добрага здароўя, Марцін Пятровіч.

К і р а К і р э е ў н а выходзіць.

Якіх трагладзітаў? Вадасмокаў?

М а е ў с к і. Вады ўсё няма?

Я р у т к а. Ёсць. Па чайнай лыжцы.

М а е ў с к і. Учора ж была нарада.

Я р у т к а. О, каб пасля кожнай нарады справы ішлі на лад!..

М а е ў с к і. Важна знайсці рашэнне. І што рашылі?

Я р у т к а. Свідраваць яшчэ адну шчыліну, будаваць вежу вышэй камбінацкага коміна, стварыць сваё мора...

Ды алах з ёю, вадою. Даведаліся, што захварэлі, вось і прыйшоў.

М а е ў с к і. Дзякуй.

Я р у т к а. Што прыйшоў? Да іншага начальніка і на хаўтуры не хочацца ісці. А вы — «дзякуй». Як здароўе?

М а е ў с к і. Так. З астмай можна яшчэ жыць. Ёсць горшая хвароба.

Я р у т к а. У вас?

М а е ў с к і. У моладзі. П'юць, глупствам займаюцца. Не думаюць, каб у інстытуце ўзяць паболей і на камбінаце добры след пакінуць.

Я р у т к а. Такую хваробу я ўраз бы вылечыў.

М а е ў с к і. Якім чынам?

Я р у т к а. Выгнаў бы з інстытута к чортавай матары. Хай паўкалываюць, заслужаць рэкамендацыю, тады...

М а е ў с к і. Праца не павінна быць пакараннем. Яна павінна быць неабходнасцю, радасцю.

Я р у т к а. Тады ў тайгу іх ці на востраў. Захочуць есці, сукіны сыны, стануць працаваць. І праца стане неабходнасцю. Як паветра, як вада.

М а е ў с к і. А як вашага сына?..

Я р у т к а. Лёньку? А што ён?..

М а е ў с к і. Выступае супраць тэхнічнага прагрэсу.

Я р у т к а. Не можа быць! Ён у маім цэху працуе як вол!

М а е ў с к і. Мабыць, не падабаецца. Лягчэйшага хлеба захацеў. Паўстала пытанне аб выключэнні з інстытута, камсамола.

Я р у т к а. Вы што, Марцін Пятровіч? *(Сам сабе.)* А можа, і дзяўчат тых?

Уваходзіць Л у н с к а я.

Л у н с к а я. Добрага здароўя.

М а е ў с к і. Здарова. Праходзьце, сядайце.

Л у н с к а я. Ярутка ўсё наконт вады? Да-а... Учора ўвесь вечар біліся...

Маеўскі. І нічога не прыдумалі, як узнімаць вежу вышэй камбінацкага коміна і ствараць мора?

Лунская. А што? Давядзецца. Некаторым гарадам давядзецца падаваць ваду за сотні кіламетраў. Як газ. У Мінску вунь вычэрпваюцца апошнія рэсурсы. Будуюць Вілейска-Мінскую водную сістэму... *(Хацела закурыць, ды стрымалася.)* Але я не па гэтай справе. Хоць вы і хворы...

Ярутка. Прабачце, мне час на змену.

Маеўскі. Заходзьце, Міхал Кузьміч. У любы час. А я ім пагаманіце.

Ярутка. Будзьце пэўны. Як след пагаманю. Шчаслівa заставацца. *(Развітваецца і выходзіць.)*

Лунская. З кім гэта збіраецца весці гамонку на кулаках? З сынам? Таксама трагладзіт? І мой пляменнічак уліп.

Маеўскі. Хто такі?

Лунская. Шумейка. Вадзім Шумейка. Без бацькі рос. Прыехала сястра, просіць: «Пасоб, ён табе не заміне — у інтэрнаце будзе жыць». А яно і пасабляць не давялося. Спартсмен. Такіх без конкурсу прымаюць. Напачатку хвалілі. А сёння дачулася: выключаюць.

Маеўскі. Ён сам уходзіць. Па ўласнаму жаданню.

Лунская. Хто-хто, а мы-то ведаем, як уходзяць па ўласнаму жаданню. Ды забываем часам, што пакараць, звольніць чалавека, ды яшчэ маладога, лягчэй, чым дапамагчы, перакана́ць...

Маеўскі. З Баравым гаварылі?

Лунская. Спрабавала. Аддае на суд камсамола. Як вырашыць камітэт, сход...

Маеўскі. Правільна.

Лунская. Што тут правільнага?

Маеўскі. Інстытут — не філантрапічнае таварыства. У ім павінен быць парадак. Строгі!

Лунская. Строгі яшчэ не значыць аракчэеўскі. Растлумачце гэта Бараваму. Хай закрые справу. Выедзенага ж яйка не варта. Ну, пасвавалілі мальцы, і годзе.

М а е ў с к і. Вось дзеля таго, каб не сваволілі, і трэба вынесці на суд. Правучыць.

Л у н с к а я. Умываем рукі? Як доктар? Калі хворы выходзіць ад доктара, не адчуўшы сябе лепш, значыць кепскі доктар.

М а е ў с к і. Я не доктар. Хворы.

Л у н с к а я. Не хочаце памагчы? Нядаўна тут — не ў адказе. Як і за ваду.

М а е ў с к і. Глупства. Я быў лепшай думкі. Столькі год старшыня прафкома!..

Л у н с к а я. Цяпер, бачна, не буду. Не зладзім. Я — інжынер, і пайду працаваць па спецыяльнасці. *(Выходзячы.)* Будзьце здаровы.

М а е ў с к і *(адзін)*. Сумленная грубіянка.

Уваходзіць К і р а К і р э е ў н а.

К і р а К і р э е ў н а. Выскачыла як ашпараная. Пасварыліся?

М а е ў с к і. Бліжэй пазнаёміліся.

К і р а К і р э е ў н а. А ў Лены, аказваецца, далёка зайшло з Лёнем.

М а е ў с к і. Што? Можа, я ўжо дзед?

* * *

Ля будовы філіяла інстытута. Ідуць Э л а і Л е н а.

Л е н а. Вы ж ведаеце, то быў жарт.

Э л а. Злы жарт.

Л е н а. Пародыя.

Э л а. Небяспечная.

Л е н а. Чым?

Э л а *(спыняецца)*. А раптам каму прыйдзецца даспадобы?

Л е н а. Яна і спадабалася. Усім.

Э л а. А як стануць пераймаць?

Л е н а. Прычоскі малпаў? Танцы дзікуноў? Іх жа і высмейвалі.

Э л а. А асацыяцыя? Новая арганізацыя?.. Гэта ж зараза! Чума! І знішчаць яе трэба ў самым зачатку.

Л е н а. І я зараза?

Э л а. А пры чым ты?

Л е н а. Я таксама трагладзітка. Музыка гімна мая.

Э л а. Лена!..

Л е н а. Разбірайце і мяне. Выключайце, знішчайце, як чуму.

Э л а. А бацька ведае?

Л е н а. Не ведае, дык будзе ведаць.

Э л а. Вунь ідзе Баравы — яму скажы. Ён гарой за вас.

Л е н а. Гарой — на нас. Ды мы не паддадзімся. Знойдзем абарону. Знойдзем! Разбяруцца, хто з нас трагладзіты. *(Адыходзячы.)* А на пасяджэнне камітэта мы не пойдзем.

Э л а. Лена! Лена!

Лена не вярнулася. З'яўляецца Б а р а в ы.

Б а р а в ы. Маё шанаванне.

Э л а. І маё, Васіль Андрэевіч. Аказваецца, і Лена трагладзітка. Хто б мог падумаць? Такія бацькі! Што ж цяпер рабіць? Праславімся. Ой, праславімся! У вобласці, рэспубліцы!

Б а р а в ы. Вы таго хацелі.

Э л а. Сёння трэба канчаць.

Б а р а в ы. Яны патрабуюць адкрытага сходу.

Э л а. Вось як! У абход камітэта? Без падрыхтоўкі?

Б а р а в ы. Навошта тая падрыхтоўка?

Э л а. Анархія, значыцца?

Б а р а в ы. Сход — не анархія. Камсамольскі студэнцкі сход!

Э л а. Нібы я не ведаю студэнтаў. Яшчэ нядаўна сама была. Такія знаходзяць спачуванне, падтрымку. Нават калі студэнты і бачаць, што нехта не правы, падтрымліваюць. Моладзі падабаюцца Шумейкі. Бо могуць выказаць арыгінальную мыслішку. Могуць выразіць нейкі пратэст і

здавацца героямі... Як сабе хочаце, а я — супраць. Не з'явяцца на камітэт — давяду да ведама абком, ЦК.

Лунская і Баравы ідуць у будову.
Праходзіць Віта, спыняецца ў нерашучасці і ідзе далей.
З'яўляюцца Лена і Лёня.

Лена. Не зразумеюць. Не ідзі.

Лёня. Палічаць баязліўцам.

Лена. А калі абвінавацяць у тайным намеры вынішчыць усіх пінгвінаў у Антарктыдзе? Яны ж пазбаўлены пачуцця гумару.

Лёня. Затое выклікаюць гумар у другіх.

Ідзе модніца.

Модніца. Прывецік, трагладзіты.

Лёня. Прывет, модніца.

Модніца. На камітэт? Быць або не быць?

Лёня. Нам-то быць. А вам — не ведаю.

Модніца. Ха! Мы былі і будзем. Нам заўжды зайздросцяць. Ва ўсе часы. Крытыкуюць, асуджаюць і ідуць за намі.

Лена *(у здзіўленні)*. За вамі?

Лёня. П'янаю, няўпэўнай хадою. З канвульсіўнымі выдрыганцамі. У адзенні дзікуноў. З каўтуннымі прычохамі і бародамі антычных велікамучанікаў.

Модніца. Асацыяцыя — таксама даніна модзе. Ды пралічыліся вы з ёю. Пацвельваліся, кпілі з нас. Цяпер смяемся мы! Ха-ха-ха. Трагладзіты, выкапні. *(Ідзе ў будову.)*

Лёня. Я ўсё ж пайду, я давяду...

Лена. Што?

Лёня. Што горад — асяродак культуры другой паловы XX стагоддзя — запаланяюць каніраваныя чучалы дапатопных часоў, дзікуны амазонскія...

Лена. Каму ты давядзеш? Гэтай самай? Ці Элачцы Сёмінай? У мяне ёсць іншая задума...

* * *

Знаёмы пакой студэнцкага інтэрната.
А с я складвае рэчы ў чамадан.

К а с я *(з гітарай, спявае)*.

Мне говорят:
— Нету такой любви...
Мне говорят:
— Как все, так и ты живи.
Больно многого хочешь —
Нету людей таких.
Зря ты только морочишь
И себя, и других.
Говорят:
— Зря не ешь и не спишь.
Не глупи!
Всё равно ведь уступишь,
Так уж лучше сейчас уступи.

А с я *(абрывае песню)*. Годзе табе.

К а с я. Чаго псіхуеш?

А с я. Надакучыла.

К а с я. Ты ж любіла яе.

А с я. А цяпер ненавіджу. Як і Лену. Усё з-за яе. З інтэрната высяляюць, з камсамола, інстытута выключаюць.

К а с я. І яна ў асацыяцыі. Заяву нават напісала. Афіцыйна!

А с я. Бо сорамна стала. Трэба ж неяк апраўдацца. Выдумалі дурноўства. Трагладзіты! Статут! Гімн! Цяпер глядзяць, як на наўмыснікаў.

Дзверы прыадчыняе В а д з і м.

В а д з і м. Можна, дзяўчаткі?

К а с я. Заходзь, заходзь, айцец Вадзім.

В а д з і м. Збіраецеся? Чым дапамагчы?

К а с я. Карэту мне, карэту!

В а д з і м. Пакуль не маю. За насільшчыка магу. Давайце манаткі — аднясу. Блажэнны выгнаныя за праўду, і будзе ім царствіе нябеснае.

А с я. На прыватнай кватэры царствіе?

В а д з і м. А што? У Яруткаў будзеце за гаспадынь. Пачастуеце, як зайду. Не тое што тут — па святах толькі.

К а с я. Каб замуж!.. Слухай, Вадзім, вазьмі мяне за жонку. Лепшай сябрыны не знойдзеш. Далібог. Што маўчыш?

В а д з і м.

Сам не знаю, не ведаю,
Што рабіці маю.
Людзі кажуць жаніціся,
А я і не думаю.

К а с я. Скажы, Вадзім, чаго людзі няшчырыя? Праўду кажуць напалавіну. Кахаюць напалавіну. Жывуць напалавіну. Напалавіну разумеюць і спачуваюць.

В а д з і м. Назіранне заслугоўвае ўвагі.

К а с я. Дапраўды. Падабаецца хлопец ці дзяўчына, падыдзі і скажы: «Вы мне падабаецеся. Гэта ні да чаго не абавязвае вас. Я сказаў, што думаў, адчуваю». Хораша было б? Дык жа не...

В а д з і м. А як хто не падабаецца?

К а с я. Таксама чэсна, шчыра: «Прабачце, не падабаецеся мне. Не люблю вас. Толькі не сярдуйце». А навошта сярдаваць? Усё ясна, зразумела між людзьмі. А то тояць немаведама чаго свае пачуцці, думкі. Хітруюць, не кажуць адзін аднаму ўсяго, што думаюць. Не люблю такое.

В а д з і м. Наіўная ты, Кася, як дзіця. І чыстая, нібы крынічка.

Стук у дзверы.

К а с я. Нехта да нас.

В а д з і м. Цяпер не бойся і самога д'ябла.

К а с я. Уваходзьце!

Уваходзіць В і т а.

В і т а. Добры дзень.

К а с я. Добры.

В а д з і м. Не дужа, хоць і чырвона на календары. *(Дзяўчатам.)* Будзьце знаёмы, гэта наш новы інжынер.

А с я. І новы жыхар гэтага пакою? Рэчы сабраны.

В і т а. Я не спяшаюся — з гасцініцы не гоняць.

В а д з і м. Іх — таксама. Ды не жадаюць заставацца тут. Збіраюцца замуж.

В і т а. І вы — жаніх?

В а д з і м. Не. Я не раю ім рабіць такое глупства.

В і т а. Чаму глупства?

В а д з і м. А то не? Бачыў я маладажонаў. Спачатку радыя, шчаслівыя, твары ўсмешкай свецяцца. А потым тыя твары — хмары, нібы ў роце журавіны ціснуць. То кватэры няма, то даюць, ды не такую. То дзіця некуды падзець — садоў не хапае, і нянькі не знайсці. Адна маркота. Бывае і горш. Хочаце, раскажу легенду?

В і т а. Калі ласка.

В а д з і м. Хваля лагодзіла ўцёс. То пяшчотна, ласкава, то ўладарна і бурна. Абое лічылі сябе шчаслівымі. Ды аднойчы хваля падмыла ўцёс. Уцёс упаў на яе. Спачатку здавалася, што самае вялікае шчасце — гэта быць разам. А потым хваля схлынула і жахнулася: ды гэта ж камень!.. І паплыла да іншага ўцёса... Вось і яны збіраюцца плысці.

В і т а. На самай справе — замуж?

А с я. Ды не — нас высяляюць.

В і т а. З-за мяне?.. Мне ж сказалі: вызваляецца пакой... Паглядзець прыйшла. *(Ступае да дзвярэй.)* Чакайце, я зараз...

А с я. Дарэмныя турботы — ніхто не пераменіць.

В і т а. Пераменіць! *(Таропка выходзіць.)*

З'яўляюцца Л ё н я і В а л е р.

Л ё н я. Салют, дзяўчаты!

К а с я. Салют, наш гаспадар і павяліцель. Карэта ёсць?

В а л е р. Ля параднага крыльца.

А с я. Дзякуй, а то зачакаліся...

К а с я. Благаславі, айцец Вадзім.

В а д з і м. Благаслаўляю рабынь боскіх Асю і Касю ў добрую часіну і пуцявіну. Хай беражэ вас бог і святы Міхал. І сын яго Лявон. Ад д'ябальскіх спакус, нядобрай зайздрасці і суроцаў. Хай свеціцца імя ваша, хай будзе вам царствіе нябеснае!..

Лёня, Валер бяруць чамаданы, дзяўчаты — кнігі. Выходзяць.

З'яўляюцца Віта і Баравы.

В і т а. Пуста.

Б а р а в ы. Ты і ёсць той самы інжынер?

В і т а. Вярні іх. Чуеш?

Б а р а в ы. Не раней як праз паўгода.

В і т а. Уцёс ты! Камянюка!..

* * *

На кватэры Ярутکі.

Міхал Кузьміч, Лёня, Вадзім, Валер, Ася і Кася.

Я р у т к а. Рамантыкі, канечне, тут няма — не цаліна і не космас. Ды ўсё ж патрэбная людзям справа.

К а с я. Як у песні:

Отдыхаем — воду пьем,
Заседаем — воду льем.

У с е.

И выходит, без воды —
Ни туды и ни сюды!

Л ё н я. З чаго пачнём?

К а с я.

Горе надо утопить,
Радость надо размочить...

В каждом деле без воды —
Ни туды и ни сюды!

Ярутка. Час забываць гэта самае.

Вадзім. Ёсць прапанова стварыць інстытут водных праблем.

Ярутка. Зноў за сваё? Не можаш без арганізацыі?

Вадзім. Без арганізацыі нельга, Міхал Кузьміч. У Астапа Бэндара і то была... кантора рог і капытоў.

Валер. Пустата не бывае пуста. Штосьці існуе замест чагосьці.

Вадзім. А тут такую справу зачынаем!..

Ярутка. Пайшлі. Лунская ўжо, мабыць, чакае.

Вадзім. Ніна Акімаўна?

Кася *(да Вадзіма)*. Твая цётка ўзялася за водную праблему?

Ярутка. Яна — інжынер. Цеплатрасу вяла, каналізацыю.

Вадзім. Вадалейка са стажам.

Ярутка і хлопцы выходзяць.

Ася. Што будзем рабіць?

Кася. Я — у магазін, а ты памый падлогу.

Ася. Можа, наадварот?

Кася. Хай наадварот. Ты памый падлогу, а я — у магазін.

Ася. Ну і гультайка ж ты, Кася. А замуж хоць сёння гатова.

Кася. Ладна, ідзі ўжо, я памыю. А можа, і мыць не трэба? Чыстая ж.

Званок.

Нехта брынчыць. *(Ідзе да дзвярэй.)*

Уваходзіць Кіра Кірэеўна.

Кіра Кірэеўна. Яруткі тут жывуць?

Ася. Тут. А што?

Кіра Кірэеўна *(аглядзелася)*. Вы... тыя самыя?

Ася. Якія тыя?

Кіра Кірэеўна. Што ў інтэрнаце?.. Сяброўкі Лены?

Ася. Тыя, тыя.

Кіра Кірэеўна. А Лены няма?

Ася. Чаго ёй быць тут? У яе свая кватэра.

Кіра Кірэеўна. Сышла з кватэры. Другія суткі ўжо. Як у ваду канула.

Кася. А мы і не ведалі.

Кіра Кірэеўна. Можа, Лёня ведае? Дзе ён?

Кася. З бацькам пайшоў на фільтр.

Кіра Кірэеўна. Дзе ж яе шукаць? Дочанькі, калі дазнаецеся што — званіце. Ці прыбяжыце.

Кася. Добра. *(Асі.)* Я праваджу яе і... у магазін.

Ася. Ідзі ўжо, ідзі.

Кася. А што купіць?

Кіра Кірэеўна. Я вам куплю, што хочаце. Толькі скажыце...

Кіра Кірэеўна і Кася выходзяць.

Ася *(прыбіраючы ў пакоі)*. Экзамены на носе, а столькі непрыемнасцей! Дзе ж яна можа быць? А калі і Лёня не ведае? *(Уключае магнітафон. Гучыць песня Лены, запісаная ў навагоднюю ноч у інтэрнаце.)*

Зноў званок. Ася выключае магнітафон, адчыняе дзверы.

Маеўскі *(уваходзячы)*. Дазвольце.

Ася. Калі ласка, таварыш дырэктар.

Маеўскі. Я не памыліўся? Ярутка тут жыве?

Ася. Не памыліліся. Ды зараз яго няма. Што перадаць, як вернецца?

Маеўскі. Яго дачка?

Ася. Прыёмная.

Маеўскі *(узіраецца)*. А, помню.

Ася. Можа, тэрмінова, дык паклічу?

Маеўскі. Зрабіце ласку.

Ася. Вось «Вожык», «Крокодил», свежыя газеты.

Маеўскі. Дзякую.

Ася выходзіць.

Бацька не ведае, дзе яго дачка. А я-то думаў—ведаю ўсё. Маці была нават упэўнена. *(Уключае магнітафон.)*

Голас Лены.

А я никому души
Не дам потушить.
А я и живу, как все
Когда-нибудь будут жить.
А я и живу, как все
Когда-нибудь будут жить.

Маеўскі *(выключае магнітафон)*. Фразёры. А можа, і ў душы што ёсць. Хто ведае. Можа, некалі і самі будуць уступаць месца ў інстытуце, міністэрстве. І абараняць сяброў болей, як бацькоў... Чорт іх душы ведае. Чорт, а не мы? Чаго так мала ведаем пра іх?

Вяртаюцца Лёня і Валер.

Лёня. І ў нашае жыццё ўвайшоў вадаправод, збудаваны яшчэ рабамі Рыма... Дзевачкі, дзе вы? *(Заўважыў Маеўскага.)* Таварыш дырэктар? Маё шанаванне. *(Знаёміць з Валерам.)* Гэта мой сябар.

Валер. Пілюта.

Маеўскі. Рабочы, студэнт?

Лёня. З тых, каго любіць праца.

Маеўскі. Праца ж вычарпала свае творчыя магчымасці — ператварыла малпу ў чалавека. Больш ад яе чакаць нечага.

Лёня. А-а!.. Так лічаць траглaдзіты.

Валер. Выбачце, змыю працу. *(Выходзіць.)*

Маеўскі. Таксама траглaдзіт?

Лёня. Не.

Маеўскі. Я думаю, усе вы...

Лёня. Думаць трэба, ды нельга памыляцца.

Маеўскі. У чым памылка?

Лёня. У корані рэчаў.

Маеўскі. Тады раскажы пра гэты самы корань.

Лёня. Спрабаваў. Не разумеюць. Самых простых рэчаў. *(Валеру, які вярнуўся.)* Раскажы, Валер, пра траглядзітаў.

Валер. А што я ведаю?

Лёня. Раскажы, што ведаеш. *(Выходзіць.)*

Валер. Разумееце, таварыш дырэктар, напачатку яны хацелі стварыць асацыяцыю садзеяння вяртанню заблуднай моладзі на шлях ісціны. А тут адзін выкладчык падкінуў слоўка: «трагладзіты». Адсталыя, некультурныя людзі, значыцца. Студэнтам спадабалася, і падхапілі, і пайшло... Перайменавалі асацыяцыю. Адразу ў ёй было чацвёра. Потым адбыўся разлад — засталося трое. Потым зноў чацвёра.

Маеўскі. Эпігоны.

Валер. Не тое вызначэнне, таварыш дырэктар. Эпігоны пазбаўлены цікавасці да чалавека. Ім ніякай справы да таго, што робіцца навокал. Эпігонства выключае пошук.

Маеўскі. А вам ёсць справа? Вы шукальнікі? Прыгод? Піжоны!

Валер. Крык — разрадка душы і... прызнак слабасці. Прабачце. *(Лёню, які вярнуўся.)* Мне пара. Да пабачэння, таварыш дырэктар.

Лёня *(праваджае Валера і вяртаецца)*. Цудоўны хлопец!

Маеўскі. Што цудоўнага? Крыўлянне? Як у цябе? Пазёры, фразёры!..

Лёня. Пра мяне вы можаце. А Валеру — падзякі мала.

Маеўскі. Подзвіг здзейсніў?

Лёня. Подзвіг — не подзвіг, а рацыяналізацыя ў наяўнасці.

Маеўскі. Што за рацыяналізацыя?

Лёня. Павёў сёння бацю, Лунскую і мяне да фільтра. Яго якраз ачышчалі, а ваду на той час перакрылі. То Ва-

лер прапанаваў зрабіць яшчэ адзін фільтр, каб вада ішла няспынна.

Маеўскі. І ўсё? Прыйшоў — убачыў — перамог?

Лёня. Не ўсё. Трэба выкарыстаць тэхнічную ваду, увесці поўны абаротны цыкл водазабеспячэння камбіната.

Маеўскі. Хто ён, гэты Пілюта?

Лёня. Прагледжаны Ламаносаў.

Маеўскі *(скептычна)*. Ды ну?..

Лёня. Талстой неяк пісаў аднаму педагогу: «Я не мог і не магу ўвайсці ў школу... каб не адчуць прама фізічны непакой, як бы не праглядзець Ламаносава, Пушкіна, Глінкі, Астраградскага і як бы даведацца, каму што трэба». Вялікі Леў непакоіўся, а львятам хоць бы хны. Пры паступленні ў інстытут у Валера не хапіла ўсяго аднаго бала.

Маеўскі. Здараецца. Ды алмаз і ў смецці заззяе.

Лёня. Заззяе. Багацейшай гамай колераў. Калі да яго дакранецца сонечны прамень. А схавайце ў цень — і згасае. Валер штодня ў цяні — качагар.

Маеўскі. Бывае. Мой прыяцель таксама з качагара пачынаў. Беспрытульнік, качагар скончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію. Дваццаць год працаваў сакратаром райкома партыі. Аршак'ян яго прозвішча. Аляксандр Аляксандравіч Аршак'ян. Ну, а пра Купрэвіча, мабыць, чуў і твой сябрук. Матрос стаў прэзідэнтам Беларускай акадэміі навук, Героем Сацыялістычнай Працы. У наш час талент праявіцца абавязкова.

Лёня. У наш час не павінна быць несправядлівасці, памылак.

Маеўскі. Яны ўлічваюцца, ухіляюцца.

Лёня. І дапускаюцца новыя?

Маеўскі. Як жа змрочна глядзіш ты на жыццё, на яго парозе, такі юны? Не ў твае гады і не табе аналізаваць памылкі. Ды і што ты ведаеш пра іх?

Лёня. Я ведаю, што ў дачыненні нас дапушчана памылка.

Маеўскі. Чаго ж не прыйшоў на пасяджэнне камсамольскага камітэта і не пераканаў у памылковасці?

Лёня. Неставала, каб абвінавацілі яшчэ ў намеры вынішчыць пінгвінаў у Антарктыцы. Яны ж пазбаўлены пачуцця гумару.

Маеўскі. Гэта чуў ужо, знаёма. Трусы! Блазнота! Насваволяць, а потым баяцца, хаваюцца... Дзе Лена?

Лёня. Не ведаю.

Маеўскі. Лжэш!

Лёня. Дапусцім, што нешта ведаю. Дапусцім, у нас ёсць нейкія свае сакрэты. Я разумею, вы — бацька, і па закону маеце права на дачку. Ды па-за межамі законаў ёсць жыццё, інтымныя адносіны, у якія ніхто не мае права ўмешвацца, нават з самымі высакароднымі намерамі.

Маеўскі. Права як рэпу грызеш.

Лёня. У нас не малочныя зубы.

Маеўскі. Кусаць. А ведаеш, што ў маці псуюцца зубы, каб яны выраслі ў дзяцей?

Лёня. Ні маці, ні бацька не павінны апаганьваць святое, выносіць на абмеркаванне камітэта.

Маеўскі. На камітэт выклікалі не за каханне. Дзе яна?

Лёня. Дапусцім, паехала ў ЦК, у Міністэрства...

Маеўскі. Адвакатам? Як гэта ў вас лёгка, проста...

Лёня. У нас, у вас... З сівой мінуўшчыны дакоры. Крыўдныя, балючыя словы. Не ад вас бы чуць. Вы ж ведаеце, няма ў нас падзелу і разладу. Калі спатрэбіцца, мы будзем абараняць вас гэтак жа, як вы абаранялі нас, нашу будучыню.

Маеўскі. Чаго ж вы зараз хочаце?

Лёня. Быць бліжэй да вас, разам з вамі. Пераймаць вашу жыццёвую мудрасць і не даваць вам зарана старэць, трухлець.

Уваходзяць Лунская, Віта, Ярутка.

Ярутка. Каго я бачу!

Маеўскі. І сам не рады?

Ярутка. Што вы, Марцін Пятровіч?..

Маеўскі. Нязваны госць, кажуць, горай за татарына.

Ярутка. Хай сабе кажуць, а гасцям я заўсёды рады. *(Да Лёні.)* А дзе Валер?

Лёня. Пайшоў па тэрміновай справе.

Лунская. І ў вас ёсць справы тэрміновыя?

Лёня. Бываюць.

Ярутка. Лёня, хадзем пагаспадарым.

Маеўскі. Ці варта? Не свята ж.

Ярутка. У каго як. У мяне сёння шмат прычын для свята. *(Выходзіць з Лёнем.)*

Віта *(да Яруткі)*. Дазвольце і мне.

Ярутка. З прыемнасцю...

Віта ідзе на кухню.

Лунская *(закурвае)*. У каго свята, а ў каго судны дзень. Дачкі не стала? Спачуваю.*(Пасля паўзы.)* А трагладзіты заняліся воднаю праблемай.

Маеўскі. На чале з вамі?

Лунская. І новым інжынерам. Сёння ўпэўнілася, што маё месца там, дзе была.

Маеўскі. «Земля еси, въ землю атъидеши». Біблейскае.

Лунская. Не ведаю, біблейскае ці не, а я рашыла. *(Закурвае цыгарэту і потым усё курыць, часта паліць запалкі.)*

Маеўскі. Хм... Бачылі? Яна рашыла! Без дырэкцыі, парткома, заўкома. Як гэтыя...

Лунская. Трагладзіты? А вам не прыходзіла на думку, што трагладзіты і мы?

Маеўскі. Мы? Мы супраць тэхнічнага прагрэсу?..

Лунская. А вы, Марцін Пятровіч, раскіньце розумам шырэй. Шырэй. Уявіце сабе не толькі тэхнічны, а наогул прагрэс. Як казаў Ярутка: «Не ў вадзе праблема, а ў адно-

сінах да людзей». Я дапоўню: асабліва да моладзі. Хіба ў іхнія гады мы былі такія?

Маеўскі. Вось іменна!

Лунская. Я маю на ўвазе адукацыю, кругазор. Цяпер з першага класа вывучаюць геаметрыю, алгебру. З сямі гадоў! А ў дваццаць пяць становяцца кандыдатамі, дактарамі навук.

Маеўскі. І гарадскімі галганамі. Тунеядцамі. Брыдой.

Лунская. Так. Гэта наша выхаванне. Будаўнікоў атамак і касмічных караблёў, тых, хто асвайвае палескія багны і вырошчвае хлеб, здабывае соль і нафту. І тых, хто басцяецца без пэўнага занятку ці вучыцца цераз пень-калоду, п'янствуе і ўрэшце трапляе на лаву падсудных. Усё ад таго, які бачаць прыклад, якое выхаванне... Разумны, таленавіты бацька працай сваёй дасягнуў пашаны, славы, займеў машыну, дачу і запанеў. Паспрабуйце такому заўважыць, што яго дзеці растуць спешчанымі гультаямі, паразітамі — сатрэ на пацяруху. Ветлівы, старанны працаўнік атрымаў павышэнне і абюракраціўся. На працы і дома. Ні перад кім не папросіць выбачэння, хоць і ведае, што вінаваты. Распарадкоўваецца ўсім і ўсімі, як прыгоннік. Я ўжо не кажу пра тых, хто прыходзіць дамоў удрызг—гэта не толькі брыдка, а агідна! Я не кажу пра тых, хто ў прысутнасці дзяцей блага гаворыць пра баявых сяброў і таварышаў, цяперашніх супрацоўнікаў і суседзяў — гэта не толькі мярзотна, а злачынна.

Маеўскі. Асабіста мяне такое не датычыць.

Лунская. І ўсё ж дачка з'ехала з дому. А чаму?

Маеўскі. Таму што моладзь больш паходзіць на свой час і месца, чым на сваіх бацькоў.

Лунская. Правільна. Пераемнасць не ў сляпым паўтарэнні старэйшых. Моладзь прагне ісціны, супастаўляе ідэі, факты. У яе ўзнікаюць тысячы пытанняў: чаму так, а не гэтак? Чаму так, а не інакш? Маладое племя звярае свой поступ з нашым. Не толькі з мінулым, а і цяперашнім.

Найболей з цяперашнім—з тым, што бачыць. Дзеці ведаюць бацькоў не такімі, якімі яны былі ў маладосці, а якімі бачаць зараз. Усё ад таго, які бачаць прыклад.

Маеўскі. Значыць, праблема не дзяцей, а бацькоў? Паслухаеш, дык нібы Макаранка. А прыдбалі б хоць па аднаму. Па аднаму. Ды самі вырасцілі, тады і разважалі б, павучалі.

Лунская. Навошта па самаму балючаму?...

Маеўскі. Каб адчулі нашу боль.

Лунская. Перараджэнцаў? Абывацеляў? Хочацца верыць, вы не з такіх. Хочацца верыць, для дачкі вы былі ідэалам. Былі. Да навагодняй ночы, калі ўварваліся ў інтэрнат, а потым пачалі праследаваць так званых траглаДзітаў. Безразважна, бяздумна. А маці? Адарваная ад калектыву, занятая хатнімі клопатамі, тым, як бы вас лепей накарміць, дагледзець. І чуткамі, што нехта некалі нешта некаму сказаў. Хіба-то ідэал для дачкі? Іншая на месцы Лены запатрабавала б асобную кватэру і дачу, асабістую машыну і пакаёўку. Сказала б: «Хачу пажыць насмак!» Яна ж яшчэ мае сумленне. Таму і некуды з'ехала. Таму і думаю, што з яе будзе толк, як з гэтых мальцаў.

Маеўскі. Выказаліся? Цяпер мяне паслухайце. Другі месяц я тут слухаю ўсіх вас і думаю: якія ж вы ахвочыя на гаворку.

Лунская. Балбатуны, хочаце сказаць? Дэмагогі?

Маеўскі. І гэтага хапае. А вось слухаць, прыслухоўвацца не ўмееце. Я зараз гаварыў, што моладзь больш паходзіць на свой час і месца, чым на сваіх бацькоў. А вы ў запале не дачулі слова «месца». Дык вось. Працаваў я, ведаеце, у Валгаградзе. Там не бачыў гэткага дурноўства. А чым далей на Захад, у Еўропу, тым часцей бачыў розную брыду. Вось вам і заходняя культура, яе ўплыў. Асацыяцыя — гэтаксама адтуль.

**Вяртаюцца Міхал Кузьміч, Віта і Лёня з закускамі, ставяць на стол.**

М а е ў с к і. Выбачце, я павінен вас пакінуць.

Я р у т к а. Чаму павінен? Без пачастунку ад мяне яшчэ ніхто не выходзіў.

М а е ў с к і. Мне штосьці нездаровіцца.

Я р у т к а. Э, гэта мы ўміг! *(Ставіць на стол пляшку «Сталічнай».)* У мяне цудоўныя зёлкі. Ад ста хвароб, у ста ліцах.

Л у н с к а я. Мо таму «Сталічнай» і завецца? Колькі піла — ні разу не падумала. Ну і Букер!

З'яўляюцца К а с я і А с я.

Я р у т к а. Вось і дочкі ў час.

Л у н с к а я. Твае? І не хваліўся.

Я р у т к а. Добрае людзі пахваляць.

К а с я *(да Лёні)*. У інстытут цыган панаехала! Як на кірмаш! І бацькі Баравога там. Аказваецца, ён цыган!

Званок. Лёня спяшаецца да дзвярэй.

М а е ў с к і. З якой прычыны?

К а с я. Не ведаю. Пыталіся пра вас.

З'яўляюцца Л е н а і В а д з і м. Убачыўшы бацьку, Лена спыняецца, крута паварочваецца. Яе затрымліваюць Лёня і дзяўчаты.

Л у н с к а я *(Ярутку)*. І то твая дачка?

Я р у т к а. З радасцю дачкой назваў бы.

М а е ў с к і. Што ж, доча, табе тут рады. Болей, чым дома.

Я р у т к а. Як некалі казалі ў нашым доме: з печы, з полу — усе да столу. Прашу.

В а д з і м. Даруйце, Міхал Кузьміч, нас клічуць да іншага стала.

Я р у т к а. Якога іншага?

В а д з і м. На сход бацькоў, на суд старэйшын.

К а с я. А барадатыя сынкі выглядаюць старэй за бацькоў, нават за старых цыган!

В а д з і м *(да Маеўскага і Ярутні)*. Дарэчы, і вас запрашаюць.

М а е ў с к і *(да Лены)*. Твая завада?

Лена ўсміхнулася.

Ну, не трагладзіты, га?

На белорусском языке

**Иван Борисович Исаченко**

**ФАКЕЛ**

Издательство «Мастацкая літаратура» Государственного комитета Совета Министров БССР по делам издательств, полиграфии и книжной торговли. Минск, Советская, 19.

Рэдактар П. Шаўцоў. Мастак Н. Пракапенка. Мастацкі рэдактар А. Труханава. Тэхнічны рэдактар Т. Сокал. Карэктар Н. Лебедзева.

АТ 07646. Здадзена ў набор 4/XI 1972 г. Падп. да друку 28/IV 1973 г. Тыраж 4000 экз. Фармат 70×108 1/32. Папера друк. № 1. Ум. друк. арк. 11,2. Ул.-выд. арк. 10,93. Зак. 1299. Цана 75 кап.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі. Мінск, Ленінскі праспект, 79.

**Ісачанка І.**

Факел. П'есы. Мн., «Маст. літ.», 1973,

256 с. 4000 экз. 75 к.

Гэта другая кніжка драматурга. У ёй п'есы аб пераемнасці пакаленняў, удзеле моладзі ў станаўленні новага жыцця, яе працы, вучобе і адпачынку, аб каханні. Яны адрасаваны тэатральным калектывам і чытачам.

И $\frac{0075\text{-}101}{\text{М } 302(05)\text{-}73}$ 138-73

Р 2

И 85